# Аляксей Кулакоўскі



# ВАСІЛЬКІ

Аляксей
Кулакоўскі



# ВАСІЛЬКІ

**РАМАН**

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1981

# Частка першая

## I

Некалі адзін пісьменнік даў назву свайму зборніку — «Сад». Выдавецтва выпусціла кніжку з лісточкамі і карэньчыкамі на вокладцы. Людзі думалі, што гэта кіраўніцтва па садаводству, а там былі апавяданні пра каханне.

Васількі. Можна ўявіць блакітныя кветкі, дзявочыя вянкі, прыгожыя букеты. А можна і звычайную валошку, тое пустазелле, што часам засмечвае пасевы і не надта баіцца нават самалётаў з хімікатамі.

Ці можна назваць Васількамі нашу беларускую вёску? Напэўна, можна. А горад? Тут ужо замінка. І ўсё ж мы маем на ўвазе горад.

Трэба падаваць гісторыю? Наўрад. Хіба толькі два словы для лепшай яснасці. Вёска Васількі сапраўды была. Яна і цяпер яшчэ існуе, і нават ва ўсёй сваёй першароднасці: з драўлянымі калодзежамі ў дварах, з чырвонымі галагуцкімі пеўнямі на сметніках, але ўжо амаль упасяродку маладога, белага горада.

Тут уся сутнасць вось у чым. Калі засноўваўся ля Васількоў горад, то прыдумлялі яму некалькі назваў, і ўсе яны пачыналіся з прыметніка «нова», бо такіх папярэднікаў у нашай краіне не мала. Апошнім варыянтам нехта прапанаваў Нова-Васількі, зважаючы на векавую прыхільнасць тутэйшых людзей да назвы старажытнай вёскі. Але не прыжылася першая частка гэтага складанага слова, як не прыжываюцца тут спланаваныя дарожкі праз таполевыя паркі — усе ходзяць дзе каму прасцей.

Асталіся адны Васількі, ды так і замацаваліся паступова, увайшлі ў закон.

Больш пакуль і не будзем гаварыць пра сам горад, а звернемся да людзей, якіх тут ужо многа, і працуюць яны на зямлі і пад зямлёю, бо тут ёсць

і хімічныя камбінаты, і шахты. Ёсць таксама будаўнічыя трэсты, мукамольныя і трыкатажныя прадпрыемствы і, вядома ж, усе тыя ўстановы, што ўласцівы гораду абласнога падначалення і цэнтру раёна.

На першым плане, канечне ж, Дом Саветаў. Будынак гаркома-райкома-гарсавета-райсавета свежа-белы, прыгожы па архітэктуры, шматпавярховы, з шырокай пліткавай плошчай перад пад'ездам, з беларускім і заўсёды ярка-вясёлкавым сцягам на франтоне. Сцяг умацаваны на самым высокім месцы, ды і дрэўка мае, пэўна, на цэлы паверх вышыні, таму відзён з кожнай васількоўскай вуліцы.

Пабываўшы ў такім Доме Саветаў ды парадаваўшыся, што там кожны намзаг і кожны намнач ды нават інструктар мае асобны кабінет, можна было б і гаворку пачаць адсюль: многа тут людзей цікавых ды такіх, што ўсё ведаюць, амаль ва ўсіх справах прымаюць удзел. Аднак на гэты раз хацелася б пачаць з іншага месца.

Васількоўская міліцыя размешчана не ў Доме Саветаў. Будынак васількоўскай міліцыі не мае ні плошчы перад сабою, ні брукаванага пад'езду і нават ніякага асфальту. Калі пройдзе вялікі дождж або зацягнецца асенняя слякота, то пад самы міліцэйскі ганак падплывае лужа і вячэрнюю парою ловіць у сваё ўлонне міглівы бляск вісячых ліхтароў.

Асобных службовых кабінетаў тут няма, нават сам начальнік сядзіць разам са сваім намеснікам. Калідор вузкі, сляпы, бо паабапал пакоі: нізкія ліхтары, можна галавою дастаць, свецяцца і ўдзень. Уся гэтая нязручнасць ад таго, што некалі міліцыі дастаўся адзін з тых баракаў, што на скорую руку будаваліся для першых шахтапраходчыкаў. Бралі часова, астаўся ж надоўга.

Але ёсць тут і адзнакі часу, інакш кажучы — пэўны прагрэс у адносінах знешняга аздаблення будынка: да яго прыбудавалі ўтульны ганачак з чатырма падвойнымі слупкамі і пафарбавалі ў зялёны колер. На ганачку ля самай сцяны паставілі лаўку, таксама зялёную, гладкую: хто хоча,

можа сесці тут добраахвотна, адумацца, адпачыць, перш чым ісці да начальніка ці следчага.

Над лавачкай — вялікі каляровы плакат. На ім выразнымі друкаванымі літарамі сцвярджаецца, што хуліганства лепш «пресечь» адразу, чым даваць яму разрастацца і пашырацца. Насупраць лавачкі, ля самых усходцаў на ганак — вялікая зялёная вітрына пад шклом. Там зверху — надпіс «Шукаем злачынцаў». А пад ім — фотакарткі нявыкрытых... 

Ганачак пусты. Толькі за вокнамі сяды-тады відны постаці людзей у форме, а часам і без формы, але з чырвонымі павязкамі на рукавах. Ды вось жа нехта бяжыць сюды, спрытна пераскокваючы каляіны і свежыя лужынкі, нядаўна налітыя вясеннім дажджом.

Ужо вечарэе. Калі хто з міліцыянераў глядзіць праз акно, то наўрад ці пазнае, хто бяжыць: мужчына ці жанчына. Толькі ўжо чым бліжэй падбягае, то ўсё ярчэй вызначаецца нейкая белая адзежынка да палавіны постаці, быццам бы жаночая. А далей — штаны: яны цёмныя ў паўзмроку і могуць належаць каму хочаш — жанчыне, мужчыне, хлапчуку, дзяўчыне.

Неўзабаве кожнаму было відно, калі хто назіраў, што шыбуе ў міліцыю дзяўчына ў лёгкай белай кофтачцы з кароткімі рукавамі і вялікім выразам на шыі. Больш у яе ні на плячах, ні на галаве нічога не было — вечар наплываў з ласкавым, хоць крыху і вільготным цяплом.

Яна спынілася ля лавачкі, нервовым дотыкам тонкіх пальцаў адхіліла ад вачэй пасмы валасоў, падобных на чосаны лён, і стала чытаць плакат. Яе вузкія, роўныя плечы раз-пораз пацепваліся, маленькія вострыя грудзі часта, аднак даволі размерана, па-спартсменску то ўздымаліся, то апускаліся, адзначаючы натрэніраванае дыханне.

Плакат можна было прачытаць за паўхвіліны, але дзяўчына глядзела на яго доўга, нібы вывучала кожнае слова. Напэўна, больш за ўсё назаляла ёй слова «хуліганства», якое, на жаль, чулася ў Васільках даволі часта. І вось жа... Мабыць, давядзецца пачуць яго зноў... І можа не адзін

раз... Глянуць у вочы гэтай прыкрай з'яве, яе рэальнаму азначэнню.

Дзяўчына рэзка адвярнулася ад плаката, прысела на краёк лавачкі. Спартсменскае дыханне ўжо крыху ўляглося. Можа гэта толькі спартсменскае, а тое, што ад хвалявання, аставалася і нават мацнела. Нерашуча і нібы нават с жахам яна паглядзела на дзверы ў калідор. Са спалохам адвяла вочы і з сумнай цікавасцю ўставілася на вітрыну з партрэтамі злачынцаў. Жвава ўстала і падышла да вітрыны.

У гэты час, раптоўна, быццам рэпарцёрскі магній, успыхнула на ганку лямпачка-стосвячоўка, пальнула дзяўчыне ў вочы, зырка заблішчэла ў шкле вітрыны, асвяціла свежую лужынку насупраць ганка і прывабна зайграла ў майскім лісці падрэзанай зверху таполі. Напэўна, нехта наўмысля ўключыў святло, убачыўшы, што дзяўчына падышла да вітрыны: «Няхай паглядзіць!..»

А тым часам можна паглядзець і на яе. Пад яркім электрычным святлом твар дзяўчыны выглядаў, мабыць, больш бледным, як звычайна, і кожная рыска вылучалася крыху вастравата, без пяшчотнай мяккасці. Але відно было, што дзяўчына яшчэ зусім маладая, можа нават школьніца недзе перад выпускам. Уцякла ад мацеры, ад бацькі, пэўна, пад акном свае хаты крыкнула, што на хвілінку забяжыць да сяброўкі, і вось памчалася ў міліцыю. Што ёй тут трэба? Чаго прыбегла, аж задыхаўшыся?..

Глядзіць на злачынцаў, мабыць, дзівіцца, што амаль усе яны хараша, элегантна адзетыя, а ў аднаго нават значок вышэйшай адукацыі на лацкане пінжака. У яе вачах блішчаць слёзы... Яшчэ адно ўяўнае параўнанне, яшчэ адна цяжкая думка — і слёзы могуць пакаціцца па тонкіх, трошкі прадаўгаватых, але вельмі пяшчотных, нібы вымытых свежым малаком, шчоках. І слёзы не папсуюць прыгожага, хоць і залішне ўсхваляванага твару, не затуманяць светлага блакіту вачэй.

Што можа ўявіцца дзяўчыне, калі яна стаіць каля такой вітрыны? Напэўна, той «злачынец», праз якога яна прыбегла сюды. Калі трошкі на-

блізіцца да яе біяграфіі то трэба сказаць, што яна ўжо не школьніца-выпускніца, а студэнтка першага курса інстытута. Прыехала дадому на першамайскія святы, і выйшла так, што яшчэ да заходу ў сваю кватэру сустрэла на лесвіцы не вельмі тактоўную суседку.

— Прыляцела праведаць, павідацца?..

— Да мамы,— удакладніла дзяўчына.

— Маці-то можа яшчэ і не скучыла па табе, ты ж прыязджала на Новы год. А вось ён... Стаў піць яшчэ больш... Сёння зноў у міліцыі, то добра, калі абыдзецца пятнаццацьмі суткамі.

— А што?.. Біўся, хуліганіў?

— Ды, мабыць, усяго там было. Усе кажуць, што толькі ты і магла б яго ўлагодзіць, што і п'е ён праз цябе: паехала, пакінула бязбатчанне гэтае. А робіць добра, калі цвярозы... У шахце самой...

Дзяўчына баіцца глянуць у самы ніз вітрыны. Там фатаграфіі, якіх яна яшчэ добра не разглядзела. Іх, мабыць, нядаўна залажылі пад шкло. А што, калі і ён там?.. Можа ў такім выглядзе, што і пазнаць нельга...

У дзяўчыны ўсё ж пацяклі слёзы. Ад шчырага шкадавання, ад пачуцця сардэчнай блізкасці?.. Яна і сама не ведала, ад чаго, але хутчэй можна падумаць, што ад крыўды на свой лёс, на тую няўладзіцу іх узаемаадносін, якая пачалася, глядзі што, з першых дзён знаёмства. Ён быў старэйшы за яе на восем год. Ён жа быў і тым першым, хто аднойчы настырна ўвязаўся праводзіць яе дадому з гарадской танцпляцоўкі. Правёў раз, а потым кожны вольны вечар дзе-небудзь чакаў яе. Цярпення хапала: мог прастаяць ці пратупаць сюды-туды ў чаканні ці падпільноўванні цэлы вечар або нават і раніцу, калі выпадала такая зручнасць. Калі не ўдавалася дачакацца ці сустрэць яе быццам выпадкова, пачынаў шукаць, высочваць, з'яўляўся нават пад вокнамі кватэры. Часам з букетамі, часам з пагрозлівамі дамаганнямі. Канцом сваім выстаўляў тое, што ён былы дзетдомавец, таму зусім адзінокі і няшчасны, што толькі яна можа прынесці яму радасць і шчасце ды нават

уратаваць жыццё. Калі напіваўся, то і за гэта ўсю віну ўскладаў на яе: маўляў, каб добрая была да яго, то не піў бы. І здаралася, што пускаў слязу, можа п'яную, а можа і шчырую...

Дзяўчына ўсё ж набралася рашучасці і агледзела фотакарткі ў самым нізе вітрыны. Не, яго не было там. Увесь час не магла пэўна вызначыць — дарагі ёй той заплаканы, п'янаваты, а часам вясёла-жартаўлівы твар? Але памятала яго. У сумачцы ляжала фотакартка, якую ён амаль сілаю прымусіў узяць, калі праводзіў у Ленінград, на вучобу.

Тут трэба аддаць яму павагу: як ні назаляў дзяўчыне, як ні мучыў яе сваімі дамаганнямі, а супраць яе вучобы не выступаў. Палохаў толькі тым, што зусім сап'ецца і рукі на сябе наложыць, калі яна адмовіцца ад яго і не стане яго жонкай яшчэ ў час вучобы.

Насільна падораную фатаграфію яна не выстаўляла на сваім студэнцкім століку ў інтэрнаце, не паказвала нікому з сяброўак, аднак і не забывалася, што яна ў яе ёсць. Часам глядзела на яе, тады, калі адхіляла кішэньку ў сумцы. Аднак не для таго, каб успомніць, палюбавацца. Часта ўяўляўся ён і так: нізкарослы, трохі сутулаваты і таму ніжэйшы за яе, калі яна была на высокіх абцасах ці платформах. Нос вялікі, таўставаты і часам ужо сінявата ад лішняга і частага прыкладвання да чаркі. А вусны прыгожыя, сочныя, і ўсмешка іншы раз была прывабная, калі смяяўся шчыра, не ў злосці.

...Яго на вітрыне няма: гэта добра. Але ж ён недзе там, за гэтымі веернымі кратамі. Ці здолее яна выручыць яго, ці не позна яшчэ? Ды ці варта выручаць? Няўжо дзеля гэтага прыляцела з Ленінграда? Здаецца, што і не думалася пра яго...

«Трэба ісці, прасіць, даводзіць, пераконваць, калі ёсць тут хто з начальнікаў».

Дзяўчына адступіла ад вітрыны, рашуча падалася да дзвярэй у калідор, але каб ступіла яшчэ хоць паўкроку, то дзверы збілі б яе з ног, бо рэзка і нечакана расчыніліся ад моцнага штуршка. Адтуль выбег міліцыянер, а за ім — два дружыннікі.

— Куды пабег? — крыкнуў той, што шыбаваў апошнім.— Сяржант, сваці!

— І так справімся! — пачуўся голас.— Далёка не махне!

За будынкам міліцыі — таполевы парк, вытаптаны з першага праталку, голы, а далей — палатно чыгункі. Сапраўды, куды яму бегчы, дзе схавацца? Усё роўна ж зловяць, тады яшчэ горш яму будзе.

Так падумалася і дзяўчыне, калі яна супынілася на ганачку і стала чакаць, што здарыцца з тым хлопцам. Чамусьці была ўпэўненасць, што так мог зрабіць толькі хлопец, ды і то наўрад ці пры сваім розуме, або з такой апантанасцю да рызыкі, да ўсялякіх бяздумных учынкаў, што часам праяўлялася і ў таго самага, якога яна прыйшла выручаць. Жудаснае меркаванне, што гэта не хто іншы, а якраз ён нейкім чынам збег перад яе прыходам, што толькі гэты хлопец мог рашыцца на такі бязглузды ўчынак, паступова расло, а праз якую хвіліну стала ўжо бясспрэчным. Дзяўчына сышла з ганка, забыўшыся глянуць пад ногі, ступіла ў лужынку, лёгка, здавалася, толькі адным рухам выскачыла з яе і стала ўглядацца ў шэры і нібы згусцелы ў змроку парк.

Неўзабаве там пачулася спорнае шорганне, пагрозлівыя слоўцы, і нехта за вуглом будынка крыкнуў:

— Узялі!

Стаўшы на ўзбочыне вуліцы, яна ўбачыла, што два дружыннікі вядуць хлопца пад рукі, а міліцыянер ідзе следам. Хлопец горбіцца, амаль павісае ў дружыннікаў на руках, ногі ледзь перастаўляе ззаду. Сподалеку нельга разабраць, якога ён росту і ўзросту, але дзяўчыне ўжо і не думаецца пра гэта, яна ўяўляе толькі яго, адчувае, як яму баліць, калі дружыннікі так сціскаюць рукі, як памлелі і адняліся яго ногі, калі ён так нягегла ступае. І ўзнікае шкадаванне, нават крыўда на дружыннікаў, можа таксама знаёмых хлопцаў, якія так абыходзяцца з тым, каго злавілі. Магчыма, і працуюць недзе разам, бо асноўны дружынніцкі штаб — пры камбінацкім аб'яднанні.

Хлопец раптам напружваецца, робіць намаганні вырвацца. Гэта, мабыць, таму, што ўбачыў яе, напэўна ж, пазнаў. Дружыннікі яшчэ мацней сціснулі яму рукі, і ён утуліў твар у расшпілены каўнер падабранай пад самыя пахі сарочкі і перастаў перабіраць за сабою нагамі, апусціўся на зямлю. Пэўна, разлічваў на тое, што дружыннікі не будуць яго валачыць па зямлі, спыняцца і паставяць на ногі.

Дзяўчына кінулася да яго, пырснула ля дружыннікаў цёплай і яшчэ не надта бруднай вадой, ухапіла хлопца за галаву. І ў першы момант не адчула, не пазнала — яго гэта галава ці не: яна яшчэ ні разу не абнімала яго, не тулілася да шыі, не лашчыла яго валасы.

— Не ён гэта!.. Не ён! — чамусьці крыкнула яна ў адчаі і здзіўлена паглядзела на дружыннікаў.

— А хто ж гэта? — спытаў адзін з іх жартаўліва.— Можа не пазнала, калі ў цябе ёсць такі? Вось памыем, прычэшам, тады прыходзь на спатканне! Пусцім!..

Адчуўшы, што ў туфлі зацякла вада, дзяўчына збочыла, уступіла дарогу дружыннікам і, перамогшы непрыемную жахлівасць, стала разглядаць незнаёмага. Гэта быў сапраўды яшчэ малады хлопец, можа нават школьнік ці студэнт васількоўскага тэхнікума, тонкі, даўгавязы, намнога большы па росту за таго, пра каго яна думала. На ім былі толькі сарочка з закасанымі рукавамі і ў такую дробную клетку, што выглядала скрозь цёмнай, ды паношаныя, з растапыранымі кішэнямі джынсы з шырокім рэмянем на поясе.

«Як жа цяпер ісці ў міліцыю? — у роспачы і разгубленасці думала дзяўчына.— Ды чаго ісці?.. Ужо калі трапіў сюды, то адразу не выпусцяць. Добра, калі яшчэ толькі напіўся ды вылаяўся дзе-небудзь. А калі пабіўся з кім? Ён здатны на гэта. Сілы вялікай бог не даў, а задзірства поўнае нутро. Ісці паціху дадому? Дык гэта ж адступленне, можа нават спалох, слабаволле».

Не многа яна яшчэ пражыла, але ніколі не адступала ад сваіх намераў. Амаль падлеткам пайшла на абагачальную фабрыку, не закончыўшы дзённую школу. Усе хатнія былі супраць, а яна на-

стаяла на сваім. Працавала і давучвалася ў вячэрняй школе. Цяпер таксама не было вялікай патрэбы ехаць у далёкі інстытут, можна было паступіць спачатку ў мясцовы горны тэхнікум. Зноў жа намагла на сваім, нікога не паслухала. І можа больш ад таго, што аднойчы вось так вырашыла, дала сабе слова.

«Адступлюся, не выручу яго, хоць і вінаватага, душу сабе потым разарву, месца дома не знайду, ні спаць, ні есці не буду!»

І яна рашуча ўзялася за клямку нядаўна з грукам зачыненых міліцэйскіх дзвярэй.

У калідоры папахвала ацэтонам — нешта тут нядаўна падфарбоўвалі. А можа і не тут, а ў двары: дзверы насупраць былі адчынены, і там відneліся нізкія збудаванні са свежавыбеленымі вокнамі. Але бог з імі, з гэтымі збудаваннямі, дзяўчына не звярнула б на іх ніякай увагі, калі б там не тупала сюды-туды, шморгаючы колцам па дроце, вялізная адкормленая аўчарка.

З супрацьлеглага канца калідора ішоў дзядок з кашолкай у руцэ і ўсё аглядваўся на міліцыянера, які суправаджаў яго, мабыць, да дзвярэй. Калі яны падышлі бліжэй, то дзяўчына пачула яго словы. Відаць, стары і паўтарыў сёе-тое, каб чутно было ўсім у калідоры:

— Гэта ж, дайце веры!.. У нас дома гэтага віна з яблык ды з ягад... Бутлямі ў кожнага... Часам не ведаюць, чым і піць: гладышамі ці дайніцамі. А я і ў рот не бяру! Дайце ж веры! А тут прыйшоў пехатою, здарожыўся, паглядзеў на горад, які ён харошы ды прыгожы... Убачыў пляшку дый купіў за пенсію... Стала млява ў нагах, дык сеў на лавачку ў парку... Сам не ведаю, як заснуў... То дзякуй вам вялікае!..— Дзед зноў пакланіўся міліцыянеру, нават кепачку зняў і прытуліў яе да грудзей.— Шчырае дзякуй, што от жа прывялі сюды і душам памылі...— Ён паказаў кепкай на свае сівыя, сапраўды рассыпаныя ад мыцця валасы.— А потым жа і паспаць далі дзе... І пакармілі...

— Ідзіце, баця! — прыязна сказаў яму міліцыянер.— Не затрымлівайцеся. А то на свой аўтобус спозніцеся.

Дзядок толькі на ганку надзеў сваю кепачку, спрытна пераступіў цераз лужынку і бадзёра пашыбаваў па вуліцы.

Прачытаўшы шыльдачку, што па ўсіх пытаннях трэба спачатку звяртацца да дзяжурнага памочніка начальніка міліцыі, дзяўчына ўжо без дрыжыкаў унутры, аднак усё ж хвалюючыся пастукала ў вузкія дзверцы...

— Зайдзіце! — пачуўся адтуль стрыманы голас.

За невялікім столікам сядзеў і нешта пісаў пажылы і грузны капітан міліцыі. Дзяўчына глянула на яго і сумелася: да чаго ж ён быў падобны на Жарава з «Сельскага дэтэктыва». Але гэта неяк і ўзбадзёрыла яе, з'явілася адчуванне, што, напэўна ж, ён і добры і спаважлівы такі, як і той, што ў фільме.

— Мне б да начальніка міліцыі,— намагаючыся трымаць смелую і нават патрабавальную інтанацыю, сказала дзяўчына.

— Яго ўжо няма тут,— спагадліва адказаў дзяжурны.

— Тады хоць да таго, хто ведае гэтымі самымі...— дзяўчына не знала, як лепш сказаць: доўга раней пра ўсё думала, а гэта не прыходзіла ў галаву.

— Кім гэта? — перапытаў дзяжурны.

— Ну тымі, каго сюды прыводзяць за...— яна зноў перапынілася і з вінаватай разгубленасцю глядзела на дзяжурнага.

— За што прыводзяць?

— За п'янку,— няўпэўнена ўдакладніла дзяўчына.

— За п'янку ці за хуліганства?

Дзяўчына апусціла галаву і адказаць не магла.

— Вы сядайце вось тут,— дзяжурны паказаў ёй на выцертае венскае крэслачка, якое стаяла насупраць ля сцяны.— Сядайце і раскажыце ўсё па парадку. І спакойна. Як завуць таго, за каго вы хацелі б, як я разумею, хадайнічаць?

— Савелій,— адказала дзяўчына, асцярожна сядаючы на краёк крэсла, нібы баючыся, што яно паваліцца або моцна скрыпне.— Усе завуць — Савел.

Крэсла ўсё ж такі заскрыпела, але гаворку не перабіла.

— А прозвішча, прозвішча як?

Дзяўчына зачырванелася ад няёмкасці: яна не цвёрда памятала яго прозвішча. Усё Савел і Савел. І сама заўсёды так звала, і ад людзей чула. Дзяжурны хоць, відно было, і вельмі вопытны чалавек, а ўжо ледзь не даходзіў да папроку, калі яна ўрэшце ўзняла руку і ўспомніла:

— Горбік! Здаецца, Горбік.

— Не здаецца, а точна ён,— удакладніў дзяжурны.— Я адразу падумаў, што ты...— ён на момант спыніўся, быццам абдумваючы, ці правільна робіць, што пераходзіць на «ты» (маладая ж вельмі, дочкі ў яго старэйшыя),— што ты з-за яго прыйшла. Ведаем мы яго, не першы раз сустракаемся. На вялікі жаль, канечне. Але прыйшла дарэмна.

— Чаму?

— Таму, што ён не толькі п'яніца, а і хуліган. Зноў пабіўся на вуліцы. Цяпер яму ўжо не суткамі пахне.

— А чым? — Дзяўчына адчувала, што не тыя пытанні задае і можа наогул не ў той бок вядзе гаворку. Але не ведала, як лепш выйсці на сваю сутнасць і на сваю праўду.

— А тым,— без пагрозлівасці, аднак вельмі пераканана працягваў дзяжурны,— што могуць і тэрмін даць або выселіць з горада.

Дзяўчына пачала глыбей умяшчацца ў крэслачка, ад гэтага яно некалькі разоў моцна і дзіка скрыпнула. Дзяжурны паглядваў на яе спачувальна і ў той жа час думаў, што яна не толькі недарэчна з'явілася сюды, а і дарэмна рассядаецца, быццам мяркуе, што ў дзяжурнага толькі і справы, што слухаць яе ды займацца гэтым хуліганам.

— Вось такія вось дзяла...— раптам прамовіла дзяўчына і глыбока ўздыхнула.

— Вось такія! — пацвердзіў дзяжурны і зняў форменную фуражку, відаць, адчуўшы, што хутка гэтую наведвальніцу не выбавіш. Яшчэ зусім новая, бліскуча аздобленая, з шырокай, акантаванай тульяй фуражка цяпер ляжала на стале казырком да

дзяўчыны. І ўяўлялася наведвальніцы, што перад ёю два вялікія аўтарытэты і вырашальнікі яе лёсу — пажылы капітан у пасівелых з кончыкаў пышных валасах, якія нібы зарадаваліся, што іх вызвалілі з-пад шапкі, і рассыпаліся па ўсёй галаве, нават прыкрылі вушы, і яго прадстаўнічая службовая фуражка.

«Або цяпер усё вырашыцца,— адольвала дзяўчыну думка,— або ніколі! Вось такія вось дзяла...»

— А хто табе гэты Горбік? — падаўшыся галавою да дзяўчыны, а локцямі абапёршыся на стол, спытаў дзяжурны.— Брат, сват?

Дзяўчына пакруціла галавой.

— Ну, я так і думаў,— памяркоўна прамовіў капітан.— У яго тут нікога няма. Прыехаў на нашу галаву... Можа дзе і ёсць хто?

— Нідзе няма,— пацвердзіла дзяўчына.— Дзетдомавец ён, бацькі ў вайну загінулі.

— Дык ты, значыцца, ніхто яму? Разам на танцульках пабылі, і ўсё?

— Нявеста я,— ціха і вельмі няўпэўнена, нібы адчуваючы, што ніхто не паверыць, сказала дзяўчына.

— Хто, хто? — здзіўлена перапытаў дзяжурны.— Што ты сказала?

Дзяўчына не паўтарыла сваіх слоў.

— Можа я недачуў? — працягваў капітан.— Не разабраў? Нявеста, ты сказала? Чыя? Яго? Дык, па-першае, ты яшчэ дзіцё... А па-другое... Хіба ён пара табе? Маладая, прыгожая дзяўчына. Ты што цяпер робіш? Вучышся ў школе?

— У інстытуце,— удакладніла дзяўчына.

— Дзе?

— У Ленінградзе.

— Ну вось... Жыццё сабе хочаш скурожыць?

І капітан лагодна засмяяўся, адкінуўся на спінку крэсла, напэўна, лічачы, што дзяўчына проста па адвольнасці ці неразуменню сутнасці слова назвала сябе нявестай. Ён ужо нават і не шкадаваў свайго часу на такую доўгую гаворку: каб толькі карысць была... А яна як быццам пачынала праклёўвацца.

І раптам зноў ціхі, задумлівы голас дзяўчыны:

— Вось такія вось дзяла...

— Што? — насцярожыўся дзяжурны.— Мы, здаецца, зразумелі адно аднаго. Пара канчаць размову.

— Ён не будзе піць! — рашуча прамовіла дзяўчына.

— Вось як?! Адкуль ты ведаеш?

— Ведаю!

— Больш за нас?

— Больш! Адпусціце яго яшчэ раз і пабачыце, што перастане піць.

— Ты забаронiш?

— Забараню!

— Цікава, якім гэта чынам?

— Выйду за яго замуж і забараню!

— Ох ты!..— Капітан нібыта не знаходзіў слоў для далейшай размовы. З кім толькі і пра што не даводзілася яму весці гаворку за доўгія гады сваёй службы, а такога павароту яшчэ быццам бы і не сустракаў.— Ты, мабыць, жартачкі мне падпускаеш? — папракнуў ён дзяўчыну.— То я ж табе не блазнюк, не твая роўня! Да таго ж, я на службе, як ты, спадзяюся, разумееш.

— Сур'ёзна я гавару! — спакойна прамовіла дзяўчына.— І вас не падвяду. Я паважаю вас.— А праз нейкую хвіліну зноў паўтарыла: — Вось такія вось дзяла...

Капітан нейкі час моўчкі глядзеў на сваю незвычайную наведвальніцу, быццам вывучаў твар, выраз вачэй, аголеныя рукі на каленях, рух галавы, а потым устаў з-за стала, прайшоўся сюд-туд па пакоі і, відаць, рашыў вярнуцца да таго, з чаго варта было пачынаць гаворку.

— Як цябе завуць, такую порсткую? Ты з чыіх тут ды з якіх? Прыезджая, як і ён, гэты твой?.. Ці тутэйшая?

— Мы адсюль, знепадалёку...— ахвотна адказала дзяўчына.— Але ў горадзе даўно, амаль з першага дня шахтаў. Арлоўскія мы. А мяне завуць хто як: Мальва, Малька, Мальгаша і проста Гаша. Па пашпарту — Мальвіна.

— Арлоўскія, кажаш? — перапытаў дзяжурны і зноў сеў за свой столік.— Дык не з гэтых нашых,

што Аўгусцін Арлоўскі, дэпутат Вярхоўнага Савета?

— З гэтых,— ціха пацвердзіла дзяўчына.

— Дык хто ён табе? Бацька?

— Брат.

— А бацька ёсць?

— Няма.

— Маці?

— Ёсць.

— А дома ты сказала тое, што мне гаворыш?

— Не яшчэ, бо толькі што прыехала.

— Табе што ж?.. Туды тэлеграму прыслалі, што ён сядзіць?

— Не. Тут людзі сказалі. Прашу вас, выпусціце яго, калі можаце!

Апошнія словы яна вымавіла нібы міжвольна, не падумаўшы. Сумелася ад чакання, што цяпер дзяжурнаму вельмі проста сказаць: не магу. І ўся размова, і рашучасць, і шчырасць ператворацца ў пустату.

Аднак пажылы капітан не сказаў гэтага. Ён толькі папрасіў дзяўчыну пасядзець крыху на ганачку або пагуляць па вуліцы, пакуль ён тут разбярэцца, параіцца.

Паклікаў ён наведвальніцу раней, чым тая чакала. Зноў запрасіў сесці на крэслачка, а сам не садзіўся, задумліва тупаў па пакоі.

— Дык вось, Мальва, Мальгаша ці проста Гаша,— сумным голасам прамовіў ён, аднак жа і трохі паказваючы, што на імёны і прозвішчы ў яго памяць найлепшая.— Шкада, што ў цябе няма бацькі, вельмі шкада!.. Шчыра скажу, што сам шкадую цябе. Была б мая воля, нізашто не дазволіў бы табе звязваць свой лёс з гэтым чалавекам.

## II

Свайго бацькі Мальвіна не памятае. Некалі яе, зусім маленькую, бабка падвяла да яго, ляжачага ў труне. І большую сястрычку, гадоў шасці.

— Пацалуйце татку, развітайцеся! — плачучы, загадала бабка.— Назаўсёды развітайцеся...

Бабчыны слёзы капалі дзецям на галовы. Яна ўзяла меншую на рукі, нахіліла над застылым бацькам:

— У ручку пацалуй, у ручку... А яшчэ — у лобік.

Дзяўчынка пацалавала ў халодныя, складзеныя на грудзях рукі, а калі яе падносілі да лба, пацягнулася пальцамі да чорнага гальштука, на якім пераліваліся зыркія блёсткі.

Бабка адарвала малую ад такой незвычайнай забавы і звярнулася да большай.

— Ну, а цяпер ты, Анжэлка! Сама нахіляйся, ты ўжо вялікая... Запомні татку!.. Каб ніколі не забыла!..

...Старэйшая дзяўчынка намагалася рабіць усё так, як бабка казала, і раптам задрыжала, пабялела, як палатно, і павалілася ля труны...

Падбег старэйшы брат Аўгусцін, падняў дзяўчынку.

— Што вы робіце? — папракнуў бабулю.— Дзіцё злякалася!

Дзяўчынка білася ў яго на руках, потым трэслася на ложку. Твар увачавідкі пачаў сінець. Пакуль у роспачы і хатняй мітусні пазвалі ўрача, дзяўчынка памерла.

З адной паніхіды стала дзве...

Бацькі нельга было не спалохацца. Ніхто нежывы не выглядае хораша, а гэты чалавек амаль што і не падобны быў на сябе...

Пятро Арлоўскі. Гэтае імя было вядомае ў Васільках. Сам Пятро, Пятрусь, а дзецям даваў імёны, бліжэйшыя да польскіх. Можа таму, што нейкі прапрапрадзед яго быў палякам. Радзіма яго — тутэйшая, непадалёку ад былой польскай граніцы, а жыць змоладу давялося пад Данецкам, на вугальных шахтах.

Кашлянуў неяк дома разы два пасля змены. Жонка насцярожылася:

— Глядзі, ці не сілікоз, не дай божа?!

— Ну што ты? Я добра сябе адчуваю.

— Хоць курыць пакінь.

— А яшчэ што?..

І ўсё ж Арлоўскі пайшоў на рэнтген, праверыўся. Чарнаты ў лёгкіх яшчэ не было, але жончыны прадчуванні апраўдаліся: яму сапраўды забаранілі курыць і браць чарку.

Жыццё пасумнела, і ўсё часцей адольвалі думкі аб тым, каб вярнуцца дадому, у сваю родную беларускую вёску, з чыстай рэчкай ды зялёным лесам побач, надыхацца там, наглытацца ляснога паветра, а тады можа і да курыва вярнуцца і да чаркі застольнай.

Праз некаторы час так і зрабіў Пётр Арлоўскі, прыехаў дадому: была тут у брата маласямейнага хата-пяцісценка ды яшчэ прыбудоўка летняя, на манер гарадской веранды. Дзён праз два пайшоў на калгасную работу, якая здалася яму лёгкім гуляннем пасля шахты. Аддыхаўся за лета, а пад восень паехаў аўтобусам у Васількі, праведаць, наколькі праўдзівыя тыя чуткі, што дайшлі і да яго вёскі: горад будзе расці, будавацца, шахты мясцовыя з'явяцца.

Вярнуўся з дакументамі новага шахцёра. Праходчыка пакуль, але і гэтая работа не была яму чужой.

Як толькі надзеў шахцёрскую каску і ўзяў у руку звычны ліхтар, адчуў, што жыццё яго ўзнавілася і асвяцілася радасным золкавым святлом. У ствале на глыбіні ліліся на плечы струмені падземнай вады, за змену ледзь не прабівалі адзежу, traплялі за шыю, зацякалі ў халявы ботаў. А як толькі бодня дасягала паверхні, здавалася, што сонца свяціла нават і ноччу. Цёплы душ лагодна змываў зменную макрату і бруднату, а заадно здымаў і стомленасць. Калі выпадала неабходнасць зноў лезці ў ствол, замяніць там каго, Пётр гатоў быў на гэта, і другая змена не здавалася цяжкай.

Так да першага пласта. Не вугальнага, а салянога. Першую бодню солі падалі на-гара. Яе амаль усю расхапалі, разнеслі ў шчыпотках. Гэта была яшчэ не тая соль, да якой дакопваліся, вялі ствол,— не калійная. Але і звычайная, што ў страву можна сыпаць,— хіба ж не знаходка?

Прыехаў Арлоўскі дадому вясёлы, узбуджаны, падхапіў на рукі сваіх дзеўчанят: Мальку і Анжэл-

ку, стаў подскакам насіць па хаце. Большая па звычцы нават каленкам абмацала, што ў бацькавай кішэні нешта ёсць: без гасцінца гарадскога бацька рэдка калі вяртаўся дадому.

— Цукерачкі! — зарадавалася дзяўчынка.

— Не, дзеткі, гэта не цукерачкі.— Бацька выняў з кішэні маленькія іскрыстыя аскабалачкі.— Угадайце, што гэта?

— Яны салодкія?

— На паспытай!

Малая адкусіла дробку ад аднаго аскабалачка і крыўдліва паморшчылася, выплюнула.

— Нясмачнае, горкае!

— Не горкае, а салёнае,— паправіў бацька і меншай дачцэ паспытаць не даў, хоць і тая працягнула рукі.

Выйшла з бакоўкі маці, дык Пятро і ёй паказаў знаходку:

— Угадай, што гэта?

— Каменьчыкі нейкія.

— Горкія! — дадала Анжэлка. А потым папраўілася: — Салёныя, салёныя!..

У той дзень у Арлоўскіх на сямейным абедзе былі на стале дзве чаркі (толькі для дарослых), каб адзначыць першы шахцёрскі поспех, і драбок свежай зярністай солі. Што ні браў Пятро на закуску, усё яму здавалася нèдасалем, усё хацелася падсаліць...

Першы гарызонт...

Першая Петрусёва спроба ўзяць каштоўнае радовішча адбойным малатком, як браў некалі вугаль. Не, не збаялася калійная соль малатка, не паддалася яму. Яна моцная, у ёй штрэкі могуць трымацца без падпорак, і сцены блішчаць, як у Маскоўскім метро.

...Першым машыністам камбайна быў тут Пятрусь. Потым — брыгадзірам камбайнавай брыгады. Ішлі яго камбайны па маркшэйдэрскіх адмецінах, забіралі спажыўную соль, сільвініт і ўсялякую іншую пароду, што траплялася па дарозе. У вугальных шахтах ён некалі браў толькі вугаль.

А як падладзіць камбайн, каб ён мог лепш паварочвацца, лепш бачыць карысны пласт? Не яго, машыніста, тут сіла, не яго ўменне, але спакою гэта не дае...

Другі гарызонт, больш глыбокі. Тут пласт чысцейшы, тут работа спарнейшая. Але вось... Што падумаць наконт гэтага?..

...Надышоў законны абедзенны перапынак. Хлопцы з Петрусёвай брыгады адышліся да пад'ёмніка, там у шахтным двары сядзіць за столікам руплівая буфетчыца, трымае ў тэрмасах гарачыя каву, чай. Праз некалькі хвілін вярнуліся хлопцы і аднаго камбайна не знайшлі. Дзе ён, што здарылася? А яго засыпала. Шчасце, што нікога не было за штурвалам: вагон для разгрузкі стаяў наводдалі.

Успамінаў Арлоўскі, што такія выпадкі здараліся ў вугальных шахтах. Дык там жа вугаль, там сапраўды маглі сустракацца газавыя ямы. І то вельмі рэдка, дый без асаблівай пагрозы чалавеку. А тут пакуль што ніякая тэорыя не прадказвала газавых скопішчаў. Праўда, яна і не сцвярджала, што іх тут няма.

Адкопваючы машыну, Арлоўскі памагаў спецыяльнай камісіі знайсці пэўную прычыну аварыі: можа сам у чым вінаваты — парушыў маркшэйдэрскі накірунак, падрэзаў сценку апоры? І рад быў бы ўзяць на сябе віну, але яе не знаходзілася.

«Ці чуў хто хоць які-небудзь выбух?» — такое апытанне было зроблена камісіяй.

Не, ніхто выбуху не чуў. Сапраўды, ні Арлоўскі, ні яго хлопцы нічога не чулі, хоць адыходзіліся не надта далёка. Значыць, пласт быў такі сыпучы, нетрывалы, таму і рушыўся.

Так было запісана ў актах камісіі, так было сказана шахцёрам. Хацеў верыць гэтаму і Арлоўскі, але не мог. Недзе ліпела ў яго перакананне, што гэта ўсё ж такі газавы фокус, пакуль што маленькі, нібы пробны, нават без выбуху, а толькі з парушэннем пласта. А як гэта давесці? Фактаў няма, і не трэба, каб былі. Можа і лепш, што ніхто ў шахце не думае пра гэта. А то са страхам садзіліся б за

штурвал. Маглі б знайсціся і такія, што зусім не селі б.

Арлоўскі не адчуваў страху, калі зноў пускаў у ход камбайн. У душы жыла добрая надзея на тое, што калі і надарыцца тут сустрэцца з газам, то выбуху не будзе, а толькі шугане ён мірна і ціха, можа трохі камбайн прысыпле. Па такіх страхах жыць можна. У той жа час бесперапынна думаў, як зменшыць небяспеку магчымых выбухаў. Калі не для сябе асабіста, дык хоць для тых людзей, што сядзяць за штурваламі.

Дайшоў Пятро толькі да аднаго, на той час не надта спрыяльнага для вала: калі пад'язджаў электравагон для разгрузкі бункера, машыніст прыпыняў камбайн, каб пры нечаканым здарэнні рызykаваў адзін чалавек, а не два.

Аднойчы сасніўся Арлоўскаму такі дзівосны пульт, ад якога ішлі электронныя імпульсы аж да самага ягонага камбайна. На вялікай адлегласці. Стаіць ён, машыніст, пры пульце, а свой камбайн бачыць толькі па тэлевізары. Націсне адну кнопку — машына ідзе ў ход, націсне другую — спыняецца, націсне трэцюю — ідзе па пласту ўгору, чацвёртую — падаецца ўніз, пятую — шыбуе ўправа, шостую — бярэцца ўлева...

— А ці можаш ты вылезці з гэтым сваім пультам з шахты? — пачалі пытацца ў Арлоўскага інжынеры.

— Магу! — упэўнена адказаў Пятро.

І стала яму лёгка-лёгка дыхацца, недзе ў зялёных садах заспявалі птушкі...

Другога выбуху ён таксама не чуў... Пэўны час быў як у сне, ды вельмі цяжкім, каламутным, з бесперапынным апусканнем у бяздонне... На нейкі час прачнуўся і пазнаў над сабою Аўгусціна, свайго старэйшага нашчадка. А сын ледзь мог пазнаць яго...

Бацька намагаўся нешта сказаць, але словы не вымаўляліся... І на твары, зусім не падобным на яго, чужым, у момант счарнелым, не было ніякага выразу: анямелі вусны, падцяўся пад шыю востра

склінены падбародак. Толькі язык ледзь прыкметна варушыўся, і з гэтага варушэння Аўгусцін улавіў, што бацька шаптаў пра сваё запаветнае і балючае: пра беражэнне людзей на шахце...

Тады Аўгусцін быў толькі ў восьмым класе. Да шахты яму было яшчэ далёка, але бацька ведаў, што сын прыйдзе на шахту...

## III

Пажылы капітан быў чалавекам шчырым і рашыў выканаць сваю місію да канца. Ён пазваніў, каб прывялі Горбіка да яго, а дзяўчыну з чатырма, як ён думаў, employedрознымі імёнамі не выпраўляў з пакоя: няхай сама ўсё пабачыць і пачуе.

Калі ўвайшоў з дакладам каравульны сяржант, Мальвіна ўстала, намерылася выйсці з пакоя, але капітан прыпыніў яе:

— Давайце ўжо разам да канца!.. Да самага завяршэння!..

Сяржант пазнаў дзяўчыну — сустракаў на танцпляцоўцы — і да чырвані ў твары разгубіўся, не ведаў, што рабіць у такой нечаканай сітуацыі: павітацца і нават усміхнуцца, як ужо не раз усміхаўся, запрашаючы на танцы, ці астацца афіцыйным?

Яна таксама пазнала яго, хоць і здзівілася, убачыўшы сяржанцкую форму. На танцпляцоўку ён прыходзіў у цывільным касцюме. Маленькі па росту, але вельмі прыгожы і жвавы, з прыемнай, амаль дзіцячай усмешкай, ён вызначаўся незвычайнай лёгкатой і спрытнасцю ў кожным танцы, і Мальгаша ахвотна ішла з ім па крузе. Калі не надзявала платформаў, дык толькі на які вяршок была вышэйшая за яго.

Сяржант далажыў капітану, што затрыманы Горбік дастаўлены, і ласкава, але недаўменна глянуў на дзяўчыну, пэўна, намагаючыся адгадаць, чаго яна тут, якая яе роля ў справе гэтага чалавека.

— Давай сюды! — загадаў капітан.

Сяржант казырнуў, лёгка і прыгожа, як у танцы, павярнуўся праз левае плячо і бойкім крокам ступіў да дзвярэй. Адчыніў і падаў знак рукою.

Мальва глянула ў адчыненыя дзверы і нібы спалохана адвяла вочы. Ей так з рукі было б якнебудзь і куды-небудзь знікнуць, каб не быць тут, не бачыць п'янага Горбіка, не чуць размовы з ім... Ды яшчэ пры гэтым сяржанце, з якім так хораша кружынялася і выгіналася ў танцах, што аж сяброўкі зайздросцілі.

На шчасце, Горбік быў не вельмі п'яны: ці паспеў выспацца пасля затрымання, ці выйшаў хмель у час пабойкі на вуліцы. Ужо нават ад гэтага дзяўчыне стала крыху лягчэй. Але... каб не сяржант!..

Мабыць, адчуўшы нечаканую сарамлівасць дзяўчыны, капітан сказаў:

— Ты, Валодзя, можаш пагуляць крыху... Я пазаву!

Савел Горбік, убачыўшы ў пакоі Мальгашу, нібы аслупянеў, спыніўся ля вушака, апусціў па швах рукі. Вочы ў яго былі чырвоныя, нібы заплаканыя, і ён уставіўся гэтымі вачыма дзяўчыне ў твар, не маргаў, не вітаўся, не спрабаваў усміхнуцца, нават не варушыў ніводнай рыскай акамянелага твару. Потым быццам бы пачаў улоўліваць у дзявочых вачах надзею на лепшае; хоць і тлумная галава, але стала ўцямваць, што гэтая дзяўчына не пайшла б сюды, каб зрабіць яму зло, і яго засмаглыя вусны ледзь крануліся, у вачах заблішчэлі слёзы.

— Дык вось!..— стараючыся выглядаць спакойным, прамовіў капітан.— Бачыш, хто прыйшоў выручаць цябе?

Горбік рыўком кінуўся ад парога і ўпаў перад дзяўчынай на калені. Тая збянтэжана ўстала і падалася бліжэй да капітана.

— Ты прыехала!.. Прыйшла!..— гаварыў ён скрозь плач і на каленях паварочваўся да Мальгашы.— Дзякую табе, дзякую!.. Век не забуду!..

— Прыехала, прыйшла, але не дзеля цябе,— раптам даволі абыякава сказала дзяўчына.— Проста шкада стала, як даведалася, што сядзіш...

Капітан не надаў гэтым словам пэўнага значэння, бо адчуў тую дзявочую ганарлівасць, а Горбіку загадаў устаць і слухаць, што яму будзе сказана. Калі ж спатрэбіцца, то адказваць на пытанні, а не задаваць самому. Той устаў і ссутулена прытуліўся

спіною да сцяны, відаць, не надта спадзеючыся на цвёрдасць ног.

— Стой роўна! — загадаў капітан.— Можа ж быў час трохі выпрастацца ў выцвярэзніку? А тут табе няма падпоркі — сцены нядаўна пабелены.

Горбік з натугай адштурхнуўся ад сцяны, квола хіснуўся і раптам усім нязграбным тулавам узваліўся на тое крэсла, дзе толькі што сядзела Мальвіна.

— Слухай, хлопец! — даволі рэзка папярэдзіў яго капітан.— Я ведаю тваю натуру, і хітрыкі твае — мне не навінка. Калі будзеш выкідваць розныя конікі, то адпраўлю назад і будзеш сядзець да суда. А ты ведаеш, што цябе чакае... Ведаеш?

Горбік кіўнуў галавой і выпрастаўся.

— Можа і не трэба было так рабіць,— працягваў капітан,— але я ўзяў грэх на сваю душу... Паслухаў вось гэтую маладую асобу,— выразным паглядам паказаў на Мальвіну,— пазваніў начальніку і яшчэ каму трэба... Расказаў ім усё. Ты можаш дзеразумець, адчуць, на што ідзе гэтая дзяўчына дзеля цябе? Спадзяюся, што можаш,— граматны, кніжкі чытаеш, нават раманы. Яе воля цяпер адмовіцца ад сваіх слоў,— ён зноў спыніў свой уважлівы і быццам жаллівы пагляд на дзяўчыне.— Яе воля... Але я думаю, што гэта не ў яе натуры...

Мальвіна сцвярджальна кіўнула галавой.

— Дык вось яна...— цяпер ужо капітан усім тулавам павярнуўся да яе,— як бачу і веру, вельмі харошая дзяўчына, сказала тут, што выйдзе за цябе замуж, калі перастанеш піць.

— Ён не будзе піць,— упэўнена сказала дзяўчына.

— Не буду, не буду!..— рынуўся паўтараць Горбік, але капітан спавольным узмахам рукі перапыніў яго:

— Ад цябе-то я ўжо чуў гэта не раз! І не веру! А вось ёй... Памыляецца яна... Упэўнены, што памыляецца, а ісці насуперак тут не магу. Хто яго ведае?.. Можа яно, гэтае самае... Можа і каханне тут?.. Дзіўнае, канечне, незразумелае мне, пажылому чалавеку... Але ж з другога пункту: калі ты не п'яны, то і галаву маеш, і рукі... Робіш у шахце...

— Я вельмі люблю яе! — сказаў Горбік і гатоў быў зноў заплакаць.— Вось таму і запіў, што яна паехала, кінула мяне...

— А да гэтага ты быццам не піў? — з крыўдлівай усмешкай папракнуў капітан.— Не, браце, у цябе нешта ўсё не тое... Зусім не падобнае.... То ў крывульку, то наперакос. Але ўжо калі павярнулася так, дык паспрабуем! Рызыкнём яшчэ раз! Шкада мне дзяўчыну, але будзем спадзявацца на лепшае. Бываюць у жыцці і цуды. Я адпускаю цябе (тут ужо капітан браў усё на сябе). Дай божа, каб мы больш не бачыліся тут. А табе, Мальвіна Арлоўская, жадаю шчасця!

## IV

Святло на міліцэйскім ганку было намнога ярчэйшае, чым у калідоры, і Савел Горбік, прыжмурыўшы вочы, ступіў у лужу, каб падаць руку Мальгашы, якая паціху сходзіла па прыступках.

— Я сама,— сказала дзяўчына і рукі не падала.— Без лужы ты, відаць, не можаш?

— Магу,— некрыўдліва адказаў Горбік,— і разумею твой намёк. Тут проста не заўважыў.

Яны пайшлі па цемнаватай прыпаркавай вуліцы: ліхтары тут былі мо на паўкіламетра адзін ад аднаго і ўсе пад металічнымі падоўжнымі каўпакамі — святло слабым, абмежаваным пучком падала толькі ўніз. Мальва і тут не дазволіла Горбіку ўчапіцца за яе руку, ішла побач, але самастойна, даволі сумна, і вачэй на свайго спадарожніка не падымала. Калі ён вызваліўся і тая небяспека, што навісла над ім, зусім знікла, раптам уявілася, што быццам бы зусім не той чалавек грукае, а больш — шкрэбае збоку па тратуары: цяпер ён не пакрыўджаны, не абяздолены, не адзінокі і можа таму зусім нецікавы, амаль непатрэбны.

...Паляскваюць металічныя касякі на абцасах, штаны скамечаныя і ў цяглях сабраныя ў гармонік (спаў у іх, пакуль працвярэжваўся), ускудлачаныя і злямчаныя валасы (расчоскі ніколі не насіў); пінжак яшчэ новы, але так дэфармаваны ў бартах,

што выглядае старым; сарочка нібыта белая па вячэрнім часе, але без гальштука і верхняга гузіка. Можа і не толькі верхняга.

— Горбік! — звярнулася да яго дзяўчына. Чамусьці яе пацягнула зваць яго толькі па прозвішчы.— А як мы будзем жыць, калі запішамся? Ты пра гэта думаў?

— Увесь час думаў,— азваўся хлопец, але ў голасе ўжо не было той самаахвярнай лагоднасці, якая выяўлялася ў кабінеце дзяжурнага міліцыі.

— А цяпер думаеш?

— Думаю і цяпер.

— Я таксама...

Міналіся кварталы... Куды ж яны абое ішлі? Да яго?.. Да яе?.. Ён, напэўна, думаў, што да яе. Мальвіна толькі цяпер прыйшла такая здагадка... Не, да яе ён не пойдзе, паверне яна яго, як толькі наблізяцца да той вуліцы, дзе жывуць яе брат і маці. Самога да інтэрната трэба давесці, каб выспаўся. А то яшчэ шмыгне ў магазін на апахмелку. Адтуль — зноў у міліцыю.

— Мабыць, я не люблю цябе, Горбік! — даволі рашуча сказала Мальвіна. І не падняла на яго вачэй, не пацікавілася, што магло адбіцца ў гэты час на яго твары. Адказу ўсё ж чакала з нейкай трывогай.

Савел маўчаў, толькі грукат і шкробанне яго чаравікаў памацнелі ды чулася нейкае быццам удушлівае сапенне, зусім не ўласцівае яму. Ад яго можна было чакаць усяго: мог зазлавацца і абразіць, мог кінуцца ў адчай і пачаць плакаць, мог упасці на калені, як ужо рабіў гэта ў міліцыі. Але, на здзіўленне Мальве, ён загаварыў зусім стрымана і разважліва:

— Ты яшчэ занадта маладая і часам сама не можаш разабрацца ў сваіх пачуццях. Я старэйшы, дык ты мне і давярайся. Я цябе кахаю і буду кахаць. А ты прывыкнеш да мяне, калі гэта праўда, што ты вось толькі што сказала. Раней я заўважаў іншае...

Мальвіна памкнулася ўсё аспрэчыць, асабліва словы з налётам хлапечай пыхі: «Раней я заўважаў іншае». Аднак жа не рашылася, замаўчала,

толькі паўтарыла праз некаторы час сваю звычную прымаўку:

— Вось такія вось дзяла!..

А сама ўсё думала, разважала, успамінала: якраз і цішыня вячэрняя спрыяла гэтаму, і Горбік неназаляў сваімі размовамі і прыставаннямі.

...Не збіралася яна ехаць дадому цяпер, на Першае мая, ніхто яе дома і не чакаў — не так даўно была. У інтэрнаце дзяўчаты спяшаліся на вечар, і яна мелася ісці з імі. Дзяўчаты пайшлі, а яна асталася ў пакоі, бо адзін студэнт-другакурснік паабяцаў зайсці па яе. Яна чакала гэтага студэнта...

Прайшоў час, студэнт не з'явіўся. На вечар ужо было позна ісці. Ды і адну не цягнула. Здзівілася сама сабе: калі часам Горбік не прыходзіў у прызначаны час, яна толькі пасміхвалася ў душы, іншы раз нават была задаволена, што пабудзе адна або з сяброўкамі. А на гэтага, яшчэ амаль зусім невядомага, вельмі пакрыўдзілася: сапсаваў настрой. Супакоілася тады, калі раптам вырашыла ехаць дадому. А калі вырашыла, то і не адступіць — гэта правіла яе жыцця.

Паехала ў аэрапорт без усялякіх збораў, нават не ведаючы, ёсць у гэты час патрэбны самалёт ці няма. Каб не было, то, напэўна, вярнулася б, а то самалёт якраз быў, а білетаў — ніводнага. Рушыла да начальніка: слабінка — не ў яе натуры. Начальнік не мог дапамагчы. Але яна так з ім пагаварыла, такія аргументы і эмоцыі знайшла, што перад пасадкай ён усё ж падышоў да касы і распарадзіўся:

— Гэтай дзяўчынцы выдайце білет з броні!

...Засумавала па маме, па брату? Трохі, мабыць. Але наўрад ці гэта галоўнае. Не было яшчэ калі сумаваць па іх, ды маці не надта схільная да нясвоечасовых пяшчотаў. У душы яна, пэўна, не такая, але ў абыходжанні з дачкою строгая і адкрытая, спуску ні ў чым не дае.

...Дзяўчаты з абагачальнай фабрыкі радасна сустрэлі б яе. Але ж калі да іх забяжыш? Вось жа звязалася з чалавекам!.. А хацелася б пабачыць сяброўак са свае змены... Пра каго больш за ўсіх думалася ў інстытуце, дык гэта пра іх...

Яшчэ квартал — і трэба будзе паварочваць направа, каб ісці ў яго інтэрнат. А ён, напэўна, паверне налева... Могуць быць спрэчкі. Няхай паспрабуе, заспрачаецца!..

Савел не спрачаўся, а толькі спыніўся на скрыжаванні вуліц і стаў глядзець на Мальву здзіўлена, нават разгублена:

— Як жа быць? Трэба было мацеры тваёй сказаць, хоць яна мяне і не вельмі...

— Выганіць! — упэўнена сказала дзяўчына.— Абаіх выганіць!

— Няхай бы яна ведала...— з асцярогаю прамовіў Горбік.

— Што ведала? Каго? — нервова запытала Мальвіна.— Цябе яна добра ведае: душу маю зраніла папрокамі.

— Я не пра гэта...

— Знаю, пра што! — абарвала яго Мальгаша.— Падхвальнуцца хочаш, засведчыць, што верх узяў. Можа яшчэ Аўгусціну пайдзі скажы!

— Спецыяльна да яго — не пайду,— памяркоўна заявіў Горбік.— Хіба толькі потым...

— Чаму? — Дзяўчына ўзяла яго за плечы і павярнула на вуліцу ўправа. Ён не супраціўляўся і далей ужо гаварыў ідучы.

— Пасварыліся мы з ім дзён пару таму назад. Разышліся ў думках і поглядах.

— Бач ты! — Мальвіна нібыта здзівілася. — А раней вы сходзіліся?

— Усяляк было. Ты гэта ведаеш лепш за мяне. Ну, а цяпер, я думаю, павінна быць іначай... Сваякамі будзем.

— Няўжо? — у голасе дзяўчыны пачулася не толькі насмешлівасць, а і крыўда.— Ранавата рот разявіў, галушкі яшчэ не ляцяць. Ды і не знаеш ты Аўгусціна! Давай ідзі ў свой інтэрнат, выспіся, тады можа паразумнееш.

— А ты куды?

— А я дадому. Яшчэ маму, брата амаль што не бачыла, пабегла вось...

— Дык заўтра пабачым іх. Яно і праўда: я падбяруся, пададзенуся, буду пад стаць табе, то можа і не выганяць?

— І не думай у нас паяўляцца! —настойліва сказала Мальва.— Нават пад вокны не падыходзь!

— Пад вокны? — Горбік са штучным здзіўленнем засмяяўся.— Чаго ж пад вокны? Мы зойдзем удваіх у кватэру, станем ля парога, паклонімся...

— Не будзе гэтага! — Мальвіна рванулася бегчы дадому, але Горбік схапіў яе за руку:

— Ну куды ты, куды?.. Як маленькая... Ну няма ў мяне пакуль што кватэры, дык ёсць асобны пакой, хоць і ў інтэрнаце. Па-халасцяцкаму там усё, наўрад ці прыбрана... Але нічога, прыбяром. Чаю нагрэем, яшчэ чаго знойдзем... А заўтра пойдзем распішамся. Наконт папярэдняй заяўкі не турбуйся... Не думай, што я такі бездапаможны. У мяне, дзякуй богу...

— Хопіць! — са злосцю сказала Мальвіна і вырвала руку.— Нікуды я з табою не пайду!

— Ну а заўтра?

— Заўтра таксама не пайду!

— Нам жа ў загс трэба.

— Нікуды не пайду! — паўтарыла Мальва.

Горбік, трохі ведаючы яе характар, на нейкі момант сумеўся: сапраўды можа ўсё адкінуць, калі раптам такі вецер завіне ў яе галаве — пойдзе ў міліцыю ды адхрысціцца ад сваіх абяцанняў.

— Ты ж слова дала,— нагадаў ён ціха і асцярожна.— Не мне, а капітану... Як жа цяпер?

Дзяўчына маўчала.

— Калі ты адмаўляешся ад сваіх слоў,— адчуўшы яе замяшанне, працягваў Горбік,— то і мне няма чаго ісці дадому... Пайду да капітана, скажу, што мы яго ашукалі, і папрашу зноў пасадзіць у камеру. Там ужо будзе і мой дом, і мой лёс, і каханне маё няшчаснае... Калі падшыюць стацццю, то ўжо не скора паяўлюся ў гэтых месцах... Ды і чаго паяўляцца?.. Хто тут у мяне? Бацька, маці? Каму я патрэбен, адзінокі, абяздолены?.. Адна ты ў мяне была... Адна, Малька, родная...

Дзяўчына не адыходзіла і нібы застыла ў сваіх думах і цяжкіх разважаннях, а словы патрэбныя не знаходзіліся, на гаворку не цягнула.

— Ну, а ты сапраўды кінеш піць? — спытала катэгарычна, нібы дапытваючы пад пратакол.

— Кіну! Прысягу даю! — са шчырасцю ў голасе адказаў Горбік.— І так цябе любіць буду, што ты і ўявіць сабе не можаш. Ты яшчэ не ведаеш сілы майго кахання да цябе, усёй маёй душы і сэрца да цябе! На што хоч пайду дзеля цябе... Ты вучыся!.. Думаеш, не ведаю, што трэба вучыцца? Сам хачу паступаць на завочнае аддзяленне... Твайго ж інстытута. Але спачатку ты... Буду памагаць табе. І жыць табой буду... Адною табой!..

## V

Паўз новы тратуар ішла вузкая сцяжынка. Трава на ёй не расла, нават і ўзысці тут не ўдалося ніводнай травінцы, бо з самага адталку пачалі хадзіць людзі. Мальве не хацелася ступаць па гэтай сцяжынцы: такі ж харошы ды, як струнка, роўны тратуар перад вачыма, можна ісці па ім аж да галоўнага праспекта і не глядзець пад ногі.

Але нешта ж гумавыя абцасікі пачалі нібыта правальвацца то ў адным месцы, то ў другім. Іншы раз і нагу хістала аж да небяспекі вывіху. Уважлівей глянула на гэты тратуар і зразумела, што па ім хадзілі тады, калі ён быў яшчэ цёплы, а як толькі астыў, нікога не цягнула ламаць ногі ў адбітках рознага абутку — і пачалося вытрамбоўванне сцежкі ўзбоч.

Па гэтай васількоўскай вуліцы Мальва, відаць, ні разу не ішла, бо раней ёй не даводзілася праводзіць Горбіка. Калі дзе бывалі разам, то праводзіў ён яе. Вуліца новая, нядаўна забудаваная. Цягнецца яна паўз старыя Васількі, але зноў жа, як і пры ранейшых забудоўках, нідзе не зачэпвае самой вёскі, можна нават падумаць, што архітэктары толькі аб тым і клапаціліся, каб чым-небудзь не пакрыўдзіць вясковую старажытнасць і захаваць яе ў сваім першатворным выглядзе. Затое кемлівыя прыхільнікі гэтай старажытнасці карысталіся ўсім гарадскім на самую шырокую нагу: паправодзілі сабе святло не толькі ў хаты, а і ў хлявы, некаторыя дабраліся і да гарадскога водаправода, са сталовых і інтэрнацкіх кухняў забіралі адходы і на гэтай спа-

жыве трымалі ледзь не цэлыя фермы. Птушынае царства не абмяжоўвалі сваімі дварамі і агародамі, а давалі ім волю-вольную: бярыце з горада ўсё, што можаце. А гораду нічога не давайце, бо ён і так багаты. Калі дзе якая мураўка асталася на гарадской вуліцы, то там пасуцца гусі, калі лагчынка з вадою, то плаваюць качкі. Куры займаюць усе карысныя для іх пазіцыі: сметнікі, лаўкі на мясцовым стадыёнчыку, пад'езды прадуктовых магазінаў, дарогу, па якой возіцца зерне на мукамольны камбінат. Цяжка і пералічыць аб'екты курыных выгод у горадзе: калі б Мальва ішла па гэтым тратуары не ўвечары, а ўдзень, то і ёй, напэўна, перагарадзіў бы дарогу які-небудзь певень.

...Ніводнага чалавека не відно было на гэтай вуліцы: ніхто не абганяў дзяўчыну, хоць яна ішла ціха, быццам і не спяшалася дадому, ніхто не ішоў насустрач. Каб не пабывала Мальгаша ў Ленінградзе, то, пэўна, і не заўважыла б гэтага. А цяпер яна жыхарка такога горада, у якім бадай не знойдзеш вуліцы, дзе не было б людзей нават і ноччу.

Тут, на васількоўскай вуліцы, многа розных службовых будынкаў, большых і меншых, і калі паглядзець на іх са зручнай адлегласці, то можна ўявіць, што асноўнае тут — не людское ўладкаванне, а канторскае. Мабыць, каб не займаць пабочнымі службамі васількоўскі Дом Саветаў ды кіраўнічыя карпусы руднікоў і камбінатаў, сюды вынеслі розную падсобнасць. Ведамствы можа і невялікія, і памяшканні ім адведзены даволі сціплыя, а шыльды на іх такія, што і сляпы заўважыць, нават і ноччу яны блішчаць здалёку.

Каля адной такой шыльды Мальва прысупынілася: вельмі ж раскошная была гэтая шыльда, з тоўстага шкла, размаляваная рознымі колерамі, і літары на ёй з адмысловымі выкрунтасамі, як часам на універмагах: некаторыя нялёгка было і разабраць. Бляску і вымалёўвання многа, а сэнс толькі той, што тут размяшчалася адно новае вытворчае аб'яднанне, якое абрэвіятурна называлася РТМ.

Мальвіна ўспомніла, што некалі Горбік расказваў пра гэтае аб'яднанне і пасміхаўся, нагадваючы

яго гісторыю. Былі раней рамонтна-тэхнічныя майстэрні пры кожным камбінаце, і ў гэтых майстэрнях штомесячна і акуратна распісваліся ў штатных ведамасцях: начальнік майстэрні, галоўны механік, галоўны тэхнолаг. Такіх майстэрань — тры, а значыць, штатных кіраўнікоў — утрая больш. Цяпер стварылі аб'яднанне майстэрань і звыш таго, што ўжо ёсць, узаконілі: дырэктара аб'яднання, галоўнага механіка і галоўнага тэхнолага. Адпаведны падсобны штат — таксама.

Спачатку Горбік пасмейваўся, спасылаючыся нават і на Аўгусціна, у якога быццам бы яшчэ большы смех выклікáла такая даніна часу. А потым, як счапіўся з Арлоўскім за нейкую прэміроўку, дык пайшоў у гэтую кантору прасіцца на работу. Прыставілі яго там да такога слясарства, што тыдні два саромеўся людзям руку падаць: адмыць яе не мог. Пайшоў зноў да Аўгусціна. А той, добрая душа...

Мальвіна часам задумвалася і не магла зразумець некаторыя акалічнасці, якія ўсё больш і больш здзіўлялі і азадачвалі яе. Аўгусцін рэдка крытыкуе Горбіка, бывае, што злуе, нервуецца праз яго, а ў брыгадзе трымае. Кіраўніцтва рудніка лае Савела на ўсіх нарадах і лятучках, а як толькі той трапляе ў выцвярэзнік, звоняць начальніку міліцыі, вымагаюць паблажку: перадавая брыгада адстае, план рудніка гарыць!.. Вяртаецца Горбік, і галоўны механік рудніка ў вольныя часіны садзіцца гуляць з ім у шахматы.

Аднаго разу Мальва спытала ў брата:

— Чаго вы так кідаецеся на гэтыя яго шахматы?

— Бо ніхто на рудніку так не гуляе, як ён.

— І ніхто так не п'е?

Аўгусцін спачатку прамаўчаў, а потым кінуў з жартаўлівым смяшком:

— Ён халасцяк, а зарабляе добра: куды грошы дзяваць?

Дзяўчына ні разу не была ў яго пакоі і цяпер зайсці адмовілася, але ведае ад брата, што ў Горбіка на ўсю сцяну кніжныя паліцы. І не толькі з тэхнічнай літаратурай, а і з мастацкай. Акрамя футбалістаў і хакеістаў, хлопец ведае па прозвішчы

і ў твар амаль усіх эстраднікаў і кінаартыстаў, можа расказаць біяграфію кожнага з іх, асабліва колькі разоў хто жаніўся ці разводзіўся. Сам мае гітару і пад настрой можа выканаць амаль усе песні Пахмутавай і Дабранравава. І разам з тым — як певень, паб'ецца на вуліцы, дай толькі зачэпку.

«Што ён там робіць у адзіноце?..» — Мальва аж зжахнулася ад такога пытання. Яно прыйшло супраць волі і жадання. Быў ён побач, дык нейкае зло брала, цягнула хутчэй пакінуць яго. Цяпер пакорліва пайшоў дадому, ні ў чым ёй не пярэчыў... І будзе сядзець дома, нікуды не пойдзе... Раніцай, напэўна, прыбяжыць: вельмі ж абнадзеілі яго словы капітана...

«...А той другакурснік у Ленінградзе... Чаму ён не прыйшоў тады ў інтэрнат?.. Таму, відаць, што было нешта больш важнае... Напэўна, і другая дзяўчына была... У Савела нікога не было, акрамя яе. Гэта ўсім вядома. Чалавек мае іншыя вывіхі, а наконт адданасці яго не папракнеш...»

Пакуль дзяўчына так раздумвала ідучы, над яе галавою рассеялася лёгкая, як газавая хустка, хмарка і выплыў месяц. Круглы і белы, як гарадскі ліхтар, толькі намнога ярчэйшы. На тратуары пасвятлела, можна было ступаць ужо без рызыкі спатыкнуцца. Здалёку завіднелася школа, зусім новая, свежа-белая, нядаўна ўведзеная ў строй. У Васільках зямлі не шкадуюць: перад гэтай школай такая плошча з маладымі пасадкамі, спортпляцоўкамі і бегавымі дарожкамі, што па звычайных памерах яе хапіла б яшчэ на пяць школ.

Тут займаюцца і вячэрнікі. Цяпер яны канчалі вучобу і адзін за адным, а часам і групамі выходзілі са школы. За кожным выхадам агалошваў плошчу і ўсё сцішанае начным часам наваколле моцны, як выбух, стук школьных дзвярэй. Мальга-ша падыходзіла ўсё бліжэй і бліжэй, а гэты выбуховы стук глушыў вушы ўсё мацней і мацней.

«Наколькі ж іх хопіць, дзвярэй гэтых? — з крыўдай на дырэктара, ды можа і на настаўнікаў, падумалася дзяўчыне.— Няўжо цяжка прыбіць звычайную гумку?.. А можа і дзяжурнага паставіць?»

Параўняўшыся з будынкам, прыпынілася, а потым, каб не прыцягваць увагу вячэрнікаў, пайшла пліткавым тратуарчыкам да школьнага пад'езда. Цікава было паглядзець, што асталося ад школьных дзвярэй і ці ёсць там хто-небудзь з настаўнікаў? Дзеля чаго ўсё гэта? Сама не ведала. Хутка яна паедзе ў Ленінград, і ўжо невядома, калі вернецца.

Насустрач выйшаў пажылы чалавек з партфелем, пэўна ж, не вячэрнік, і таксама на ўсю моц стукнуў дзвярыма. Уважліва паглядзеў на Мальвіну, мабыць, хацеў пазнаць, а можа і пазнаў. Здаецца, гэта завуч школы. Дзяўчыне ўявілася, што б магло быць, калі б яна спыніла яго і папракнула безгаспадарчасцю...

Некалі яна зрабіла такі папрок свайму начальніку фабрыкі. Невялічкая пляцоўка гэтай фабрыкі абнесена пафарбаваным парканам. Клумбачкі навакол... Зялёныя вароты для ўезду... Весніцы для ўваходу... Але ніхто праз іх не ўваходзіць, а ўсе скачуць цераз паркан. Мальгаша таксама скокнула аднаго разу, і туфлі ўехалі ў раскопаную градку. Сорамна стала і за сябе, і за іншых — на ўсіх клумбах былі сляды. Сустрэла ў вестыбюлі начальніка фабрыкі, унесла яму прапанову павысіць паркан.

— То ты ж усё роўна пераскочыш! — сказаў той упэўнена.— І потым — мая галава не для такіх дробязяў.

І паглядзеў на яе насмешліва, нават здзекліва.

Вячэрнікі рассыпаліся ў розныя бакі: некаторыя пашыбавалі вуліцаю направа і налева, некаторыя падаліся наўпрасткі праз дваравыя пляцоўкі і паліснікі. Мабыць, у кожным горадзе, нават і ў Маскве, ёсць такія сцяжыны, а ў Васільках іх многа, васількоўцы вельмі любяць хадзіць напрасцяк, нават чыгуначнае палатно перабягаюць дзе каму зручней.

...Стукалі школьныя дзверы наўздагон, калі Мальгаша заспяшалася дадому. Грукалі, амаль глушылі, выклікалі рэха ад франтонаў вялікіх дамоў. У Васільках вельмі далёка разносіцца рэха, асабліва ноччу. Вось толькі што адзін вячэрнік крыкнуў:

«Галя-а-а!» І пакацілася «ля-ля-ля» па ўсёй вуліцы і адазвалася недзе каля самага праспекта...

Усё гэта магло б хоць на нейкі час разрэдзіць Мальвініны думкі аб падзеях сённяшняга вечара. Можа дзеля гэтага яна і павярнула на пліткавы тратуар... І месяцам увесь час любавалася, які плыў над яе галавою і, здавалася, спяшаўся больш, чым яна, аднак жа не апярэджваў. Ды нічога не памагала. Пажылы капітан са сваёй какардзістай шапкай, што асобна ляжала на стале і быццам дапамагала вырашаць яму ўсе справы, не знікаў з памяці. Чамусьці цягнула ўспомніць кожнае яго слова, а разам — і свае словы, адчуванні, перажыванні. Гучалі, а то, мабыць, больш дакладна — шыпелі і расплываліся ў вушах нейкія вымаўленні Горбіка. Асабліва яго плач... Няўжо ён шчыры, гэты плач, не падробны, не разлічаны на эфект? І няўжо гэта праўда, што за адзін вечар, па сутнасці, перавярнуўся яе лёс? І яна не знойдзе ў сабе сілы не дапусціць гэтага перавароту?..

Каля пяціпавярховага тыпавога дома месяц нібы спыніўся, бо Мальгаша таксама спынілася. Усе людзі, вольныя ад начных змен, ужо даўно адпачываюць. Нават вячэрнікі, што нядаўна разбегліся, ужо, напэўна, кладуцца спаць. А ў яе наперадзе яшчэ цяжкія сустрэчы і балючыя размовы, магчыма, больш складаныя, чым з капітанам міліцыі. На Аўгусціна яна спадзявалася, з ім можна памеркавацца. А вось маці!..

Перанёсшы некалі раптоўную і трагічную смерць мужа, а следам за ім і дачкі, астаўшыся пажыццёвай удавой з маладога ўзросту, гэтая жанчына вельмі часта да болю сціскала сваё сэрца, глушыла ў ім перажыванні і пакуты ад розных прычын, у тым ліку і ад нястач. І можа ад гэтага яе сэрца стала даволі жорсткім і патрабавальным. Напэўна ж, вымагалася гэта і ўсімі жыццёвымі абставінамі. Маці не мела ні адукацыі, ні пэўнай спецыяльнасці, ніколі нідзе не працавала, акрамя як каля хаты, бо ўсе клопаты па ўтрыманню сям'і браў на сябе гаспадар. Неабходнасць гадаваць, а потым вучыць дзяцей прымушала яе брацца за ўсялякую працу, якая толькі траплялася ёй і не вельмі адрывала ад

дому. Не шкадуючы і не шануючы ні ў чым самой сябе, яна трымала ў пэўным рэжыме і сваіх дзяцей: не прывучала да раскошаў ні ў ядзе, ні ў вопратцы, сурова спаганяла за хібы ў вучобе, не дапускала лішняга свавольства. І ніякіх скаргаў амаль не слухала. Калі часам заўважала якія незадавальненні, то адказ на ўсё ў яе быў непахісны і спазычаны са свайго ўласнага вопыту. «Сама нявучаная, то не дапушчу, каб вы былі нявучаныя»; «Вам не соладка жывецца, то мне было яшчэ горш...»

А як ёй было? Пра гэта яна часам расказвала, і многія эпізоды з матчынага жыцця помняцца дзяўчыне і цяпер...

Месяц, усё такі ж круглы і ясны, стаіць над Мальгашынай галавою. І не большае, і не меншае. Дзяўчыне трэба ісці ў кватэру, акно таго пакоя, дзе яна жыве з мамаю, выходзіць у двор: месяц можа не загляне туды. Таму яна нібы развітваецца з месяцам. А можа і месячык расстаецца з ёю: вунь плыве хмарка проста на яго і, напэўна, закрые...

Па прыступках на чацвёрты паверх — не малая дарога, калі не надта спяшацца. Бегчы і цокаць па цэменце абцасамі нядобра: людзі ўжо спяць. Ідучы паціху, лепш бы абдумаць, як пагаварыць з матуляю, якую праўду ёй сказаць. Але міжвольна нагадваюцца тыя эпізоды, пра якія маці толькі раз успомніла пры дзецях. І паплакала тады, успамінаючы. А больш ні разу не гаварыла пра гэта, і ніхто дома ніколі не бачыў яе слёз і ніколі не чуў яе скаргаў. А Мальгашы запомніліся тыя словы і тыя слёзы зноў жа на ўсё жыццё.

...У іхняй сям'і было васьмёра дзяцей. Па тым часе Анюта, а цяпер Анэта, маці Мальгашы, лічыла сябе трэцяй ці чацвёртай — сама добра не ведала каторай, бо ў розныя часы трое дзяцей памерла.

Пасля вайны іхні бацька не вярнуўся з фронту. Маці іншы раз хацела б быць на яго месцы: лепш сысці са свету, чым так жыць. У той маленькай хатцы, якую ўдалося агараць з недагаркаў (вёску немцы спалілі), нават уладкавацца нанач не было дзе. Маці спала ў хлевушку. І не толькі таму, што ў хаце было цесна, а трэба было яшчэ і вартаваць адзіную надзею на паратунак ад галоднай смерці —

вепручка-кормніка. Усё лета і восень яго даглядалі, самі перабіваліся на зеллі ды гародніне, а на зазімку дакормлівалі апошнія дні. І вартавалі, вачэй з яго не спускалі, бо па вёсках воўчай зграяй гойсала нейкая зладзейская шайка і хапала ўсё, што траплялася пад руку.

Ужо халады пачаліся, а маці ўсё яшчэ спала ў хлеўчыку. Змерзла аднаго разу ноччу, ранічкаю прыбегла ў хату пагрэцца, а калі вярнулася ў хлевушок, то вепручка ўжо не было.

Тут жа, ля хлевушка, яна і звалілася ў непрытомнасці. Дзеці прыбеглі, паднялі яе, занеслі ў хату...

— Сіроткі вы мае, чым жа я вас карміцьму? — галасіла маці.— Як цяпер жыцьмем, як перазімуем?..

Адна бяда не ходзіць: на матку выхлынула ўся тая прастуда, што паступова набіралася ў час начнога вартавання. Праляжала жанчына ледзь не ўсю тую зіму...

Але і дзве бяды не ходзяць, шукаюць трэцюю. Летам наступнага года, пасля жніва, суседскія дзеці расклалі агеньчык каля стажка саломы. Пажар змёў большую палавіну сяк-так забудаванай вёскі. Згарэла і хатка Арлоўскіх разам з хлевушком.

І вось тут маці не ўтрымалася, горка заплакала, калі расказвала.

...Печ асталася з пажару, і комін не заваліўся. Пасля таго, як былі расцягнуты сякія-такія паўторныя недагаркі, адгрэблены галавешкі і вуголле, дзеці сабраліся каля печы: як-ніяк, а ўсё ж такі нейкі свой куток. Анюціна маці падышла да прыпечка, па звычцы глянула ў чалеснікі: жалезная засланка была яшчэ гарачая, але ж ёй і трэба быць гарачай, калі паліцца ў печы...

У печы не палілася. Жанчына ўспомніла, што не паспела падпаліць дровы, як на вуліцы пачуліся крыкі. А да гэтага натаркавала чыгун бульбы, каб утушыць дзецям на абед. Дзе ж гэты чыгун? Парагарэў, напэўна, і выграбся разам з вуголлем і попелам.

Абгарнуўшы пальцы фартухом, як часта рабілася і ў хаце, гаспадыня адставіла засланку і ўбачы-

ла, што дровы клетачкай ляжаць у печы, як ляжалі, а збоку каля іх стаіць накрыты скавaрадою чыгун з таркованкаю: мабыць, сунула ў печ на бягу, ужо без памяці. Ад качарэжніка асталіся толькі жалезіны, таму сяк-так высунула чыгун на прыпечак паленцам. Зняла скавараду і скрозь слёзы ўсміхнулася: таркованка запахла на ўсю вуліцу, бо найлепш утушылася, пакуль гарэла хата.

Дзеці паабедалі на прыпечку пад адкрытым небам.

Мальгаша ніколі не наводзіла матулю на такія ўспаміны, хоць ведала, што іх магло б быць нямала. Без успамінаў адчувала, што мацярынскі лёс быў не лёгкім, таму заўсёды намагалася не азмрочваць яго цяпер: добра вучылася, добра працавала апаратчыцай на фабрыцы. І не вельмі пярэчыла, калі маці чаго патрабавала, не вельмі крыўдавала, калі старая часам паказвала сваю жорсткасць.

А як выйдзе сёння, вось зараз?..

...Націснула на званок лёгенька, асцярожна, а ён усё роўна дзынкнуў моцна, аж на пляцоўцы было чутно. Неўзабаве адчыніліся суседнія дзверы, нехта высунуў у шчыліну нос, нічога не сказаў і зачыніўся.

Дзяўчына пазваніла яшчэ раз. Яе часовы спакой і раўнавага, усталяваныя хадою, міжвольна пачыналі знікаць: вядома ж, усе спяць ужо... Калі прачнуцца дзеці, Аўгусцін сцярпіць, а яго жонка — не. А калі маці чуе ды не спяшаецца адчыняць дзверы?.. Гэта з госцяй так?..

...Над галавою блішчыць лямпачка, абгорнутая драцяной сеткай,— гэта не месяц-поўнік. Пярылы лесвіцы вышмальцаваны хлапчуковымі штанамі. Сцены ўсюды выцертыя. У міліцыі — чысцей... А на вуліцы цяплей. Упершыню за ўвесь вечар Мальгаша адчула, што яна толькі ў лёгкай кофтачцы з кароткімі рукаўчыкамі.

Нарэшце за дзвярыма пачуліся марудныя крокі. «Можа, на шчасце, Аўгусцін,— надзейна падумалася дзяўчыне,— тады ўсё абыдзецца лягчэй».

Гэта была маці. Мальва адразу заўважыла, што яна яшчэ не з пасцелі, што, значыцца, чакала

дачку-госцю і размова, відаць, будзе не лёгкая. Аднак ля дзвярэй жанчына нічога не сказала, мабыць, шанавала сон унукаў, а як толькі ўвайшла ў свой пакой і зачыніла дзверы, адразу зашаптала сурова і нават бязлітасна:

— Ты дзеля чаго прыехала? Па мацеры роднай, па брату сэрца заныла ці па гэтаму прайдзісвету? Дзе ты была? Думаеш, я не ведаю, не адчуваю? Можаш не адказваць, можаш маўчаць — натуру сваю паказваць! А я скажу, што на д'ябла яно і прыехала тваё такое! Быццам грошы дарэмныя! Паехала вучыцца, то вучыся! А не, дык вяртайся на фабрыку!

І адчуўшы, што ніякага апраўдвання ад дачкі не дачакаешся, узялася за самае балючае:

— Рана табе яшчэ любошчы заводзіць!.. Зусім рана! Ды каб ужо было з кім!.. А то ж — людзям на смех!..

— Позна! — раптам прашаптала Мальгаша.

— Што, што? — Маці спалохана прыцішыла свой шэпт, шчыльней прычыніла дзверы.— Што ты сказала?

— Позна аб гэтым гаварыць.

— Чаму? Прызнайся, а то косы вырву! Абкруціў ужо дурніцу?.. Аблытаў, як павук! І каго я выгадавала на сваё гора ды няшчасце!.. Каго выхадзіла? Бацькі на цябе няма, дык з мацераю і размаўляць не хочаш? Шкада, Аўгусцін на змене!..

Мальгаша ўбачыла, што плечы ў старой неяк раптоўна апусціліся і затрэсліся, маці квола ступіла да сваёй канапкі, на якой у змроку бялелі падушка і частка прасціны з-пад коўдры, і ціха ўкленчыла, нібы асунулася на яе, твар утуліла ў падушку. Плачу з грудзей не выпускала і слёз не паказвала, не любіла яна слёз...

Дачцэ была паслана тая самая раскладушка, на якой яна спала і раней,— на лепшае гэты пакойчык не меў прасторы. Тут яшчэ стаялі шафа, два крэслы, швейная машына, якая адначасова, калі яе накрывалі абрусам, служыла і столікам. Дзяўчыну вельмі цягнула на раскладушку, успомнілася тая асалода адпачынку, якая заўсёды з'яўлялася тут, пасля работы. А пасля танцпляцоўкі дык ча-

сам і яшчэ больш. Аднак Мальва падышла да мацерынае канапкі, асцярожна і мякка села побач.

— Нічога гэтага не было, пра што вы думаеце,— ласкава, аднак без ліслівасці і імкнення апраўдвацца зашаптала яна.— Я проста выратавала чалавека.

Маці суцішыла дыханне, прыпадняла галаву:

— Як гэта выратавала? Нешта ты сёння што ні скажаш, дык... Не ўлаўлю я... Тапіўся хто, не тут кажучы?.. Вешаўся?

— У міліцыі сядзеў.

— Вось як! — Жанчына зусім узнялася, хацела нават стаць на ногі і, бадай, зноў перайсці на высокую ноту размовы. Але дачка прытрымала яе:

— Іначай я не магла, паверце... Чалавек быў на дарозе ў турму.

— То няхай бы і пасядзеў, калі заслужыў. Мо паразумнеў бы.

— Іначай нельга было,— паўтарыла Мальгаша.— Я перажывала б потым.

— І цябе там паслухалі?

— Не адразу, але паслухалі.

— То няхай бы ж камбінат ці хто там...

— Толькі мяне паслухалі. А ён прысягнуў, што больш не будзе піць і хуліганіць. І падпіску такую даў.

— І ты верыш яму?

— На гэты раз веру. Мамка, я пасплю трошкі. Мінулую ноч амаль зусім не спала.

Насупраць раскладушкі акно, занавеска на ім тонкая і празрыстая — маці не любіла цемнаты. Паклаўшы галаву на падушку, Мальва ўбачыла чыстую круглату і яснату месяца. Нібы наўмысля ён павярнуўся так, каб заглянуць у гэтае акно. Вочы дзяўчыны зліпаліся ад стомленасці, і дзве міжвольныя сілы пайшлі на супрацьборства: адна за тое, каб забыцца пра ўсё і заснуць на дамашняй пасцелі; другая — каб паглядзець яшчэ на дамашні месячык і развітацца з ім надоўга.

Перамагла першая сіла: Мальва заснула адразу і гэтым заспакоіла маці: значыць, усё чыста ў дачкі на душы, калі адразу ўзяў сон. Але ж як хутка

прыйшоў гэты сон, так хутка і перарваўся. Месяц яшчэ свяціў у акно, але ўжо ў самую апошнюю шыбу. Маці не спала, гэта Мальва адчула па дыханню.

— Вы нешта сказалі? — ціхім шэптам спытала Мальгаша.

— Не, не,— заспакоіла маці.— Спі!

— Мабыць, мне здалося.

Сапраўды, ёй здалося, што нехта пазваў. А можа месяц пранізаў сваім патрабавальным і прызыўным святлом. Стомленасць не спадала, не хацелася нават рукой паварушыць. Сон павінен з'явіцца зноў: ён дарагі, ён вельмі жаданы. Мабыць, не так далёка ўжо і да золаку. Хоць гадзінку паспаць. А там раніцай — будзь што будзе...

Аднак супраць волі пачыналі наплываць думкі якраз аб тым, што будзе раніцай. Ледзяны струменьчык пачынаў разлівацца па ўсім целе, калі ўяўлялася, што менавіта ў гэтую раніцу і павінна адбыцца нешта надзвычайнае, ужо непазбежнае ды вельмі ж не радаснае, не ўзнёслае...

У акне вакол месяца відны былі белыя воблачкі. Яны плылі імкліва, але на месяц не наплывалі. Мінуўшы яго, воблачкі раздзяляліся на дробныя шматкі, а потым і зусім рассяваліся. Так паступова рассяваўся і Мальгашын сон. Дзівячыся, што так выходзіць пры яе стомленасці, дзяўчына павярнулася, каб адвесці вочы ад месяца. Раскладушка неяк па-мышынаму запішчала. Следам павярнулася маці, і спружыны яе канапкі прыкра скрыганулі. Далей прамежкамі толькі і чулася ў пакоі то пішчанне, то скрыгатанне...

Заснула Мальва толькі перад самым світаннем. Можа і не сон гэта быў, а толькі дрымота. І цягнулася яна нядоўга, але ў тым сне паўтарылася ледзь не ўсё тое, што было да гэтага. І ў міліцыі яна пабывала, і з капітанам пагаварыла, і па новым тратуары з адбіткамі людскіх слядоў ішла... Толькі месяца не бачыла, бо ўвесь час глядзела пад ногі, баючыся спатыкнуцца. І аглядалася часта, насцярожана: уяўлялася, што за ёю кралася і паўзла тая самая аўчарка, якую яна бачыла ў двары міліцыі...

## VI

Наступным світаннем Мальгаша бегла на аўтавакзал. Не з дому, не ад маці, не ад брата... Ад Горбіка ўцякала, дзе мінулай ноччу адбылося нешта падобнае на вяселле.

Бегла і ўвесь час аглядалася, ці не наганяе часам хто...

Да адыходу першага аўтобуса яшчэ мнагавата часу, але хутчэй бы ўзяць білет, каб не тырчаць у чарзе, не адказваць на пытанні знаёмых, якія абавязкова напаткаюцца ў той момант, калі яны зусім не патрэбны. Мальве ўяўляецца, што ўсе Васількі ведаюць, адкуль яна вось зараз бяжыць, што здарылася з ёй у мінулую ноч. І кожнаму васількоўцу абавязкова захочацца спытаць: чаму так рана бяжыш?.. Чаму цябе ніхто не праводзіць? А дзе ж твая маці і брат? Дзе той Горбік, якога ты ўратавала ад турмы?..

...Білет узяла амаль першай. І адразу — у прывакзальны скверык, на ўтульную лавачку, спіною да будынка. А на спіне — балоневы плашчык з капюшончыкам на галаве: і ад дажджу зручны, і можна ў камячок згарнуць і ў сумку пакласці, калі непатрэбны. У гэты ж момант ад яго — маскіроўка: ніхто не пазнае здалёк, бо ў Васільках ледзь не ў кожнай жанчыны такі плашч.

Каго асцерагацца? Маці і брат не ведаюць, што яна ад'язджае. І пра вяселле нічога не ведаюць. Пакуль даведаюцца, яна будзе ўжо далёка. Адтуль сама напіша: менш будзе папрокаў, бескарыснай роспачы.

А Савел можа прадзерці вочы, сцяміць, што яе няма, і рванецца на вакзал. Толькі наўрад ці ногі ўтрымаюць: адпіваўся ноччу, мабыць, за ўсе тыя дні, што давялося пасмагнуць, выкрыкваў тосты адзін за адным і ўсё з урачыстасцю, усё з нейкай ненасытнай пахвальбою, што ён вельмі шчаслівы, што быццам бы атрымаў такую перамогу, за якую змагаўся ўсё жыццё. І даказаў!.. Усім недругам паказаў фігу!..

Што даказаў, каму даказаў?

Мальва некалькі разоў пытала пра гэта, але ён

паблажліва клаў руку на яе плячо і ніякіх тлумачэнняў не даваў.

...Надышоў час пасадкі. Мальва кінулася да аўтобуса, і калі села на сваё месца, то ў першы момант нават не верыла, што ўжо вось-вось яна паедзе, што вырвалася быццам з нейкага віру і ніхто ёй не перашкодзіў ды ўжо і не перашкодзіць. Не здымала капюшончыка, баялася глянуць у акно: хаця б не з'явіўся Горбік! Прыкра было нават думаць пра яго, а не тое што бачыць ці гаварыць. Хіба час паможа... Хіба крыху ўляжацца потым...

Аўтобус крануўся, усе пачалі махаць рукамі ля вокан, а Мальве не было каму памахаць. Не цягнула нават і павярнуцца да акна, акінуць вокам людзей на развітанне, можа нават і знаёмых. І родныя мясціны не выклікалі суму, праплываючы за вокнамі... І не думалася аб тым, калі ўжо зноў надарыцца прыехаць дадому, сустрэцца з роднымі і сябрамі, пахадзіць па васількоўскіх вуліцах, падыхаць іх пакуль што яшчэ даволі чыстым паветрам.

Збоку месца вольнае. Нехта высокі і мажны стаў каля гэтага месца і пачаў штосьці ўладкоўваць на верхняй сетцы. Мальва не глядзела на яго.

— Дазволіце? — пачуўся абыякавы голас. І потым Мальвіна адчула, што чалавек заняў амаль усю прастору, адціснуў яе да самага акна і ўсё яшчэ варушыўся і пацепваўся, умяшчаючыся. «Тры гадзіны так ехаць»,— падумалася з сумам. Але нічога не сказала і на суседа не звярнула ніякай увагі.

— Капюшончык можна і зняць,— зноў пачуўся той жа голас, ужо больш мяккі і лагодны.— Дожджыку ў атобусе няма, як, упрочым, і за аўтобусам.— Потым праз нейкі момант са здзіўленнем: — Гара з гарою... аказваецца!.. Каго бачу! З добрым утрам, мадам! Я ўжо магу вас так называць?

Мальва са спалохам глянула на нечаканага суседа — і нястрымнае абурэнне ледзь не крыкам вырвалася з яе душы: выгнуўшыся бокам і абапёршыся локцем на адкідную падушку супрацьлеглага крэсла, настырна ўставіўся на яе адзін з тых раскампанейскіх мужчын, якія былі ўчора на так званым вяселлі ў інтэрнацкім пакоі Горбіка. Чалавек гэты значна старэйшы за Горбіка, але той увесь час

звяртаўся да яго на «ты» і пры кожным выпадку падкрэсліваў сваю прыязнасць і поўны давер.

— Ну што, Ван Ваныч? — ледзь не захлёбваючыся ад задавальнення, запытаўся Горбік недзе пасля другой ці трэцяй чаркі. І ніякага адказу не атрымаў. Ван Ваныч рэзка глянуў на яго, і пытанне павісла недзе ў паветры: на яго ніхто не звярнуў увагі.

Паважаючы аб'ектыўнасць ва ўсім, Мальва ўспаміпала цяпер, што гэты самы Ван Ваныч піў на вяселлі мала, трымаў сябе даволі прыстойна і ўпэўнена, быццам нават і залішне падкрэсліваючы свой узрост, а можа нават і асаблівасць персоны. Хто ён такі і кім працуе, Мальва не ведала тады і цяпер не ведае, толькі мроіцца ёй, што нібыта чула гэтае «Ван Ваныч» на першай абагачальнай фабрыцы. На вяселлі ў размову з ім не ўступала, як і з іншымі, і магчыма, што не надта заўважала б яго, калі б не гэтыя недарэчныя, а можа крыху і загадкавыя звароты Горбіка:

— Дык што, Ван Ваныч?..

Савел звяртаўся да яго некалькі разоў, і чым далей, то ўсё з большай развязнасцю, але Мальва адносіла гэта на яго «градусы», якія павышаліся даволі хутка.

— Дык што, Ван Ваныч! — нарэшце закрычаў Горбік на ўвесь пакой.— Што я табе казаў? Га? Ты мне не верыў?.. На пары́ ішоў!.. Дык вось знай!..

— Ціха ты! — прыгразіў апантанаму жаніху гэты чалавек.— Язык у цябе пачынае заплятацца, мелеш, сам не ведаеш што!

— Чаму не ведаю? Усё ведаю і помню,— спрабаваў апраўдацца Горбік, аднак даказваць нешта сваё не рашыўся.

Цяпер сусед у аўтобусе не парушаў свайго шчыльнага павароту да спадарожніцы і даволі ўпэўнена навязваўся на размову:

— Дык я вас віншую... Так сказаць, з законным... Учора не дабыў да канца — мелася на ўвазе сённяшняя важная паездка... Так што, пользуясь, так сказаць... Дазвольце яшчэ раз! Па-мойму, выбар ваш — дай бог кожнай... І з галавой хлопец, і з заработкам... Але і яго губа, як гаворыцца... Ніколі б

не паверыў, калі б не на свае вочы, як кажуць... Неяк выпадкова ліцазрэў вас у пары... А потым і біяграфію пачуў ад людзей... Брат у вас такі... І старога вашага помняць усе: знатны быў чалавек! Сказаў я тады Савелію пры сустрэчы: «Адкінь свае мары і сны! Не па Сеньку шапка!» І ледзь на заклад не пайшоў...

Мальвіна адхінула капюшончык, з цікаўнасцю і раздражненнем паглядзела на суседа. Той крыху адхіліўся, нібы адчуўшы рэзкі штуршок ад яе пагляду, аднак працягваў самаўпэўнена ўхмыляцца, і па яго таўставатых вільготных вуснах блукала гатоўнасць пачаць гаворку зноў.

— На які заклад? — патрабавальна запытала Мальва.— Пра што вы мне гаворыце?

— Ды гэта я так...— схамянуўся сусед.— Адным словам — жарцік. Прашу прабачэння!..— І ён пачаў старанна церці пальцамі свае адпушчаныя пад бакенбарды і ўжо трохі падбеленыя знізу скроні.— Не звяртайце ўвагі!.. Прашу вас!..

Мальвіна адчувала, што на яго такую слова-ахвотлівасць можа і сапраўды не варта звяртаць увагі, аднак гэтая быццам выпадковая рэпліка наконт закладу, як агнём, апаліла яе і зноў вярнула да ўспамінаў пра нядаўняе гора-вяселле, прымусіла іначай паглядзець на падзеі. Няўжо гэта самае і меў на ўвазе Горбік, калі так назойліва звяртаўся да Ван Ваныча? Няўжо ён хацеў даказаць яму, што выйграў той здрадніцкі заклад?

Калі гэта апраўдаецца, яна ніколі не даруе такога нягодніцтва! Але правярацца гэта павінна жыццём, справай, паводзінамі самога чалавека, урэшце адкрытай размовай, з тым чалавекам, а не з выпадковым спадарожнікам.

Яна адвярнулася да акна, даючы гэтым зразумець, што сама больш ні аб чым не загаворыць і яго размову слухаць не будзе. Аднак праз некаторы час, хоч не хоч, а пачынала пераконвацца, што сусед трапіўся не з прастачкоў, што ў сваёй настойлівасці і пераадольванні нейкіх псіхалагічных бар'ераў ён мацнейшы за яе. А галоўнае — спрактыкаваны, вопытны. Размову ён не спыніў, а толькі стаў асцярожней выбіраць тэму ды шукаць словы найбольш

лагодныя і адпаведныя моманту. Паспрабаваў яшчэ раз хваліць Савелія і быццам пераконваць, што яго маленькая, зусім нязначная «слабінка» — з'ява «прахадзяшчая», што па ўсёй сваёй «суці» ён чалавек надзейны.

Мальвіна не адварочвалася ад акна, тады ён перайшоў зусім на іншае і пачаў даволі тактоўна, асобнымі штрышкамі падаваць свой жыццёпіс. Перш-наперш, нібы між іншым, нагадаў, што ён таксама мае адносіны да флатацыі, толькі можа не такія непасрэдныя, як яна сама. І працуе «в облас-ці» абагачэння руды, толькі не на той доследнай фабрыцы, дзе была яна.

— Вы на першай вытворчай? — не ўтрымалася ад запытання Мальвіна.

— Так, так,— ахвотна адказаў сусед.— Чуўствую, што вы пачынаеце ўспамінаць: можа і сустракаліся па случаю...

Мальвіна адмоўна пакруціла галавой.

— А вы, чуўствую, на вопытнай работалі?

Тут Мальвіна кіўнула сцвярджальна.

— Я там многіх знаю... Многіх... Бываю сам, бываюць у мяне...

Ван Ваныч зрабіў вялікую паўзу. У ранішняй дарожнай цішыні, калі амаль кожнаму пасажыру хочацца падрамаць, Мальвіна чула суседскае дыханне як найбольш блізкае і задаволена была ад меркавання, што чалавек засне, тады, магчыма, і яна задрэмле, утуліўшыся ў спінку крэсла. Аднак сумненне ў гэтым нарастала, бо ўсё выразней адчувалася, што ў Ван Ваныча не санлівае дыханне, а быццам бы нечым падтрывожанае і падхвалянае: вось-вось ён зноў пачне гаварыць.

Прадчуванне апраўдалася. Праз некаторы час сусед паварушыўся, узяў крэн да субяседніцы і, пераканаўшыся, што яна не спіць, пачаў мякка і асцярожна:

— Я чуўствую, што вы да мяне з ізвесным недаверцам... Яно і панятна: незнаёмы чалавек навязваецца са сваімі рыторыкамі. Аднака ж паверце, што другія людзі адносяцца да мяне іначай. Не сталі б вы супругай майго юнага друга, я, навернае, і не падумаў бы назаляцца да вас. Но цяпер чуў-

ствую асаблівае, так сказаць, распалажэнне духа... І хацеў бы, калі дазволіце, падзяліцца з вамі некаторымі важнымі саабражэннямі. Тым больш што не толькі для нас з Савеліем, но і для нашага праізводства вы чалавек свой.

Ён зноў перапыніўся, нібы імкнучыся больш надзейна ўпэўніцца, слухае яго суседка ці не, цікава ёй даведацца, што ў яго за «саабражэнні», ці можа зусім нецікава і ў яе вочы зліпаюцца ад дрымоты. Заўважыўшы, што яна не хіліць галаву на спінку крэсла, можа нават і сама вось зараз спытае пра нешта, ён яшчэ трошкі пачакаў, яшчэ разы два паварушыўся на месцы, а тады рэзка павярнуўся ў другі бок і стаў выцягваць у сябе з-за спіны жоўтую скураную папку, зацягнутую на шведскі замок.

— Я, з вашага дазволу, так сказаць,— працягваў ён упэўнена, ужо, відаць, рашыўшы, што робіць правільна,— еду, як гэта гаворыцца, аблячоны даверам... Не скажу — усенародным,— гэта было б лішнім, але некаторы давер у мяне ёсць. Еду ў Маскву.— Ван Ваныч моцна шмаргануў замком папкі, паварушыў у ёй пальцамі сярод мноства папер і выняў некалькі белых гатунковых лістоў, прашытых з левага краю ніткамі.— Вязу сігнал, так сказаць... Голас уласны і народны... А каб не пуста гучалі мае вам давярэнні, прашу на хвіліну ўвагі: гляньце на наш тэксцік!

Мальвіна ўзяла ў рукі гэты своеасаблівы сшытак, адгарнула першую, амаль тытульную старонку, на якой было надрукавана: Масква, міністру хімічнай прамысловасці СССР. Хацела прачытаць тэкст на другой старонцы, але Ван Ваныч нахіліўся да яе ўшчыльную і сам перагарнуў гэтую старонку.

— На подпісы звярніце ўвагу!

У гэты момант яе, нібы электратокам, ударыў адзін вельмі знаёмы подпіс: зусім нядаўна яна з сумам і трывогай назірала, як ён старанна выводзіўся на адным афіцыйным бланку, а затым побач падпісалася і яна, не надта выразна, быццам часова. Гэта быў подпіс Савела Горбіка.

— А ён чаго тут? — здзіўлена і з абурэннем спытала Мальвіна і ледзь не сарвалася з ціхага тону.

— Як гэта чаго?..— нібыта не зразумеў Ван Ваныч.

— А таго, што на абагачальнай фабрыцы ён не працуе і не мае адносін да гэтага калектыву!

— У нас адзін калектыў,— стрымана і спакойна, нібы школьніцы, стаў тлумачыць Ван Ваныч.— Усё аб'яднанне — калектыў. А Савелій, як чалавек сумленны і чуйны на розныя сітуацыі, палічыў важным падтрымаць працаўнікоў фабрыкі. Салідарнасць, так сказаць... Чулі? Не вам пра гэта гаварыць.

Мальвіна не працягвала спрэчку, ведаючы, што не той для гэтага час і не тое месца, але сшытак не вяртала, усё быццам вывярала і вывучала подпіс Горбіка.

— Вы, чуўствую, думаеце, што, вазможна, Савелій не собственноручна падпісаўся? То напрасна! Подпіс подлінны, за гэта я магу ручацца сваёй чэсцю! К слову, тут і для вас ёсць месцейка: шчытайце, што я ведаў пра такую прыятную для мяне сустрэчу і спецыяльна пакінуў. Аўтограф, так сказаць, знатнай апаратчыцы, камсамолкі!.. Каторую потым на ўчобу паслалі як перадавую работніцу калектыву...

— А можна пачытаць, што там напісана? — спытала Мальвіна.

— Вам, канечна, можна! — даверліва прашаптаў Ван Ваныч.— Да, собстна, тут, калі разабрацца, то і ваабчэ ніякага сакрэту няма.

Мальвіна прабегла вачыма дзве старонкі машынапісу. Сутнасць справы была пададзена лакавічна; відаць, аўтар ведаў, што доўгіх пісьмаў цяпер не любяць. Пераканаўча? Наўрад! У людзей змяншаецца выпрацоўка... Чаму? Кіраўніцтва фабрыкі зрывае цэнтралізаваны рамонт абсталявання. І ўжо ніякіх рэкордаў!.. Ніякіх узлётаў!.. Ніякіх эфектаў ад новай тэхнікі!

Вось у чым бяда!.. То калі гэта праўда, скажыце пра яе на месцы! Не хавайцеся за паперамі! Уласная сістэмка падаецца? Дык яшчэ ж трэба паверыць ёй. І дзеля чаго тут подпіс Горбіка, які працуе ў шахце? Вызначыцца цягне?.. Паказацца!..

Супярэчлівасць думак і адчуванняў трывожыла душу: чалавек апынуўся на такой блізкасці, як ні-

хто, акрамя маці і брата. Чалавеку трэба б верыць ва ўсім, прыслухоўвацца, да кожнага слова, высока цаніць яго справы, учынкі. Але даверу няма. Асабліва пасля выпадковай рэплікі вось гэтага выпадковага суседа. І не толькі даверу, а чамусьці міжвольна ўзнікае прадчуванне, што там, дзе быў след Горбіка, наўрад ці ёсць сумленнасць. Нават і на такой святой справе, як жаніцьба, трымціць жахлівы цень яго крывадушнасці.

...Незнаёмыя, нязвычныя паперы ў руках... Мальвіна яшчэ раз перачытвае тэкст, каб больш патрымаць іх пры сабе. Няхай сусед думае, што яна вывучае справу, каб потым падпісацца і самой. А тым часам клопаты і трывогі яе не ў гэтым...

Як бы хацелася пагаварыць цяпер з Аўгусцінам як дэпутатам і членам парткома! Ды з кіраўніцтвам фабрыкі, якое выдала ёй такую харошую характарыстыку. А дзяўчаты са змены!.. Чаму яны не падпісалі гэтай «петыцыі»? Проста не ведалі пра яе ці не паверылі Ван Ванычу? А калі не паверылі, то чаму маўчалі? Калі ж паверылі, то зноў жа — чаму маўчалі? Некалі яны разам абмяркоўвалі ўсе справы, вытворчыя і асабістыя: спрачаліся, дыскусіравалі. Што набывала складанасць ці пэўную праблематыку, тое выносілі на камсамольскі сход. Натрапіўся б ім тады вось такі «хадатай»! У партком пайшлі б!..

«А хто такі гэты Ван Ваныч, духоўны настаўнік майго цяперашняга «спадарожніка» жыцця?»

— Вазьміце! — з нечаканай для суседа рэзкасцю прамовіла Мальва і паклала сшытак яму на папку.

— Дык вы ж забылі!..— крыху разгублена занепакоіўся Ван Ваныч.— Вось вам аўтаручка... не шарыкавая...

— Я не буду падпісвацца!

— Чаму? Хіба вы не з намі?

Мальва прамаўчала не таму, што не мела чаго сказаць, а проста не лічыла патрэбным абмяркоўваць такое пытанне і ўступаць у спрэчку ў аўтобусе.

— Нават супруга свайго не хочаце падтрымаць? — саладжава, але ўжо з ноткай кплівасці за-

пытаўся Ван Ваныч.— Знаеце, я некалі трохі займаўся філалогіяй і памятаю, што слова супруг ідзе ад сумеснай упражкі... Следавацельна, што гэта азначае?..

— Ну хопіць! — рашуча абарвала яго Мальвіна.— Сама вырашу, як мне жыць!

Яна ўжо, не асцерагаючыся нетактоўнасці, адвярнулася да акна і прыкрыла левую шчаку капюшончыкам, нібы адгарадзілася ад суседа. Той, вядома ж, зразумеў яе настрой і больш не імкнуўся ўзнаўляць размову: спавольна ўціснуў свае паперы ў папку і ціха зашмаргнуў замок. Да самага Мінска ехаў моўчкі і на суседку амаль не звяртаў увагі.

Мальва задумліва ўглядалася ў акно. Ужо ўязджалі ў лес. Ва ўсякую пару года гэтая палавіна мінскай дарогі захапляла нават самага безуважнага пасажыра. А тут вясна стаяла ў сваім зеніце, ды яшчэ на рэдкасць лагодная і ўцешная для людзей: з частымі цёплымі дажджамі, са шчодрым сонцам між дажджоў. Нават пры дарозе яшчэ ні адна травінка, ні зялінка не запыліліся, бярозы паабапал — у такой свежай і сакавітай зеляніне, што хоць ты ў ахапку іх забірай ды нюхай або на язык спытвай. Хваіны, алешыны, асіны, няхай нават і не ўсе роўныя і стройныя (цяжка вытрымаць стройнасць пры самай дарозе), дыхаюць непаўторнай вясенняй красою. Хто скажа, што нават асінавае лісце пахне? Нідзе пра гэта не гаворыцца. А вось сарвіце цяпер трапяткі асінавы лісток, памніце яго трошкі ў пальцах ды панюхайце: пахне, вельмі прывабна пахне! А каму не захацелася б пажаваць храбусткі, сма-лісты парастак хваіны? Адразу з'явіцца прыемная надзея, што здароўе паправіцца, сілы пабольшае...

А кветак колькі! І ўсюды, усюды! Мальвіне здавалася, што кожная зялінка цяпер цвіце, нават такая, на якой ніколі ніхто не бачыў квецені: малачай, напрыклад. Рэйсавы шафёр, відаць, улічыў вясновыя адчуванні пасажыраў, звярнуў аўтобус на абочыну ў самым кветкавым месцы і спыніўся.

— Дзесяць мінут! — абвясціў па мікрафоне.

У аўтобусе астаўся пры сваёй папцы толькі Ван Ваныч ды яшчэ нейкая бабулька з клункам на пярэднім месцы, астатнія ўсе выскачылі на зялёны, квяцісты дыван, які разаслаўся на пакатым кювеце і на прыдарожнай палянцы. Неўзабаве аўтобус напоўніўся букетамі, і неяк адразу ўсім весялей стала: хто трымаў у руках букет, у таго вочы свяціліся радасцю, а хто не паспеў нарваць кветак, той любаваўся суседскімі і таксама з асалодай ухмыляўся.

Мальвініны кветкі амаль не пахлі: гэта былі запозненыя падснежнікі, блакітныя пралескі ды званочкі, якія ніколі нікому не звоняць і чамусьці маюць назву «сон». Толькі спаць ад іх не хочацца: яны пяшчотныя, іх люба трымаць пры шчацэ, нават пры вуснах.

Букецік маленькі, і Мальва прыхоўвала яго ў руках, нібыта асцерагалася, каб хто не крануў кветак, не пашкодзіў. А хутчэй — ад суседа прыхоўвалася, бо той мог падхапіць момант ды зноў распачаць гаворку.

...Першы вясенні букецік!.. Першая жаночая радасць, сімвал шчасця... Так павінна б быць, душа цягнулася да гэтага і цягнецца цяпер. Але няма таго жаданага... Няўжо такі дзявочы лёс? Пэўна ж, не. Ішлі сяброўкі замуж, дык усе былі ў кветках. Здаралася, што некаторыя плакалі, але ў слязах свяцілася радасць...

Сама таго не жадаючы, Мальва зноў ледзь не трапіла ў палон сваіх цяжкіх успамінаў і перажыванняў. Спахапілася, адняла ад вуснаў букецік і асцярожна глянула на суседа. Той адкінуўся патыліцай на падушку крэсла і, мабыць, падрэмваў. Папку трымаў на каленях, а рукі на папцы...

## VII

У тое лета нямала васількоўскіх падзей адбівалася на настроі Яўгена Перапечкі, дырэктара мясцовай гасцініцы.

Некалькі год таму назад — калі Перапечка яшчэ не быў ніякім дырэктарам, а толькі канчаў Васількоўскую дзесяцігодку; калі на гэтым месцы, дзе

цяпер гасцініца, была вялікая лужа і яе заўсёды з недавольным бэканнем абыходзілі васількоўскія авечкі; калі Васількі ў законным сэнсе яшчэ не былі ні горадам, ні раённым цэнтрам; калі кожнага камандзіровачнага вазілі ў раённае мястэчка і ўладкоўвалі там у гасцініцу — былы Дом калгасніка, у якім калгаснік наўрад ці начаваў; калі местачкоўцы часам мелі вясёлую пацеху, назіраючы ўранні, як заспаны камандзіровачны бяжыць цераз неабгароджаны двор, шукаючы патрэбны прытулак; калі насустрач яму магла бегчы адтуль жа камандзіровачная жанчына, яшчэ таксама босая і непрычасаная,— у тыя часы праект васількоўскай гасцініцы на пяць паверхаў, на пяцьсот койка-месц уяўляўся цяперашняму дырэктару цудам.

Цяпер ён марыць аб дзесяціпавярховай гасцініцы, і не менш як на тысячу месц. Гэта, як кажуць, аптымальны варыянт. А вось пабудаваць яшчэ дзве гасцініцы сярэдняга тыпу, ды ў розных раёнах горада, ды з належным камфортам, ды з буфетамі і рэстаранамі — канечне ж, можна! Тады ўтварылася б Васількоўскае аб'яднанне гасцініц, а Яўген Перапечка стаў бы не проста дырэктарам, а генеральным дырэктарам! А там адно за адным: не бегаць жа дырэктару пехатою з адной гасцініцы ў другую: на гэта былі б намеснікі, а яму далі б «Масквіча» ці «Жыгулі».

Калі выбавіць адсюль долю гумару, то астатняе будзе выглядаць натуральным. У Васількі цяпер столькі наязджае ўсякага люду, што сапраўды бываюць у гасцініцы перагрузкі. А ў свой кабінет Перапечка амаль што і не заходзіць, бо там заўсёды хто-небудзь спіць. Люксаў у гасцініцы ўсяго тры, а ледзь не кожны дзень прыязджае хто-небудзь чацвёрты, з цэнтра, і хоч не хоч, а трэба аддаваць яму свой кабінет.

Ды каб жа толькі патрэбныя камандзіровачныя прыязджалі: па адным, па два, няхай нават па дзесятку. А то ж цэлымі аўтобусамі, ледзь не эшалонамі! Якая б ні была дэлегацыя ў цэнтры ці вобласці, яна ніколі не міне Васількі. Артысты, футбалісты, хакеісты, пісьменнікі, журналісты амаль не вылазяць адсюль. І ўжо ўсе навокал ведаюць, што калі

хочаш зблізку пабачыць, скажам, касманаўта або Яшына ці Траццяка, пачуць проста са сцэны голас Левітана, то не трасіся дзеля гэтага ў Мінск або ў Маскву, а прыязджай у Васількі.

Паглядзець горад ды паабедаць у рэстаране — часу трэба не многа: аўтобус прыехаў і ў той жа дзень паехаў. Але ж кожнаму хочацца пабываць у шахтах, першых у рэспубліцы, ды такіх, што ніводнаму экскурсанту не шкодны, можна хоць суткі там быць. У штрэках светла і цёпла, сцены і столь блішчаць цвёрдымі рознакаляровымі пародамі, нібы ў Маскоўскім метро. Пісьменнікам і журналістам тут хочацца што-небудзь запісаць, мастакам — замаляваць, футбалістам — штурхнуць мяч, каб ён выцяўся аб адну сценку, потым аб другую і з рэхам пакаціўся да самага забоя. Эстрадныя артысты тут аднойчы заспявалі і ледзь не сарвалі змену на ўчастку, бо ўсе шахцёры пабеглі слухаць канцэрт.

Непазбежныя працэдуры: раздзяванне і адзяванне, спусканне і падыманне, а потым зноў раздзяванне і душаванне — займаюць нямала часу, таму экскурсанты і афіцыйныя дэлегацыі часта за дзень не ўпраўляюцца і астаюцца начаваць. Хуткія прылівы і адлівы ў гасцініцы — хранічная бяда для Яўгена Перапечкі і яго шматлікага персаналу: мноства людзей трэба штодзённа запісаць і выпісаць, забраць і аддаць назад пашпарты, пасяліць кожнага і праз ноч выселіць, у кожным пакоі зрабіць уборку, памяняць бялізну, сабраць пустыя пляшкі.

Ды гэта яшчэ сяк-так можна перажыць, калі ўсе кліенты ўмясціліся. А калі яны сядзяць і стаяць цэлымі натоўпамі ў вестыбюлі, атакуюць дзяжурных адміністратараў, кладуць ім на сталы розныя высокія пасведчанні і камандзіроўкі (у Васільках амаль кожны лічыць сябе высокім), патрабуюць дырэктара і ноччу падымаюць яго з пасцелі, тады часам падумваецца Перапечку і аб тым, што можа варта пайсці яму да сапраўднага генеральнага дырэктара, які пакуль што толькі адзін у Васільках (гасцініца падначалена вытворчаму аб'яднанню), і пакласці на стол заяву аб пераводзе на іншую работу.

Але ж ці ёсць мера жыццёвым цяжкасцям і складанасцям? Да нядаўняга часу Яўген Перапечка спадзяваўся, што цяперашнія перагрузкі і ўгасціні-цы, і яго рабочага дня — справа часовая; наглядзяць-ца людзі, налюбуюцца, а потым можа і адхлыне гэты паток — ёсць жа яшчэ цікавыя новабудоўлі. І вось жа — навіна! Без ніякага ўзгаднення з ім, і нават без яго ведама, нехта ўключыў Васількі ў маршрут турысцкіх паказаў. Больш таго! Зноў жа без ведама Перапечкі турысцкі маршрут зменены так, што цяпер усе патокі людзей ад Брэста ідуць проста на Васількі. І тут іх трэба размяшчаць, уладкоўваць іхні транспарт. Гэта так абурыла Перапечку, што ён усё ж такі рашыў пайсці скардзіцца, пратэставаць. Пэўны час думаў, чыя тут кампетэнцыя, хто бліжэй да гэтай справы: сам васількоўскі генеральны ці хто-небудзь не з генеральных, скажам, намеснік па быту ці па транспарту? А можа сакратар парткома ці старшыня прафкома?

І рушыў да сакратара парткома, таму што меў на гэта дзве падставы: першая — тая, што сакратар быў адзін час дырэктарам той школы, дзе Перапечка апошнія гады вучыўся; другое — сябе ён лічыў больш ідэалагічным работнікам, чым гаспадарнікам. Каб не выглядаць неспрактыкаваным местачкоўцам, Яўген не пасунуўся адразу ў прыёмную: назаляць там ці сядзець у чарзе, а загадзя пазваніў і як належыць дамовіўся аб прыёме.

Сакратар парткома ў Васільках — чалавек, можна лічыць, мясцовы, з недалёкай адсюль вёскі, дзе добрая палавіна жыхароў носіць адно і тое ж прозвішча — Тычына. А вёска завецца не па прозвішчах, як часта ў нас бывае, а, мабыць, па мясцовасці — Дуброўка.

Павел Васільевіч Тычына з універсітэцкай адукацыяй прыехаў у Васількі і выкладаў у школе гісторыю, потым стаў дырэктарам гэтай школы. Пад уплывам тэхнічнага прагрэсу паступіў завочна ў горны інстытут, паспяхова скончыў яго, стаў інжынерам і вось ужо з год таму назад абараніў дысертацыю кандыдата тэхнічных навук. Маладжавы і абаяльны з выгляду, заўсёды энергічны і руплівы ў дзеяннях, у добрым сэнсе кампанейскі, ён даволі

лёгка збліжаўся з людзьмі, меў шырокае асабістае знаёмства не толькі з партактывам, а і з многімі прадстаўнікамі розных галін вытворчасці і культуры, з шахцёрамі і будаўнікамі. Усе, напрыклад, ведалі пра яго даўнюю і шчырую дружбу з брыгадзірам камбайнавай брыгады Аўгусцінам Арлоўскім, з якім у іх усё напалам, усё на дваіх: і добрае, і горшае, і вясёлае, і сумнае. Спатрэбілася харошая, масавая кніга пра лепшы вопыт работы на шахтах. Пакуль каго знайсці ў аўтары, пакуль угаварыць якога газетчыка ды «нашпігаваць» яго лічбамі і фактамі, то яны ўзяліся ўдвух і напісалі. Прафвыдат выпусціў кніжку паўмільённым тыражом, а ўжо ніводнага экземпляра ў продажы тут не знойдзеш.

У Яўгена Перапечкі Павел Васільевіч спытаў, калі яны сустрэліся:

— Дык ты што, супраць таго, каб да нас ездзілі замежныя турысты?

— Я ў прынцыпе не супраць! — стаў апраўдвацца Яўген.— Але ж — умовы! Запарымся мы, прападзём! Гасцініца наша... Хаця б праз які год, два...

— А ты хацеў бы мець новую гасцініцу ўжо ў наступным годзе?

— Хто ж супраць?.. Вядома.

— Дык прымай турыстаў пакуль што ў старой. Ушчыльніся, пацясніся з прасторaю, павяліч спальную плошчу.

— Дык і машыны ж у іх.

— Стаянку адвядзі, абсталюй. Схадзі да мэра нашага — дапаможа. Зразумеў?

Канечне ж, Яўген усё зразумеў, і замежныя турысты ўжо не ўяўляліся яму нясвоечасовымі.

Першы іхні масавы наезд крыху занепакоіў гарсаветчыкаў, але вельмі зацікавіў усіх васількоўцаў: не трэба было нікога запрашаць ні на сустрэчу, ні на провады, а людзі самі ішлі, часам нават і перашкаджалі экскурсіі, займаючы не толькі тратуары, а і праезджыя палосы вуліцы. Рэгуліроўшчыкаў у Васільках тады яшчэ не было, але на той раз начальнік міліцыі паслаў аддзяленне паставых для ратунку газонаў і клумбаў.

Першыя замежныя турысты васількоўцам запомніліся добра. Але яшчэ трывалей асталося ў памяці адно здарэнне таго часу, не зусім звычайнае. Пра яго і цяпер часам успамінаюць васількоўцы, і найбольш тады, калі хочацца трохі пасмяяцца ў кампаніі.

Ішлі афрыканскія турысты па адной з васількоўскіх вуліц. У іх было вялікае афіцыйнае суправаджэнне, ды неафіцыйных ахвотнікаў паглядзець на гасцей і на іх адзежу знайшлося нямала. Ідзе натоўп па вуліцы, турысты паварочваюць галовы то направа, то налева, слухаюць тлумачэнні перакладчыка, і раптам усе ўтаропваюцца наперад, уздымаюцца на кукішкі, пачынаюць нават апярэджваць адзін аднаго, каб лепш разгледзець нешта дзіўнае перад сабою. Некаторыя навялі фотаапараты.

Што ж там такое? Ужо і васількоўцы падаліся наперад, сталі таптаць газоны: нешта ж, мабыць, надзвычай цікавае!

На самай жа справе падзея была зусім надзённая для Васількоў, толькі як на гэты момант, то крыху недарэчная: з нейкай падваротні, а хутчэй за ўсё — з магазіннага двара на вуліцу выйшаў вялізны і добра адкормлены галагуцкі певень, скрозь уласнёны чырванню, з шырачэзным, ледзь не паўлінавым хвастом, з пруткім мясістым грэбенем, вострым зверху, як меч. Зразумеўшы, што назад яму ходу няма і па баках ужо абступілі людзі, ён пайшоў сабе па вуліцы, не надта спяшаючыся. Васількоўцаў ён не баяўся, бо сярод іх вырас і жыў, а на турыстаў не зважаў: за ім яны не кідаліся і крыкаў не падавалі.

Якія там здымкі атрымаліся ў замежнікаў, невядома, а фотакарэспандэнт мясцовай шматтыражкі прынёс у рэдакцыю фарматны здымак з пеўнем і вельмі намагаў, каб не абрэзваць галагуна, бо ён прыдае здымку каларыт.

Не так даўно ў Яўгена Перапечкі з'явіўся новы клопат: пазванілі з аб'яднання, што ў Васількі прыязджае камісія з Масквы.

— Дзе размясціць?

Гэтым пытаннем Яўген сустракаў цяпер амаль кожнае паведамленне наконт прыезджых людзей.

— У люксах, вядома,— сказалі ў аб'яднанні.

А люксы занятыя.

Гэтага не сказаў Перапечка, бо ведаў, што ніхто, акрамя яго самога, не будзе іх выслабаняць. І ўсё ж, што тут прыдумаць? У адным люксе — прадстаўнік абкома, у другім — палкоўнік з абласнога ўпраўлення міліцыі, у трэцім — пісьменнік, які часта прыязджае сюды і піша пра Васількі. Выселіць пісьменніка? Дык жа возьме часам ды ўставіць у якое-небудзь пісанне абзацік пра гасцініцу. І пра дырэктара. Захоча знайсці адмоўны каларыцік, дык знойдзе!

Прапанаваць меншы нумар, без халадзільніка і тэлевізара, прадстаўніку абкома ці міліцэйскаму палкоўніку, дык хто ведае, чым яны тут займаюцца? Можа такімі справамі, што лепш і не заікацца пра замену іхніх нумароў.

На шчасце Перапечкі, з Масквы прыехалі толькі два чалавекі і згадзіліся жыць у адным нумары.

Назаўтра ж зранку ў вестыбюлі гасцініцы з'явіўся Ван Ваныч. Даведаўся ў знаёмай адміністраткі (у яго ўсюды ёсць знаёмыя), у якім люксе жывуць члены камісіі, падышоў да салона парыкмахерскай, стаў каля трумо і пачаў аглядаць свой даволі свежы, хоць і з трыма барадаўкамі на шчоках, твар, падварушваць пальцамі яшчэ больш адрослыя, чым былі ў той час, калі ён ехаў у Маскву, бачкі, прыгладжваць падрадзелыя ўжо, але жорсткія, разабраныя на бакавы радок пясочныя валасы. Радок ён падраўняў грабеньчыкам: мабыць, таму і выбраў такую прычоску, што на цемі ўжо вылуплівалася лысіна, якую хацелася прыкрываць.

Па лесвіцы наверх не пайшоў, а пабег, лёгка памахваючы доўгімі нават і на яго гвардзейскі рост рукамі; з прэтэнзіяй на элегантную зухаватасць, пацепваючы шырокімі плячамі. Тут і не для сябе гэта рабілася, не для ўласнай задаволенасці ад таго, што яшчэ не задыхаецца на пад'ёме, а для маладжавай і трапна падсвежанай крэмам і прывазным парыком адміністраткі, якая, седзячы за перагародкай, глядзела яму ўслед.

Праз некалькі хвілін Ван Ваныч ішоў па гэтай жа лесвіцы ўніз, але ўжо не так жвава і бадзёра, хоць ногі стараўся ставіць роўна і ўпэўнена.

— Што? — сустрэла яго адміністратарка здзіўленым паглядам.

Ван Ваныч прыняў выгляд пакутніка і безнадзейна пакруціў галавой.

— Няма? — здагадалася жанчына.— Дык я ж іх нядаўна бачыла. Тут яны недзе. Зараз паглядзім!

Яна жвава ўстала, лёгкім, амаль незаўважным дотыкам рук абцягнула кофтачку на стройнай таліі і выйшла з-за перагародкі. Ледзь не факстротна ўкарочанымі і жвавымі крокамі, яна падышла да кафэ, заглянула ў адчыненыя дзверы.

— Ідзіце сюды! — падала знак аголенай, ледзь не да локця забранзалечанай рукою.

Ван Ваныч таксама факстротам падляцеў да яе, стаў побач.

— Вунь, бачыце, вінегрэт ядуць. Дык гэта яны.

— Я іх тут пачакаю,— шапнуў Ван Ваныч і пайшоў следам за адміністраткай да перагародкі. Там абапёрся на прыстолак, дзе камандзіровачныя запаўняюць гасцінічныя анкеты, і, намагаючыся ўспомніць, які б гэта анекдот расказаць адміністратарцы, пакуль нікога няма з кліентаў, коса пазіраў на дзверы кафэ.

— Учора да іх Тычына заходзіў,— між тым паведаміла адміністратарка.— А потым разам некуды і пайшлі...

Ван Ваныч зыркнуў на яе быццам бы са спалоха і ў той жа момант удзячна ўсміхнуўся, прыхоўваючы сваю незадаволенасць.

— Калі ён паспеў?

— Увечары. Як толькі Перапечка ўладкаваў іх.

— І куды яны пайшлі?

— Невядома. Можа да генеральнага?

— У нерабочы час?

— А для іх няма нерабочага... Шамота, бывае, і ноччу сядзіць.

У Ван Ваныча ўжо наклёваўся вельмі пікантны анекдоцік, якраз для гэтага часу і для гэтай жанчыны, але нечаканае паведамленне рэзка змяніла яго настрой. Як ні намагаўся чалавек не паказваць

свайго неспакою і трымацца перад прыгожай жанчынаю па-ранейшаму незалежна і элегантна, гэта яму ўжо не ўдавалася. І на адчыненыя дзверы буфета ён паглядваў ужо неяк разгублена і няўпэўнена, быццам прыкідваў, варта чакаць гэтых масквічоў ці не варта? Можа і гаварыць з імі няма чаго, і паказвацца не трэба. А паглядзець спачатку, у якіх здольнасцях яны сябе тут праявяць... Падпільнаваць у рэстаране ці яшчэ дзе. І калі будзе відно, што не ў той бок гнуць, то напісаць сёе-тое і на іх. Не святыя!

Адміністратарка заўважыла нерашучасць Ван Ваныча і смела падала сваю параду:

— Ну дык і што, калі Тычына заходзіў? А вы таксама заходзьце! У кожнага сваё: Тычына з аднаго боку, а вы з другога!

— Вы думаеце — так было б лепш? — з няпэўным даверам запытаўся Ван Ваныч.— А я, собсна, прыкідваў, што можа і зусім... Знаеце? Лішняя нерватропка... А карысці?.. Маладыя вусацікі... Што з іх?..

— Ну, Ван Ваныч! — настойліва загаварыла жанчына.— Гэтага я ад вас не чакала!.. Не пазнаю вас! Быццам пабойваецеся нечага!

— Справа не ў гэтым... Але...

— У вас жа ёсць пра што сказаць. Муж гаварыў мне, што і пісалі вы там пра нешта важнае... І ў Маскву ездзілі...

— І пісаў, і ездзіў,— пацвердзіў Ван Ваныч.

— Да каго, калі не сакрэт?

— Да самога міністра.

...З кафэ выйшлі два чалавекі з камячкамі папяровых сурвэтак у пальцах. Выціралі на хаду рукі і паглядвалі на зялёнае вочка тэлефона-аўтамата, што стаяў ля кафэ ў кутку залы.

— Здаецца, вольны,— упаўголасу сказаў адзін з іх, у зялёнай спартыўнай куртачцы с расшпіленым замком, з чорнай, не надта запушчанай бародкай, зрошчанай з такімі ж па колеру бакенбардамі.

— Думаеш, дазвонімся? — спытаў другі, таксама з юнацкай бародкай, але рыжай і не зрошчанай з бачкамі.

— Паспрабуем!

— Няхай пробуюць! — не з вялікай лагодай азваўся Ван Ваныч.— Хіба на іх шчасце...

— Ідзіце да іх! — амаль загадала яму адміністратарка.— Скажыце, хто вы, і папрасіцеся на прыём.

— А можа не-е... гэта самае?..— быццам бы ўсумніўся Ван Ваныч, а сам усё паглядваў на аўтамат: дасць ён ім размову ці апустошыць кішэні ад пятнаццатак і засвеціць чырвоным агеньчыкам.

Выйшла якраз гэтак. Маладыя барадачы з крыўдай і стрыманым смяшком зачынілі дзверы аўтамата, падаліся да лесвіцы, і тут іх пераняў Ван Ваныч.

— Я Кухарчык,— з пэўным адзначэннем свае асобы прадставіўся ён.— З мясцовага хімічнага прадпрыемства... Рамонтнік!

— Вельмі прыемна,— стрымана прамовіў чалавек з чорнай бародкай.— Чым можам, як гаворыцца?..

— Я Кухарчык! — паўтарыў Ван Ваныч.— Вы павінны ведаць...

— Як вы сказалі? Прабачце...

— Ку-хар-чык,— падкрэслена адказаў Ван Ваныч па складах.— Тут мяне многія ведаюць.

— А-а! — няпэўна азваўся чалавек з чорнай бародкай і паглядзеў на калегу з рыжай бародкай.

— Дык гэта ж...— здагадліва ўспомніў той. І жвава павярнуўся да Ван Ваныча: — Вы хацелі да нас? Дык калі ласка!

Ледзь не схаваная ў парыку адміністратарка задаволена паглядвала з-за перагародкі на камандзіровачных, якія спачатку набліжаліся да яе — асталося толькі ўсміхнуцца ім, ды раптам павярнулі ўбок і разам, у адну нагу, як салдаты, ступілі на прыступку лесвіцы. Калі б дашчаная была гэтая прыступка, то, напэўна, рыпнула б на ўвесь вестыбюль. Ван Ваныч ішоў побач з камандзіровачнымі, нават крок трымаў, як у шарэнзе, і адміністратарка заўважыла, што яго поступ быў такім жа цвёрдым і роўным, як і ў маладых гасцей. Толькі адзежа яго трохі вылучалася: хоць і новая была, і з кантамі на калошынах, а ўсё роўна нагадвала нешта мясцовае, васількоўскае.

Зладжаныя, быццам пад каманду, мужчынскія крокі чуліся адміністратарцы яшчэ і на другім паверсе. Не толькі на ўсходах, а па лінолеуму калідора. Чула яна і як шчоўкнуў ключык у нумары, як потым адчыніліся і зачыніліся дзверы. І раптам зусім ціха ўсюды стала пасля гэтага: кліентаў не было, тэлефоны не званілі, прыбіральшчыцы не шоргалі шчоткамі і не абменьваліся сваімі навінамі — усё быццам наўмысна спрыяла «вялікім перагаворам».

«Няхай ён там пагаворыць, раскажа ўсё сваё...— усцешна думала жанчына.— Умее чалавек расказваць...»

Цягнула жанчыну паразважаць наконт гэтага, нават і ўслых падзяліцца з кім-небудзь, але яе натрэніраванае вуха ўлавіла, што дзверы нумара зноў адчыніліся, а потым зачыніліся ўжо вельмі ціха і павольна. Крокі пачуліся адзінокія і зусім кволыя, быццам не з той тройкі нехта ішоў, што нядаўна падымалася на другі паверх, а з натугай перастаўляў ногі зусім знямоглы па старасці ці па хваробе чалавек.

«Можа я дзвярэй не пазнала? — здзіўлена падумала жанчына.— Пераблытала, чаго добрага, з суседскімі?...»

Крокі не памацнелі і на лесвіцы і праз якую хвіліну адміністратарка ўбачыла спачатку вастраносыя, аджылой моды чаравікі і закантаваны клёш Ван Ваныча, а потым і яго самога. Ужо нават і на вачах жанчыны ён не выраўняў свой крок і не выпрастаўся, быццам забыў пра ўсё навакол, а толькі паціраў рукамі свае адтапыраныя бачкі і час ад часу хапаўся за пярылы.

Жанчына выскачыла з-за перагародкі, падбегла да яго і працягнула руку:

— Што з вамі, Ван Ваныч?

— А, гэта вы? — схамянуўся Кухарчык.— Ды нічога... Проста задумаўся крыху...— І ён раптам, як маску, скінуў з сябе нязваную сумоту і з апошніх прыступак ледзь не подскакам збег насустрач жанчыне.

— Чаму так мала былі? — пацікавілася адміністратарка.— Спяшаюцца яны?

— Ды не відно, каб вельмі,— ахвотна адказаў Ван Ваныч.— Проста гаворка ў нас не склеілася... Маладзёж, што з іх?.. Не даслухалі, не ўзважылі, а ўжо анкета: інжынер ці не інжынер? Чаму быў старшынёй калгаса, а цяпер?.. «А вы кім былі? — запытаўся я ў іх.— Інстытуты пакончалі і адразу ў міністэрства?» — «І аспірантуры»,— дадаў гэты, што з рыжай бародкай.

— А я толькі тэхнікум маю,— гаварыў Ван Ваныч ужо адміністратарцы.— Механічны. Ды два курсы завочнага літфака. Больш не давялося вучыцца, бо трэба было працаваць. Ну, быў я старшынёй калгаса... Самі паспрабавалі б, што гэта такое! Увалілася нейкая погань — коні перадохлі... А я вінаваты, што яны падохлі? Не надта і адчуў гэта калгас — машын цяпер хапае.

— Мой казаў,— уставіла жанчына,— што вы і дэпутатам былі.

— Быў,— пацвердзіў Кухарчык.— Раённым, праўда, але быў. У кожнага сваё жыццё, знаеце...

— А яшчэ мой казаў...— хацела нешта дадаць адміністратарка, але Кухарчык ужо захапіўся і быццам не пачуў яе.

— Быў, было!..— нібыта ўяўляючы перад сабою прадстаўнікоў з міністэрства, працягваў ён.— Бо і пажыў не з іхняе... Вайну прайшоў. Тут стаў ля станка, калі спатрэбілася. А цяпер усе рамонтнікі на фабрыцы пад маім началам.

— Мой казаў,— зноў уставіла адміністратарка,— што калі б вам стаць начальнікам фабрыкі, то лепшага кіраўніка ніхто і не хацеў бы.

Гэтыя словы Кухарчык пачуў, хоць зрабіў выгляд, што не надта ўсцешыўся ад іх.

— Дзякую вашаму мужу за добрыя словы,— быццам мімаходзь сказаў ён.— І вам дзякую. Харошы чалавек ваш муж, якраз вам пад стаць. І работнік здатны, адзін з лепшых рамонтнікаў у маёй брыгадзе. А ежэлі аб маім асабістым кіраўніцтве чыстую праўду сказаць, то людзі мне давяраюць. Факт! Вось толькі падвучыцца б маласць, як той Чапаеў сказаў.

— То і не позна яшчэ,— падбадзёрыла адміністратарка.— Мой і то хоча на завочнае.

Пры гэтых словах яна бачком узлягла з процілеглага боку на перагародку, наблізіла да Ван Ваныча аголены локаць.

— Не перажывайце вельмі,— прамовіла спачувальна і ласкава.— Вам не падыходзіць сумота і хмурнасць. Як убачыла на лесвіцы, дык аж трывога ўзяла.

Жаночыя словы, відаць, заўсёды магічна дзейнічалі на Кухарчыка, а тут ён успрыняў іх з усёй узнёсласцю: павярнуўся тварам да адміністраторкі, нібы знячэўку крануў яе локаць і заўхмыляўся весела і падатліва.

— Не буду больш пра гэтыя турботы,— паабяцаў ужо зусім іншым голасам і вымаўленнем.— Пабачым, як яны тут усё павернуць... Вы мне скажаце, калі што важнае пачуеце ці ўбачыце... Добра?

— Я пазваню,— паабяцала жанчына.

— Можа ваш што пачуе? Бо ад мяне яны цяпер будуць прыхоўвацца.

— Прасігналю!..

Жанчына павярнулася на другі локаць, і на яе дэкальтаванай кофтачцы, ля самага разрэзу, калючымі халоднымі іскрамі бліснула брошка, падобная на белую гваздзічку.

— Слухайце, Інеса Пракоф'еўна! — ён упершыню так назваў яе.— Хацеў адразу спытаць, але... Сіе ўкрашэньіцэ...— ён асцярожна ўзняў руку і мезеным пальцам дакрануўся да яе грудзей,— вы ў якіх шыротах здабывалі?

— Кофтачку? — не зразумела жанчына, але ўсміхнулася прывабна і какетліва.

— Яна тожа люкс, но імею ў віду...— Ён зноў дакрануўся да грудзей жанчыны, але ўжо не мезенцам.— Імею ў віду вось гэтую гваздзічку..

— Дык гэта тут! — узрушана паведаміла жанчына.— У нашым ювелірным!

— У нашым? — Ван Ваныч здзіўлена вырачыў зрэнкі.— Даўно?

— Можа з тыдзень таму назад.

— Я заходзіў!.. Але такіх не бачыў.

— Дык вы думаеце... на прылаўку?..

— А... Разумею... Разумею... Колькі заплацілі?

— Паўсотні.

— Праўда? Ну, за такую прэлесць я і сотні не пашкадаваў бы.

— Мне і больш даюць,— жанчына ажывілася і ў размове, і ў рухах.— Але ж толькі апошнюю ўдалося захапіць. Позна мне пазванілі.

— Шкада, шкада-а,— расцяжна прамовіў Ван Ваныч.— Такую кветачку і я ўзяў бы... Прыгожая, украшае жанчыну...

Ён хацеў бы і яшчэ пагаварыць пра брошкі і іншыя ювелірныя рэчы. Тут у яго вельмі лёгка ўзбагачаўся лексікон і без ніякай натугі знаходзіліся тыя словы, якія амаль на ляту ўспрымаліся адміністратаркай. Але ў гэты час на другім паверсе скрыпнулі дзверы, Інеса Пракоф'еўна прыклала палец да сваіх густа падружоўленых вуснаў...

У Васільках часам ажываюць даўнія звычкі — рабіць з мухі слана. Гэта — як правіла. Але бывае і так, што спрабуюць слана ператварыць у муху. Гэта — выключэнне. Па адной прычыне ці па другой, але здараецца, што раптам Васількі ахоплівае трывога, а то і не адна, а некалькі. І спатрэбіцца немалы час, немалая людская работа, каб зменшыць гэтую трывогу або і зусім адагнаць.

Якія з'явы непакояць васількоўцаў цяпер?

Трывога першая.

Вёска Заброддзе, што непадалёку ад другога камбіната, правальваецца, і яе прыйдзецца пераносіць, бо залье вада.

Трывога другая.

Дуброўскі сад, самы вялікі ў раёне, пасаджаны ў першыя гады калектывізацыі, паджаўцілі хіміяй.

Трывога трэцяя.

Так могуць падсушыць і ўсе сады.

Трывога чацвёртая.

Саляныя адвалы, што ўсё разрастаюцца ўшыркі пры кожным камбінаце, распаўзуцца, размыюцца дажджамі, распыляцца вятрамі і атруцяць глебу ўсяго раёна.

У кожнай з гэтых трывог ёсць нейкая доля праўды, але ўся сутнасць у тым, якая гэта доля.

У першай трывозе.

Каля вёскі Заброддзе сапраўды адбылося апусканне глебы над штрэкам першага гарызонта. Але невялікае азярцо ўтварылася толькі на адным калгасніцкім агародзе. Гаспадар нават рады такому падарунку прыроды: соткі яму адвялі ў іншым месцы, а ў гатовым вадаёме ён гадуе качак і гусей. Ніякай пагрозы ўсяму Заброддзю няма, і геолагі сцвярджаюць, што і не будзе.

У другой.

Мінулым летам трохі дыхнула на Дуброўскі сад з цэха грануляцыі. Хімікі пусцілі новы цэх, а выдых з трубы не абясшкодзілі. Лісце пажаўцела, але не на ўсіх дрэвах, а на крайніх. Яблыкі ўсё ж даспелі. Цяпер вясною лісце адрасло, толькі асобныя галінкі на верхавінах пасохлі. Садоўнікі іх абрэзалі, і сад не страціў свайго ранейшага выгляду.

У трэцяй.

Сады растуць каля ўсіх камбінатаў, і нават зусім блізка. Растуць, цвітуць і родзяць. Больш таго: кожны камбінат, усе абагачальныя фабрыкі, усе ўпраўленні і розныя падсобныя службы старанна абсаджваюцца каштанамі, ліпамі (таполі ўжо не «ідуць», бо іх вясновы пух забівае каналізацыю), часам саджаюць і піхту, бярозу, і ўсё гэта добра прымаецца і расце. Палісаднікі і клумбы з'яўляюцца ледзь не перад кожным канторскім акном. І на вокнах стаяць вазоны.

А ў чым жа тут доля праўды? З чаго ў людзей узнікла трывога? Мабыць, з таго, што на першым камбінаце аднойчы заснуў дзяжурны механік і выпусціў попел на самы блізкі садок — вішні пасохлі, а на яблынях пачарнела лісце. Дык асталася ў васількоўцаў боязь, каб гэты механік зноў не заснуў...

У чацвёртай.

Усім відно, што саляных адвалаў, ці, як тут кажуць, «хвастоў», залішне многа. Імі засыпаюцца вялікія плошчы ўрадлівай зямлі. У першыя гады кожны камбінат засыпаў прыкладна пяць-шэсць гектараў. І сапраўды, калі б сыпаць так увесь час, то за некалькі год засалілі б адходамі ўвесь Васількоўскі раён.

Але ж не бедная наша зямля на разумных і старанных людзей. Пачалі яны думаць, мазгаваць і ўсталявалі такую канвеерную тэхніку, што ўся непатрэбшчына з абагачальных фабрык падаецца на якую хочаш вышыню і тэрыконы могуць расці ледзь не да памераў Казбека.

Каб салёнае не расплывалася ( у адходах многа чаго салёнага), вакол адвалаў выкопваюць глыбокія канавы — вясной і ўвосень у іх стаіць вада, салёная, як у моры. Але побач з гэтымі канавамі і нават па самых берагах канаў расце трава і рознае палявое зелле. Старыя адвалы таксама паступова зарастаюць дзядоўнікам, лебядою і нават маладымі парасткамі дрэў.

Гады два таму назад зімою ледзь не ўсе Васількі абляцела надзвычайная навіна. Выйшаў Аўгусцін Арлоўскі ў дазволены сезон на паляванне — у яго ёсць такое хобі: трохі пастраляць у вольны час, палавіць рыбу, улетку — схадзіць, а то і паехаць у грыбы. Узышоў на Тамілаву гару, што за першым камбінатам, і на чыстым, некранутым снезе ўбачыў заечыя сляды. Пайшоў па гэтых слядах, трымаючы дубальтоўку напагатове, і праз нейкі час — хоць вачам сваім не вер — сляды павялі на старыя адвалы. Канава вакол іх замерзла, яе прысыпала снегам — заяц з ходу пераскочыў яе.

«А чым я горшы?» — падумаў Аўгусцін. Разагнаўся і таксама пераскочыў канаву. Рушыў па следзе далей. І неўзабаве з-за куста дзядоўніку, крокаў за дзесяць ад паляўнічага, не надта спалохана ўзняўся гадавалы русак і моцнымі рыўкамі падаўся ўбок. Адскочыў на пэўную адлегласць ад паляўнічага, тады сеў, павярнуў касыя вочы на стрэльбу. І раптам нібы ўзляцеў з месца, аж снег закурэў з-пад ног, і неўзабаве знік у зарасніках.

У Аўгусціна не хапіла рашучасці стрэліць у яго. Ды як можна? Прыйшоў зайчык пад самы камбінат, ледзь не ў падсуседзі да шахцёраў, хацеў спакойна паспаць тут, на адвалах, а потым ноччу і пажывіцца чым-небудзь, можа нават і солі палізаць. І тут на яго са стрэльбаю!..

У той жа час паляўнічы зуд не даваў спакою: з-пад самых ног выскачыў заяц і сеў, пасядзеў, нібы

пасмяяўся над такім паляўнічым. Каму раскажаш пра гэта? Засмяюць! А спытаюць жа сябры-паляўнічыя: «Як першы выхад па сняжку? Што бачыў, што чуў! Ці многа прынёс на поясе?»

Галоўнае ж, хто паверыць, што паджартаваў касы і потым здзекліва паказаў шэры з бялявінкай хвост тут жа, каля дому, у такім месцы, дзе раней нішто не вялося і не прыжывалася, нават птушка абмінала ў палёце.

Адолела паляўнічага рашучасць, што калі зноў ён падыме гэтага, відаць, надзвычай хітрушчага шарака, то стрэліць у яго: няхай ведае, касы, як насміхацца над людзьмі, і ў прыватнасці з Васількоўскага таварыства паляўнічых і рыбаловаў!

Аўгусцін збочыў, каб узяць напрамак па свежым следзе зайца, але праз некалькі крокаў ледзь сам не спалохаўся: здаравенны шарак шургануў снегам у яго за спінаю і пакумельгаў у процілеглы бок. Зноў стрэлу не адбылося: тут проста разгубіўся паляўнічы, ды неяк і рукі са стрэльбаю не падняліся. Тым больш што гэты заяц і не супыняўся, і не аглядваўся на паляўнічага, а быццам бы пакрыўджана і ленавата пагойсаў шукаць сабе іншага ўтулку, каб даспаць да вечара ды дасніць свае заечыя сны.

Далей Аўгусцін не пайшоў. Якое паляванне каля сцен камбіната? Тут стрэльні, дык больш людзей напалохаеш, чым зайцоў. Выскачаць упраўленцы з будынка і адразу ўбачаць, што нейкі вярзіла ў паляўнічых ботах мерае снег на адвалах. Могуць нават пазнаць. Ды і як можна бабахаць у такіх блізкіх, амаль што хатніх жывёлін? Яны тут аблюбавалі сабе амаль запаветную кашару; відаць, і летам тут жылі, можа нават выводзіліся, абароненыя ад усіх бед кругавой канавай.

Далейшае паляванне ў Арлоўскага ў той дзень не пайшло, бо дзе ён ужо ні хадзіў да самага вечара, то ўсё думаў пра тых зайцоў, што бачыў на адвалах. «Жывуць і гадуюцца... Вунь ужо якія вялікія! І сытыя, як ліні...»

Вярнуўся дадому з голымі рукамі, але давольны тым, што бачыў зайцоў каля дому. І на думку ўжо не прыходзіла меркаванне, як бы перастраляць іх,

а хацелася прыдумаць нешта такое, каб аберагчы гэты заечы прытулак, прыхаваць яго ад іншых паляўнічых, бо там, дзе жыве заяц, можа ўсё жыць.

Узнікала цікавая, хоць, вядома ж, уяўная перспектыва — ператварыць усе месцы адвалаў у заечыя кашары. Але ж насыпаліся вакол камбінатаў высокія тэрыконы, туды і заяц не ўзбярэцца. І ўбачылі б там яго з усіх бакоў.

Клопаты вучоных, канечне ж, не пра гэта. У цяперашніх «хвастах» нямала каштоўных выкапняў. Карысна было б іх нейкім чынам раздзяліць, абагаціць і зрабіць патрэбнымі для людзей, а не толькі для зайцоў. Гэта справа будучыні, аднак — не далёкай.

Чарговая навуковая задумка — не падаваць розную непатрэбшчыну на-гара. Яна будзе аставацца пад зямлёю, а камбайны возьмуць з радовішчаў толькі карыснае.

Яшчэ думка — засыпаць «хвастамі» адстаўныя, адпрацаваныя штрэкі.

Дык вось, ужо нават з гэтага відно, што вельмі цікавы і своеасаблівы наш малады гарадок Васількі. Тут можна было ўбачыць і пеўня на вуліцы, і якога-небудзь шаха з шахіняю. Можна пачуць самыя наіўныя плёткі і высоканавуковыя думкі. І розныя праблемы ўзнікаюць штодзённа. Прыносяць яны нямала клопатаў гаркому, гарвыканкому, дырэкцыі і парткому вытворчага аб'яднання, усім упраўленням, партыйным і прафсаюзным арганізацыям камбінатаў і руднікоў. Гэта наогул. А калі ўзяць асобы, то наўрад ці хто ў Васільках бачыў ці чуў, каб, скажам, такія людзі, як Антон Паўлавіч Шамота, генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання, або Павел Васільевіч Тычына, парторг аб'яднання, узялі б калі ў рукі вуду ды на мора, на сваё ж, Васількоўскае... Або стрэльбу на плечы ды на зайца, на качку... Лес таксама пад бокам, і азярцы ёсць там з дзічынаю.

Хутчэй можна пачуць — дзе наўмысля, а дзе мімаходзь — словы аб тым, што вось прыйшлі шахцёры на начную змену, а Шамота ўжо там. Ён быў маркшэйдэр, сумуе па шахтах, а галоўнае — хочацца чалавеку сустрэцца тут са сваімі даўнімі сяб-

рамі, цяпер начальнікамі ўчасткаў, энергетыкамі, машыністамі камбайнаў. І калі назірае ён прыгожую і зладжаную работу камбайнаў або сочыць, як старанна і настойліва прабівае сабе дарогу падземная аўтаматыка, дык адарвацца не можа, забывае, у які час сутак там знаходзіцца: удзень ці ноччу. І адчувае задаволенасць, калі ўспамінае, што цяпер позняя ноч — значыць, асабісты яго час, не службовы, ніхто ў прыёмнай не чакае, ніхто ніадкуль не звоніць. Падчас і сумок адольвае, што не можа вярнуцца да свае ранейшай справы: спускацца ў шахту разам з шахцёрамі, падымацца таксама з імі. І дружыць шчыра, па-рабочаму, усё сваё добрае і нядобрае дзяліць папалам.

Можна пачуць і тое, што прыйшлі флататары на змену, а Шамота ўжо там... Рамонтнікі на змене, а Шамота ўжо там... Лабараторнікі на змене, а Шамота там...

Наконт Тычыны скажуць амаль тое самае, але яго больш яднаюць з падземнай аўтаматыкай. Гарняк па адукацыі і працяглай практыцы, кандыдат навук па тэхніцы, ён і ў снах сваіх бачыць тую шчаслівую пару, калі шахцёрам не трэба будзе ўвесь час пыліцца і слепнуць у шахтах, калі яны будуць кіраваць магутнымі камбайнамі і іншай падземнай тэхнікай з наземных пультаў. Супольнасць думак і імкненняў зблізіла, здружыла яго з Аўгусцінам Арлоўскім, і ўжо ўся камбайнавая брыгада ведае, што калі ў іх пачынаецца якая новая спроба ці выверка па лазерах ці электронах, то Павел Тычына разам з імі.

Добра ўсё гэта ці кепска? Тут можна збіцца на звычайную сацыялогію, але ўтрымацца хоць ад кароткага слова наконт гэтага нельга. Канечне ж, яшчэ не прыдуманы такія спосабы кіравання, каб аднаму чалавеку ўсюды паспець і нідзе нічога не забыць, не абмінуць. У вытворчым аб'яднанні каля дзвюх тысяч інжынерна-тэхнічных работнікаў, дзевяць тысяч рабочых. Адных толькі нотаў, ваіраў, вохаў, кіпаў, рмэцаў, анацізаў развялося столькі, што іх нават у памяці цяжка ўтрымаць. Аднак жа трэба штодзённа сачыць за іхняй работай і даваць накірункі.

Партком аб'яднання мае цяпер пад сваім началам, акрамя камсамола, прафсаюза і народнага кантролю, семдзесят розных саветаў, камісій і таварыстваў. У тэхсакратара ёсць машынапісны пералік усіх гэтых арганізацый, а сам Тычына аднойчы сў спрэчцы з Арлоўскім назваў па памяці толькі сорак і спыніўся на таварыстве па выратаванню на вадзе.

...У мінулым годзе адзін п'яны купальшчык трохі хлябнуў з Васількоўскага мора. Адкачалі яго. А назаўтра выклікалі ў гарком партыі не старшыню па выратаванню на вадзе, а сакратара парткома.

Глядзі за ўсім, адказвай за ўсё. Іншага погляду на кіраўніцтва быццам бы і няма ў Васільках. І можа таму цяпер узнікла тут яшчэ адна трывога, мабыць, пятая, калі ставіць іх у чаргу. Разнеслася, разляцелася па Васільках пагаласка, што нейкі Ван Ваныч выявіў нейкае «чэпэ» на першай абагачальнай фабрыцы і цяпер наробяць новага клопату і Шамоту, і Тычыне.

Прыехала камісія з Масквы!..

## VIII

Мальвіна прыляцела ў Ленінград адвячоркам, а пакуль дабралася да свайго інтэрната, дык і зусім сцямнела. Пакой быў замкнуты. Дзяжурная па інтэрнату выдала ключ з металічным нумарком, а пры ім — ражок газеты, згорнуты ў цыгарку. Мальва здагадалася, што гэта ёй. Разгарнула, прачытала:

«Мы ў актавым, на вечары. Прыходзь, Мальгаша!

У кутку пакоя, трохі прыкрыты адзежнай шафаю і тумбачкай, стаяў яе ложак, засланы яе рукамі: ніхто на ім нічога не крануў за мінулыя дні, ніхто не прысеў, не прылёг. Значыцца, калі і хлопцы наведваліся, то ім не дазвалялася падыходзіць да гэтага ложка. І цяпер Мальва найбольш адчула, што яна вельмі стамілася, і ложак прыцягваў яе, нібы магнітам. Здавалася, што гэта і ёсць тое запаветнае месца, дзе можна па-сапраўднаму адпачыць,

спакойна выспацца, забыўшыся на ўсё тое, што было ў мінулыя дні.

Яна нікуды не пайшла. Хоць і добра б пабачыць сваіх суседак па пакоі, даведацца, як там з вучобай, ці заўважыў дзядуля-дэкан, што яна спазнілася на два дні. Але пры іх не да сну было б.

Яна заснула, як толькі паклала галаву на падушку, нібы акунулася ў таямнічую суцэльную лёгкату і асалоду, дзе няма ні трывог, ні клопатаў, ні нават спраў. Не чула, як прыйшлі дзяўчаты, як таксама пакладліся спаць. Праўда, дзяжурная ім сказала, што, нарэшце, з'явілася Арлоўская, і яны ў парозе пазнімалі туфлі, хадзілі на дыбачках, размаўлялі шэптам, святла не ўключалі.

Назаўтра зранку — лекцыі, потым Мальва пайшла ў бібліятэку, каб хоць трохі нагнаць упушчанае. Прыйшла ў інтэрнат і здзівілася, што ў пакоі быў накрыты іхні чатырохкантовы столік, за якім яны і харчаваліся, і рыхтаваліся да семінараў. Пасярэдзіне гэтага століка фанабэрыста вылучаўся маленькі фарфоравы самаварчык, падобны на падбочанага заліхвацкага танцора.

— Сядай, Мальгаша! — запрасіла старэйшая з суседак.— Сядайце і вы, дзяўчаты! — звярнулася яна да тых, што прыйшлі з суседніх пакояў.

— А што гэта ў вас? — здзіўлена спытала Мальва.— Імяніны ў каго? То я ж нічога не ведала!

— Гэта не ў нас, а ў цябе,— з вясёлай урачыстасцю паведаміла ўсё тая ж студэнтка.— Ты даруй нам, Мальгаша. Па вачах тваіх мы заўважылі, што з табой нешта здарылася, нешта важнае адбылося ў тваім жыцці, і рашылі заглянуць у твой пашпарт: вось ён тут ляжаў...

— Што?..— Мальвіна глянула на сваю тумбачку і з жахам убачыла, што пашпарт сапраўды ляжыць зверху, быццам бы напаказ усім. А яна ж хацела схаваць яго і нікому не прызнавацца, што была ў загсе. Хаця б да таго крайняга выпадку, калі ўжо нельга будзе лічыцца не сямейнай.

— Мы шчыра віншуем цябе, Мальгаша,— гаварыла студэнтка.— І вось прымі ад нас... На памяць аб такой знамянальнай падзеі.— Яна ўзяла са ста-

ла падбачэністы самавар і абедзвюма рукамі падала яго Мальвіне.

«Чаго ты лазіла ў мой пашпарт! — хацелася той крыкнуць у адказ.— Хто цябе прасіў? Адкуль ты ведала, знамянальная ў мяне гэта падзея ці не знамянальная?»

Што гэткае «даследаванне» правяла менавіта Люда, старэйшая за ўсіх тут студэнтка, Мальва была ўпэўнена. Другая яе суседка не адважылася б правяраць чужы пашпарт: дзяўчына сціплая, сарамлівая. А Люда, хоць і не шкодлівая, не зласлівая, але больш развязная і спрактыкаваная, ужо сама пабывала замужам і гадуе дзіцё ў мацеры. Рабіць непрыемнасці Мальве яна не хацела, таму вельмі здзівілася, калі заўважыла, што сяброўка не хоча браць самавар.

— Ад усіх нас...— разгублена паўтарыла яна.— Мы ж хочам, каб ты шчаслівая была... У каханні... У сям'і... Вось таму і самавар...

Мальва ўзяла падарунак і раптам так роспачна і горка заплакала, што рукі задрыжалі і самавар выпаў — сама не заўважыла, як гэта здарылася.

— О, гэта сапраўды на шчасце! — знайшла словы Люда.— Адны чарапкі цяпер! — Яна нагнулася, каб сабраць фарфоравыя аскабалкі, і каля яе адразу ж укленчыла яшчэ некалькі дзяўчат, памагатых.

Назаўтра пасля заняткаў у пакой зайшоў той другакурснік, якога перад маем Мальва чакала ды не дачакалася. Люда запрасіла яго сесці, а сама непрыкметна кіўнула трэцяй напарніцы. Мальве сказала зусім сур'ёзна і холадна:

— Нам трэба ў бібліятэку!.. Вернемся не скора!

— Я прыйду да вас,— паабяцала Мальва.

Хлопец паварушыўся на крэсле, мільгнула ў яго думка, што можа і самому падняцца ды пайсці, але ж вельмі хацелася пагаварыць з Мальвай, спытаць, чаму яна так раптоўна (а можа і не раптоўна?) выйшла замуж. Аб гэтым ён даведаўся ад Люды. Ад яе ён не хаваў сваіх добрых пачуццяў да Мальвы.

— Перш за ўсё я хацеў бы папрасіць у цябе прабачэння,— пачаў студэнт гаворку, калі суседкі пайшлі, а Мальва прытулілася на зэдліку ля шафы.— Я не змог тады прыйсці...

— Гэта ўжо не мае значэння,— ледзь не перабіла яго Мальва.

— Я знаю,— памяркоўна азваўся студэнт,— але мне хацелася, каб ты ведала, што ў мяне была важная прычына: тэлеграму атрымаў, што вельмі кепска стала маёй маці — у яе былі сардэчныя прыступы і раней. Заказаў на пошце размову і доўга чакаў...

— Ну, і як старая цяпер? — спачувальна спытала Мальва. Чакала пачуць, што ўсё ўжо добра, трывога была заўчаснай, але хлопец маўчаў. Яна глянула на яго і ўбачыла, што на прыхаваных дрыжачымі павекамі вачах блішчаць слёзы.

— Памерла маці,— авалодаўшы сабою, паведаміў хлопец.— Я таксама вось толькі сёння раніцаю прыехаў... Першамай у мяне такі быў...

«У каго вяселле, а ў каго памінкі»,— чамусьці адразу мільгнуў у памяці такі кантраст. Мальва апусціла вочы, і ёй стала так сумна і горка, што гатова была сама расплакацца. І больш ад крыўды на сябе: чаму ні разу не падумалася, нават не ўявілася, што ў гэтага чалавека магла быць сур'ёзная прычына не стрымаць сваё абяцанне, што ён не з такіх, каб кідаць слова на вецер. Чаму ў душы такі недавер да людзей? Няўжо ад таго, што яшчэ мала іх ведала? А можа вінаваты некаторыя з тых, што да гэтага часу сустракаліся ёй па дарозе: верыла ім, цешылася іхняй дружбай, а потым надыходзіла балючае расчараванне.

— Ты паехала тады праз мяне? — даволі самаўпэўнена, але з разлікам на ўзаемную шчырасць запытаў хлопец.

Мальвіна не ведала, што адказаць, таму што сама яшчэ не прачула, не прааналізавала гэтага. Хлопец адчуў няёмкае становішча і паспрабаваў зрушыць гэтую гаворку чарговым запытаннем:

— Ну, а як зразумець тваю гэтую паспешнасць?

Мальвіна моўчкі глядзела на свайго субяседніка. Шчырыя, прыгожыя вочы ў яго, чысты, бялявы

твар, відаць, ад светлых валасоў, пышнымі валкамі зачасаных на цемя. Лоб гладкі, амаль без зморшчын, і відзён з-пад валасоў увесь. (У Савелія ён неяк прыціснуты валасамі). У гэтага лысіна паявіцца гадоў пад сорак, а той і састарыцца з шавялюраю...

...Сядзіць гэты на крэсле — і то ўвесь падабраны і стройненькі, як той самаварчык, што ўчора разбіўся. А паглядзець на яго ў хадзе або ў танцах... Мабыць, вачэй не адвядзеш... А спусціць бы яго ў шахту?..

Мальвіна злавіла сябе на гэтых адвольных параўнаннях, спахапілася і ледзь прыкметна пачырванела.

«Сказаць бы яму пра гэта... Можа было б апраўданне, чаму маўчу... Прыгожы, ветлівы, але, мабыць, не той, перад кім можна выварочваць сваю душу. Роднай мацеры не здолела ўсяго сказаць... Роднаму брату...»

Мальва пайшла ў бібліятэку не так чытаць, як далучыцца да сваіх пакаёвых суседак. У калідоры інстытута сустрэўся дзядуля-дэкан, увесь беленькі, але з чарнявай бародкай клінам. Ветліва і з увагай адказаў на прывітанне, але не супыніўся (відаць, некуды хутка трэба было), не стаў распытваць, чаму спазнілася. Дзякуй богу — не ведае прычыны, Люда не паспела расказаць. Гэтай студэнтцы-жанчыне, пэўна ж, вельмі імпанавала тое, што цяпер на факультэце не адна яна сямейная, таму рэкламавала Мальвініна замужжа, як самую надзвычайную навіну.

У бібліятэцы суседак не было. Значыць, Люда зманіла: сышла з дому і другую звяла проста для таго, каб даць прастор высвятленню ўзаемаадносін паміж Мальвай і Валодзем, прыгожым другакурснікам. Куды ж дзяўкі пайшлі? Вельмі добра было б сустрэць іх цяпер, асабліва Люду. Сустрэць і сказаць, што пашпарта цяпер ужо няма на тумбачцы. І не будзе, бо схаваны надоўга. І Людзе няма чаго вельмі разносіць усюды, што яшчэ адна першакурсніца стала сямейнай.

Інтэрнацкая навіна пратрымалася ў пакоі некалькі дзён, а потым стала паціху ападаць і забывацца. Ішла вучоба, студэнтаў адольвалі розныя клопаты, выпадалі і такія нагрузкі, што патрабавалі і дзённых, і начных карпенняў. Надараліся часіны, калі нават і сама Мальвіна забывалася аб тым, што яна ўжо сямейная: розніцы быццам ніякай. Васількоўскія каларыты таксама паступова прытушоўваліся, толькі матчыны вочы ўяўляліся часта, вельмі пакрыўджаныя і сумныя.

І вось выбегла аднаго разу Мальва з інтэрнацкага пад'езда, па студэнцкай звычцы пусцілася на ўвесь марафон да прыпынку і раптам адчула, што быццам бы яе нехта паклікаў. Кальнула пад сэрцам ад гэтага воклічу, голас разануў слых знаёмым хрыпам. Яна пазнала гэты голас, у момант пранясліся ў памяці васількоўскія вуліцы і завулкі, дзе яна не раз чула такія ж поклічы. Нейкая падсвядомая сіла нібы падштурхнула яе пабегчы яшчэ мацней. Мільгнула думка: дасягнуць прыпынку, а там ускочыць хоць у які транспарт, каб толькі знікнуць.

Вокліч паўтарыўся яшчэ раз, хоць ужо і не так упэўнена, а затым Мальвіна адчула, што за ёю бягуць, ды з такой шпаркасцю, што вось-вось нагоняць і схопяць за плечы. Такія выпадкі таксама былі ў Васільках. Імпэт уцёкаў пачаў меншаць можа і па гэтай прычыне, але нейкая раптоўная млявасць адольвала ад вострага і пякучага на ўсё нутро пытання: «Ад каго ўцякаю? Ад таго падхмялелага прыставалы, які часам не пускаў з танцпляцоўкі дадому, ці ад свайго цяперашняга мужа, па ўсіх формах законнага?»

— Чаго ты, га?..— здзіўлена і трохі нават спалохана пытаўся Савел Горбік.— Не пазнала, ці што? Здрастуй!

Мальвіна квола і нехаця, нібы зусім выпадковаму чалавеку, працягнула руку, а на пытанне не адказала.

— Быццам збаялася мяне?

— Хаця б напісаў, што прыедзеш...— няўпэўнена папракнула Мальвіна.— Мне вельмі трэба ў інстытут.

— То бяжы,— памяркоўна сказаў Горбік.— Я прыйду пазней. Пахаджу, паезджу па горадзе.

...На лекцыях увесь час Мальвіна думала пра гэтае нечаканае і нясвоечасовае наведванне: Людміла зноў пачне сваю даследчую дзейнасць, будзе ўсё абмяркоўваць і параўноўваць, а потым — расказваць у інстытуце. А гэты ж, шахцёр васількоўскі, нават касцюма добрага не адзеў. Ды і нос нешта чырванаваты. Забыў адхіліцца, як падаваў руку, дыхнуў у твар... З сумам адчувала, што прыкры пах цыбулі нібы прыліп да яе і занёсся ў інстытут, чуцён нават у аўдыторыі.

...Яны сустрэліся ў такім цокальным кафетэрыі, дзе кава амаль заўсёды замянялася халодным чаем, а вінегрэт — перакіслай капустай, знайшлі тут вольны столік, бо людзей было мала.

— Я вазьму што-небудзь? — узнёсла сказаў Савел і жвава накіраваўся да буфета. Стаяў там доўга, аб нечым размаўляў з маладжавай куксатай буфетчыцай, і Мальвіна бачыла, што тая ўхмылялася.

«Умее падладзіцца,— падумала яна.— Да ўсякай дарожку знойдзе».

Ёй успомнілася, як аднойчы выпрошвала тут сто грам халвы перад канцом работы. І пайшла з пустымі рукамі.

Савел прынёс на стол спачатку дзве пляшкі піва і два фужэры, а потым — сапраўдны вінегрэт, скрылікі вяндліны, масла, сыр.

«Усё знайшлося для яго»,— чамусьці падумала Мальвіна і пакуль што не магла вызначыць, добра гэта ці кепска. Заўважыла толькі наконт піва: навошта дзве пляшкі? А харчоў каб і больш набраў, то не пярэчыла б — голад адчуваўся даволі востра.

Пасля першага фужэра, які быццам бы сам выліўся ў рот, Горбік павесялеў, падбадзёрыўся, а галоўнае — пасмялеў, зразумеўшы, што Мальвіна ні ў чым не стрымлівае яго і нават сама выпіла глыткі два. Пачакаўшы з хвіліну і ў душы трохі падзівіўшыся, што студэнтка з такім смакам і спехам загортвае відэльцам вінегрэт, ён неўпрыкметку выняў з кішэні чацвярцінку, звычайным рухам паль-

цаў адкаркаваў яе і лінуў сабе ў фужэр адразу з дзвюх пляшак: піўной і гэтай.

— Ты што? — Мальвіна адарвалася ад талеркі.— Іначай не можаш?

— Дык я і табе хоць каліўца... Радзі нашай сустрэчы!..

— Не трэба мне! А ты калі так, то я пайду адсюль.

Горбік адставіў фужэр, прымоўк.

— А куды мне гэта? — паказаў з рукава адкрытую пляшку.— Угледзяць — аштрафуюць: тут спіртныя забаронены.

Яго непаважлівая спроба аглушыць сябе «яршом» нават пры першай сустрэчы з жонкай насцярожыла Мальвіну, і зноў сталі наплываць сумныя думкі аб мінулым, міжвольна ўзнаўлялася ў памяці і прыкрым цяжарам асядала на сэрцы тое, што за апошнія часы крыху ўляглося і набыло такую форму, калі можна было трымацца ў спакоі і працаваць, вучыцца.

— Ты, мабыць, не адыходзіш ад свайго...— з горкім папрокам сказала Мальвіна. У яе словах не было настойлівага пытання, таму Горбік маўчаў, зрабіў выгляд, што быццам і не чуў яе слоў, бо ўсю ўвагу скіраваў на іншае і можа нават больш важнае для яго: куды дзець адкаркаваную пляшку, калі не выліць яе ў фужэры?

— Са сватам сваім сустракаўся? — ужо выразна запытала Мальвіна.

Горбік ледзь прыкметна скрывіў губы ва ўсмешку, але не кідаў свае неадкладнай справы: спрытным рухам абедзвюх рук (у адной — гарэлка, у другой — піва) напоўніў фужэры, агледзеўся на буфетчыцу, выбраў зручны момант і занёс пляшку ў сметніцу. Людзей за суседнімі столікамі не саромеўся, мяркуючы, напэўна, што і яны прыйшлі сюды са сваёй гарэлкай. Сапраўды, Горбікава пляшка дзынкнула ў сметніцы, хоць апусціў ён яе туды вельмі асцярожна і плаўна.

— Паспрабуй, вазьмі! — раптам зусім сур'ёзна прапанаваў ён Мальвіне.— Хоць раз у жыцці! Тады і пагаворым. А то вельмі часта не разумееш мяне, усё адгароджваешся, нібы якой сценкай засла-

няешся, а тады праз сценку тую і гаворыш.— І ён падаў ёй фужэр.

Імгненны парыў Мальвіны — не зважаючы ні на што, выцяць па гэтым фужэры, ды так, каб увесь «ёрш» выплеснуўся яму ў твар, чамусьці сціх, нібы паралізаваўся, і яна пакуль што нават не варушыла рукою. Горбік глядзеў на яе з чаканнем і мальбою, сам пакуль што не піў. Вочы яго амаль не маргалі, ахутаныя чырванаватай абалонкай, яны поўніліся надзеяй і трывогай. Ведаючы характар Мальвіны, Савел адчуваў напружанасць і небяспечнасць моманту: яна магла рэзка і бязлітасна абарваць яго намер і тут жа выканаць сказанае раней — устаць і пайсці. Гэта магло б быць канцом іхніх узаемаадносін, бо Горбік помніў, з якой самаахвярнасцю Мальвіна ратавала яго ў міліцыі, і, магчыма, гэта была яе апошняя карта. У той жа час ліпела ў душы надзея і на лепшае: колькі разоў дзяўчына адступалася ў сваіх прынцыпах дзеля яго. Гэтым і прыцягвала ўсё больш і больш, на гэтым часта і грунтаваліся іхнія зближэнні.

...Рука Мальвы раптам здрыганулася, рыўком падалася да фужэра. Горбік насцярожыўся, разгублена адхіліўся да спінкі крэсла. Мальвіна няўпэўнена і няўмела ўзяла двума пальцамі за стойку фужэра, адчула, што так ён можа нахіліцца не туды, куды трэба; падала руку вышэй і абхапіла пальцамі гладкае, халоднае шкло, нібы хочучы прыкрыць ад вачэй тую мутнавата-жоўтую сумесь, якая яшчэ пашумвала белай пенай і пагойдвалася ад нераўнавагі пасудзіны. Жанчына трымала фужэр, а Горбік напружана чакаў, сачыў за яе рукою, раз-пораз паглядваў у вочы, а свайго фужэра не браў, і там ужо амаль поўнасцю ўлеглася пена.

«Няўжо ліне ў твар?» — міжвольна ўзнікла ў яго страшэнна крыўдная і быццам бы зусім недарэчная думка. Але Мальвіна паднесла фужэр да сваіх вуснаў і асцярожна глытнула. Угледзелася потым у вадкасць, на якой увачавідкі распаўзалася, знікала пена, і глытнула яшчэ раз, ужо больш поўна і смела. Адчула, што ў яе вельмі ж добра ўталяецца смага, якая адчувалася ледзь не з самага ранку — відаць, ад кількі, а цяпер яшчэ памацнела — ма-

быць, ад вінегрэту. Ды ў горадзе сёння душна. Ніякіх смакавых прыкрасцей у «яршы» таксама не выявілася: не мёд, вядома, не ліманад, але ж браць у рот можна. Не атрута.

Горбік здзівіўся да радаснай узнёсласці, але, стараючыся не паказваць гэтага, упэўнена нахіліўся над сталом, падняў свой фужэр на такі ўзровень, калі належыць гаварыць тосты, ды, не сказаўшы нічога, глытнуў толькі два разы і паставіў свой фужэр, амаль пусты, побач з Мальвініным.

— Пра капітана пытаеш? — загаварыў спакойна, добразычліва.— Разумею, што маеш на ўвазе. Сустракаўся з ім... Але не там, дзе ты думаеш... На вуліцы. Пра цябе пытаўся...

— А пра цябе?

— Мяне прасіў, каб даў яму магчымасць спакойна выйсці на пенсію. Я сказаў, што перашкаджаць не буду. А калі часам па поўнаму праву шахцёра...— Савел адхіліў крысо пінжака і выняў з кішэні прадаўгаваты складанчык мясцовай шматтыражкі.— Вось так папрацаваўшы, то, бадай, можна і ўзяць каліва... Адзначыць, так сказаць...

Ён цераз стол падаў друкаваны лісток Мальвіне. Тая з падкрэсленай абыякавасцю разгарнула газету, спынілася вачыма на першай паласе і пачала ўважліва чытаць. Газету трымала над сталом і нібы наўмысля так, што лічбы і зводкі першай паласы былі ў яе перад вачыма, а партрэт Горбіка на другой паласе даволі настойліва глядзеў на свой арыгінал. Мальвіна не спяшалася пераварочваць двухпалоску, а Горбік не падганяў яе, спакойна чакаў, пакуль дойдзе тая патрэбная чарга.

— Спытай там, ці можна мне сюды выпісаць гэтую газетку? Так, бывае, хочацца прачытаць пра сваіх...

«Вось прачытаеш зараз! — хацелася сказаць Горбіку, але перашкаджаць не адважыўся.— Няхай аглядвае ўсё, што яе цікавіць». Успомніў: на першай паласе — абавязацельствы той вопытнай фабрыкі, на якой Мальвіна працавала, а таксама нарыс мясцовай журналісткі пра аўтаматыку падземных работ. Увесь той нарыс прысвечаны Аўгусціну і яго брыгадзе, якая пры дапамозе вучоных настойліва

і бесперапынна праводзіць складаныя эксперыменты на камбайнах.

Мальвіна забылася пра яду на стале, пра пачатую гаворку, яна аж прыхілілася над газетай. Горбік не бачыў яе вачэй, газета засланяла, але, відаць, адчуваў, што яны ледзь не на вылёт пранізваюць газетны ліст, углядаюцца ў кожны радок, у кожнае слова і за ім бачаць сваіх адданых сяброўак на фабрыцы, свайго брата ў шахце, заўсёды стараннага, заклапочанага, неспакойнага. Доўгі час не пісаў, пэўна ж, разам з матуляй пакрыўдзіўся на яе за такое нечаканае самаўпраўства. А ўчора было пісьмо, і ніводнага слова папроку ў ім няма. І пра работу зусім коратка, дзесятая доля таго, што сказана вось нават у гэтым нарысе.

— Дык пра цябе тут нічога,— не надта здзіўлена сказала Мальвіна.— Амаль усе Аўгусцінавы хлопцы ўпамінаюцца, а цябе няма.

— Пра мяне асобна,— не ўтрымаўся Горбік.— Глядзі на другой паласе.

Мальвіна перавярнула двухпаласку, спачатку прачытала ўсе загалоўкі зверху, а тады глянула на партрэт шахцёра ў правай калонцы знізу: гарняцкая каска з вялікім казырком, пад ім — даволі самавіта вытыркае доўгі, трошкі прыгнуты над вусамі, нос, а над ім — электраліхтар, скіраваны проста на Мальвіну і, мабыць, уключаны, бо шкло белае, быццам асвятляе ўсю паласу. З левага боку відно адно вуха, вялікаватае для гэтай галавы, хоць чалавек і ў касцы, зусім плоскае, без таго «блінчыка», на які жанчыны вешаюць завушніцы або прымацоўваюць кліпсы, а мужчынам ён надае мяккату і прывабнасць. Вуха нешта нагадала, і тады Мальвіна ўважліва ўгледзелася ў адрэтушыраваны здымак мясцовага фатографа, потым ледзь прыкметна кінула пагляд на Горбіка. Здалося, што ў натуры ён не такі: калі няма каскі і доўгага казырка, а сядзіць чалавек у пышнай шавялюры, то і нос выглядае меншым і вытыркаць яму няма з-пад чаго. Вуха сапраўды плоскае, але тут у натуры, яно прыкрыта валасамі і не выглядае занадта вялікім.

У вачах раптам нешта паплыло, закружынялася... Перад вачыма сталі мільгаць і мітусіцца два

чалавекі: адзін — насупраць, другі — на фотаздымку. І быццам бы зусім розныя, не падобныя... У таго, што насупраць, вочы чырвоныя і крыху прыпухлыя, нібы ад доўгай бяссонніцы. У гэтага, што на фотаздымку,— пагляд сур'ёзны, упэўнены, нават крыху ўзнёслы. Той, што насупраць, глядзіць на яе, сочыць за кожным рухам, а з фотаздымка вочы глядзяць паверх людзей і трохі ўбок, нібыта вызначаюць сваю надзейную перспектыву.

А можа гэта ад «ярша»? Мальвіна быццам і разумела, што гэта партрэт Горбіка, але чамусьці не верыла. Хіба карыкатурны? Не. Усё тут не перабольшана да смехаты і не пераменшана. У касцы і спяцоўцы яна яго ніколі не бачыла, таму магла б не пазнаць нават і пры сустрэчы. Аднак тут, на партрэце, усё ж заўважала некаторыя знаёмыя рысы, толькі яны былі няўстойлівыя: часам выразна свае, а часам быццам бы зусім чужыя.

— Гэта хіба ты? — разгублена і не ўласцівым ёй голасам спытала Мальвіна, паказваючы відэльцам на фотаздымак.

— А хто ж? — смяшліва адказаў Горбік і ўзяў у руку свой фужэр.— Давай глытнём яшчэ патрошкі, то можа ясней усё стане.

Мальвіна не дакранулася да фужэра, адчувала, што дарэмна і раней пайшла на гэтую рызыку. У той жа час не магла адкінуць раптоўную думку аб тым, што Савел і тут схітрыў, хоць можа і не зусім злаўмысна. Чаму б яму не ўзяць нечага слабейшага, больш спадладнага жанчыне?.. Навошта спатрэбіўся гэты «ёрш»?.. Няўжо Горбік прадбачыў, што засмаглая і прагаладалая студэнтка, ды яшчэ растрывожаная нечаканай сустрэчай, можа прыкласціся да фужэра і ап'янець? Тады стане больш лагоднай, і можна будзе вырваць у яе патрэбнае абяцанне або і схіліць на большую згаворлівасць.

— Чытай пад нізам! — сказаў Горбік, асушыўшы свой фужэр.

У курсіўнай тэкстоўцы было сказана, што машыніст праходчага камбайна Савелій Горбік амаль удвая перавыканаў сваё месячнае заданне і стаў ударнікам камуністычнай працы.

Радкі захісталіся ў вачах, і літары скакалі і перабягалі з месца на месца, нібы жывыя. Мальвіна яшчэ раз перачытала гэты тэкст, потым праверыла, ці не пераблытала калонку, кінула на стол відэлец і працерла далонню вочы: «Горбік — ударнік камуністычнай працы?.. Проста з выцвярэзніка? Вось гэта дзіва ў Васільках!.. А як жа Аўгусцін?.. Дзе яго прынцып?..»

— Чытай яшчэ ніжэй! — ужо амаль загадаў Горбік.

Наступныя радкі хоць і не змяншалі ў Мальвы здзіўлення і абурэння, але хоць трохі прасвятлялі сутнасць справы: свой рэкорд Савел паказаў не ў Аўгусцінавай брыгадзе, а нават у другім рудніку і, як помніла Мальвіна, у самым адсталым калектыве.

— Ты што?.. Часова перайшоў? — пераадольваючы неспадзяваны момант свайго ахмялення, спытала Мальвіна.— На прарыў?

— Чаму часова? — перапытаў Горбік.— Назаўсёды! Пакуль не выганяць. Трэба ж вучыць людзей новым метадам!

— У цябе ёсць метад?

— А як жа! Вось калі захацеў, дык падаў такі вал, якога ніколі там не бачылі. І калі б не гэты наш сват, як ты кажаш, то даў бы рэкорд і ў гэтым месяцы. А то выпілі пасля рэкорднай палучкі, выйшлі на вуліцу, а ён ужо тут, як анёлак з неба. Нікога не чапае, а толькі да мяне: «Горбік, дзе тваё сумленне? Ты ж падпіску даваў. (Ужо колькі разоў да мяне з гэтай падпіскай!) Жанаты чалавек, а па-водзіш сябе... Толькі з павагі да твае жонкі не затрымліваю цябе сёння».

І пайшоў. Толькі падаў я голас — хацеў нешта заспяваць, ударнае і перадавое ў адсталым калектыве, як чую — адзін зялёны навічок штурхае мяне ў бок: «Вас завуць, зноў завуць!»

Аглядваюся і бачу: стаіць капітан ля электрычнага слупа і сам як слуп. Святло зверху падае на яго шырокую фуражку і блішчыць на казырку. Уладарна так, хоць і спакойна, махае мне рукой, загадвае падысці. Я наўмысля складваю рукі за спінаю і паслухмяна падыходжу. «Ты гэтым не жартуй! —

без злосці гаворыць ён і паказвае на мае рукі.— Трэніроўка тут непатрэбна. Я вось што хачу табе сказаць: з'едзь ты куды-небудзь з нашага горада! На год, хоць на паўгода. Дай мне трохі адпачыць і сам астынь. З таго часу, як вызваліў цябе амаль пад сваю рызыку, спакою ў жыцці не маю, бо адчуваю падвойную адказнасць за цябе. Хочаш, памагу дастаць патрэбную пуцёўку...»

Вось назаўтра я і з'ехаў. Пабуду пры табе, а потым можа яшчэ куды...

— Зволіўся з работы?

— Чаму гэта? Не думай, што я такі наіў. Бюлетэнь у кішэні... Хочаш — пакажу. Амаль на два тыдні. А спатрэбіцца, дык яшчэ вазьму.

— І табе даюць?.. Здароваму?..

— Даюць. Свет не без добрых людзей! А калі ўмець з імі жыць... Ды мець капейчыну...

— Кухарчык таксама п'е з табою? — раптам спытала Мальвіна.

Горбік незадаволена бліснуў вачыма, рыўком схапіў фужэр, наліў туды піва і перакуліў да дна.

— Ван Ваныча ты маеш на ўвазе?

Мальвіна кіўнула нахіленай над талеркай галавою.

— Дык, па-першае, не п'ём мы, а выпіваем, і то не часта. Тут ёсць розніца! А па-другое, адкуль ты ведаеш пра нашы сустрэчы?

— Мы ехалі разам,— дадала Мальвіна.— Хіба ён не сказаў?

— Не, нічога не гаварыў. Калі гэта, куды ехалі?

— У Мінск, пасля так званага вяселля.— Мальвіна горка засмяялася.— Ён праводзіў мяне...

— Так, так...— Горбік вінавата заківаў галавой, бадай што шчыра засмуціўся: — А я праспаў. І цяпер дараваць сабе не магу... Ты, вядома, пакрыўдзілася? Надоўга?

— Можа і назаўсёды,— пацвердзіла Мальвіна.— І не толькі за гэта.

— А за што яшчэ? Што выпіваю часам? Дык ад адзіноты!.. Паспрабуй стаць на маё месца!

— А слова тваё дзе? Правільна капітан пытаў.

— Яно астанецца пры мне. Я цяпер знаю меру... І нічога лішняга!.. Вось каб толькі ты са мною...

— Пойдзеш зноў на заклад з Ван Ванычам?

Мальвіна сказала гэта і нібы з пэўным выклікам узняла галаву, стала патрабавальна глядзець Савелу ў вочы. Адольвала імкненне яшчэ раз выверыць гэтага чалавека, паспрабаваць глыбей заглянуць яму ў душу і прасвятліць калі не ўсю натуру, дык хоць яго здольнасць шчыра кахаць, бо калі і гэтага няма, то ўжо дзе тыя надзеі на добрае жыццё! Нават у думках было цяжка вымавіць гэтыя словы: яе сямейнае жыццё, яна жонка... Чыя? Гэта ён яе муж, друг і спадарожнік?.. Магчыма, нават той, што стане бацькам яе дзяцей?..

Раней яна ніколі не думала пра замужжа, і тым больш пра збліжэнне з Горбікам. І ўсё ж рэальнасць — вось яна: з пустым фужэрам у руках насупраць яе сядзіць законны муж і свідруе яе вачыма, напэўна, намагаецца ўцяміць сэнс апошняга запытання. Следам за гэтым будуць яшчэ пытанні. Мальвіна рашылася на гэтую размову, суровую, патрабавальную, можа нават апошнюю, таму, відаць, і пайшла на часовую ўступку пры сённяшняй выпіўцы: больш шчырасці ў яго павінна б быць. Амаль міжвольна ўспамінаючы мінулае, яна лавіла сябе на тым, што мала калі імкнулася завесці з Горбікам сур'ёзную размову: усё ў іх або жарцікі лятучыя і даволі танныя, або прапісныя ісціны аб тым, што яго выпіўкі да дабра не давядуць.

Горбік доўга глядзеў на Мальвіну з нейкім ашаламленнем і разгубленасцю, потым нервовым рухам падняў фужэр і прыкра зморшчыўся, пэўна, ад таго, што там ужо нічога не было. Затым расхрыстанымі грудзьмі ўзлёг на стол і носам ледзь не дасягнуў Мальвінай галавы. Пакрыўджана і настырна спытаў:

— Ты што маеш на ўвазе? Які заклад? Абразіць хочаш?

— Успомні, што сам гаварыў на вяселлі!

— Ну што, што?..

— Спытай у свайго Ван Ваныча!

Мальвіна пранікліва глядзела яму ў вочы: сапраўды не памятае ці крывіць душою, спадзяецца, што весткі няпэўныя? Савел таксама адчуў, што тут вывертам не абысціся, і стаў пакутліва моршчыць

лоб, напружваць памяць. Па тым, як яго і так ужо чырванаватыя ад хмелю вочы сталі наліваццa густой чырванню, Мальвіна разумела, што ён здагадваецца, пра што ідзе размова, але не можа ўявіць, як пра гэта даведалася жонка.

— Або ты праўду ва ўсім будзеш гаварыць,— рашуча папярэдзіла Мальва,— або мы закончым на гэтым нашу фужэрную сустрэчу і, як кажуць добрыя людзі, расстанемся сябрамі. Май на ўвазе, што запіс у маім пашпарце не звяжа мяне на ўсё жыццё. Калі ты хочаш быць са мною да канца шчырым, то давай адкрыта пагаворым, высветлім усё, паспрабуем знайсці нейкую сваю сцяжынку. Не хочаш, ці яшчэ горш — не можаш, тады няма чаго ашукваць адно аднаго і спадзявацца на нешта агульнае між намі.

— Табе Ван Ваныч сказаў? — панікліва запытаў Горбік.

— Я і сама чула.

Савел глыбока ўздыхнуў, адкінуўся на спінку крэсла. Нейкі час маўчаў, твар яшчэ больш азмрочвалі напружанасць і нешта падобнае на роспач, потым загаварыў над сталом, прыглушана і сіпліва, каб не вельмі чулі людзі за недалёкімі столікамі.

— Гэты Ван Ваныч... Я ўжо сам пачынаю задумвацца, што ён за чалавек. Спачатку я ўхапіўся за яго працягнутую руку... Старэйшы за мяне, вопытны... Трохі пакрыўджаны на людзей, але ж ці не бывае?.. Я, напрыклад, на свайго роднага бацьку пакрыўджаны за тое, што кінуў мяне малога. Калі б рос пры бацьках, у харошай сям'і, можа і я быў бы іншым чалавекам.

— А маці? — нясмела запытала Мальвіна і адчула рэзкае шчымленне ў душы ад таго, што ведала пра гэтага чалавека толькі адно: дзетдомавец у мінулым і інтэрнатчык. А чаму хлопец жыў і выхоўваўся ў дзетдамах і школах-інтэрнатах, не надта цікавілася. Бацькі загінулі ў вайну: вось і ўсё! Гэтага дастаткова для ўсіх уяўленняў.

— Маці толькі год жыла пасля таго, як нас пакінулі. І не адных нас: у бацькі былі яшчэ дзеці ад пасляваенных удавіц. Уцёк ад іх, каб не плаціць

аліменты, а заадно і ад нас. Мне было недзе каля чатырох год. Дзетсады, інтэрнаты шмат у чым замянілі мне бацькоў, але, вядома ж, не ва ўсім. Маці памятаю добра. Часта яна наведвае мяне ў сне і ўсё плача, што я астаўся адзін. І цяпер яна помніцца мне з горкімі слязамі. Ліліся яны па худых, бледных шчоках, і маці выцірала іх белым фартушком — працавала тады ў сталоўцы райспажыўсаюза. Потым злягла, і слёзы капалі на падушку. Праз нейкі час яе завезлі ў бальніцу, а мяне — у дзіцячы дом. З таго часу мы не бачыліся: памерла яна раптоўна, неспадзявана нават для ўрачоў.

Бацькі амаль зусім не памятаю, іншы раз мроіцца ён, нібы скрозь туман. Адзінае, што іншы раз, як праз сон, усплывае ў маёй памяці, дык гэта тое, як ён аднойчы намачыў кавалак булкі ў гарэлку і даў мне з'есці. Я з'еў і ледзь адышоўся ад стала. Каля ложка паваліўся: чуў, як у вушах у мяне шумела і як бацька смяяўся за сталом. Пазней людзі гаварылі, што такія «мудрыкі» ён вытвараў са мною яшчэ раней: калі маці была на рабоце, а я плакаў і перашкаджаў яму весці кампанію, то ён мачаў у гарэлку суслу і соваў мне ў рот. Я змаўкаў і потым моцна засынаў.

Нічога добрага не пакінуў бацька ў маёй душы, аднак усё жыццё адчуваю, што мне яго не хапае: няхай бы аб'явіўся хоць такі, няхай бы зняў з мяне цяжар адзіноцтва...

І вось калі надарылася сустрэцца з Ван Ванычам, мне здалося, што гэта той чалавек, які быццам бы здолее адарыць мяне бацькоўскім цяплом і жыццёвай мудрасцю. Хацелася мець старэйшага і разумнейшага за сябе чалавека, якому можна было б даверыцца і ў цяжкую хвіліну прытуліцца да яго галавою. Калі я пакахаў Цябе і часам не мог стрымацца, каб не падзяліцца з ім сваімі адчуваннямі і перажываннямі, ён спярша падбадзёрваў мяне, запэўніваў, што самая лепшая ў Васільках дзяўчына пойдзе за мяне. А потым убачыў цябе на фабрыцы і сказаў, каб я не спадзяваўся на ўзаемнасць, бо не пара табе!

— Чаму не пара?

— Таму што не пара! І пайшлі ў нас спрэчкі. Не

памятаю ўсіх слоў — відаць, быў трохі пад мухаю.

— Ладна! — перапыніла яго Мальвіна.— Чаму ты яго петыцыю падпісаў? Сам хоць чытаў?

— І гэта ён табе паказаў?

— Прасіў, каб падпісала.

— Ну, як ты?.. Там, здаецца, пра вашых?

— Нашы разбяруцца і без мяне. А ты чытаў? Скажы праўду!

Савел маўчаў...

## IX

У Мальвіны раптам знікла жаданне высвятляць гэта ў Горбіка. Не распытвала яна і аб тым, чаму ён пакінуў брыгаду Аўгусціна. Калі ўжо выходзіла так, што ехаць дадому на летнія канікулы ёй не выпадае — варта было папрацаваць у будаўнічым атрадзе,— то ці не лепш напісаць аб усім брату і папрасіць яго паведаміць, што там адбылося ці адбываецца. Тым больш што пра так званую «эпапею» Ван Ваныча яна ўжо сёе-тое ведала з пісьма ад сваіх фабрычных сябровак.

У той ціхі васількоўскі вечар усе, хто ішоў па Камбінацкай вуліцы на сход або так куды, з цікавасцю і смяшком супыняліся каля адной зноў жа даволі рэдкай з'явы. Пасярэдзіне праезджай часткі і нават крыху павярнуўшыся ўпоперак дарогі заглух грузавік, а ў кузаве — двое коней. Шафёр, відаць, даўно корпаўся ў маторы, а завесці машыну не мог, і людзей тут сабралася многа. Пад'язджалі яшчэ машыны, аб'ехаць не маглі, і вадзіцелі таксама падыходзілі да грузавіка. Хто з іх спяшаўся, дык яшчэ здалёк пасылаў калегу адборныя слоўцы. Каго ж не вельмі прыціскала тэрміновасць, той галасна жартаваў, абвяшчаў неверагодныя парады:

— Запражы гэтых стаеннікаў — ды няхай цягнуць!

— Як ў фаэтоне будзеш ехаць.

— Цугі няма! — дадаваў нехта з натоўпу.— Адзін большы, другі меншы, адзін сівы, другі чорны!

Ішоў на сход і Ван Ваныч Кухарчык, цяперашні «кумір» не толькі камбінацкі, а бадай што і ўсевасількоўскі. Спыніўся ля грузавіка, уважліва, пагаспадарску агледзеў нерухомых, звыклых да ўсяго коней.

— Дык яшчэ ж добрая цяглавая сіла! — загаварыў, убачыўшы побач знаёмага васількоўца.— Куды іх вязуць? На бойню?

— Ды не! — усміхнуўшыся, адказаў той.— У суседняй брыгадзе на нешта спатрэбіліся.

— Дык хіба далёка? Маглі б перагнаць.

— Канечне, маглі б... Але ж цяпер... Тэхнічная рэвалюцыя!..

Ван Ваныч успомніў, як нядаўна па той вуліцы, дзе ён жыве, ехала вяселле на трактарным прычэпе. Не стаў каменціраваць такую падзею, але, заўважыўшы па асобных рысках, што яго пажылы субяседнік, як і ён сам, у мінулым чалавек вясковы, не ўтрымаўся ад успамінаў, хоць і кароткіх.

— От у нас у калгасе некалі былі коні!.. «Ардэны»! «Біцюгі»!.. Адзін гэтую машыну павёз бы...

— Гэта дзе?

— У «Шляху да камунізма».

— А-а... Ведаю, ведаю! — задаволена азваўся васількоўвец.— Былі там коні! Праўда.

Кухарчык адышоў ад субяседніка, агляну ў яшчэ большы затор на вуліцы і заўважыў сярод натоўпу многа рабочых з той фабрыкі, дзе павінен быць сход. Узмашыста падняў левую руку, глянуў на гадзіннік: надыходзіла прызначаная пара, начальства ўжо, напэўна, там.

Яшчэ раз глянуў на разнамасную пару коней, якія так кантрастна і недарэчна ўзвышаліся над людзьмі ды пачыналі ўжо матаць галовамі і пырхаць ад хвалявання, выбраўся з натоўпу, прайшоў некалькі крокаў і раптам убачыў, што насустрач яму едзе нейкая дзіўная падвода: чорны конь, чорнагаловы чалавек у перадку з лейцамі ў руках, жанчына ў цёмнай вопратцы ідзе побач, а з ёю — хлапчук без шапкі. На падводзе відна доўгая пафарбаваная скрыня.

«Труна,— спалохана падумаў Ван Ваныч.— Трэба ж!.. У такі час нябожчыка сустрэць!..»

Рэзка падаўся ўбок, каб абысці бязлюдную жалобную працэсію, рушыў шпарка, не азіраючыся ні на кога, і прыпыніўся толькі тады, калі адчуў, што падвода павінна была падысці ўжо да затору на вуліцы і шукаць там шчыліны для аб'езду. Глянуў на скрыню збоку і прачытаў белы надпіс: — «Хлеб». Раззлаваўся і сам на сябе, і на тых майстроў, што робяць скрыні для хлеба, падобныя на труну. Але выказаць сваё абурэнне не было каму, бо на далёкай абочыне ён апынуўся адзін.

На сваю фабрыку Кухарчык прыйшоў ужо к таму часу, калі ў вялікім холе, застаўленым шырокімі радамі крэслаў, было многа людзей. Некаторыя з іх наравілі ўсесціся або з самага краю, або ў апошніх радах, але на гэты сход сабралася столькі людзей, што пастуцова заняліся ўсе месцы і нават не хапала крэслаў. Тым часам Ван Ваныч вырашаў для сябе, дзе лепш умясціцца самому: уподалеку, за шырокімі спінамі рабочых, і няхай яго адтуль пазавуць, калі будзе патрэба, ці зусім спераду, на вачах у генеральнага дырэктара ды сакратара парткома, якія да гэтага часу, напэўна, не надта і ведаюць, хто такі Кухарчык: ні разу не пацікавіліся, не выклікалі, ні слова яму не сказалі. І хоць патрэбнае рашэнне чамусьці не выспявала і нутро раздзіралі нейкія бязладныя супярэчнасці, Ван Ваныч пад уплывам, мабыць, падсвядомага інстынкту падбіраўся ўсё ж такі да пярэдніх радоў. Некаторыя з рабочых уступалі яму дарогу.

За сталом прэзідыума пачулася стуканне алоўкам па мікрафоне. Яно раздавалася па зале, як пнеўматычныя стрэлы, і прымушала кожнага хутка ўладзіцца з месцам і супакоіцца. Кухарчыку трапілася бакавое крэсла ў самым першым радзе, выбіраць больш не было як, і ён паспешна ўсеўся, склаў на жываце рукі. Насупраць мікрафона стаяў начальнік фабрыкі (дырэктары тут толькі ў рудніках), маладжавы з твару, але ўжо сівавалосы чалавек, даволі інтэлігентнага выгляду, і са спакойнай, саліднай цярплівасцю чакаў, пакуль усе суцішацца, каб адкрыць сход. Голас падаў гучна і ўпэўнена, нібы нават гэтым паказваў, што ні ў чым ён не вінаваты, а калі будзе крытыка, то знойдзе ў сабе сілы

і волі правільна адказаць на яе. Ад імя кіраўніцтва фабрыкі і партбюро ён запрасіў у прэзідыум Шамоту і Тычыну, тых двух прадстаўнікоў з барадкамі, што мелі тут функцыі камісіі па праверцы, Аўгусціна Арлоўскага, як дэпутата Вярхоўнага Савета СССР, і некалькі актывістаў з фабрыкі.

Калі называліся гэтыя апошнія прозвішчы, Кухарчык міжвольна ўздрыгваў, бо вельмі спадзяваўся, што назавуць і яго. Але пералік скончыўся, а кідкае і адметнае цяпер тут прозвішча Кухарчык не прагучала. З бакавога рупара, бліжэйшага да Ван Ваныча, неяк асабліва рэзка і гучна (відаць, рупар толькі прарваўся) пачулася пытанне начальніка фабрыкі наконт змяненняў і дапаўненняў. Аднак і цяпер ніхто Кухарчыка не выклікнуў.

Члены прэзідыума адзін за адным падымаліся на сцэну. Сярод іх амаль ніхто Ван Ваныча не цікавіў: Шамоту і Тычыну ён бачыў не раз. Мала ведаў, што яны за людзі, але адчуваў, што простую дарожку да іх наўрад ці ўдасца знайсці. Што ж да мясцовых актывістаў, то, гледзячы на іх, з жалем і насцярогай адзначаў, што ніводзін яго «петыцыі» не падпісаў.

Такім чынам, найбольшая ўвага і цікавасць выпалі на Аўгусціна Арлоўскага, якога Ван Ваныч амаль зусім не ведаў і нават бачыў усяго разоў два з таго часу, як гэты чалавек стаў дэпутатам. Аўгусцін ішоў у прэзідыум аднекуль з апошніх радоў, таму крыху прыадстаўшы ад іншых, і, як здавалася Кухарчыку, усе з цікавасцю глядзелі на яго. Нават прадстаўнікі з міністэрства, ужо заходзячы за стол прэзідыума, быццам бы ўставіліся на высокага, статнага і вельмі абаяльнага з выгляду чалавека з зіхатлівым і такім ганаровым знакам дэпутата на шырокім лацкане пінжака.

«Вось гэта дасягнуў чалавек! — з неадольнай зайздрасцю і ў той жа час з захапленнем ледзь не ўслых прамовіў Кухарчык.— І не начальнік ён ніякі, і не вялікі спецыяліст — толькі тэхнікум скончыў. Работай чалавек узяў, стараннем у аўтаматыцы... І, відаць, пойдзе яшчэ далей на такой рабоце... Гэта не тое што канвееры ды шыберы раман-таваць...»

Міжволі Ван Ванычу ўявілася, што побач з дэпутацкім знакам, самым прыгожым на свеце, ці можа трошкі вышэй гэтага знака, на Аўгусцінавым лацкане з'явіцца і Залатая Зорка Героя Сацыялістычнай Працы.

Кухарчык нібы ў сораме і няёмкасці апусціў галаву: пачаў грызці душу дакор самому сабе, што да гэтага часу не выкарыстаў магчымасці зблізіцца з такім чалавекам, займець яго прыхільнасць і падтрымку. А яно ж — была магчымасць!.. Родная сястра Аўгусціна ў такіх адносінах з Горбікам... А той мог бы хоць у агонь скочыць, калі б Ван Ваныч загадаў. Да таго ж — Савел і працаваў у брыгадзе Аўгусціна. Чорт ведае, чаму збег...

Як пойдзе абмеркаванне, Кухарчык не мог прадбачыць, аднак тое, што з дакладам выйшаў не генеральны дырэктар, не сакратар парткома, а толькі галоўны механік фабрыкі, здзівіла Ван Ваныча. Гэта ж не толькі мясцовае пытанне: кульгае цэнтралізаваны рамонт і на іншых абагачальных фабрыках. Ад гэтага і прастоі часам, і зрывы планаў. Тут няйначай спроба звузіць праблему і зваліць усё на стрэлачніка!..

Даволі актыўна выспявала рашучасць не дапусціць да гэтага, сарваць намер галоўнага кіраўніцтва: няхай скажуць, чаму дапусцілі да такіх з'яў!

За трыбунай перад мікрафонам стаяў пажылы чалавек у шырокіх рагавых акулярах. Перад ім ляжала даволі ўнушальная па таўшчыні папка з паперамі. Дакладчык, відаць, звыклы да ўсялякіх эканамічных і тэхнічных выкладак, паглядваў на кіпу папер спакойна і ўпэўнена, нічога адтуль пакуль што не зачытваў, аднак відно было, што гатоў быў хоць нават па памяці давесці ўсё, што трэба, а пры неабходнасці пацвердзіць і дакументамі.

Тон дакладчыка, уменне трымацца перад людзьмі і падбіраць даходлівыя словы і фармуліроўкі напаступова ўплывалі і на Ван Ваныча, ён пачаў нават прыслухоўвацца да некаторых фактаў і аргументаў, але часта і насцярожваўся, быццам чакаючы нейкага выпаду супраць сябе.

— Што такое цэнтралізаваны, або, прасцей кажучы — павузлавы рамонт у нашых умовах? — спы-

таў дакладчык і, зняўшы акуляры, цікаўна паглядзеў у залу.

— Ведаем, што гэта такое! — выгукнуў Кухарчык.— Давай па сутнасці!

— Я і гавару па сутнасці,— адказаў дакладчык і нават не змяніў сваёй спакойнай пастравы, не павысіў голас, а толькі яшчэ раз крануў свае папеы.— Вам асабіста хацеў бы сказаць, што вы не першы ўзнімаеце гэтую праблему, яна сапраўды вельмі важная, але падыход ваш да яе наўрад ці правільны.

— Чаму гэта? — Кухарчык узняўся з месца і аглянўўся на тых рамонтнікаў, што сядзелі за ім.— Што ж тут няправільнае?

— Перш за ўсё тое,— працягваў дакладчык,— што вы робіце ўпор толькі на цэнтралізаваныя пастаўкі вузлоў, запчастак і нават дробных дэталяў, а самі, як брыгадзір рамонтнікаў, не стараецеся хоць што-небудзь вынайсці, зрабіць на месцы.

— А што ж мы можам на месцы? — Кухарчык усё павышаў свой нязгодлівы тон.— Калі возьмем што з нашага РМЦ, то назаўтра хоць з фабрыкі ўцякай: можа разнесці ўвесь агрэгат.

— Стаяць жа на суседніх фабрыках цэлыя вузлы з нашага рэмцэха і служаць пакуль што. Як жа яно лепш, калі не хапае заводскіх частак: зусім спыняць фабрыку ці ўсё ж такі шукаць нейкае выйсце на месцы? І потым — сам прынцып ваш — трымаць усё да зморы, да апошняга выдыху, каб забяспечыць вал. Часам для рэкорда вы гатовы ўсе жылкі з машыны выцягнуць! А чаму б не пашанаваць яе і ў самім працэсе, і ў часы перапынкаў, хоць і кароткіх? Што падладзіць, што падцягнуць, падмазаць, а можа і замяніць? А для гэтага трэба больш думаць, клапаціцца пра эфектыўнасць тэхнікі, адчуваць сваю ўласную адказнасць за яе.

— А вы самі адчуваеце?—Кухарчык нават падаўся бліжэй да трыбуны, энергічна замахаў рукамі.

Дакладчык зноў прыпадняў рагавыя акуляры, уважліва паглядзеў на гэтага чалавека і, відаць, адчуўшы, што ўступаць з ім тут у спрэчку наўрад ці мэтазгодна, павярнуўся да прэзідыума:

— Я ў аснове ўсё сказаў.

— Ну і садзіся! — крыкнуў Кухарчык.

Прадстаўнікі міністэрства аб нечым перашапнуліся між сабою, стрымана ўсміхнуліся і даволі непрыязна паглядзелі ў той бок, адкуль даносіліся нетактоўныя выкрыкі.

Устаў Антон Паўлавіч Шамота, генеральны дырэктар, і спакойна, але з такой патрабавальнасцю, што нават Кухарчык падаўся назад, папрасіў захоўваць на сходзе ветлівасць і належны этыкет.

— Я думаю, мы здолеем, таварышы, разабрацца ў гэтай справе зусім памяркоўна і прынцыпова,— сказаў ён, звяртаючыся да ўсіх прысутных.— Без грубасцей і абраз. У каго ёсць пытанні па сутнасці? К дакладчыку ці да нас?

— Вы адказвайце,— буркнуў Ван Ваныч і сеў на сваё месца.

— У нас няма разыходжанняў з дакладчыкам,— працягваў Антон Паўлавіч, астаючыся за сталом прэзідыума.— Таварыш Баравік,— ён паказаў на дакладчыка, які, не губляючы саліднасці, адыходзіў ад трыбуны,— вопытны інжынер, механік, усе справы на фабрыцы яму добра вядомы. Перш чым прыйсці на гэты сход, мы разам яшчэ раз праверылі ўсё, абмеркавалі. Вось і таварышы з міністэрства прысутнічалі, яны прадстаўляюць тут службу галоўнага механіка,— ён на момант схіліўся ў іх бок,— і наш дэпутат Вярхоўнага Савета. Правільна сказаў дакладчык, што адносіны да новых метадаў захавання тэхнікі і павышэння яе эфектыўнасці павінны быць у нас сапраўды творчыя. Тут у нас — усё! Аснова ўсёй тэхналогіі! — Ён заўважыў у зале паднятую жаночую руку і спыніўся: — Калі ласка! Што ў вас?

— У мяне тое, што і я хачу сказаць,— крыху сіпавата, але смела прамовіла жанчына, ледзь паказаўшыся з радоў. Яна, мабыць, і ўстала, але была невялічкага росту, ды яшчэ і гады трохі сутулілі, дык над людскімі галовамі ледзь толькі ўзвышалася.— Я тут пры барабанах стаю ўжо некалькі год. Не за таго чалавека, што тут выгукваў, хачу сказаць, а дзеля справядлівасці. Бывае, што вось стаю я на сваім месцы... Стаю, сачу, як круцяцца барабаны, і бачу. Хутчэй адчуваю, як бачу: не ўсе гэтыя

самыя шламы асядаюць на ніз, а лішніцаю астаюцца ў солі. Заву рамонтніка: часам дазавуся, часам не. Паказваю, калі прыйдзе:

— Глядзі, многа шламу ідзе ў прадукцыю.

А ён мне:

— Адкуль ты ведаеш, многа ці мала? Можа якраз — колькі трэба!

— Ведаю,— кажу.— Адчуваю, што нешта ў машыне не гэтак.

— А як ты хочаш? Круцяцца барабаны, то няхай сабе і круцяцца! Норму тваю выкруцяць за змену! Ну і жыві здарова!

Сказаў і пайшоў, а мне жыцця ўжо няма. Уяўляю, бо сама не раз бачыла, як вязуць потым гэтую сольку ў калгасы. Прывозяць, а там яе выгрузіць і нельга, бо зляжалася ў вагонах, не ўкалупнеш. А якую бліжэй удасца завесці ды ссыпаць кучамі на палетках, то зноў жа яе трэба потым — не лапатамі, а ламамі... А на тым месцы, дзе ляжала такое ўгнаенне, ужо цэлы год нічагенька не вырастае, нават лебяда ці асот не бяруцца. Дык вось і думаеш, чаго больш ад такой солі: карысці ці шкоднасці?

Бывае, прыйду дадому са змены, здаецца, і не перасілілася вельмі на рабоце, а ўсё нутро баліць, галава ходарам ходзіць і заснуць не магу: усё мрояцца мне гэтыя барабаны... То круцяцца яны быццам бы не ў той бок, то зусім не круцяцца — стаяць, і я стаю каля іх... Не адна ў нас фабрыка, і барабаны не толькі ў мяне... А нават у снах сню, што нібыта ўся кепская соль, калі дзе была, то гэта ад мяне ды ад маіх барабанаў. І бясконца думаю, пакутую, як гэта паправіць, як палепшыць работу... Да каго тут звяртацца, на каго спадзяванне мець?.. Усюды ўсё ладам, ладам!.. І з поспехам. І аўтаматыка ў ход пайшла, і розныя іншыя знаходкі-выхадкі. А ў нас на фабрыцы дык толькі і чутно, што нехта некуды піша, нехта некаму дакляруе. А паляпшэння мала, бо самі вінаваты: менш пісаць ды гаварыць трэба, а больш ды лепш работу рабіць.

Антон Паўлавіч запытальна паглядзеў на Тычыну, маючы на ўвазе, што парторг збіраўся больш грунтоўна выступіць на гэтым сходзе. Пажылая

жанчына, што выступала, ужо села на сваё месца і нібы стулілася між людзей, аднак Шамота ўвесь час бачыў яе клятчастую, не зусім летнюю хустку і худы драбнаваты твар з добрым, памяркоўным выразам. Сеўшы за сталом, нахіліўся да Аўгусціна і ціха спытаў:

— Ты часам не ведаеш, што гэта за жанчына?

— Ведаю! — адказаў той з націскам.— Вельмі добра ведаю!..

— Ну?..

— Мая маці.

Арлоўскі так заліўся чырванню, што Антон Паўлавіч спачувальна замаўчаў, аднак такое супадзенне, вядома ж, уразіла яго і здзівіла. Уявіў сабе адчуванне Аўгусціна ў гэты момант і нават пакаяўся, што звярнуўся да яго з такім запытаннем: многія тут ведаюць свайго дэпутата, бываюць у яго на прыёмах і слухаюць добрыя парады. А маці быццам і не магла параіцца з ім дома...

Аўгусцін намагаўся ўважліва слухаць выступленне свайго сябра і саратніка па парткому, бо Павел Васільевіч у першых жа словах падтрымаў выступленне Анэты Іванаўны і потым стаў даводзіць неабходнасць новай механічнай тэхналогіі на абагачальных фабрыках. Але яго шчырыя і патрэбныя на гэты момант словы чамусьці ўсё менш і менш краналі Арлоўскага, а потым ледзь толькі даносіліся да слыху. Паступова ўсю яго ўвагу занялі ўласныя ўспаміны пра сваё жыццё дома, пра ўзаемаадносіны з матуляй і сястрой, з дзецьмі. Аднойчы прыйшла маці з начной змены, а ён збіраўся на дзённую. Маці лягла ў сваёй бакоўцы, але не заснула ад стомы, як толькі прытулілася да падушкі, а ўсё нешта варочалася, быццам бы стагнала, быццам спрабавала гаварыць сама з сабою. А ён на дыбках пратупваў сюды-туды ля бакоўкі і не зайшоў хоць на хвілінку, не спытаў, чым матуля занепакоена, што ў яе на душы. Клопат у яго быў адзін — не спазніцца на работу: там зноў праверка. Клопат другі — не разбудзіць жонку і дзяцей, якім можна было яшчэ трохі паспаць.

Ніколі дома не было, каб маці штосьці гаварыла пра сваю работу на фабрыцы. Ніхто ў яе і не пытаўся пра гэта. От калі бульба ў хаце зводзілася, хлеб аставаўся толькі чэрствы, шкарпэткі ці тапачкі ўнукаў пратоптваліся, тут на бабку паглядвалі, часам і прасілі выручыць, бо ўсе ж вельмі занятыя: сын у шахце, нявестка пры шахце, унук у школе... Толькі яна недзе там пры барабанах...

Старэйшыя дык хоць прасілі, калі не словамі, то паглядамі, а малодшыя, асабліва ўнучка Ірынка, дык проста загадвалі:

— Бабулька, купі мне хамяцька!

I вось непакоіцца бабка, турбуецца... Лягчэй тую жар-птушку злавіць, чым знайсці ды выпрасіць у некага хамячка. Ходзіць, шукае, распытвае ў людзей. На змену бяжыць — памятае пра гэта. Са змены ідзе — памятае...

...З'явіўся ў Ірынкі хамячок. Як карміць яго, у чым трымаць? Куды ні пасадзі — прагрызае і вылазіць. I пасадзіла яго дзяўчынка ў шкляны слоік. Адтуль ён не мог вылезці: шкрабаўся, шкрабаўся, а потым прыціх. Дзяўчынка радавалася, што хамячок заснуў і спаў доўга. Назаўтра стала яго будзіць, а ён не прачынаўся...

— Бабка, бабулька!..

— А яна на змене.

— Тата, папа!

— А ён на змене.

— Мама, бяжы сюды!

— А яна пайшла на змену.

Адарваўся ад урокаў школьнік Вася — яму ісці на другую змену.

— Чаго раскрычалася, што там у цябе?

— Хамячок не прачынаецца!

Вася падышоў да Ірынчынага кутка ў спальні, падняў з падлогі слоік і паставіў на падаконнік.

— Дык ён ужо і не прачнецца,— сказаў спакойна і аўтарытэтна.

— Чаму? — Ірынка пачала плакаць.

— Таму што нежывы. Ты, мабыць, яго прыкрыла зверху?

— Я шчылінку пакінула,— плачучы, паведаміла дзяўчынка.— Ведаю, што яму трэба дыхаць!..

...Выпала хвіліна, што ўсёй сям'ёю сабраліся каля нежывога хамячка. Аўгусцін паспачуваў Ірынцы і паабяцаў ёй дастаць сапраўднага вожыка. І пайшоў у свой пакой. Там у яго проста на стале, сярод розных схем і чарцяжоў, ляжалі новыя дэталі аўтаматычных прыстасаванняў да праходчага камбайна. Ён прынёс іх дадому, каб у спакойных абставінах ды пры дзённым святле паспрабаваць разабрацца, чаму здараюцца выпадкі, калі дае перабоі аўтаматыка пры разгрузцы бункера.

Потым дома дачуліся, што ў бацькавым забоі прысыпала камбайн. Ад чужых людзей дачуліся, бо і пра свае шахцёрскія справы бацька дома не гаварыў, а не толькі пра бабчыны.

Вожык быў забыты. Ірынка чакала. Хацела нагадаць бацьку, ды застаць не магла: прачыналася — ён ужо быў на рабоце. Прыходзіў — маці шаптала: «Няхай трошкі паспіць». Калі ж ён уставаў, то Ірынка ўжо клалася спаць.

І зноў у вушах старэйшай гаспадыні пачала гучаць просьба ўнучкі:

— Бабуська, я хацю вожыка...

Пад голас Паўла Васільевіча з трыбуны Аўгусціну ўспомнілася і тое, што нечаканае замужжа Мальвы маці перажыла таксама амаль што ў адзіноце. Неяк спрабавала загаварыць пра гэта з ім і, пэўна ж, выказаць свой боль. А ў яго на душы такога болю не было:

— Ранавата, праўда, Але не сёння, то заўтра, а дзеўцы трэба замуж. Хлопец ён не кепскі...

А вось наўрад ці гэта так. Мацярынскае сэрца адчувала глыбей.

Трэба было знайсці час выслухаць матулю...

Трэба было прынесці Ірынцы вожыка...

## X

Цяпер крыху аб тым, што адбылося ў адным васількоўскім забоі і чаму Савелій Горбік пакінуў брыгаду Аўгусціна Арлоўскага.

Прысыпаны камбайн адкапалі хутка, але, каб зноў пусціць яго ў ход у аўтаматычным рэжыме,

трэба было не мала папрацаваць і самой брыгадзе, і спецыялістам з аддзела аўтаматыкі.

— Я сяду за штурвал,— прапанаваў Савел Горбік.

Раней ён быў машыністам гэтага камбайна. Машына харошая, цягучая, нашага выпуску. Спачатку яна трохі заядалася ў васількоўскіх солях, а потым мясцовыя механікі памаракавалі над ёй, і яна стала зусім паслухмяная і памяркоўная, нібы тут і радзілася, і расла.

Калі Аўгусцін Арлоўскі і яго прыхільнікі дайшлі душою і розумам да патрэбных эксперыментаў па аўтаматызацыі падземных выпрацовак, было вырашана, што лепш за ўсе іншыя маркі пацягне тут якраз гэты камбайн — ПК-8. Сапраўды, машына падатліва прыняла ўсе прыстасаванні, паслухмяна стала падначальвацца лазернаму промню, які накіроўваўся на яе са спецыяльнай устаноўкі, створанай вучонымі. І стала ўгрызацца ў нетры самастойна, без Горбіка ці каго-небудзь іншага за штурвалам. Калі напаўняўся рудою бункер і да яго падыходзіў самаходны вагон, машына сама прысупынялася і ўключала аўтаматыку канвеера. Аддаўшы груз, зноў ішла наперад па напрамку лазернага промня.

Для чаго яна прысупынялася, калі падыходзіў і дакранаўся да бункера электравагон? Ды ўсё для таго ж Горбіка або іншага машыніста, які сядзеў за рулём вагона: у брыгадзе Арлоўскага ўсе хлопцы маюць правы на кіраванне рознымі механізмамі. Не тут кажучы, трапілася б у гэты момант камбайну газавая ямка — і зляцеў бы з месца ўвесь агрэгат. Дык на камбайне ўжо няма Горбіка, а на вагоне ён мог быць, тут яшчэ не прыдумана аўтаматычнае кіраванне.

Лазер — вялікая і надзвычай цікавая вынаходка нашага часу. Але ў васількоўскіх шахтах лазерны промень свеціць толькі ў адным напрамку і трымае камбайн у самай суровай строгасці: не дазваляе яму адхіліцца ўбок або ўзяць уверх ці ўніз нават на дольку міліметра. А салявы пласт не пытаўся ў лазера, як яму разлягацца ў нетрах: хацелася яму выцягнуцца напрамкі, дык і цягнуўся роўна і адна-

стайна — выбірай яго з ходу і грузі ў бункер. Потым пачынаў круціцца зігзагамі, віляць то ў адзін бок, то ў другі, скакаць то ўверх, то ўніз. А лазер солі не адчувае, яму ўсё роўна, што каштоўныя выкапні, што баласт. І гоніць ён камбайн на дзікую пароду, калі мінералы пайшлі ў іншым напрамку.

Што робіць у такіх выпадках Горбік ці іншы машыніст? Націскам адпаведнай кнопкі ён спыняе камбайн, садзіцца за штурвал і сам накіроўвае машыну па належных маркшэйдэрскіх адзнаках. Тады зноў пускае яе ў ход.

Такія вынаходкі пад зямлёю называліся яшчэ толькі паўаўтаматыкай, але і яны далі вельмі многа: машыніст не сядзіць за штурвалам і не наглытваецца салёнага пылу да такога стану, што часам не можа прадыхнуць; яму не пагражае небяспека газавых выбухаў; замест аднаго камбайна ён можа абслугоўваць два (брыгада Арлоўскага і мае два аўтаматызаваныя камбайны).

І галоўнае тут — выпрацоўка. Былі шчаслівыя часіны, калі камбайнавая аўтаматыка так спаважна і ўдзячна адносілася да сваіх вынаходнікаў, што машыны праходзілі пад зямлёю звыш пяці кіламетраў у месяц і грузілі на канвееры столькі руды, што магутныя пад'ёмнікі не спраўляліся падаваць іх нагара. Тады Горбік вельмі ўхваляў аўтаматыку: хадзіў у забоі нават без «лепястка» на носе, вяртаўся са змены ў такім стане, што гатоў быў хоць і яшчэ адну змену аддзяжурыць; два разы ў месяц клаў у кішэню такія сотні, што калі б іх ашчаджаць, то за якога паўгода можна было б сесці і на «Жыгулі». На Аўгусціна Арлоўскага глядзеў як на бога, і лічыў яго самым лепшым сябрам і настаўнікам. Калі ж да гэтага яшчэ далучалася надзея і на блізкае сваяцтва, тады наогул душа пачынала спяваць і скакаць ад высокіх пачуццяў. Якраз у тыя часы ён і прыкладаў усе намаганні на тое, каб не выпускаць Мальвіну ні з-пад увагі, ні з-пад штодзённай апекі. Для гэтага ішло ў ход усё, нават «візіты» ў выцвярэзнікі падаваліся як вынік няшчаснага, неразздзеленага кахання.

Але новае ўсюды даецца не адразу: і ў жыцці, і ў тэхніцы. Лазерныя ўстаноўкі для аўтаматычнага

кіравання камбайнамі аказаліся недаўгавечнымі. Іх трэба было часта мяняць, а пакольні прагрэсіўку за вал атрымоўваў, к прыкладу, Горбік, а фізікі са сталічнага інстытута не надта спяшаліся рабіць новыя ўстаноўкі, камбайны часам прастойвалі. Пачалі надарацца і іншыя непаладкі. Каб выправіць іх, Аўгусцін закасваў рукавы і сядзеў у забоі ледзь не цэлымі суткамі, а Горбік браў у свайго напарніка па забягалаўках бюлетэнь і часам нават знікаў з Васількоў. З'яўляўся, як з-пад зямлі, толькі тады, калі машыны пускаліся ў ход.

Метад Арлоўскага, як сталі называць у Васільках падземную аўтаматыку, хутка набываў папулярнасць на ўсіх рудніках. Шахцёры і механікі з суседніх шахтаў прыходзілі ў забой глядзець, распытваць, вывучаць, як тут што. І паступова сталі ўводзіць аўтаматыку на сваіх агрэгатах. Аўгусцін жа імкнуўся далей. Ужо даўно ён разам з электронікамі пачаў выношваць ідэю поўнага паслухмянства камбайна, каб ён па камандзе з пульта паварочваўся ўправа, улева па гарызанталі, браўся ўверх ці ўніз па вертыкалі. Памагчы тут маглі толькі электроны.

Надышоў новы, цяжкі і часам вельмі пакутлівы, хоць і з радаснай надзеяй, перыяд новых эксперыментаў і выпрабаванняў. Тут прынцып аўтаматыкі грунтаваўся на дакладным і ўмелым выкарыстанні такіх магнітных хваль, якія адчувалі колер пласта, на такой электроніцы, якая не парушала б вызначанай таўшчыні стаяка. Здараліся розныя непрадбачаныя выпадкі, былі і такія, што камбайн прысыпа́ла, а то і зусім завальвала. А план трэба было выконваць, ніхто плана не зніжаў. Даводзілася брыгадзе забываць не толькі пра тыя прэміі ці прагрэсіўкі, а часам і на зарплату ледзе выцягваць.

Пасля аднаго такога перападу Горбік і прапанаваў:

— Давайце зноў сяду за штурвал!

— А што ж з аўтаматыкай? — насцярожана спытаў Аўгусцін.

— Яе ўсё роўна разбурыла завалам.

— Маю на ўвазе не саму тэхніку, а наш прэстыж,— удакладніў Арлоўскі.

Горбік хціва зарагатаў:

— Наш прэстыж? Які ён цяпер, хацеў бы я запытаць! З нас больш смяюцца, чым бяруць прыклад. У каго тоны, у таго і прэстыж. А я магу даць вал і без аўтаматыкі!

# Частка другая

## I

Зноў паездка ў васількоўскім аўтобусе. І маршрут той самы, нават шафёр сядзіць у камфартабельнай, усыпанай кнопкамі кабіне з такімі ж доўгімі валасамі: раней сказалі б на яго — попік. А вось абставіны і духоўны настрой у Мальвіны — зусім іншыя.

Прайшло ўжо больш года з той паездкі, калі да яе падсеў у аўтобусе Кухарчык. З таго часу яна першы раз прыехала дадому і прабыла доўга, калі прылучыць і летнія канікулы. Цяпер ехала на пачатак трэцяга года вучобы.

У паездках ёй ніколі не шанцавала ні на суседзяў, ні на добрае самаадчуванне. У той раз суседства Кухарчыка прымушала паглядваць на заднія рады: ці не вызваліў хто месца, ці нельга перасесці? І ўсё мацнела жаданне, каб аўтобус ішоў хутчэй ды менш затрымліваўся на прыпынках — дачасна б у Мінск, на аэравакзал, а там дарогі разыдуцца: назойлівы сусед — у Маскву, а яна — у Ленінград.

Цяпер хуткасць яе палохала: гэта ж усё далей і далей ад Васількоў. Ёй не хацелася ехаць з дому. Спачатку было спадзяванне, што гэта мінецца, пераадолеецца, як толькі яна сядзе ў аўтобус. У акне замільгаюць знаёмыя дарожныя прысады, а матчына бакоўка пачне паступова аддаляцца і сплываць з памяці. Не першы ж раз яна пакідае яе, ды не абы-куды ж едзе. Інтэрнацкі пакойчык у Ленінградзе таксама вельмі блізкі ёй, а сам Ленінград зноў жа мог хоць часова замяніць Васількі.

І вось нішто гэта не спраўджваецца. Чым далей астаюцца родныя мясціны, тым мацнее шчымленне

пад сэрцам. Ідзе цяжкае і бесперапыннае супрацьстаянне самых глыбокіх пачуццяў — мацярынства і грамадскага абавязку. Ад прыпынку да прыпынку. Спыняецца аўтобус, і Мальвіна пачынае варушыцца, паглядваць на свой чамаданчык над галавою. Аж рукі ўздрыгваюць ад хваляванння: схапіць гэты чамаданчык ды выбегчы з аўтобуса ці ўсё ж такі ехаць далей? Як жа з занняткамі, як з такім вялікім пропускам?..

Пакуль яна вагаецца, шафёр заводзіць матор, і аўтобус імчыцца далей. Да наступнага прыпынку ўжо амаль выспявае рашэнне сысці і стрэчнай машынай падацца назад. Хаця б яшчэ раз глянуць на яго, маленькага Віцьку, які так ціха і хораша спаў, калі ад'язджала. Маці праводзіла яе да пад'езда, а потым вярнулася, каб пакалыхаць малога ці ўзяць на рукі, калі прачнецца. Быццам ведала, адчувала, што вось жа як пачуе Мальва гэты плач, то вернецца дадому. А колькі было ўгавораў, каб яна не пакідала вучобу! І Аўгусцін прасіў, і маці брала ўсё на сябе: пагадавала вас, то і ўнука выгадую...

У аэрапорце Мальвіне ўдалося дастаць білет толькі на далёкі па часе самалёт. Прасторны вакзал, два паверхі — можна і пахадзіць, і пасядзець, газеты пачытаць, у кафэ зайсці. Можна прагуляцца і па тэрыторыі аэрапорта, даволі прыбранай, дагледжанай, выйсці ў сквер, яшчэ зялёны і нібы заліты чырванню кветак. Вушам цяжкавата ад матораў, але падыхаць можна. Ды не прыцягвала ўсё гэта і амаль што не заўважалася.

...Прыляцеў адзін самалёт, з двайнымі, як у страказы, крылцамі, відаць, з мясцовых ліній. Падруліў да самага вакзала і стаў гудзець са звонам і са свістам, нібы зноў збіраўся тут жа ўзляцець. Гудзенне трымцела ў вокнах, глушыла людзей у залах. І раптам у гэтым надакучлівым і назойлівым гудзенні Мальвіна пачула нешта вельмі жаллівае, але блізкае сэрцу, падобнае на плач дзіцяці... Трывожны і патрабавальны плач... Яна заўсёды насцярожвалася, калі Віцька падаваў свой голас. Асабліва ноччу. І хоць доўга не спала потым, але не зла-

валася на сына, не крыўдавала. Вельмі хутка звыклася з такім плачам, і ў яе вушах гучаў ён, як родны голас жыцця і радасці.

Самалёцік зменшыў гудзенне, а потым і зусім заціх, здавалася, што і крылцы свае стуліў і падцягнуў да пузаценькага цельца. А голас Віцькі ў вушах Мальвіны не сціхаў.

Сынок ужо адчувае матку, пазнае... Цяпер, мабыць, прачнуўся і зразумеў, што яе няма... Вельмі рана пачаў разумець гэта... І ўсміхацца пачаў рана... Бабка кажа, што такіх разумных дзяцей яна яшчэ не ведала.

...Плача Віцька, чакае матку... І будзе плакаць, пакуль не дачакаецца... Бабка не суцешыць яго і ніяк не заменіць матулю.

Як гэта ён будзе жыць без яе?.. І як гэта яна будзе жыць без яго?..

Мальвіна падбегла да касы і здала свой білет. Потым выбегла на васількоўскую дарогу і ўпрасілася ў кабіну першага стрэчнага грузавіка. Пачала трохі адумвацца і ацэньваць свае ўчынкі толькі тады, калі адчула імклівы рух у бок Васількоў і пругкі подых вастраватага, хоць і не халоднага ветру.

...Маці не надта ветліва абышлася з ёю, калі заўважыла, што лёс прымусіў дачку прыехаць дадому ў такім стане... Мальвіна і сама баялася ехаць, ведала, як маці ў свой час прыняла яе замужжа. Але не ехаць можна было толькі пры адных, вядомых усім абставінах...

Колькі роздумаў і ваганняў было?.. Колькі разоў на дзіва лёгкія ногі неслі яе да пад'езда клінікі. Іх не чутно было пад сабою... А як толькі даносіўся пах лякарстваў, усё ў целе абрывалася, у вачах мутнела, ногі падкошваліся, і страшна рабілася ўзысці на мармуровы ганак... Стаяла ля пад'езда, а часам сяк-так тупала вакол будынка... Зайсці не магла. Паварочвалася, каб ісці назад, і ногі адразу ажывалі, і цела станавілася лёгкім, быццам хто падхопліваў яго на крылы...

...Людзе, інтэрнацкай суседцы, прызналася ўжо тады, калі позна было думаць пра клініку.

— Дурная! — папракнула тая.— Сказала б мне, і ўсё было б у ладзе.

У тую ж хвіліну Мальвіна горка раскаялася, што завяла такую размову з Людай, раскрылася, даверылася ёй.

Цяпер сорамна і балюча ўспомніць пра гэта. Колішнія пакуты ля бальніцы ўяўляюцца нейкім кашмарным трызненнем: няўжо гэта было, няўжо ўзнікалі такія страшныя і згубныя намеры?

Жудасна і млосна робіцца, калі часам супраць волі мільгнуць у памяці тыя змрочныя часы. Асабліва калі Віцька перад вачыма. Вось ён ляжыць у маленькай калясачцы, у меру поўненькі і ружовенькі, глядзіць на матку даверліва і цікаўна. Здаецца, што ўжо бачыць яе наскрозь, угадвае думкі... І, мабыць, усё жыццё не даруе ёй, што не адразу рашылася пусціць на свет...

Хаваць гэта ад яго да канца дзён сваіх? Вечна мучыцца, пакутаваць ад адчування віны свае перад ім? Міжвольнай, вымушанай, падказанай абставінамі...

Не! Каб толькі ён хутчэй падрос і ўжо мог разумець яе. А ён будзе разумець і адчуваць!.. Ён павінен вырасці добрым і разумным!.. Тады яна ўсё раскажа, ва ўсім прызнаецца. Будзе ў яго тады бацька ці не будзе — усё роўна яна паведаміць сыну пра далёкае і змрочнае іхняе вяселле... Паведаміць і аб тым, як бацька бязлітасна растаптаў і яе давер, і давер іншых добрых людзей: як у той самы адчайны момант уцёк з Васількоў. Яна даведалася пра гэта з пісьмаў Аўгусціна. Па дабраце сваёй брат апраўдваў Горбіка тым, што пакінуць горад яго прымусіла міліцыя.

Адчуванне пакутлівага адзіноцтва мацнела і ад таго, што цяжка было прадбачыць і адносіны мацеры да так званай «блуднай» дачкі. Як яна ўспрыме душою, як зразумее яе становішча? Маці ёсць маці! Мальвіна спадзявалася на гэта. Але ж ведала і тое, што ў матулі — крутасць у характары: можа заццца, схаладзіцца і не прыняць у свой пакой. Можа нават і выгнаць з кватэры. Да гэтага, канечне, не дапусціў бы Аўгусцін, але ж якое жыццё з малым без мацеры?

Выслухаў бы ўсё гэта ўжо самастойны ў сваіх думках Віця і што б сказаў?.. Што падумаў? Магчыма, і абвінаваціў бы матку за нядобры намер: няхай бы ехаў бацька, куды хацеў, няхай і маці, цяперашняя яго бабка, заледзянела б у сваёй крыўдзе на дачку... А жыццё ёсць жыццё... Яго спыняць нельга.

І радасна згадзілася б маці з такімі словамі сына. І цяпер згодна: прыкра ёй і нудна робіцца, калі хоць на момант узнікаюць іншыя думкі.

...Анэта толькі часова трымала ў душы халаднаватасць да дачкі. Магчыма, што і крыўду, хоць і мінулую ўжо, адбалелую. Калі ж з'явіўся на свет унук, усё гэта як ветрам здзьмула. Бабка так «прыкіпела» да малога, што часам і дачку не дапускала да яго. Калі ж тая імкнулася штосьці зрабіць сама ці ў чым-небудзь памагчы, то старая не дазваляла маладой мамцы і папраўляла яе на кожным кроку. Дзеля гэтага нават выйшла на пенсію, хоць сваёй работай на фабрыцы вельмі даражыла і ганарылася. Адпраўляючы дачку зноў у інстытут, запэўніла, што ўнук будзе дагледжаны, як і пры мацеры. Можа яшчэ і лепш, бо ведацьме адну карміцельку, а не дзвюх. І расці будзе вялікім і здаровым...

Цяпер Мальвіна вярталася дадому з незвычайным намерам. Вось ужо хутка і Васількі, капры́ відаць з кабіны. Ужо ўяўляецца, як сустрэне яе маці: здзівіцца, захвалюецца — чаго вярнулася?

Але яна нічога не забыла, ды не вярнуцца не змагла...

— Дзе жывяце? — спагадліва запытаў шафёр, відаць, здагадваючыся, што маладайка па нейкай важнай прычыне гэтак спяшаецца.

Мальвіна сказала.

— Туды я пад'ехаць не магу — ход грузавым забаронены. Але спынюся непадалёку.

Мальвіна была з важкім чамаданам у руках. Калі раніцай несла яго на аўтавакзал, адчувала, што перагрузіла, і папракала сябе за гэта, бо млелі рукі. Цяпер жа не цяжка было ні рукам, ні нагам, толькі стрэчныя людзі перашкаджалі бегчы.

Адну гаспадыню з дзвюма авоськамі ў руках Мальва знячэўку кранула чамаданам. Тая прыпынілася, потым аглянулася назад і пачала крыўдна і балюча лаяцца. Трэба было б таксама супыніцца, можа нават растлумачыць жанчыне, чаму гэтак спяшаецца. Але Мальвіна нічога не сказала, толькі папрасіла прабачэння ўжо на адлегласці.

На сваёй вуліцы яшчэ здалёк убачыла запаветны балкон. Нікога не было на гэтым балконе, але на почапачцы віселі тыя самыя Віцькавы паўзункі, якія яна вынесла прасушыць перад сваім ад'ездам. Побач — распашонка. Яе раніцой не было. Значыць, хлопчык устаў ужо і бабка пераадзела яго.

...Бегла, не зводзячы вачэй з балкона. І раптам — зноў у вушах дзіцячы плач... Адкуль ён?.. Чый?.. Вядома ж, з таго запаветнага балкона!.. Канечне ж, гэта Віцькаў плач!..

Пазваніла ў кватэру нервова, настойліва, аж трыма званкамі. І прагучалі яны быццам не штодзённым звонам, а сігналам трывогі: SOS-SOS-SOS!

Падбегла да парога маці, без слова, без позірку ў «вочка» адчыніла.

— Ён плача? — устрывожана спытала Мальва.— Чаго ён плача?

— Хто?.. — спалохалася маці.— Пра каго ты?

— Віцька плача!

— Віцька наш? Ён спіць! Прачынаўся, то пакарміла, адзёжку перамяніла... Пагуляў трошку ды зноў заснуў.

Мальвіна кінула чамадан у калідорчыку, ледзь не адштурхнуўшы матку, рынулася ў яе пакой.

— Ціха ты!.. Не пабудзі! — зашаптала маці, бегучы за ёю.— Злякаеш малога!

Хлопчык спаў на бабчыным ложку, толькі ўпоперак, а не ўдоўж, рукі выцягнуў з-пад коўдры і раскінуў іх ледзь не на ўвесь ложак. Трохі кірпатым, але прыгожым, як для дзяцей, носам пасопваў роўна і самавіта, а губамі сяды-тады быццам бы пасмоктваў, не адкрываючы рота. Тварык спакойны, чысты, ні следу ніякіх трывог.

Мальвіна толькі цяпер адчула, што ёй душна

і аж сэрца стукае ад бегу па вуліцы і па лесвіцы. Зняла плашчык і села на ложак побач з дзіцём.

— Не будзі яго! — зноў папярэдзіла маці, зайшоўшы ў пакой.

Вядома ж — не трэба будзіць. Але так хацелася прытуліцца да сынка, а яшчэ больш — узяць на рукі і ўсёй душой адчуць адзінае ў свеце цяпло, ні з чым не параўнальную асалоду. Калі б яно прачнулася на руках, напэўна, усміхнулася б, пазнаўшы маму, і паказала б свой першы зубок...

Мабыць, кожны дзіцячы зуб прарэзваецца з болем. Ніхто з дарослых сваёй такой болі не памятае, але бадай кожны з бацькоў усё жыццё трымае ў душы радасць першага зубка ў свайго дзіцяці, бо гэта незабыўная аздоба першай светлай усмешкі.

Віцькаў пярэдні зубок забялеў у яго роце амаль што раптоўна: не было і не было, хлопчык трошкі кволіўся. І вось аднойчы раніцай сонца засвяціла якраз у акно бабчынага пакоя. Мальвіна перад гэтым адшмаргнула фіранку, каб пaглядзець, якое надвор'е: мелася паехаць з Віцькам на прагулку. Ды і забыла зашмаргнуць зноў. Прамень сонца ўпаў малому на твар, і хлопчык неўзабаве прачнуўся. Можа ад проміня, а можа і проста таму, што ўжо выспаўся. Усміхнуўся ён тады, і маці ўбачыла зубік. Усмешка была надзвычайнай, на дзіва пяшчотнай і радаснай, зусім не падобнай на ранейшыя, што часам нагадвалі спробу заплакаць ці пазяхнуць.

— Мама, мама! Ірынка! — у захапленні пачала зваць Мальвіна тых, хто ў гэты час быў дома.— Ідзіце сюды, хуценька!

Але ні бабка, ні Ірынка Віцькавай усмешкі не засталі. Калі яны прыбеглі, малы ляжаў у калясцы, моцна і не надта задаволена стуліўшы вусны.

— Пакажы зубік, Віценька! — прасіла маці.

Малы толькі пасмоктваў вуснамі, а рота не разяўляў.

Цяпер Мальвіна ўсцешна думала, нават спадзявалася, што калі Віцька прачнецца ды ўсміхнецца гэтак жа хараша і пяшчотна, то ў яго забялеюць ужо два зубкі, а можа і больш.

— Няхай пасапіць! — нібы ўпрошвала, нібы загадвала бабка, адчуваючы, што дачка можа не вы-

трымаць ды якім-небудзь міжвольным рухам ці гарачым дыханнем дачасна разбудзіць малога. Адвёўшы Мальвіну ад ложка, ціха, але патрабавальна запытала:

— Што здарылася? Чаму ты?..

— Свет не мілы без яго... Усё астыла... Нават вучоба!..

— То ён жа — бачыш!.. Не пры чужых людзях, дзякуй богу...

— Ведаю! І ўсё роўна не магу! Або сама тут астануся, усё пакіну!.. Або яго забяру!

— А я не аддам Віцьку! — раптам крыкнула Ірынка.— Не аддам!

— Ціха ты! — шэптам загадала ёй бабка, але ўжо было позна сунімаць дзяўчынку, бо малы прачнуўся.

— Адкуль ты ўзялася? — спытала ў яе Мальвіна, бегучы да ложка.— Я цябе і не бачыла!

— Я з вожыкам была, але ўсё чула.

Віцька расплюшчыў вочы і пачаў махаць рукамі, быццам адганяючы ад сябе рэшткі сну, але не плакаў і ніякага голасу не падаваў. Маці нахілілася над ім з аднаго боку, бабка — з другога. Ірынка ж самаўладна ўзабралася на ложак і, пасмейваючыся, стала варушыць у руках жоўтую бразготку.

— Віценька! — пяшчотна прамовіла Мальвіна.— Хадзі ка мне, мой маленькі!.. Адзену цябе, абую... Паедзем і калясачку разам павязём...

Яна працягнула да хлопчыка рукі, але той цікаўна глядзеў на бразготку і не звяртаў на матку ніякай увагі. Усміхнуцца і паказаць зубок, а можа і два, яму нават і не думалася.

— От сядзь ды супакойся! — ужо стражэй сказала бабка і, не чакаючы, пакуль малы нешта там праявіць ці не праявіць, сама ўзяла яго на рукі.— Чула, што Ірынка сказала? От так яно і будзе! Нікуды ты яго не павязеш... За не блізкі свет...

У дзвярах дзіцячай трашчоткай двойчы абазваўся званок.

— Папка! — радасна ўсклікнула Ірынка і пабегла адкрываць і сустракаць.

Аўгусцін зайшоў у пакой, не распранаючыся, з Ірынкай на руках. Тая абхапіла яго шыю, і відно

было, што толькі вось-вось адхілілася ад бацькавага вуха, напэўна ж, пашаптала яму пра вяртанне Мальвіны.

— Здарова была! — узнёсла павітаўся Аўгусцін. Ён сапраўды сёння яе не бачыў, бо ноччу пайшоў на змену.— Я думаў — ты ўжо ў Ленінградзе!

— Ды вось!..— пачала маці, тулячы да сябе дзіця і крыўдліва паглядваючы на дачку.— Набрала ў галаву немаведама чаго...

— Ірынка, злазь! — лёгка пашлёпаўшы малую, сказаў бацька і апусціў рукі.

— А я не злезу! — заявіла дзяўчынка і яшчэ мацней ашчаперыла бацькаву шыю.

— Мне ж раздзецца трэба ды памыцца.

— А ты ўжо мыты! Вунь валасы яшчэ мокрыя! — І пачала кудлачыць густую шатэннасць бацькавай шавялюры, сапраўды яшчэ не прасохлай пасля шахцёрскай душавой.

— Мама,— звярнуўся Аўгусцін да старэйшай гаспадыні.— Калі ў вас што ёсць, то мо паснедаем разам? Ды заадно і пагаворым. Пэўна ж, і яна галодная,— ён спагадліва паглядзеў на Мальвіну.

— От я толькі малога адзену,— задаволена азвалася маці. Не так часта ёй даводзіцца накрываць агульны сямейны стол.

— Можа чаго трэба, то ў магазін збегаю! — прапанаваў Аўгусцін.

— І я з табою! — папрасілася Ірынка.

— Нічога не трэба! — заявіла бабка, і малая нахмурылася.

— А мая мама кажа, што ў магазін заўсёды трэба.

...Яны сядзелі за агульным сямейным сталом. Віцька трымаў у руцэ жоўтую бразготку і сяды-тады трахаў ёю па краі стала і па руках мацеры. Да ежы асабліва не цягнуўся — хлопец быў не зайздрослівы і не надта пераборлівы ў рацыёне: мог усмак накаўтацца кашы, запіць малаком і пагульваць без асаблівых капрызаў або спаць.

— Я разумею цябе,— памяркоўна загаварыў Аўгусцін, цераз стол паглядаючы на сястру.— Сам

перажываў такое ж — не мог адарвацца ад дзяцей: спачатку ад аднаго, а цяпер вось...— ён пяшчотна глянуў на Ірынку.— А так хацелася вучыцца!.. І цяпер гэта не выходзіць з галавы...

— Калі ты куды,— заявіла Ірынка,— то і я!

— Чуеш? — с ласкавым смяшком спытаў Аўгусцін.

— Чую,— адказала Мальвіна,— і падтрымліваю сваю нябогу. Думаю, што калі б Віцька ўмеў гаварыць, то сказаў бы тое самае мне. Таму і бяру яго з сабою.

— А з кім ён там будзе? — пакуль што стрымліваючы свае рашучыя пярэчанні, спытала маці.

— У яслі ўладкую. У кругласутачныя.

— На чужыя рукі здасі?

— Ну і сама з ім...— няўпэўнена запярэчыла Мальвіна.— Перад заняткамі... Пасля заняткаў... У выхадныя дні...

— А вучыцца калі?

Тут Мальвіна змоўкла. Больш рэальна ацаніўшы абставіны, яна пачынала ўяўляць, як бы ўсё было, каб яна нікога тут не паслухала і зрабіла па-свойму. З такім адставаннем, як у яе, могуць і не перавесці на наступны курс. А калі перавядуць, то колькі працы ды бяссонных начэй спатрэбіцца...

— Ты ж не захочаш хадзіць у адстаючых,— нібы ўгадваючы яе думкі, сказаў Аўгусцін.— Ведаю тваю натуру!.. Ды зноў жа — трохі па сабе адчуваю. Не рвуся ў перадавікі, аднак заўсёды хочацца быць чалавекам сярод людзей.

Вось тут нічога не скажаш, падумала Мальвіна. Гэта праўда. Усё можна сцярпець, а ярлык адстаючай — ніколі! Няхай нават і па важнай прычыне, самай сур'ёзнай! Няхай нават і не будзе папрокаў, катэгарычных патрабаванняў! Усе будуць уяўна спачуваць, а ў душы думаць: «Калі ўзялася за такі гуж, то цягні!.. Чаму гэта праз цябе ўвесь курс павінен нешта траціць?..»

— Можа мне на завочнае перавесціся? Пайду зноў на фабрыку... Буду працаваць і вучыцца...

Маці затрымала лусту хлеба ў руцэ, сурова глянула на дачку і ўпэўнена прамовіла:

— Не ўжо, маладзіца! Калі вернешся цяпер, то я пайду на фабрыку, а не ты! Будзеш сядзець з ім дома!.. Або ў яслі вадзіць! Твая справа... Я цвёрда гэта кажу, не так сабе!..

За сталом, відаць, запанавала б цішыня, калі б Ірынка не ўзяла з рук Віцькі бразготку. Той запратэставаў даволі гучна і патрабавальна. Дзяўчынка паказала, як трэба бразгаць, і вярнула забаву. І, каб зусім супакоіць малога, паабяцала:

— Я табе вожыка пакажу!

Задаволена ўсміхнуўшыся, Аўгусцін, хоць і не ў такой катэгарычнай форме, як маці, але выказаў тую ж думку. І, мабыць, упершыню прызнаўся перад усімі, што сам хоча паступаць на завочнае аддзяленне горнага інстытута.

— Ты памагла б мне, калі б стала інжынерам. А вось два завочнікі ў адной хаце нешта не ўяўляюцца.

— Я з-за цябе работу пакінула,— без усякай літасці прамовіла маці.— Каб ты вучылася!.. Каб абое вучыліся!.. Некалі бацька, нябожчык... толькі пра гэта і думаў... Сам — усё курсы ўсякія... То адны, то другія... А на дыплом не пацягнуў — вайна перашкодзіла... Вас жа ён хацеў вучанымі бачыць. Інжынерамі!.. Усё жыццё і я стараюся! А ты?!

Яна глянула толькі на Мальвіну.

## II

Інтэрнацкі пакой быў яшчэ зачынены: адтуль нядаўна выбраліся завочнікі. Дзяжурная па інтэрнату, стандартная для такіх пасад жанчына — яшчэ дзябёлая, але атлусцелая ад сядні,— завагалася перад «праблемай»: даць Мальвіне ключ ці не даць?

— Нешта доўга цябе не відно было?

— Дык я ж... Гэта самае... Дзіцё ў мяне...

— А-а... Гэта, значыцца, у цябе?.. Тут хадзілі чуткі... Сама ты яшчэ дзіцё!..

Даволі прасталінейна і крыўднавата для Мальвіны выказаўшыся наконт гэтага, дзяжурная ўсё ж адчыніла дзверы пакоя. Адтуль пацягнула ацэтонам.

— Падмазвалі трохі пасля завочнікаў,— папярэдзіла жанчына.— Можа яшчэ і не высахла — наравіся! Вокны паадчыняй, каб не задыхнуцца!..

У пакоі былі зрушаны ложкі, а крэслы, перавернутыя дагары нагамі, ляжалі на стале. Аднак падлога была ўжо сухая, хоць і блішчала жывым лакам, па ёй можна было ступаць. Мальвіна пазнала свой ложак па своеасаблівай паласе аблезлага нікелю на спінцы, паставіла чамадан...

Пад вечар з'явілася Люда, таксама з чамаданам, але не ў сваіх руках: за ёю ўвайшоў у пакой худы і высокі, як сучасны валейбаліст, зусім малады хлапец, бадай што, найлепшы ўзор цяперашняй акселерацыі.

— Пастаў сюды! — скамандавала Люда і ў гэты момант убачыла на суседнім ложку Мальвіну.— Прыехала!.. От маладзец!.. Мы разбудзілі цябе?

— Не, я толькі вось лягла.

— Даўно тут?

— З паўдня недзе. Але тут дыхаць не было чым, дык хадзіла ў горад.

— Ранавата мы з табою... Яшчэ, мабыць, і ў дэканаце нікога няма.

— Усюды зачынена,— пацвердзіла Мальвіна.— Я заходзіла.

— А гэта мой брат,— сказала Люда, выставіўшы аголеную руку ў бок хлапца.— Падыдзі, Вань, пазнаёмся!

І калі праз некаторы час хлапец выйшаў з пакоя, яна даверліва, але са смяшлівай хітрынкай зашаптала:

— Ніякі ён не брат!.. Гэта я для цёці Фросі, каб не чаплялася. Хлопцу пераначаваць няма дзе, дык я думала... Усё роўна інтэрнат яшчэ пусты.

Потым падсела да Мальвіны на ложак і звычнаўстойлівым шапаткам пачала распытваць:

— Ну, што бусел прынёс? Героя-касманаўта?.. Ці гераіню?

— Сынок у мяне,— са шчырым гонарам адказала Мальвіна.— Віценькам назвалі.

— О, ты шчаслівая! А ў мяне дачка, як ты ўжо

ведаеш... Але харошая пампушка... Усе ў нас там яе любяць.

— Не ведаю, як буду жыць без яго,— паскардзілася Мальвіна.— Ледзь ад дому адарвалася.

— Нічога, прывыкнеш! — упэўнена сказала Люда.— І ў мяне спачатку так было. А потым...

Увайшоў даўгавязы хлопец, і Люда прыклала палец да вуснаў.

— Дык у дэканаце, кажаш, яшчэ нікога? — загаварыла моцна і ўпэўнена, нібы ў працяг размовы.— Заўтра сходзім разам...

У пакоі сядзелі два чалавекі, знешняя кантраснасць якіх, нібы наўмысна падабраная, вельмі кідалася ў вочы. Адзін належаў да той узроставай катэгорыі, да якой стала цяпер модным прыклейваць хадзячы ярлычок: чалавек вопытны... Чалавек здольны... Аднак... І далей ішлі ўдакладненні, колькі ён пражыў на свеце і ці не пераступіў яшчэ той мяжы, калі можна звальняць без яго ўласнай згоды. У гэтага чалавека вельмі хараша аблягала падбароддзе і злівалася са скронямі сівая з бялёсымі кончыкамі барада. Вусы былі трошкі цямнейшыя, ля куточкаў вуснаў спушчаныя ўніз. Гэтым яны падмалоджвалі вусны, яшчэ і так даволі свежыя, а галоўнае — суладныя жывому і энергічнаму свячэнню добрых блакітных вачэй.

Гэта быў дэкан факультэта, і сядзеў ён за сваім службовым сталом. Збоку, за другім такім жа сталом (нехта паклапаціўся, каб мэбля ў пакоі была аднолькавая), займаў месца другі чалавек: маладжавасць яго была ранне камсамольская, быццам зусім нядаўна юнак перавёўся з піянераў. Гэта з твару, не ў меру дробнага і вузкага. А плечы ў хлопца былі шырокія, нават пінжак на іх трохі распіраўся, хоць і быў расшпілены. Сядзеў хлопец выпрастана, падаючы наперад шырокія грудзі, амаль поўнасцю закрытыя квятастым гальштукам. Гэта быў намеснік дэкана. Пра такіх часам гавораць: малады, ды ранні, перспектыву мае.

Гаворку вёў дэкан, якога тут празвалі дзедам. І наўрад ці гэта за ўзрост і бараду — на факультэце

ёсць людзі і з большымі бародамі, а па выгляду старэйшыя, хоць па гадах — юнакі, а хутчэй — за дабрату і ласкавасць дзедаўскую, вельмі блізкую і зразумелую ўсім студэнтам. Намеснік дэкана толькі тады-сяды ўстаўляў слова, і Люда адразу паварочвалася да яго: голас быў нібыта наўмысля падроблены для сцэны ці трыбуны — гучны, басавіты, і калі б не зважаць на яго жэсты, то можна падумаць, быццам нехта іншы гаворыць, зусім не з такім дзіцячым тварам і тонкім кружочкам вуснаў.

— Дык рашылі... без акадэмічкі? — нібы спытаў, нібы сцвердзіў дэкан, звяртаючыся да Мальвіны.— Місія не лёгкая, але я вам веру... Тым больш што такі прыклад у нас ужо ёсць.— Ён з лёгкай прыяззю глянуў на Людмілу.

— У мяне мама блізка,— заўважыла тая і гэтым нібы парушыла ўпэўненасць дэкана.

— Так, так...— на момант нібы ўсумніўся дзед.— Я разумею... разумею... З праведваннем цяжэй будзе... Без адрыву, так сказаць... Але будзем думаць...

— З экстэрнам у вас усё ў парадку?

Гэта грымнуў сваім баском намеснік дэкана. Мальвіна здрыганулася, але не ад сутнасці пытання, а ад яго голасу. «Няўжо будзе чытаць лекцыі ў нас? — здзівілася ў думках.— Навічок, раней яго не было. Хто прывыкне да такога лектара?»

— Там, у яе Васільках, ёсць філіял політэхнічнага,— паспешліва ўставіла Людміла, відаць, жадаючы хоць як-небудзь апраўдаць сваю прысутнасць.

— Усё ў мяне тут,— пацвердзіў дэкан, кіўнуўшы барадой на лісткі, што ляжалі на стале.— Спецыяльныя прадметы пакуль што не патрабуюцца, а агульнавузаўскія адолены. Цяпер размова толькі пра далейшае...

Падаючы ўсё ў форме быццам бы асабістай развагі, дэкан ні разу не глянуў на свайго намесніка і, здаецца, не чакаў ад яго ні пытанняў, ні пэўных рэкамендацый і парад наконт той жыццёвай праблемы, якая трывожыла яго душу. І толькі калі пачулася традыцыйная рэпліка аб так званай чарговасці

вучобы і сям'і, дзед адхіліўся ад стала, уставіў на юнака даволі рэзкі і пранікнёны пагляд.

— Скажыце, Рэм Ігнатавіч! — звярнуўся з даверлівай настойлівасцю.— Калі гэта магчыма, канечне. У вас ужо ёсць сям'я? Мы толькі пачынаем наша супрацоўніцтва, таму мне гэта яшчэ невядома.

— Ёсць,— зусім не здзівіўшыся такому пытанню, адказаў хлопец.— Але не свая: жыву пры бацьках.

— А наконт свае — як у вас?

— Усё ў свой час. Так я лічу! Закончу доктарскую, тады...

— А калі, прабачце, вы не закончыце доктарскую?

Хлопец сумеўся, відаць, не чакаў такога павароту ў размове. Аднак хутка пераадолеў замінку і ўпэўнена сказаў:

— Такога не можа быць!

— Хіба вы ніколі не кахалі? — прыцішыўшы голас, нібы са спачуваннем, але і з цікаўнасцю запыталася Люда.

Хлопец яшчэ горш сумеўся і разгублена пагля- дзеў на студэнтак. На яго твары каля вачэй выступіла сарамлівая ружовінка.

— Мне здаецца, што не зусім да месца высвятляюцца такія абставіны,— ніякавата прамармытаў ён.

— Чаму не да месца? — рашуча запярэчыў дэкан і ўвачавідкі ажывіўся, павесялеў.— Лёс чалавека абмяркоўваем. А я, да прыкладу, скажу, што ажаніўся рана, яшчэ на першым курсе інстытута, і ніколі не каяўся ў гэтым. Яна таксама была студэнткай-першакурсніцай. Помню, беглі ў загс пад праліўным дажджом, босыя: яна зняла свае лодачкі, а я сандалі... Прыбеглі мокрыя да ніткі, з вопраткі цяклі струменьчыкі, але рады былі, што не спазніліся, не прапусцілі свае чаргі...

...Жылі ў інтэрнаце. Акрамя сваіх сціплых стыпендый, нічога не мелі. Бывала, купім порцыю студзеню на дваіх, утулімся ў кутку яе інтэрнацкага пакойчыка і сілкуемся з такім апетытам і радасцю, быццам нічога лепшага няма і не можа быць ва ўсім свеце.

— У кожнага па-свойму,— ціха заўважыў Рэм, і на прыглушаных танах голас яго прагучаў сіплавата і быццам не па-мужчынску.

— Зусім не пярэчу! — падхапіў дэкан.— І сваім штрышком з мінулага зусім не сцвярджаю, што толькі раннія сем'і найбольш мэтазгодныя. Але ў наш час, мабыць, гэтага не пазбегнуць: моладзь расце і развіваецца хутка як фізічна, так і духоўна. Пачуцці Рамэо і Джульеты могуць прыйсці рана, і можа адзін раз у жыцці. Дык што важней для нас з вамі: стрымліваць, глушыць іх ды чакаць поўнага камфорту для жаніцьбы ці больш думаць аб тым, каб ствараць хаця б мінімальныя ўмовы для жыцця сямейных студэнтаў?

Дэкан абвёў бародкай сваіх наведвальніц, што сядзелі на бакавым радзе крэслаў, нібы ацяпліў іх ласкавымі вачыма, і спытаў:

— Вось скажыце шчыра, калі б вам далі асобныя пакоі і месцы ў дзіцячых яслях побач, забралі б вы сваіх малых да сябе?

Першай згодліва заківала галавой Мальвіна: дзіва што забрала б, і ў вялікую радасць было б даглядаць Віцьку, штодзённа клапаціцца пра яго. А дзе ёсць радасць, там няма перашкод — вучоба ішла б з патрэбным поспехам.

— У нас некалькі сямейных студэнтаў,— працягваў дэкан.— І нікому з іх мы не здолелі практычна памагчы. Некаторыя ўзялі акадэмічны, а большасць жывуць у разлуцы з дзецьмі. І вучацца. Не лёгка ім, канечне. Душа баліць, калі даведваешся або адчуваеш, якой цаною даецца ім вучоба: неадольны сум па дзіцяці, бясконцая трывога, частыя вымушаныя пропускі. Але ж і радуешся, калі бачыш у студэнцкіх вачах сапраўднае шчасце ад кахання, ад вялікай і чароўнай місіі мацярынства ці бацькоўства.

— Тут ёсць праблема,—нарэшце прызнаў Рэм, аднак больш ні слова не дадаў, бо, напэўна, і не ведаў, што дадаць. Ён заўважыў, што Мальвіна быццам бы і з надзеяй глянула на яго, але хутка адвяла вочы з упэўненасцю, што не яму вырашаць такія складаныя пытанні. І нават не дэкану, хоць у гэтага чалавека былі прызнаныя ўсімі не толькі педага-

гічныя, а і арганізатарскія здольнасці. У яго спачувальным паглядзе Мальва чытала толькі адно:

«Будзеш ты вучыцца, маладая мамка, як вучыліся такія ж мамкі да цябе і вучацца цяпер. Будзеш раздзіраць душу надвае — на вучобу і на клопаты аб сыне. Заяўкі твае розныя будуць часта ляжаць перад маімі вачыма: аб няўрочнай паездцы дадому, аб дазволе здачы прапушчанага экзамена, аб пераздачы праваленага прадмета... Добра, калі перад маімі вачыма. Але вось жа стол побач... Можа трапіць твая пісьмовая просьба туды. І заблішчаць у цябе слёзы на вачах ад крыўды, ад роспачы...

Потым можа быць і яшчэ заява, надзвычайная, але зусім магчымая: папросішся на завочнае аддзяленне, і тады мы, стацыянарнікі, развітаемся з табою назаўсёды...»

## III

Стары дэкан прадбачыў многае, але не ўсё. Мальвіна ні разу, ні пры якіх абставінах не пусціла слязу і заявы аб пераводзе на завочнае аддзяленне не падала. І вось яна зноў у тым мінскім самалёце, які за апошнія гады стаў ёй амаль родным: здавалася, што і гул яго неяк вылучаўся сярод іншых і чароўна хваляваў, наганяў на душу асалоду спаткання з сынам, і ўтульнасць у ім была надзвычайная, бо нідзе так не хацелася спаць, і ветлівасць, амаль гасціннасць сцюардэсы, ужо добра знаёмай і блізкай, заўсёды радавала, нават здзіўляла.

— Ужо, мабыць, зусім дадому? — на гэты раз спытала сцюардэса, падносячы Мальвіне талерку з цукеркамі.

— Вы ўгадалі.

— А гэта, мабыць, той, да каго вы так часта ляталі? — яна наблізіла талерку да бялявага хлопчыка ў сінім берэціку.— Вазьмі і ты цукерачку!

Малы жвава працягнуў руку і ўзяў цэлую сваю жменю.

— Навошта столькі! — папракнула маці.— Адну трэба!

— Няхай, няхай! — усміхнулася сцюардэса.— Як цябе завуць, новы пасажыр?

— Віцька,— ахвотна адказаў малы.

— Значыць, той самы,— радасна ўпэўнілася дзяўчына.— Хутка я прынясу табе яшчэ цукерак.

Мальвіна глядзела на сцюардэсу, відаць, сваю равесніцу, элегантную, падцягнутую, і адчувала нібыта міжвольнае шкадаванне, што, магчыма, апошні раз бачыць яе тут, бо ўжо наўрад ці давядзецца лятаць у Ленінград. Апошні рэйс. Дыплом інжынера пры пашпарце. Праз некалькі гадзін яна будзе дома, у сваіх Васільках, на сваёй роднай фабрыцы. Стане на флатацыю і адчуе ранейшую асалоду і радасць той працы, з якой некалі пачынала сталае жыццё. Можа і напарніцы некаторыя асталіся?..

Мінулі гады. Не лёгка яны праходзілі, кожны дзень пакідаў свой след, часам нават гадзіна давалася ў знак. А цяпер уяўлялася, што вельмі хутка ўсё праляцела. З хваляваннем і асалодай думаецца аб тым, што будзе ўжо нават сёння, а яшчэ больш — аб заўтрашнім ды наступных днях. Учарашнія дні — усе на памяці. Заўтрашнія — ва ўяўленні...

З учарашніх дзён свідруюць памяць некалькі штрышкоў.

Віцька заснуў, як толькі самалёт набраў вышыню. Цукерка асталася ў роце, берэцік ссунуўся набок, адтапырыўшы пасмачку бялявых валасоў. Мальвіна таксама прылягла пры ім, адкінуўшы крэсла. Маленькае пяшчотнае цельца родным цяплом прыгравала бок. І гэтае цяпло ўлівалася ў душу. Не шкодзіла б заснуць і самой, у першыя хвіліны быццам і пацягнула на сон, а потым актыўнасць мар і ўспамінаў перамагла, цягнула ўзнавіць сёе-тое ў памяці, пераасэнсаваць і ясней паглядзець на сваю новую дарогу.

Аўгусцін доўгі час ляжаў у васількоўскай бальніцы.

Быў выпадак у аўтаматычнай праходцы, калі камбайн дасягнуў незвычайнай, яшчэ зусім не зведанай зоны: пласт сільвініту вельмі рэзка падаўся ўніз, а над ім навіс тоўсты слой іншага радовішча — карналіту. Такой з'явы не наглядалася ні ў адным забоі.

Арлоўскі загадаў спыніць машыну. Па свайму вопыту ды і з практыкі ў іншых рудніках ён ведаў, што калі сільвінітны пласт пачынае вырабляць розныя выкрунтасы або залішне звужаецца ды ўступае месца карналіту, багатаму на газы, то трэба асцерагацца газавых штуршкоў, большых ці меншых, а можа нават і выбухаў. Такое месца лепш абысці.

Але дакуль жа абходзіць усё нязведанае? І так у васількоўскіх нетрах пакідаецца столькі карысных выкапняў, што калі хто загляне ў шахты праз дзесяткі год, то напэўна скажа: драпежнікі тут працавалі, а не людзі — забралі толькі тое, што само ў рукі ішло.

І вырашыў Аўгусцін зрабіць буравую разведку ў карналітным пласце: калі ёсць там газ, дык ён высвішча праз свідравіну, а калі няма, то трэба скарэкціраваць камбайн і пускаць далей.

...У забоі — змена двух камбайнаў — шэсць чалавек. Сабраліся вакол Аўгусціна, пасвечваюць на яго сваімі надгалаўнымі ліхтарыкамі, маўчаць.

— Аўтаматычнага бура ў нас няма,— ціха гаворыць Аўгусцін і таксама пасвечвае на хлопцаў сваім ліхтаром.

«Ведаем»,— гавораць іхнія вочы, а самі маўчаць.

— Некаму прыйдзецца пускаць бур рукамі.

«Ведаем»,— гавораць сяброўскія вочы.— Каму скажаш?»

— Прынясіце звычайны бур!

Двое пабеглі. Праз хвіліну яны вярнуліся і з ходу — да камбайна, каб пачаць бурыць.

— Пачакайце! — перапыніў іх Аўгусцін.— Пакіньце тут бур, а самі адыдзіцеся. Усе адыдзіцеся!

— Чаму так? — здзівіліся хлопцы.

— Таму, што я сам стану бурыць!

Узнялася даволі жорсткая спрэчка, яна магла б і зацягнуцца праз настойлівасць Аўгусціна, але часу не хапала — і хлопцы паслухалі старшага і больш асцярожнага ў небяспечных эксперыментах.

Аўгусцін запусціў бур у верхні пласт карналіту. Першая свідравіна не паказала нічога. Другая таксама не выявіла ніякага згушчэння газу. Тады Аўгусцін адступіўся па адлегласці і выбраў месца

амаль перад разцамі камбайна. Кожная хвіліна такой разведкі ўсё больш упэўнівала яго, што ніякай газавай ямы ці нават ямкі тут няма, што пасля трэцяй свідравіны можна будзе смела пускаць камбайн. Сам пачаў менш асцерагацца, прыслухоўвацца, на кожным руху адчуваць і вызначаць, як паводзіць сябе ненадзейны пласт.

...Амаль на апошняй глыбіні бур раптам вышгурхнула і ўдарыла газам па камбайне. Машына з месца не скранулася, але забой у момант напоўніўся шкодным газам. Хлопцы, надзеўшы прылады бяспекі, рынуліся да Аўгусціна. На шчасце, ён быў у масцы. Калі вынеслі ў штрэк і далі дыхнуць кіслародам, ён упэўнена сказаў:

— Цяпер можна пускаць камбайн!

Голас прагучаў бадзёра, нават радасна, аднак сам ён устаць не мог. Выклікалі ўрача, прыйшлі начальнік участка, механік рудніка, распытваюць у яго, што адчувае, як і ў якім месцы нанесена траўма, а ён няспынна даводзіць ім тое, пра што ўжо гаварыў не раз:

— Трэба ўсе буры ставіць на аўтаматыку!.. І разведку весці аўтаматычна, каб чалавека блізка не было. Без гэтага цяпер не абысціся!

У бальніцы было канчаткова выяўлена, што бур моцна штурхнуў Аўгусціна ў грудзі, адкінуў на сценку забоя, і калі б не дужасць рук шахцёра ды не дасканалая шматгадовая спрактыкаванасць, газавы стрэл мог бы знявечыць яго...

...Горбік з'явіўся ў Васільках яшчэ да гэтага здарэння. Пазваніў Мальвіне (яна якраз прыехала праведаць сына) і катэгарычна сказаў:

— Калі хочаш мець аліменты, то прыходзь у гасцініцу, пакуль не прасвістаў усё да рэшты. (Свой пакой ён здаваў кватарантам.)

Мальвіна не пайшла.

Праз нейкі час ён прыбрыў да Арлоўскіх сам. Мальвіны ўжо не было ў Васільках, маці пайшла ў бальніцу да Аўгусціна, а дома аставалася адна Ірынка, пад нагляд якой быў пакінуты Віцька. Дзяўчынка з радасцю адчыніла дзверы, як толькі пачула

званок, бо спадзявалася, што прыйшоў хтосьці са сваіх.

Мабыць, навучаны горкім вопытам, Савел не затрымліваўся на парозе, не распытваў, хто ёсць і каго няма дома, а адразу шыбануў у кватэру і махнуў за сабою дзвярыма. Ірынка сумелася, відаць, па інстынкту абаронцы малога перш за ўсё кінулася да Віцькі, але, заўважыўшы, што незнаёмы быццам і сам разгубіўся, убачыўшы ў пакоі хлопчыка, рашуча спытала:

— Вы хто такі?

— А я, дзетка, і сам пакуль што гэтага не ведаю,— умільна адказаў Горбік. Твар яго чырванеў ад добрай порцыі хмелю, але старанна расцягваўся ў ліслівую памяркоўную ўхмылку, і нават не надта ўпэўненае маханне рукамі паступова сцішалася і ўсё больш рабілася плаўным і ўгодлівым.— Хто я тут такі? Як мне здаецца, дзетка, то я ўсяго толькі бацька вось гэтага прыгажуна, што сядзіць у цябе на падлозе і трымае між ног мячык. Як яго завуць?

— Віцька,— адказала Ірынка, здзіўлена ўставіўшыся на прышэльца.

— Ну вось!.. Так яно і ёсць!.. Віцька, значыць... Здароў, сынок!

Горбік прысеў перад малым на кукішкі і, расплыўшыся ў шырокай і пяшчотнай усмешцы, можа ўпершыню такой за ўсё сваё жыццё, працягнуў хлопчыку шырокую, загарэлую ад работы на сонцы далонь.

Той смела, не чакаючы ўгавораў, падняў левую руку, але Ірынка, забыўшыся на ўсё, падказала:

— Не тую, не тую!..

Малы паслухмяна апусціў гэтую руку на мяч і падняў правую.

— Вы хіба Віцькаў тата? — усё яшчэ ў здзіўленасці і трывозе спытала Ірынка.

— А хто ж, ты думаеш? — ласкава пацiскаючы маленькую пульхную ручку, перапытваў Горбік.— Хто ж, ты думаеш?.. Вядома ж, я. Вось мы і сустрэліся і пазналі адзін аднаго. Праўда, Віцька?

— А ў яго няма таты! — рашуча заявіла дзяўчынка.

— Вось гэтага і не можа быць,— без крыўды і не перастаючы забаўляць малога, стаў тлумачыць Горбік.— У кожнага чалавека павінен быць свой тата. І ў Віцькі ён ёсць. А як жа?! Ёсць і будзе! Праўда, сынок?

Савел, як на спружынах, усхапіўся з дывана, выбег у калідорчык і вярнуўся адтуль без чаравікаў і пінжака. На галаве ў яго і да гэтага не было нічога. Зноў нахіліўся перад малым, а потым сеў насупраць на дыване, як сядзеў Віцька, і выцягнуў паабапал малога ногі.

— Давай пагуляем з табою ў мячык! — прапанаваў малому.— Ты каці яго да мяне, а я — да цябе. Ну, давай!

Радасна глянуў на Ірынку, спытаў:

— Ён ужо гаворыць што ці не?

— Толькі «мама» і «баба»,— адказала дзяўчынка.— А больш нічога!

— Так, так...— Савелій на момант задумаўся, з твару сплыла ўзнёсласць.— А цябе як завуць? Ірынкай, здаецца. Помню, некалі твой бацька мне гаварыў. Як здароўе бацькі? Папраўляецца?

— Бабка прыйдзе, то скажа.

— Любіш ты свайго тату? Шкадуеш?

— А як жа...

Тым часам Віцька штурхнуў рукою мяч, і той пакаціўся ў ногі бацьку. Сам наставіў рукі, каб пераняць мяч, калі пакоціцца назад. У чаканні весела і неяк асабліва пяшчотна засмяяўся, шырока разявіўшы рот і паказваючы шчыльныя, чыстыя зубы. Горбіку ўявілася, што гэта яго ўсмешка, і ён таксама шырока засмяяўся, нібы паўтараючы малога. Потым выставіў трубкай вусны, завукаў падзіцячы, відаць, таксама першы раз у жыцці:

— У-у... мой маленькі, мой халёшанькі!.. Давай мы з табою ножкамі пагуляем у мячык! Ты ўмееш ножкамі?

І толькі хацеў спытаць пра гэта ў Ірынкі, як малы штурхнуў мяч нагой.

— Вось маладзец! Давай устанем і будзем сапраўднымі футбалістамі! Ён ужо ўмее хадзіць? — усё ж звярнуўся да Ірынкі.

— Нават бегае,— пацвердзіла тая.

Паласаты дыван у невялікім зальчыку ператварыўся ў футбольнае поле. Два футбалісты ўвайшлі ў такі азарт гульні, што нават не пачулі, як, адамкнуўшы сваім ключом дзверы, увайшла ў кватэру бабка. Нейкі час разгублена глядзела з парога на зусім нечаканую з'яву, а потым рашуча падышла да Горбіка і, нават не павітаўшыся, спытала:

— Хто цябе сюды зваў? Га-а?

— Добры дзень, Анэта Іванаўна,— паздароўкаўся Горбік.

— Хто цябе зваў, пытаю?! Мы цябе шукалі, патрабавалі? Адпраўляйся туды, адкуль з'явіўся!

— Сын жа ён мне, Анэта Іванаўна!

— Табе?.. Сын?..

— А я сказала, што ў Віцькі няма таты! — уставіла Ірынка і крыўдліва адвярнулася ад Горбіка.

Малы ў гэты час стаяў ля сцяны каля мяча, моўчкі паглядваў на бацьку, і па яго развяселеных вачанятах было відно, што вельмі хацеў працягваць гульню. Бабка заўважыла гэта, незадаволена зыркнула на Ірынку, а нязванаму госцю не ўступала.

— Вунь духам перагарэлым і прэлінай усюды панясло! Ты што, патруціць дзяцей хочаш?

— Анэта Іванаўна! — ледзь вытрымліваючы такую абразу і няёмка ўтаропіўшы вочы ў пратаптаныя шкарпэткі, з глухім надрывам прамовіў Горбік.— Вы заўсёды былі да мяне бязлітаснай, гэта я ведаў. Аднак такога не чакаў ад вас: пашануйце хоць унукаў! Сёння я, праўда, узяў трошкі для смеласці: не лёгка мне было адважыцца зайсці сюды. А ў наступным — клянуся, што нават і не нюхну спіртнога, ідучы да сына. От пабачыце!

— Я і слухаць гэтага не хачу,— стаяла на сваім Анэта.— Ці мала каму ты ўжо кляўся?!. Веры табе няма! А нас пакінь! Жылі без цябе і цяпер пражывём! Душам спакайней будзе!

— А калі я не змагу без яго? Няўжо вы не разумееце?

— Мог дасюль, то вытрымаеш і далей!

Анэта пайшла ў свой пакой, у тую ж хвіліну зачыніла за сабою дзверы, а Горбік пастаяў трошкі ў крыўднай разгубленасці, потым развітальна кіў-

нуў сыну, каб таксама падацца ў калідор, ды ў гэты момант Віцька штурхнуў нагою мяч.

Сілы не хапіла не пералавіць гэтую надзвычайную падачу... Волі не хапіла не паслаць мячык назад. Віцька з радасцю кінуўся насустрач мячу, спачатку ўхапіў яго рукамі... Што ні рух, то небывалая ўцеха, бурная, галасістая радасць... Зноў у пакоі аж рэхам аддаецца дзіцячы смех, шчырае захапленне.

У Савелія шчыміць на сэрцы, ён ведае, адчувае, што трэба яму ісці, але падае малому мяч. Падае і прымае, падае і прымае... Потым хапае малога на рукі разам з мячом...

У гэты момант прыадчыняе дзверы Анэта. У яе намер — зноў умяшацца, перарваць нязвычную гульню. Але яна бачыць, як стуліўся малы на руках у бацькі: адной рукой трымае мяч, а другою абхапіў бацькаву шыю. Туліцца і маўчыць, нават і не варушыцца, пэўна ж, і не думае злазіць з рук, і адчувае бабка, што вось няхай уздумаецца Горбіку панясці або павясці малога на вуліцу, дык і ўзрадуецца хлапчанё, нават і на бабку не гляне.

— Ну, хопіць ужо! — строга, але з доляй памяркоўнасці сказала Анэта, падыходзячы да Горбіка.— Віцька, хадзі сюды!

Яна працягнула да хлопчыка рукі, але ён адхіліўся і яшчэ больш прыціснуўся да бацькі.

— Ідзі, сынок, да бабкі, ідзі! — ласкава сказаў Савелій.

Потым хлопчык доўга плакаў. Бабка суцешвала яго, а сама ўсё думала — добра яна зрабіла, што, па сутнасці, прагнала Горбіка, ці кепска? Што б сказала на гэта Мальвіна?..

У бальніцы Аўгусцін... Галава на падушцы... Чорныя, трохі злямчаныя валасы варонімі крыламі раскінуліся на белай навалачцы. І так хацелася Анэце сабраць гэтыя валасы ў свае рукі ды прытуліць да твару, удыхнуць іх пах... І прыпасці б вуснамі да галавы, ужо з сівінкай на скронях, а для яе ўсё той жа, якой была яна некалі ў калысцы.

Як ні пякла ў свой час крыўда на Мальвіну, а пачуццё роднасці ўзяло верх над усім. І не аста-

лося ў душы нічога чорнага, а толькі адно ў жаданнях — хоць сабою ахвяраваць, абы ёй было лепш.

Можа гэта быць у Горбіка? Напэўна, можа, бо ўсё ж такі ён таксама бацька. Драмала недзе яго бацькоўства, бадай, зусім спала, не прачыналася. А вось можа і прачнулася... Убачыў сына і затрасся... Калі б і піць перастаў, то няхай бы... Не аставацца ж хлопчыку бязбацькавічам...

Анэта падазвала да сябе Ірынку і ўнушальна сказала:

— Ты больш не гавары, што ў Віцькі няма таты. Нікому не гавары! Зразумела?

Дзяўчынка насуплена кіўнула галавою, а потым нясмела спытала:

— А калі ён зноў прыйдзе, а вас не будзе, то што мне рабіць: пускаць ці не пускаць?

Анэта вельмі ж старанна стала забаўляць малога, нават абяцала пагуляць з ім у футбол, панасіць і пагушкаць на руках. Потым панесла яго ў свой пакой і калі дамаглася суцяшэння, то адчыніла дзверы і загадала Ірынцы:

— Без мяне не пускай! Чуеш?

— Чую! — азвалася дзяўчынка недзе ад самага парога.— Але як я пазнаю: гэта ён звоніць ці не ён?

— У вочка спачатку паглядзі!

Яна глядзела ў «вочка»... Яна некалькі разоў не пускала Горбіка ў кватэру. Але чалавек не адыходзіў ад дзвярэй, а чакаў гаспадыні. Кожны раз прыносіў малому якую-небудзь цацку, і паступова ў бабчыным пакоі з'явіўся цэлы куток Віцькавых забаў. І мячы былі такія, што ў пакоі з імі не пагуляеш, не разгонішся...

— Пагуляем трошкі ў двары!..

Бабка ўстрывожылася ад гэтых слоў, а малы адразу ўлавіў іх. Бабка пачала раздумваць: сапраўды, хлопчык мала бывае на паветры, мала бегае, рахіцікам можа стаць. А малы ўжо нёс бацьку чаравікі, выбіраў з кутка самы большы мяч.

Пасля дваровага футболу Віцю не трэба было ўгаворваць на яду, і спаў ён потым больш і лепш. Матчы працягваліся, затым — доўгія прагулкі ў ва-

сількоўскі парк і нават на мора. Хлопчык загарэў, адзябёліўся, і бабка ў душы радавалася за яго, хоць часам і дакарала сябе за тое, што сама не здолела даць малому столькі радасці і карысці.

— Няхай маці прыедзе, пацешыцца!..

Яна не прыязджала. Яе чакалі з дня на дзень, ды нешта затрымлівала Мальвіну, нешта перашкаджала ёй у пару з'явіцца дадому.

— Злётаем, даведаемся! — сказаў аднаго разу Горбік.

Анэта спачатку насцярожылася, а потым памяркоўна сказала:

— Калі маеш час, то і злётай! Паможаш там... Ужо ж, мабыць, назаўсёды вяртаецца.

— Злётаем, я кажу! — удакладніў Савелій.

— Як гэта «злётаем»? З кім?

— З Віцькам!

— І мяне вазьміце! — папрасілася Ірынка.— Я яшчэ ніколі!..

— Ціха! — ледзь не крыкнула Анэта Іванаўна.— Нешта я не разбяру: жартачкі тут падаюцца ці проста здзекі? — Яна выйшла са свае бакоўкі, рашуча наблізілася да Горбіка.— Ты ў сваім вуме? З малым у самалёт?.. Ды яшчэ да самалёта колькі?

— А што тут кепскага? — мякка, але настойліва запярэчыў Горбік.— Дзеці любяць самалёты! А Віцька са мною хоць на край свету!..

— Ды я ўжо бачу, што нават і бабка яму не патрэбна. Але ж нельга рызыкаваць: яшчэ здарыцца што ў дарозе ці там на месцы... А ў яе экзамены...

Спрэчкі працягваліся некалькі дзён, і Горбік пераемог. Іншы раз ён умеў даводзіць свае перакананні і не шкадаваў для гэтага ні часу, ні цярпення, пускаў у ход усё, што на той час у яго было: пэўны жыццёвы вопыт, красамоўства, асаблівасць біяграфіі і нават патрэбныя прыклады з газет і мастацкай літаратуры. Галоўнае ж — паказваў найлепшы ўзор цвярозасці і гэтым унушыў пэўны давер.

Так і апынуўся Віцька ў Ленінградзе, таму ён сёння і ляціць з Ленінграда з нерухомым ледзянцом у сцішаным ад сну роце.

Але ж што адбылося ў Ленінградзе да гэтага?

Як ні бравіраваў Горбік перад цешчай сваім красамоўствам і лагічнасцю довадаў, а старая не памылялася ў сваіх адчуваннях: Мальвіна сапраўды ледзь не сарвала абарону дыплома праз гэтае нечаканае з'яўленне Савелія, ды яшчэ з Віцькам. Як гэта атрымалася, якім чынам? Ёй і радасна было сустрэцца з сям'ёй, асабліва з сынам, і ў той жа час адольвала трывога ад неадступнага адчування, што гэтае шчасце не на той, што трэба, аснове, што тут ёсць нешта нялюдскае, нетрывалае. І яшчэ ж — як цяпер размеркавацца з часам, з сілай, са сном і бяссонніцай? Ледзь не ўсе суткі забірае дыплом, а дзе знайсці хоць хвіліны для Віцькі?.. Дзве магутныя сілы, як і некалькі год назад, рашуча паўсталі адна супраць другой, павялі няспыннае змаганне. Мальвіна пасярэдзіне гэтых сіл і не ведае, каторай аддаць перавагу. Што азначае няздача дзяржаўнага экзамена?.. А як адарвацца ад сына, калі ён абхапіў ручкамі шыю і не пускае ад сябе?..

Завяршыўся той апошні ленінградскі перыяд вельмі дзіўна, хоць і не зусім неспадзявана для Мальвіны. У аэрапорце, незадоўга да пасадкі, Горбік раптам знік. Віцька не заўважыў гэтага, бо маці трымала яго на руках і туліла да сябе. Неўзабаве Савел вярнуўся, і Мальвіна адразу ўбачыла, што твар яго змяніўся, неяк падзічэў і адчужана завастрыўся. Малы нібы спалохаўся бацькі і мацней прытуліўся да матчынага пляча.

— Не пратрымаўся хоць да звароту? — паўшэптам, але рэзка папракнула Мальвіна.

— Ты пра што?

— Сам ведаеш!

Цяжка вызначыць прычыну, хутчэй за ўсё і без прычыны, але Горбік перабраў меру, твар яго ўсё больш дзічэў і абліваўся потам. У самалёт яго не пусцілі.

— Гэта ваш муж? — спытаў дзяжурны міліцыянер у Мальвіны. Яна кіўнула галавой, але прасіць за яго не рашылася.

Віцька спакойна спіць. Ужо на руках у Мальвіны ён пачынаў драмаць — якраз надышла пара яго дзённага адпачынку. Калі прачнецца, то, пэўна, затрывожыцца, што няма побач бацькі, і Мальвіна будзе нешта гаварыць яму, неяк растлумачваць такое здарэнне.

Ці ведае яна сама, што скажа сыну? Наўрад. Ужо колькі разоў намервалася дайсці тут да свайго берага, зарубіць у душы, што ў яе няма мужа, што ў сына няма бацькі. І ўсё то не хапала рашучасці, то з'яўляліся такія абставіны, што пачыналі расхістваць ужо, здавалася б, зусім наспелыя рашэнні.

Як ён угаварыў, пераканаў маці, такую насцярожаную, не падатлівую на лёгкую даверлівасць? Дачцэ ўнука не аддала, а яму дазволіла: вядзі, нясі, нарэшце, вязі куды хочаш! Што цяпер скажа, як сустрэне іх, колькі разоў горна і роспачна пакруціць галавой?.. І пакарае сябе бязлітасна.

— Як жа хоць ты? — спытае, калі ўжо крыху ўлягуцца перажыванні, калі зусім упэўніцца, што хлопчык здаровы і вясёлы.— Назусім прыехала ці яшчэ паедзеш?

— Назусім.

— З дыпломам тым самым ці пакуль што?..

— З дыпломам.

— Значыць, інжынер... Бацька ўсё жыццё марыў пра гэта. Можа, каб больш вучаны быў, то і жыў бы...

— Гэта не зусім так, мама. Здараюцца няшчасці і з вучанымі...

## IV

У кутку пакоя з левага боку ад дзвярэй стаяла адасоблена не стыльнае і не камфортнае крэсла. Мальвіна пастаяла крыху ля парога, пераканалася, што на яе ніхто не звяртае ўвагі, падышла да гэтага крэсла і села.

Начальнік аддзела кадраў аб'яднання, пажылы, можа і вопытны, але, відаць, залішне спакойны і нават абыякавы чалавек, размаўляў у гэты час адразу з некалькімі наведвальнікамі, якія акружылі

яго стол. Кожнаму даваў нейкія парады, указанні, але на іх амаль не глядзеў, а ўсё быццам бы не адважваўся адарвацца зрокам ад стала і, адначасова з гаворкаю, перакладаў, пераварочваў, можа нават і праглядваў свае бягучыя паперы. Людзі разышліся, а ён яшчэ нейкі час разбіраўся ў сваіх настольных справах, нешта падпісваў, потым на момант узняў галаву і спытаў:

— Ну, а вы чаго там сядзіце?

— Чакаю, калі вы звернеце на мяне ўвагу.

— Ну, дык што вы хацелі?

— Я накіравана сюды на работу.

— Нават накіравана? Хто ж гэта такі вас накіраваў?

— Ленінградскі горны інстытут.

— Ага! То можа падыдзеце сюды ці будзеце чакаць, пакуль я да вас падыду? Дакументы ёсць?

Мальвіна на хаду дастала з сумачкі дыплом і накіраванне, падала начальніку і спынілася каля стала. Той разгарнуў спачатку дыплом, агледзеў яго з усіх бакоў, відаць, сам ніколі не меў такога, потым, быццам пераканаўшыся, што ніякай падробкі тут няма, стаў учытвацца ў тэкст. Твар яго ўвачавідкі дабрэў і набываў даволі прыемныя рысы.

— Сядайце,— сказаў Мальвіне і паказаў рукою не на тое крэсла, дзе яна да гэтага сядзела, а на самае бліжэйшае ад стала.— Інжынер, значыць. Што ж, віншую вас!.. Віншую!.. Нам такія людзі патрэбны...— І дадаў ціха, нібыта толькі для самога сябе:— Ды яшчэ жанчыны... Ды яшчэ маладыя, прыгожыя...

Прачытаўшы накіраванне, зноў паўтарыў сваё «віншую, віншую» і раптам, звузіўшы вочкі, умільна спытаў:

— Вы замужам?

— Гэта да справы не адносіцца! — незадаволена адказала Мальвіна.

— Чаму не адносіцца? — запярэчыў начальнік.— Будзеце запаўняць кадравы лісток — там ёсць такое пытанне... І ў аўтабіяграфіі напішаце. Павінны ж мы ведаць чалавека, якога бяром на работу. Магчыма, муж ваш...

— Ах, вунь што! Не, не! Зусім просты рабочы і без усялякіх заслуг.

— А дэпутат Арлоўскі — вам хто?

— Брат.

— Вось бачыце! Мы ўсё павінны ведаць! Дзе хацелі б прыкласці свае веды?

Мальвіна сказала, што да інстытута працавала на доследнай абагачальнай фабрыцы і цяпер мае намер вярнуцца туды.

— Што ж, пахвальна! — згадзіўся начальнік.— І лагічна. Вось толькі ці ёсць там у нас што-небудзь людскае? Зараз даведаемся.— Ён зняў тэлефонную трубку, доўга набіраў і перабіраў нумар, пакуль дазваніўся, тады пачаў гаварыць і ўжо зусім іншым голасам: намнога мацнейшым і грубейшым, з басавымі ноткамі, быццам не ўласцівымі яму.

— Ван Ваныч? Вітаю! Гэта я. Там у цябе што ў сэнсе вакансіі? Для інжынера! Так, так! Ну...

Мальвіна пахмурнела з твару, але начальнік не заўважыў гэтага. Сама яна таксама нічога не сказала і не стала цікавіцца, хто такі Ван Ваныч, лічачы гэта дачасным.

Доследная абагачальная фабрыка — адно з першых прадпрыемстваў у Васільках,— мабыць, зусім не пададнаўлялася ў мінулыя гады, асабліва знешне, таму што ўявілася Мальвіне трохі змрачнаватай у параўнанні з іншымі збудаваннямі: мутнаватыя сцены, закапцелыя вокны, нейкі дурань разбіў гадзіннік на франтоне, і адкрытыя, нерухомыя стрэлкі паржавелі. Той доўгі цэментавы паркан ад магістральнай дарогі, які, бывала, даводзілася пераскокваць, спяшаючыся на змену, цяпер павышэў, ужо не пераскочыш, але пералезці можна: усё роўна будзе хутчэй, чым абысці яго. За парканам — тая самая асфальтаваная дарожка, па якой некалі перад зменай моцна і часта цакацелі дзявочыя абцасікі. Дзе-нідзе яна крыху падлапленая, але не аднаўленая і не мае той гладкасці, якую часта можна тут заўважыць нават у асабістых дварах і асабліва на дачах так званага калектыўнага садаводства.

Кідаліся ў вочы і яшчэ некаторыя знешнія прыкметы гаспадарчай абыякавасці, але гэта можа таму, што ўсё ўспрымалася ў параўнанні з мінулым, магчыма, прызабытым ужо, а то і ідэалізаваным. Усё роўна да хвалявання ў душы, да чароўнасці было прыемна прабегчыся па той, хоць няроўнай, асфальтаванай дарожцы, якая вяла да ўваходу ў службовы корпус. Там ледзь не спатыкнулася на парозе — ужо адвыкла высока падымаць ногі. У калідоры залішне рэзка пахла markzнымі сумесямі, можна было б лепш вентыляваць, але гэтыя пахі не сціскалі дыхання, не выклікалі прыкрасці. На падлозе скрыгацяць пад нагамі крышталікі солі, прынесеныя з цэха абуткам. Яны лёгка паддаюцца мятле, але, відаць, прыбіральшчыца са змены яшчэ не дайшла сюды.

Нічога, усё гэта дробязь у параўнанні з тым, што чакаецца наперадзе...

Знаёмымі пераходамі Мальвіна ідзе на фабрыку. Яе ніхто не спыняе. Апаратчыца каля флатацыі — незнаёмая, але, убачыўшы, як Мальвіна, звычна і спрытна нагнуўшыся, з ходу нешта паправіла ў механізмах, адразу прызнае ў ёй сваю, самую блізкую.

Падышоў тэхнолаг, высокі, мажны, у металічнай, як у пажарніка, касцы. Убачыў Мальвіну, зняў каску і адразу пастарэў — на галаве ўжо лысіна. Яны знаёмыя яшчэ з даінстытуцкіх часоў: ён пасля тэхнікума — на завочнае, а яна — на стацыянар.

— Нічога не забылася? — нібы пытае, нібы сцвярджае тэхнолаг. Ён таксама заўважыў, як Мальвіна рэгулявала ўстаноўку.— Можа да нас? Тут вельмі не хапае кваліфікаваных кадраў.— Зірнуў на апаратчыцу ў падціснутым у таліі цёмным халаціку, у ружовай вязанай шапачцы на галаве.— Яна яшчэ маладая, не пакрыўдзіцца.

— Накіраванне ёсць,— прызналася Мальвіна,— але я яшчэ не заходзіла да начальніка — вельмі пацягнула сюды. Тут я стаяла, помніш?

Маладая апаратчыца глядзела на Мальвіну зачараванымі вачыма, а тэхнолаг, толькі паківаўшы ў згоду каскай, зноў накінутай на лысіну, пачаў углядацца некуды ў даль цэха.

— Здаецца, ідзе сюды,— раптам паведаміў даволі абыякава, аднак глянуў на Мальвіну зацікаўлена.

Сапраўды, да флатацыі набліжаўся чалавек у шэрым касцюме і без каскі, па баках галавы тапырылася і раздавалася ўшыркі вялікая капа сівавабітых, нібы пасыпаных попелам, валасоў. Чым бліжэй ён падыходзіў, тым мацней Мальву адольвала міжвольная трывога. Няўжо гэта той самы? У рост яго амаль не бачыла, валасоў не запомніла — колькі год прайшло! Здаецца, не такія былі валасы. А вось бачкі!.. Густыя, доўгія, яны спускаліся ніжэй вушэй і ледзь не даходзілі да рота. Тады ў аўтобусе ёй толькі і бачыліся гэтыя бачкі, нясціпла тапырыстыя і, пэўна ж, калючыя. Цяпер яны яшчэ больш адраслі.

— Ну, што там у цябе за мадам такая? — яшчэ здалёк звярнуўся ён да тэхнолага.— Прадстаўніца ці можа пісацелька якая? Цяпер іх тут многа!

— Гэта ваш начальнік? — паціху спытала Мальва, і як ні стрымлівалася, а голас задрыжаў.— «Няўжо і так можна?» — Апошняе толькі падумалася пакуль што.

— Новыя кадры! — не адказаўшы Мальвіне, паведаміў тэхнолаг.

— Ага! Яны рашаюць усё! — паўтарыў чалавек вядомы сказ.— А якога профілю, так сказаць?

— Флататар! — дадаў тэхнолаг.

— Тады не па нашаму адрасу! — гучна прамовіў чалавек і з такой катэгарычнасцю матнуў валасамі, што нават здалёк Мальва заўважыла гэта. Набліжаючыся, ён працягваў свае развагі, вельмі падобныя на пункты загаду.— На канвеер, шыберам камандаваць — можам узяць. Прыбіральшчыцай — хоць сёння! І ўсё! І ўсё!

Па цвёрдых і імклівых кроках можна было меркаваць, што чалавек і не спыніцца каля флатацыі, але Мальвіна з такой настойлівасцю і пранікнёнасцю глядзела насустрач, што гэты пагляд нібы пранізваў і прыцягваў яго. Начальніцкая хада раптам парушылася, крок падрабнеў, замітусіўся, і чалавек нібы застыў, параўняўшыся з Мальвінай. Відно было, што ён нечакана для сябе разгубіўся, чаго

вельмі не любіў і не дапускаў у сваіх паводзінах, а тут, напэўна, не ведаў, што сказаць і як трымаць сябе. Мінулася гэта, праўда, без затрымкі, і хутка знайшлася адпаведная моманту і характару манера.

— Ба-а! — нараспеў усклікнуў чалавек.— Каго ба-ачу!

Тут Мальвіна ўжо выразна пачула знаёмыя, але непрыемныя для памяці ноткі.

— Не чакаў, не думаў! Значыць, з дыпломчыкам вас, так сказаць. І са зваротцам! Родныя мясціны цягнуць, ласкавым сонцам вабяць.. Так, так... Здаецца, і нядаўна я меў гонар, так сказаць... А вось вы ўжо інжынер... Праўда ж?..

«А вы начальнік гэтай фабрыкі!» — памкнулася сказаць Мальвіна, ды стрымалася. І, мабыць, не таму, што не хапіла рашучасці на пэўны падтэкст, а хутчэй з асцярогі, што словы прагучаць залішне фальшыва і нясвоечасова: не ўяўляла яна Кухарчыка кіраўніком прадпрыемства, хоць і малога.

— Дык пойдзем у месца афіцыйнае! — запрасіў Ван Ваныч і спаважлівым жэстам рукі паказаў Мальвіне на выхад у адміністрацыйны корпус. Гэтым жа жэстам ён адгарадзіў ад сябе тэхнолага, які таксама, відаць, пайшоў бы ў начальніцкі кабінет.

У пакоі была адкрыта фортка і загазаванасць адчувалася менш, чым у калідоры, але Мальвіна заўважыла прывялы вазончык на падаконніку, паджоўклыя скруткі паперы на стале і спісаны голы балончык замест аўтаручкі. Найбольш пэўна падумала, што наўрад ці турбуе гэтага чалавека тое, што не надта стасуецца з яго асабістымі інтарэсамі. Мільгнуў у памяці разбіты гадзіннік на франтоне, і гэта ўжо не здзіўляла.

— Дык вы ўжо і ў кадрах былі? — спытаў Ван Ваныч, запрасіўшы Мальву сесці і заняўшы сваё месца за пісьмовым сталом.— Гэта ён і званіў мне ў сувязі...

— Магчыма,— згадзілася Мальва.

— От гэтыя кадравікі!.. Да чаго непанятлівы народ! Гаварыў жа яму, што інжынерскага месца ў нас няма. А ён... Мы і рады б займець чалавека

з такім дыпломам... Шчыра сказаўшы — самі яшчэ не маем,— ён злёгку дакрануўся пальцамі да сваіх грудзей, а потым рэзка выкінуў руку ў бок фабрыкі, відаць, маючы на ўвазе тэхнолага, механіка і іншых.— Але што ж рабіць? Звольніць каго-небудзь радзі вас? Толькі з-за таго, што не мае інстытуцкага дыплома?.. Самі панімаеце...

— А я пайду апаратчыцай на флатацыю,— зусім спакойна і быццам бы нават абыякава прамовіла Мальва.

— О не, не! — рашуча запярэчыў Кухарчык і нават замахаў абедзвюма рукамі.— Не маем права! З дыпломам апаратчыцай?! За гэта цяпер, знаеце, як ганяюць? Ды які вам сэнс? Ідзіце на прамысловую фабрыку! Там маштаб, прастор!.. Чуў я, што патрэбны майстры, начальнікі аддзяленняў... А можа вас і вышэй паставяць?

Пасля гэтых нібыта і лагодных слоў Кухарчык насцярожыўся, пэўна, чакаючы ад Мальвіны бурнай рэакцыі. Прымоўк у чаканні. Але тая спавольна адкрыла сумачку, без ніякай адзнакі роспачы ці хвалявання паклала туды дакументы, якія да гэтага на выпадак патрэбы трымала ў руцэ, і са здзіўляючай унушальнасцю сказала:

— Знаеце што? Я абавязкова буду працаваць на гэтай фабрыцы! Толькі на сваёй, доследнай, дзе працавала раней.

Кухарчык адхінуўся, нібы ад шквальнага штуршка, і ледзь не дастаў галавою нядаўна атынкаванай сцяны, бакенбардзікі яго задрыжалі і быццам яшчэ больш натапырыліся. Лагодная круглатварасць раптам знікла, і на Мальвіну ўставіўся яго падбародак, хоць і згладжаны холеным валлячком, але вастраваты, з бародаўкай унізе.

— Гэта намёк на братца-дэпутата? — працадзіў ён скрозь зубы, узяўшы чамусьці гугнявы тон. Відаць, намерваўся так і працягваць размову, але быццам спахапіўся, прыняў роўную паставу і даволі стрымана дадаў:— Што ж, буду рад папрацаваць з дыпламаваным інжынерам... Тым больш — з жонкай майго юнага друга... Але адкуль такая ўпэўненасць на першых кроках? Яна можа выклікаць рэакцыю, адпаведную, так сказаць...

— Я гэта прадбачу,— адкрыта і настойліва гледзячы нядобразычліваму субяседніку ў вочы, сказала Мальвіна.— Адчуваю, што мне не лёгка будзе цяпер і яшчэ цяжэй — калі прыйду сюды. Мы будзем спрачацца, можа нават і вельмі сур'ёзна. Я не магу даравацъ вам хаця б таго, што пры вас фабрыка стала падобная на нейкі стары бровар. Знешне, вядома. Але і ўнутры радасці мала. Не магу, бо гэта мой родны дом. Тут я амаль што і вырасла, адсюль на вучобу пайшла... Бачу свой складаны лёс... Дзіўлюся, што сустрэла вас тут, як мне здаецца, не на сваім месцы... Аднак з дарогі не саступлю!

Дома за абедзенным сталом сядзелі Аўгусцін і Павел Тычына. Жонкі Аўгусціна яшчэ не было дома, і на стол ім сабрала сёе-тое Анэта Іванаўна. Рабочы дзень па сонцу набліжаўся к канцу, а вячэрніх мерапрыемстваў у парткоме не было, таму мужчыны маглі пасядзець крыху ў сямейным спакоі, тым больш што Аўгусцін яшчэ быў на бюлетэні.

Мальвіна застала толькі частку іхняй размовы.

— Я рад, што ты ўступаеш у строй,— дружалюбна гаварыў сакратар парткома.— Ты ж ведаеш, як мы ўсе чакалі гэтага... А я — асабліва. І цяпер хачу сказаць тое, чаго раней не мог, баяўся твайго рэагавання. Рызыка ў сваім псіхалагічным аспекце — з'ява станоўчая, гэта ўзлёт духу чалавечага. Але, мабыць, не на ўсякую рызыку можна ісці. Чаму ты?..

— Чакай, чакай!..— перапыніў яго Аўгусцін. Перапыніў, але і сам пакуль што нічога не гаварыў.

Мальвіна затрымалася ў калідорчыку, дзе распраналася, каб паслухаць, што скажа брат, бо і сама часта задумвалася над гэтым пытаннем.

— Чакай,— паўтарыў ён.— Мне здаецца, што ты на маім месцы зрабіў бы тое самае. Уяві сабе лётчыка ў паветры. Вось ён на адказным заданні, а ў гэты час парушылася сувязь з зямлёй ці здарыліся яшчэ якія непаладкі. Што ж, ён будзе чакаць дапамогі збоку, спадзявацца на дзядзю? Ён рынецца на ратунак сам! Так і мы, шахцёры. На працягу

многіх год работы ў забоях, дзе часта астаёмся сам-насам з цёмнай, нязведанай стыхіяй (лётчык хоць бачыць усё перад сабою, а мы нічога не бачым), дзе небяспека падпільноўвае нас амаль на кожным кроку, мы ўмацавалі ў сабе звычку — браць усё на сябе, не губляцца пры самых складаных выпадках і самастойна прымаць рашэнні. Мая брыгада так і падабрана: здарыцца што, дык не сядзім склаўшы рукі, не чакаем, пакуль прыйдуць да нас большыя спецыялісты. Кожны кінецца ў бой нават без загаду. А калі не зробіць гэтага, то потым спаць спакойна не будзе, цяжкія сны яго замучаць. Цяпер уяві — як я мог спасаваць, разгубіцца? Пасля і ў забой не змог бы зайсці!

«Ён і сапраўды ў нас гэтакі»,— з гонарам падумала Мальвіна і, праходзячы ў матчын пакой, воляй-няволяй паказалася мужчынам.

— Здаецца, наша выпускніца прыйшла! — першым заўважыў Павел Васільевіч і абвясціў аб гэтым даволі ўрачыста.

— Яна-а,— пацвердзіў Аўгусцін і настойліва запрасіў:— Ідзі, Мальва, да нас, раскажы, як там у цябе.

— То будзе яшчэ час,— сумелася жанчына,— не буду перашкаджаць вам...

— Сядзь пасядзі, калі запрашаюць! — умяшалася маці.— Я талерку прынясу.

— Па-мойму, перш чым цікавіцца справамі,— узнёсла загаварыў Павел Васільевіч,— то, па добрым васількоўскім звычаі, трэба б павіншаваць новага інжынера і ўзяць чарку за яе дыплом.— Ён устаў, спавольна выставіў белую манжэту да каньячнай пляшкі і, заўважыўшы поўную згоду ў вачах Аўгусціна і старэйшай гаспадыні, наліў патрохі ўсім. Мальвіна таксама не адставіла сваёй чаркі, толькі жэстам рукі папрасіла яшчэ паменшыць яе дозу. Праз якую хвіліну, на здзіўленне самой сабе, адчула, што калі гадзіну таму назад на фабрыцы і асабліва ў кабінеце Кухарчыка яна магла вытрымаць любую спрэчку і нават сутычку, жорстка схапіцца ў дыялогу і даводзіць свой прынцып хоць самому генеральнаму дырэктару, то дома, перад сваім братам і сакратаром парткома, чамусьці зу-

сім не цягнула закранаць што-небудзь з тых надзённых спраў. Раптам яны пачалі ўяўляцца і нецікавымі, і нязначнымі, і быццам да таго асабістымі, што няёмка і ўспамінаць пра іх. Нават нейкая сарамлівасць адолела.

Аднак гаворка пра яе справы ўсё ж такі ўзнікла, бо першая не магла абысці гэта маці.

— Хваліся, куды цябе? Кім? — амаль запатрабавала яна.— Можа і мы што-небудзь параім?

— Нікуды і нікім,— абыякава азвалася Мальвіна.— Не будзем пра гэта!

— Чаму не будзем? — падтрымаў маці Аўгусцін. І ў гэты ж час павярнуўся да Мальвы Павел Васільевіч, якога таксама зацікавіла прызначэнне новага спецыяліста.

— Калі вам не цяжка, то раскажыце ўсё па парадку,— звярнуўся ён да Мальвіны.— Хоць зусім коратка.

— Можна і двума словамі,— азвалася жанчына.— У аддзеле кадраў мне далі накіраванне на доследную фабрыку, а цяперашні начальнік не прыняў. Вось і ўсё! Толькі, калі ласка, не лічыце гэта скаргай і не бярыце на сябе ніякіх клопатаў у сувязі з гэтым. Я сама ўсё зраблю!

— Сама, сама!..— з папрокам паўтарыла маці. І, перавёўшы некрыўдлівы пагляд на госця, дадала:— Вось яна заўсёды так: сама! А не вельмі што і ўдавалася, каб толькі самой!

— Як бы там ні было,— з лёгкім пярэчаннем заўважыла Мальвіна,— а ўсё ж лепш, калі сама. Асабліва цяпер. Пра цябе, Аўгусцін, мне ўжо не першы раз нагадваюць. І таму я прашу: калі выходзіш з дому, то не вельмі і памятай, што я твая сястра.

— Яшчэ што выдумай! — запярэчыла маці.— Разумныя людзі ведаюць, а к дурням падладжвацца — то няма чаго!

Аўгусцін з увагай выслухаў дыялог паміж сястрой і маткай, добразычліва абвёў іх вачыма і звярнуўся да Паўла Васільевіча:

— Хто ў нас цяпер на той фабрыцы?

Замест адказу сакратар парткома чамусьці разгубіўся, і Мальвіна сваім тонкім назіраннем ула-

віла, што яму было няёмка называць прозвішча начальніка фабрыкі.

— Кухарчык,— замест сакратара паведаміла Мальвіна.— Ван Ваныч.

— Гэта той самы? — ледзь не абурыўся Аўгусцін, ды адразу спахапіўся, падумаўшы, што прызначэнне гэтае наўрад ці адбылося без сакратара парткома. А калі Павел Васільевіч даў згоду на гэта, то, напэўна, меў рацыю.

— Той самы,— нарэшце сказаў Тычына, і па яго тону цяжка было зразумець, з ухвалою ён пра гэта гаворыць ці з асуджэннем.— Разумееш, якая тут сітуацыя! У партыі яго ўзнавілі. Усе мінулыя гады працаваў добра, вучыўся, па-мойму, і цяпер вучыцца завочна. А ўвесь час нагадваць яму тое, што некалі «падагрэў» супраць нас частку рабочых, наўрад ці мэтазгодна. Думаю, што і нам гэта пайшло на нейкую карысць. А цяпер скажыце,— звярнуўся Павел Васільевіч да Мальвіны,— як ён даводзіў сваё адмаўленне ўзяць вас на работу? Гэта проста незразумела, бо вакансіі спецыялістаў там ёсць.

— Ён сказаў — няма,— пацвердзіла Мальва.— Я згадзілася ісці апаратчыцай, а ён мне — палажэнне: з дыпломам нельга!

— А трасца ж яго матары! — не стрымалася Анэта Іванаўна.— Хіба ж гэта чалавек? Нездарма яго ў нас некалі добрыя людзі стараной абходзілі! Я вось вазьму ды сама да Шамоты схаджу!

— Нікуды не трэба ісці! — забараніла Мальва.— Не хацелася мне, каб такія размовы ўзнікалі ў нас за сталом, аднак калі ўжо да слова прыйшлося, то скажу, што мама тут, як мне здаецца, мае рацыю. Але вам відней, вы лепш ведаеце гэтага чалавека.— Яна пранікнёна глянула на Паўла Васільевіча і толькі мільгнула вокам на Аўгусціна.— Для мяне ён амаль зусім чужы: толькі два разы давялося неяк сустрэцца... Выпадкова. І ўсё ж адчуваю, што тут праяўлена залішняя даверлівасць.

— Няхай бы хоць у нас спыталі! — уставіла Анэта Іванаўна.

— Вось гэта праўда! — бадзёра падтрымаў Павел Васільевіч.— Скажу вам тут зусім адкрыта, што ўвесь час лічу гэта вузкім месцам у нашай ра-

боце і асабіста ў сваёй. Шахцёр да нас рэдка калі ідзе, дык гэта яшчэ можна зразумець: наглытаецца солі за змену, напацеецца, дык яму не да нашых прыёмных: адпачыць трэба! А мы чаму ў яго не частыя госці? І ў яго, і ў вас, Анэта Іванаўна: я маю на ўвазе абагачальныя фабрыкі. Адсюль часам і промахі нашы! Мая шчырасць да вас прымушае сказаць, што і я не надта добра ведаю Кухарчыка як чалавека. Было спадзяванне на тое, што гэта праявіцца на рабоце.

— Напэўна праявіцца,— згадзілася Мальвіна,— толькі не ў той бок. Я чамусьці ўпэўнена! Аднак гэта зусім не азначае, што саступлю яму з дарогі, папрашуся на другую фабрыку.

— А ведаеце, чаму гэты ваўчок...— зноў уступіла ў гаворку Анэта Іванаўна.— У нас так яго і звалі. Чаму ён не пускае на фабрыку Мальвіну?

— Ведаем, канечне,— заўважыў Аўгусцін.— Здагадваемся.

— Каб яго месца не занялі,— удакладніла гаспадыня,— бо цяпер ужо няма начальнікаў без высокіх дыпломаў, можа толькі ён адзін такі.

— Пра гэта ж у вочы не скажаш,— быццам паскардзіўся Аўгусцін.

— Дыплом ён можа займець,— падаў сваю думку Тычына.— Тут, мабыць, не ў гэтым справа. Мяне здзіўляе, што наогул узнікла ў нас такая справа...

Ён на хвіліну задумаўся і не заўважыў, што Аўгусцін трошкі падліў у яго чарку, а гаспадыня падставіла бліжэй закуску. Раптам уявілася яму, як зноў можа вясціся гаворка пра Кухарчыка ў кабінеце генеральнага дырэктара, як той будзе пахаджаць ля пісьмовага стала і разважаць разумна, усебакова, з глыбокай, аднак трохі і асабістай логікай:

— Чалавек не адразу пазнаецца... Да таго ж — складаны чалавек, з цяжкім, супярэчлівым лёсам... Трэба паверыць яму, даць магчымасць папрацаваць.

Кароткі перапынак у застольнай размове раптам быў перарваны даволі доўгім званком у дзвярах.

— Гэта Ірынка! — з прыемнай здагадлівасцю сказала Анэта Іванаўна і паспешліва паклала ля свае талеркі сталовы нож і відэлец.

— Хіба яна ўжо дастае да званка? — здзівілася Мальвіна.

— Ты ж чуеш! Ды яшчэ як націскае!

— Віцьку, мабыць, разбудзіла! — занепакоілася Мальва.

— А ён не спіць!

Гэтыя словы Анэта Іванаўна сказала ўжо бегучы да дзвярэй, а Мальвіна ўсхапілася з-за стала, каб глянуць у матчын пакой, дзе павінен быў спаць Віцька.

Выйшла яна адтуль спалохана-бледная і збянтэжаная ад нечаканай, жахлівай для яе здагадкі, што Віцьку пусцілі гуляць аднаго з Ірынкай. Не паспела папракнуць за гэта маці, як убачыла яшчэ больш трывожную з'яву: у калідорчыку стаяў і ласкава ўхмыляўся Горбік, а на руках у яго спакойна і ладна сядзеў Віцька з чырвоным грузавіком у руках.

— А ў мяне вунь якая лялька! — радасна пахвалілася Ірынка.— Машай завуць!

Імгненны парыў — павырываць з дзіцячых рук гэтыя цацкі і кінуць Горбіку пад ногі — Мальвіна стрымала: тут, вядома, памагла прысутнасць Паўла Васільевіча і брата. Але, наблізіўшыся да Савелія ледзь не тварам к твару, сказала яму паўшэптам, аднак з небывалым хваляваннем і цвёрдасцю:

— Знаеш што! Я разумею, што не магу забараніць табе бачыць сына!.. Але ж будзь і ты хоць на нейкую долю чалавекам і таксама зразумей: нельга хлопчыку прывыкаць да цябе! Што ты яму дасі, акрамя вось гэтай лялечнай машыны? Хіба ты здольны на нешта большае? Цэлыя гады жыў без нас і нават весткі аб сабе не даваў.

Яна працягнула рукі, каб забраць да сябе Віцьку, а ён, як некалі ад бабкі, стаў адхільвацца ад яе і шчыльней туліцца да бацькі.

— Ды я ж нічога...— тым часам апраўдваўся Горбік.— Зайшоў толькі, каб паказацца, што прыехаў... І каб ты ведала, што са мною нічога не зда-

рылася там, у Ленінградзе. Патрымалі трохі ў аддзяленні і адпусцілі. Нават білет памаглі аформіць.

Савел паслухмяна і беражна спусціў Віцьку на дывановую дарожку ў калідорчыку, сам рушыў да дзвярэй, але хлопчык спачатку горна скрывіўся, потым моцна заплакаў і падаўся следам за бацькам. Падбегла бабка і забрала яго ў свой пакой.

Мальвіна вярнулася да абедзеннага стала з неадступнай думкай аб тым, што, мабыць, вось гэта і ёсць самая цяжкая праблема ў яе жыцці... Сляды міжвольных слёз на вачах не давалі прыхаваць роспач. Аднак яна з упэўненай жаноцкай рухавасцю села на сваё месца за сталом, узяла ў руку налітую чарку і бадзёра прапанавала:

— Давайце вып'ем!

Па ўсёй кватэры разносіўся няўцешны плач Віцькі...

## V

Маці роспачна скардзілася сыну:

— Я сёння на цёцю Валю накрычала... Моцна, злосна!..

— Гэта на тую, што ў нас сёння начавала?

— На тую, сынок.

— А чаго ты сама плачаш?

— Не плачу, а так слёзы цякуць... Ад шкадоўлі...

Яны толькі што прыйшлі з дзетсада: Мальвіна зайшла па Віцьку, вяртаючыся са змены. У іх цяпер асобная аднапакаёвая кватэрка, вельмі чысценькая і ўтульная, з вісячымі бамбуковымі шырмачкамі. Жывуць яны тут удваіх, толькі бабка часамі прыходзіць або малы да бабкі ідзе.

І звыкліся яны памногу і падоўгу гаманіць адно з адным, дзяліцца сваімі думкамі, назіраннямі, а то і перажываннямі. Бо з кім жа яшчэ падзяліцца? Яны амаль увесь час дома ўдваіх і ўдваіх: Віцька не надта рвецца да свае кампаніі, калі маці дома, а Мальвіна таксама заўсёды рада пабыць з сынам. І цешыцца маці, заўважаючы, што Віцька быццам бы не па гадах сталее і ўмее адчуваць і разу-

мецць яе настрой, а часам нават і падае свае меркаванні ды парады, нібы дарослы.

Вось і сёння ён спытаў:

— А цёця Валя прыйдзе начаваць?

— Не, сынок, не прыйдзе. Яна не даруе мне гэтага.

Малы змоўк, нібы засумаваў. Нейкі час ён маўчаў, быццам абдумваў нешта, а потым падышоў да маці, прытуліўся да яе і ціха сказаў:

— Цёця Валя прыйдзе!.. От пабачыш!

— І я вельмі чакаю. Так чакаю, што, здаецца, на вуліцу пабегла б сустракаць... Але ж ведаю, што не пойдзе.

Увесь той вечар Мальвініны думкі не маглі адхіліцца ад яе змены, ад тых харошых і розных дзяўчат і жанчын, з якімі ёй давялося працаваць, зблізіцца душою і сэрцам. Стаяць бы побач з імі ля машын і апаратаў, дзяжурыць з закасанымі рукавамі на флатацыі, запыльвацца б да шэрасці і нязвычнага бляску вачэй з-пад навіслых ад пылу павекаў, тады б — рука пры руцэ, плячо пры плячы. А то ж яна можа хадзіць і з крышку падведзенымі броўкамі і павечкамі, можа надзець новенькі і чысценькі, падладжаны пад фігуру, халацік, не здымаць з ног тых туфелек ці боцікаў, у якіх прыйшла на работу, і адмысловы, падабраны пад колер вачэй парычок не надта прыкрываць, ідучы ў цэх, а толькі накінуць на яго лёгкую блакітную касынку: чубчык над ілбом пакінуць.

На фабрыцы ёсць бытоўка. Раней там стаялі тры доўгія ўслоны, пафарбаваныя охрай, ледзь не такі ж па даўжыні дашчаны стол з цяжкімі металічнымі крыжамі замест ног. Калі прыбіральшчыцы перасоўвалі гэты стол з месца на месца, на падлозе аставаліся такія палосы, што потым не змываліся вадою і не зціраліся швабрай.

Мальвіна не пашкадавала сваіх нерваў на сутычкі з Кухарчыкам, але перайначыла ўсё гэта: у памяшканні з'явіліся прыгожы паліраваны стол, крэслы, нават канапка ўздоўж глухой сцяны. Над ёю — дзве вазы на падвесных падстаўках, і кветкі ў гэтых вазах кожны дзень свежыя. Паміж кветак — Дошка гонару, і партрэты там пад шклом

такія прыгожыя і прывабныя, быццам тут фотаатэльe, а не звычайная бытоўка.

Амаль кожны дзень у гэтым памяшканні, цяпер падобным на ленкуток, Мальвіна праводзіць вытворчыя нарады ці лятучкі: паказвае і растлумачвае дзяўчатам тую схему флатацыі, якая рэкамендавана не Кухарчыкам, не фармалістамі-хімікамі, а сапраўднымі вучонымі і да якой у яе самой ёсць давер і павага.

Перад зборам людзей прыбіральшчыцы наводзяць у пакоі асаблівую чысціню. Па ранейшай завядзёнцы дзяўчаты часам прыходзілі на нараду, не атросшы з сябе пыл. Ведалі пра гэтае сваё апушчэнне і таму сарамліва акідвалі позіркам крэслы, канапку, не адважваліся сесці. Калі ж садзіліся, то пакідалі за сабою на крэслах белыя плямы. Тады яшчэ горш бянтэжыліся, ніякавата паглядвалі на Дошку гонару, а пасля нібы мімаходзь зазіралі ў трумо, якое Мальва нібы наўмысля паставіла ў кутку, насупраць дзвярэй. Тая з дзяўчат, што была на Дошцы гонару, зусім не пазнавала сама сябе, кінуўшы вокам на трумо. А каторая не была на дошцы, то марыла трапіць яшчэ з лепшым партрэтам, як у сяброўак: прычоску даць такую, што ўсіх завідкі возьмуць, плацце надзець святочнае, адмыслова дэкальтаванае... А калі б можна было і на ўвесь рост паказацца, дык і стройнасць падалася б не горшая, як у самога майстра змены.

Пакуль не было на фабрыцы Мальвіны, то не надта і думалася аб тым, што прывабная жанчына і на рабоце павінна аставацца прывабнай. А калі не так ужо відавочна прывабная і не зусім маладая, то хоць не ператварацца пры дапамозе спяцовак у нешта сярэдняе паміж жанчынай і мужчынам.

Фабрыка амаль што жаночая па свайму кадраваму саставу, мужчыны — толькі рамонтнікі, ды іх, па-першае, не многа, а па-другое, амаль усе ўжо недзе каля пенсійнага ўзросту. Што ж датычыць маладзейшых мужчын, то аж здзіўленне брала дзяўчат змены: хадзілі да гэтага па цэху ахламоны ахламонамі, рэдка галіліся, амаль не прычэсвалі адпушчаныя валасы. А цяпер прыгожыя вусікі

паадпускалі, нават бакенбардзікі, як у самога Кухарчыка. Але ж вядома, што не пад яго падладжваліся, бо і чаравікі наглянцоўвалі, і спяцоўкі трымалі ў чысціні і ахайнасці. І калі траплялі ў службовы корпус, то не спыняліся ля кабінета начальніка фабрыкі, а вышуквалі прычыну, каб завітаць у сціплы закутак майстра змены.

Свае хлопцы, то і адносіны да іх свойскія, як да тутэйшых, васількоўскіх. Кожная зменшчыца магла сустрэць іх на вуліцы, убачыць на танцпляцоўцы. А не ўбачыла каго, дык толькі і клопату: розных слесараў, токараў, рамонтнікаў у Васільках — хоць гаць гаці. А вось зусім ужо не тое, калі прыязджаюць на фабрыку маладыя дыпламанты з Масквы, з Ленінграда ды з іншых вялікіх гарадоў! Амаль усе з імпазантнымі бародкамі ды ў такіх джынсах, што ў Васільках яшчэ ні ў кога няма. І палітца ці нават плашча ніхто з іх не носіць, а ўсё курткі ды кажушкі дубленыя. Старыя людзі кажуць, што ў колішнія часы самы абібок у вёсцы не надзеў бы такога кажушка ў святочны дзень, бо ўсякая даматканая світка лічылася лепшай адзежынай. А цяпер ні ў якім магазіне не ўпільнуеш або не выстаіш у чарзе, каб набыць самую кароценькую дублёнку. У продажы няма, а ў кожнага прыезджага практыканта ёсць, і хлопцы фарсяць у іх, нават пад халатамі носяць у зімовы час.

Калі і такія хлопцы мала звярталі ўвагі на дзяўчат змены, а даволі прыкметна прыжмурвалі вочы і насцярожваліся, як у цэху з'яўлялася Мальвіна, то тут ужо ў некаторых з іх трохі і паскрэбвала на сэрцы. Не сыходзіла гэта нейкай крыўдай на Мальву, бо ўсе бачылі, што наўмысля яна нічога не рабіла для сваёй прывабнасці, а толькі неахайнасці пазбягала і абыякавасці да свайго выгляду. Хто памятаў яе яшчэ апаратчыцай, то ведаў, што і тады яна прыходзіла на фабрыку як у школу, з прыгожым расчосам валасоў, у чыстай, акуратнай апратцы.

І сталі зменшчыцы паступова перайначвацца на фабрыцы — не абавязкова пад густ і манеру Мальвіны, а кожная сама па сабе, не парушаючы рабо-

чай сціпласці. І гэтым яшчэ бліжэйшымі сталі да Мальвы.

З першых дзён Мальва без ніякай наўмыснасці, са шчырай душэўнай прыхільнасцю пачала туліцца да сваіх працаўніц. І здавалася — для кожнай з іх зрабіла б усё, што толькі па яе сілах і мажлівасцях. І зусім не хацела б быць начальніцай над імі, валодаць правам на розныя ўказанні ды распараджэнні. Жыць бы вось так дружна, адной сям'ёй, і працаваць заўсёды зладжана, па ўласнаму радзенню і шчырай зацікаўленасці. Каб і план ішоў, і тыя схемы, што выношваліся навукай, давалі сваю карысць, і каб на душы заўсёды было лёгка і спакойна.

Усе дзяўчаты — нібыта сёстры. Але вось Валька, стройненькая, хоць трошкі і схільная да паўнаты дзетдомаўка, неяк асабліва прыкіпела да душы. Мальвіна і не ведае, якім чынам дзяўчына займела такую перавагу: ці тым, што на рабоце вельмі ўвішная ды забіяцкая, ці нейкай асаблівай любасцю да яе самой, ці можа нават тым, што спавадзілася хадзіць да іх дадому і вельмі спадабалася Віцьку. Амаль кожны дзень, а то і кожную ноч, калі з другой змены яны вярталіся з работы разам, Валя не ішла ў свой інтэрнат, заставалася ў Мальвіны. Тады ў іхняй кватэрцы было свята: Віцька ўвачавідкі весялеў і рабіўся такі ласкавы і паслухмяны, што маці не магла нацешыцца ім. І самой рабілася цёпла і лагодна на душы, знікала надакучлівае пачуццё адзіноты і апаноўваў настрой святочнасці, жадання ўключыць прыёмнік, а то нават і магнітафон з запісамі песняў і танцаў. І на кухню цягнула не так, як штодзень — хацелася прыгатаваць нешта лепшае, смачнейшае і гаспадыньскую здатнасць паказаць. Пры ўсім гэтым і ў магазін выскачыць хутка і непрыкметна, прынесці адтуль пляшачку, калі дома не захавалася: госці ж. Госці! І размова заўсёды ўзнікала лёгкая, не нацягнутая, узаемна цікавая.

Потым — моцны, салодкі і спакойны сон. Спакойнасць гэтая ішла яшчэ і ад таго, што ў Мальвіны зусім знікала пачуццё той неадольнай трывогі, якая апошнім часам стала амаль хранічнай: Гор-

бік, хоць ужо і даўно адышоў ад іх і нават займеў нейкую там новую сям'ю, чамусьці лічыў, што пасля поўнага «акасення» на выпіўках ён абавязкова павінен прыблудзіцца ў той пад'езд, дзе жыве Мальвіна, уткнуцца носам у дзверы і бесперапынна стукаць, патрабаваць упусціць яго, нібыта для таго, каб пабачыцца з сынам. Віцька спаў ужо, і шчасцем было, калі не прачынаўся ад гэтага. Але здаралася, што прачынаўся, і тады пачынаў мучыцца, хваляваўся, часам плакаў і прасіў пусціць тату. Як ні любіў сваю матулю, як ні палохаўся п'янага бацькі, а ўсё роўна цягнуўся да яго і вельмі хацеў, каб у яго быў свой тата.

Упускалі ў асобных выпадках. Мальвіна запэўнівала, што паважала б яго бацькоўскае пачуццё, калі б яно сапраўды было. Вось перад табою сын, пабудзь з ім, пагавары як чалавек. А гэты «чалавек» наліваўся злосцю, як толькі пераступаў парог, і ўсё намагаўся за нешта помсціць і пагражаць ні ў чым не вінаватай мацеры. І тады ўжо нельга было выбавіць яго з кватэры: тэлефон ён абрываў, выйсці пазваць суседзяў не пускаў. Ні ўгаворванні Мальвіны, ні слёзы сына не памагалі...

Пры такіх начных трагедыях рашуча і самаахвярна кідалася на выручку Валя. Яна выходзіла на пляцоўку і лоўкімі, быццам зусім не ўласцівымі ёй, ледзь не самбісцкімі прыёмамі спускала начнога нахабніка з лесвіцы. Разам з тым папярэджвала, што калі ён зноў прыпаўзе да дзвярэй, то яна выкліча міліцыю, а пра далейшае Горбік ужо сам здагадваўся, хоць і зачумлены быў хмелем.

...З усімі хацелася б мець такія ўзаемаадносіны, як з Валяй, аддаваць сваё цяпло і ласку ды прымаць тое ж самае ўзамен. Няхай бы ўсе хоць і гуртам прыходзілі на кватэру, хоць і нанач аставаліся. Ці можна так жыць і суладна працаваць? Напэўна, можна. Асабліва ў наш час, асабліва калі ў кожнай дзяўчыны не менш як дзесяць класаў за плячыма, а то і ўвесь Васількоўскі горнахімічны тэхнікум.

Ды вось жа — таксама жыццё! Падышла неяк Мальвіна ў начную змену да флатацыйных установак, бачыць — няма дзяжурнай апаратчыцы. Заня-

ла на ўсякі выпадак вахту — якраз трэба было паназіраць за працэсам, кінула пагляд сюды-туды і заўважыла, што каля маленькага століка, які туліўся ля сценкі, пакутліва схілілася жанчына: галава яе, з адвіслым ражком ружовай касынкі, нерухома ляжала на прыгорнутых да шчок, расслабленых далонях.

«Можа што здарылася?» — з трывогай падумала Мальвіна.

Жанчына гэтая, хоць яшчэ і маладая і знешне амаль нічым не адрозніваецца ад дзяўчат, але ўжо даўнавата сямейная, мае двое дзяцей, муж пачынае даволі часта прыкладвацца да чаркі. Таму — можа бяда якая, скруха? А то, глядзі, і сэрца схапіла ці замарачыла ў галаве?

Падышла Мальва да століка, нахілілася над апаратчыцай, прыслухалася: спіць жанчына спакойна і соладка, аж пахрапвае.

Майстар ёсць майстар. Калі б гэта ў яе дома так заснула госця, то было б толькі спачуванне: гаспадыня падклала б ёй падушку, зрабіла б усё патрэбнае, каб лепш і зручней было адпачыць. А тут пацягнулася рука, каб крануць жанчыну за плячо: няхай уздрыганецца, нават спалохаецца — сама ж вінавата! Але рука павісла ў нерашучасці: шкада стала будзіць маладзіцу Раней за ёй ніколі не заўважала якіх-небудзь адхіленняў ад рабочага распарадку, а цяпер, мабыць, па вельмі важнай прычыне здарылася такая нечаканасць: можа дзеці не далі звесці вочы ад папярэдняй змены, а то, глядзі што, і гаспадар глытнуў лішняга ды перапсаваў нервы. Тут жанчына супакоілася на звычнай рабоце, сцішылася пад аднастайны шум апаратаў і задрамала. Потым і сама не заўважыла, як лёгкая дрымота перайшла ў моцны сон.

Мальвіна ціхенька адышлася ад апаратчыцы, стала на яе вахту і з асалодай адчула, што магла б прастаяць тут хоць і ўсю змену, калі б была магчымасць. Зноў успомніліся мінулыя гады і ўжо здаліся вельмі даўнімі, амаль летуценнымі. Выразна помнілася толькі тое, што не адзін раз і самой хацелася сесці каля гэтага століка: трымцелі ад стомленасці ногі, пашумлівала ў галаве. Але не адваж-

валася, адганяла такую спакусу. Магчыма, што і не ўбачыў бы ніхто — не толькі майстар ці які іншы начальнік, а нават і свае дзяўчаты. Ды ўсё ж — сама сябе баялася: сорамна потым было б, пакутліва ад страты рабочай годнасці.

Сонную апаратчыцу шкада было не толькі таму, што яна знебылася, а можа яшчэ больш праз тое, што вось прачнецца і пачне страшэнна мучыцца, праклінаць сама сябе за слабіну і бязвольнасць.

Мальвіна дзяжурыла ля апаратаў і можа больш сачыла за тым, каб хто не падышоў знянацку, чым за работай механізмаў. Свае — нічога, ім яна давярала і ведала, што не падвядуць. А вось калі раптам Кухарчык з'явіцца! Яму вельмі падабаліся такія нечаканыя візіты. Яны бывалі часам і ноччу. Сам ён называў іх «налётамі». Ішоў між агрэгатаў ціха, нібы крадучыся, і, відаць, быў упэўнены, што вось-вось некага «накрые», што ўсе толькі і думаюць аб тым, каб у тыя прамежкі, калі яго няма на фабрыцы, нешта такое ўчыніць яму назло, што ўсё трымаецца тут на адным страху і боязі. А вось вазьмі ды адвярніся хоць часова, спусці з іх вочы — і перавернецца ўся фабрыка дагары нагамі.

Калі ён заўважыць тут сонную апаратчыцу — не аграбешся потым ад непрыемнасцей: на ўсіх нарадах і сходах будзе выступаць, у аб'яднанне даложыць. Скажа, што ўся змена спала. І начальнік змены таксама!..

Прайшло каля гадзіны, ужо карцела Мальвіне падысці і да іншых установак, спраў было нямала, а жанчына не прачыналася, яе храпенне быццам бы яшчэ мацнела.

«Няўжо і ўсю змену можа так праспаць? Рукі памлеюць, шыя забаліць».

Ужо трохі і няёмка рабілася: што б гэта такое прыдумаць, каб разбудзіць маладзіцу, ды не надта спалохаць, не ствараць, як кажуць, «аварыйнай» сітуацыі?

На шчасце, падышла Валя. У падбеленым пылам халаціку, у расклёшаных штанах над высокай «платформай»: дзяўчына была невялічкая ростам, таму падабрала магутныя мікрапоры. Падыходзіла

нячутна, нібы Ван Ваныч, але Мальва яшчэ здалёк заўважыла яе.

— Ты не ідзеш і не ідзеш да млына,— ласкава папракнула Мальвіну,— дык я ўжо засумавала. Чаго ты тут стаіш? Не ладзіцца што? — Дзяўчына з пяшчотай прытулілася да сяброўкі.

— Ладзіцца,— шэптам адказала Мальвіна.— Але вось...— Яна вачыма паказала на столік.

— Юлька спіць? — здзіўлена прамовіла дзяўчына.— Вось я ёй зараз!..

— Ціха! — прыпыніла яе Мальва.— Я пайду да млына, а ты тут асцярожна крані яе, ды глядзі не напалохай. Не кажы, што я тут была... І не папракай вельмі!.. Можа ў жанчыны няшчасце якое?.. Тады скажаш мне.

У тую змену Мальвіна больш не падыходзіла да флатацыі. І не таму, што патрэбы не было, а не хацела сустракацца з Юляй. А ў наступную змену жанчына сама падышла да майстра.

— Даруйце мне,— шчыра папрасіла яна.— Я вельмі вінавата...

— У чым? — спытала Мальва.

— Вы ведаеце — у чым. Больш гэтага ніколі не будзе. Я магу пакаяцца перад усімі!

— Не трэба,— памяркоўна адказала Мальвіна.— Мы вам і так верым.

Юля стаяла перад майстрам яшчэ без халата, высокая, стройная, па прыгажосці і ладнасці постаці магла б не ўступіць і майстру, але твар быў роспачны, пакутлівы, на вачах блішчалі слёзы. Відно было, што жанчына сапраўды перажывала і дакарала сябе за такі выпадак. Можа нават і лягчэй ёй было б, калі б Мальвіна як след прабрала яе, скарыстала тут свае правы. Юля ўтаропліва глядзела на яе і нібы прасіла: ну крыкні на мяне або хоць павысь голас, папракні!..

Калі што здараецца на фабрыцы ноччу, то хоць цяжэй гэта паправіць, бо часам няма на месцы тых, што трэба, людзей, але факт можа і не пайсці далёка без патрэбы, лакалізуецца на месцы. Удзень абставіны іншыя: кожны крок на людскіх вачах,

бывае, трапіцца што і дробнае, а гаворка пойдзе ледзь не па ўсіх Васільках. І ўжо зусім кепска, калі надараецца штосьці зусім недарэчнае, нават трагічнае. Часам і не вынікае яно з якога-небудзь недагляду, тым больш — наўмыснасці, а ўсё роўна стварае нервозную, ледзь не выбуховую сітуацыю.

...У той дзень Мальвіна прыйшла на фабрыку ў прыўзнятым настроі: змена дзённая, ноч прайшла спакойна і ўдалося добра адпачыць, Віцька ранічою не кволіўся і не капрызнічаў, нават сам устаў і сабраўся, каб ісці ў дзіцячы сад. На вытворчасці таксама ўсё ішло сваім ладам, дзяўчаты змены выглядалі неяк асабліва падцягнута, і трошкі больш, як у мінулыя дні, тырчалі іх чубкі з-пад касынак і берэцікаў, прыкметней вызначаліся падфарбаваныя броўкі і вусны. Мальва заўважыла гэта, але не адразу здагадалася, у чым прычына: чаму сённяшняя змена быццам нагадвае святочную? Потым успомніла, што сёння павінны прыйсці на фабрыку тыя практыканты, што прыехалі з Масквы, хлопцы ўсе маладыя ды прыгожыя, амаль у кожнага ці бародка адмысловая, ці вусікі са спускам уніз. Пад кіраўніцтвам свайго брыгадзіра, спецыяліста са стажам, яны будуць манціраваць новую ачышчальную ўстаноўку, якую нядаўна прывезлі на фабрыку.

У пачатку змены практыканты зрабілі драўляны масцік пад новай устаноўкай, і ён нязвычна жаўцеў паміж жалезных механізмаў, загародак і перагародак. Потым хлопцы пайшлі абедаць. Пасля абеду амаль усе тапталіся на гэтым масціку і спрачаліся так моцна, што дзяўчаты нават здалёк чулі іх размову. Калі ж якое слова прыцішалася, то толькі з прыкладаннем далоні да вуха суседа, і тады дзяўчаты сарамліва апускалі вочы, бо па руху вуснаў здагадваліся, што там былі слоўцы не для іхняга слыху.

Пад канец змены адзін неасцярожны практыкант зваліўся з гэтага масціка і ўпаў у пралёт паміж млыном і металічнай перагародкай.

Як на шчасце, у гэты час унізе каля млына праходзіла Мальвіна. Яна ў момант выключыла барабан млына і кінулася ратаваць хлопца. Але той

адразу ўстаў з запыленай падлогі, трохі атросся, адышоў ад спалоху і пачаў разгублена ўхмыляцца.

— Нібы з парашутам! — пажартаваў, гледзячы ўгору, на мосцік, у якім адсюль відна была шчыліна.— Там адна маснічына адышла...

— Чаму ж вы не ўмацавалі?! — абурана спытала Мальвіна.— Дзе ваш старшы? Вы ведаеце, што магло б здарыцца? Адным сантыметрам лявей — і ўпалі б на барабан!..

— Дык я ж не падаў,— смяшліва апраўдваўся хлопец.— Я скакаў!.. Толькі на прызямленні крыху страціў раўнавагу.

— Цэлы вы хоць ці бравіруеце?..

Далей Мальва не магла гаварыць, вусны яе задрыжалі, з вачэй міжвольна пырснулі слёзы. Падбеглі зверху практыканты, пачалі падаваць «парашутысту» рукі, каб памагчы выбрацца з-за перагародкі. Але хлопец, як здалося Мальвіне, ледзь толькі дакрануўся далонямі да верхняй перакладзіны — і ў міг вока перамахнуў цераз перагародку.

У гэты час ля млына з'явілася Валя.

— Дзе ты была? — нібыта і ціха спытала Мальвіна.— Чаму не дзяжурыла? — І па выразу твару дзяўчыны зразумела, што тая не толькі страшэнна разгубілася, але і спалохалася, здзіўлена і роспачна замаргала вачыма.— Чалавек праз цябе мог загінуць!

— Ціха, ціха! — сталі ўгаворваць Мальвіну практыканты. І тут упершыню за час свае работы яна адчула, што занадта павысіла голас.— Нічога асаблівага не здарылася. Ён у нас увіротны, як кот, заўсёды падае на ногі.

— А калі б не спыніўся млын? — з болем у душы запытала Мальвіна.— Барабан падчапіў бы вашага скакуна за адзежу, і што б асталося ад яго? Вы разумееце? — Жанчына паглядзела на выкачанага ў салявую муку хлопца, і страшнае ўяўленне аб магчымай бядзе, глыбокая крыўда ад таго, што недарэчны выпадак здарыўся на яе дзяжурстве, і адначасова — радасць, што ўсё абышлося без ахвяр, не толькі вывелі яе з раўнавагі, а і напоўнілі душу жаллівa-трагічным пачуццём, расслабленай

разгубленасцю: яна ўсё яшчэ не магла стрымаць слёз.

— Не гаварыце пра гэта нашаму брыгадзіру,— між тым прасілі хлопцы.— Дык ніхто і ведаць не будзе. Адным момантам усё адбылося, ніхто і не заўважыў, акрамя вас.

Той практыкант, які вельмі ўжо заўзята пераконваў прыхаваць і, як кажуць, «замяць» гэты выпадак, залішне блізка нахіліўся да Мальвіны, і жанчына ўлавіла да нясцерпнасці агідны пах...

— Я не толькі скажу вашаму старшаму,— закрычала яна ледзь не на ўсю фабрыку,— а пацягну яго да самога генеральнага і пастаўлю пытанне рубам: калі вы прыехалі сюды працаваць, дык працуйце сумленна і з адказнасцю! Калі ж толькі выпіўка ў вас у галаве, то гэтакіх нам не трэба!

— Хто п'е, хто п'е? — ніякавата, аднак без разгубленасці апраўдваліся хлопцы.

А той, што зваліўся з мосціка, чамусьці маўчаў. Мальвіна абурана глядзела на яго заплаканымі вачыма. На нейкі момант у яе зусім знікла тое шкадаванне, якое да гэтага шчаміла сэрца: страхотная нянавісць да п'яніц раптам перайшла і на гэтага «парашутыста», хоць ён хвіліну назад быў на валаску ад смерці. У той жа час і сумненне апаноўвала: калі б ён, не тут кажучы, быў пад хмелем, то наўрад ці здолеў бы зляціраваць на ляту. Няўжо гэта проста шчаслівы выпадак?

— А ну дыхні! — рашуча запатрабавала Мальвіна, падступіўшыся зусім блізка да хлопца. Той рыўком адхіліўся...

Дома з Віцькам жаллівa размаўляла і да маці збіралася пабегчы, каб неяк выгаварыцца, параіцца ды лепш уразумець, што адбылося на змене і з людзьмі, і з ёй самою, бо цяпер аж не верылася, што гэта была яна, што так крычала на людзей і плакала, як блазнючка. Галоўнае ж — страціла сяброўку!..

Валя даўно працуе на фабрыцы. Некалі яны прыйшлі сюды пасля дзесяцігодак: Мальвіна адсюль, з Васількоў, а Валя — з недалёкай вёскі.

Праз два з нечым гады Мальвіна паехала вучыцца, а Валя неяк паспрабавала паступіць на завочнае аддзяленне — штосьці там не склеілася, дык больш ужо і не спрабавала. Праходзіў час ад вясны да вясны, ад лета да лета... Ніхто асабліва не нагадваў Валі, што варта было б вучыцца далей, ды яшчэ ж бянтэжыла тое, што некаторыя з інстытутаў заграблялі менш, чым яна. А хто больш мае, таму часам і гонар большы.

...Сяброўкі зноў сустрэліся, але ўжо ў неаднолькавым становішчы. Не шкодзіла гэта дружбе, і Мальвіна шчыра радавалася, што так было. І вось — ужо няма... Адзін момант, і ўсё перавярнулася! Не толькі ў іхніх асабістых адносінах, а і ў вытворчых. Цяпер Мальвіна не здолее падысці да вопытнай апаратчыцы, каб пагаварыць, параіцца з ёй аб тых ці іншых складаных працэсах. Дазнаюцца дзяўчаты, што Валька пакрыўджана, і будуць спачуваць ёй, бо ведаюць, што яна добрая і памяркоўная па натуры, ды і па вопытнасці мала хто з ёю спрастае. Яшчэ ж, да ўсяго гэтага, ведаюць і аб тым, што дзяўчына сяды-тады ўтульваецца ў хусцінку і пакашлівае. Хусцінка так прыглушае кашаль, што Валя быццам і сама яго не чуе. Таму і не зважае на гэта. А сяброўкі заўважаюць. Яны разумеюць, што ад салёнага пылу дзяўчына пачынае кашляць. Але куды ж ад яго дзенешся, калі дзяжурыш ля млына?

Аб гэтым думалася і Мальвіне ў той вечар дома. І чамусьці ўзнікла тая ісціна, як навіна, як раптоўнае адкрыццё, хоць пра яе былі здагадкі і раней. І спачуванне было, і прапановы рабіліся наконт перамены рабочага месца.

«Можа яна таму і адышлася ад агрэгата, што закашлялася, што ёй трэба было хоць хвіліну пабыць на чыстым паветры. А ў гэты момант — здарэнне...»

— Адзенься, сынок, сходзім да бабкі!

Віця сумеўся: не чакаў такой прапановы.

— Я ўжо спаць хачу.

— Тады лажыся, а я адна збегаю.

— Чаго адна?..

— Мне трэба пабачыць бабку...

І ў гэты момант Віцька кінуўся да дзвярэй — ён пачуў такі лёгкі стук, якога маці з-за сваёй збянтэжанасці не пачула. Напэўна ж, яна і не прыслухоўвалася, і не чакала стуку ў дзверы, калі ёсць званок.

А хлопчык, падставіўшы да дзвярэй зэдлік, сцішана ўглядаўся ў дзвярное вочка і з насцярожанай радасцю паглядваў на маці.

— Гэта не ён,— радасна паведаміў малы, калі ціхі стук паўтарыўся.— Гэта яна, цёця Валя!

Мальвіна парывіста кінулася да дзвярэй, адхіліла Віцьку і сама прытулілася да вушака. Спачатку нешта задваілася ў яе вачах, а потым у прасветленым верхняй лямпачкай кружочку заблішчала змейка Валінага паяска. Дзяўчаты ўжо і не носяць каляровых змеек, на іх мода прайшла нават у Васільках. А Валя носіць...

— Вы думаеце, што так і пазбавіліся ад мяне! — няўпэўнена пасміхваючыся, загаварыла дзяўчына, пераступіўшы парог.— Што я больш не прыйду! Не так-та проста! Вось прыйшла!.. І паспрабуйце выгнаць!

— Я ведаў! — узрадавана прамовіў Віцька.

— Што ты ведаў?

— Што вы прыйдзеце... І што мама перастане плакаць.

У Мальвіны сапраўды былі слёзы на вачах. Яна абхапіла Валю за шыю і туліла да сябе, як самую лепшую сваю ўцеху, як любімую сястру, якую даўно-даўно не бачыла. Слоў не магла вымавіць, таму Валя гаварыла сама.

— Я ціха стукала, каб не напалохаць вас. Бо хто ў гэты час прыйдзе, акрамя яго?.. А сама спазнілася, усё думала: можна зайсці ці не можна, трэба ці не трэба?

— Ну чаму ты сумнявалася? — з папрокам запытала Мальва.— Калі б ты не ў інтэрнаце, то я сама прыбегла б да цябе.

— Адчула я гэта,— прызналася Валя.— Ты перажыла больш, чым я.

— Каб ты толькі ведала!..

— Ведаю і бачу! Паглядзела б і ты на сябе! Асабліва там, на фабрыцы. Збялела ўся, губы трасліся... Я спалохалася за цябе...
— Мабыць, крычала я вельмі?
— Не думалі мы, што ты можаш так крычаць.
— Як мне цяпер на фабрыку ісці?..

## VI

У тую ноч Валя не пайшла дадому. Ранічкою яны ўдзвюх з Мальвінай правялі ў дзетсад Віцю і пайшлі на фабрыку. Трымаліся поруч аж да самага млына, пакуль не сустрэлі Кухарчыка. Тут Валя заступіла на сваю вахту, а Мальва насцярожана слухала будзённыя распыткі начальніка і старалася вызначыць, ведае ён пра ўчарашняе здарэнне, ды хітра прамоўчвае, чакаючы прызнання, ці яшчэ не ведае. Да болю ў душы цікавіла гэта і Валю: яна не магла адысціся ад агрэгата — там чуліся непаладкі, але не зводзіла вачэй з Мальвіны, намагаючыся па выразу яе твару ўгадаць сэнс размовы.

Па ўсім адчувалася, што Кухарчык не ведаў пра выпадак з практыкантамі. Яго размова была зусім памяркоўная і не выходзіла з вузкага кола тэхналагічных інтарэсаў, якраз тых, у якіх ён слабей як дзе разбіраўся, але заўсёды рабіў выгляд, што засвоіў дасканала.
— Як новая схема?
— Аваладваем.
— Ёсць складанасці?
— Як і ва ўсім новым.

Мальвіну не цягнула на такую размову, а з Кухарчыкам дык і ні на якую. З вальнейшай душою яна падышла б да тых апаратчыц, якія ўчора бачылі яе такой разгубленай і крыклівай. Напэўна ж, некаторыя з іх думаюць, што ў гэтым і ёсць яе асноўныя рысы характару, што добрая яна і памяркоўная толькі да вострага моманту, а тады спуску не дасць нікому, можа нават і свой боль пераваліць на чужую галаву. Перакідваючыся шаблоннымі слоўцамі з Кухарчыкам, Мальва адчувала, што ўсе тыя зменшчыцы, якія знаходзяцца бліжэй да

яе, хто незаўважна, быццам мімаходзь, а хто і наўмысля, цікуюць за ёю: як гаворыць з начальствам, як усміхаецца, кідае позіркі, выгароджваецца ці не. А можа і ўсю віну бярэ на сябе, нават і Вальчыну?

А між тым Кухарчык паведаміў:

— Хутка пачнуць даваць руду з другога ствала. Для вас спецыяльна. Я дамовіўся.

— Гэта добра,— абыякава сказала Мальва.

— Вы ж патрабуеце?

— Патрабую.

— Вось бачыце! А я стараюся быць, так скаць, паслухмяным выканаўцам. Хоць, калі на чыстату, то не веру ў наяўнасць розніцы паміж прадукцыяй першага ствала і другога.

— Яна вельмі тонкая,— толькі і зазначыла Мальва.— Але мае істотнае значэнне.

— Пабачым, пабачым! — з націскам прамовіў Кухарчык.— Не мне спрачацца з дыпламаваным інжынерам. Да яшчэ з жанчынай... Да яшчэ з прыгожай... З той, за якую ледзь не атрымаў вымову за папытку, так скаць, супрацiўлення...

— Гэта нешта з іншай оперы,— сказала Мальвіна і адышлася ад Кухарчыка. Нават давольна была, што надарыўся зручны выпадак спыніць, па сутнасці, непатрэбную размову. Практыканты зноў пачалі збірацца на драўляным мастку, і Мальва заспяшалася туды.

Самая цяжкая і сцягатлівая змена — з дванаццаці гадзін ночы. Звечара не паспіш, каб абадзёрыцца перад выхадам, а толькі спадзяешся на тое, што вырвеш якую часіну для сну раніцою, прыйшоўшы з работы. Там жа, бывае, выпадзе трохі зручнага часу, але здараецца, што і не выпадзе. У Мальвіны амаль заўсёды не выпадае.

Тая начная змена надарылася даволі непрыветнай і нязладжанай з самага пачатку. Трэба ж было выйсці так, што Мальвіна амаль і не заўважыла, як праляцеў перадзменны час. Хоць ужо і рана цямнела, і змрок згушчаўся так, што васількоўскія ліхтары ледзь не жывасілам утрымлівалі вязкія пучкі святла, скіраваныя на макраваты ад нядаўняга дажджу асфальт, усё ж чамусьці здавалася, што яшчэ многа часу да ад'езду на фабрыку.

Напэўна, самы цьмяны ліхтар быў на слупе над аўтобусным прыпынкам. Пад ліхтаром сабралася ўжо некалькі чалавек, а рэйсавага аўтобуса ўсё не было. Мальвіна як пусцілася бежкам з дому па лесвіцы, так не спыняла свайго марафону аж да гэтага ліхтара. Тут далучылася да купкі людзей, разам з імі пачала трывожна паглядваць у той бок, адкуль павінен засвяціцца фарамі аўтобус. І раз-пораз пераступала з нагі на нагу. Яшчэ не адвыклася ад лета, яшчэ не цягнула адзявацца па-асенняму. Ды і часу не было на такія зборы — выйшла амаль ва ўсім тым, у чым была дома: сукенка дзявочая вышэй калень, лёгкая жакетка наросхрыст. А вецер дзьмуў халодны і мацнаваты — час ад часу пагойдваў вулічныя ліхтары.

Непадалёку вішчалі і стукалі дзверы васількоўскага рэстарана. Адтуль выходзілі самыя познія наведвальнікі, падавалі разнатонныя галасы, і амаль кожны завітваў у гасцінічныя клумбы, дзе яшчэ не адцвілі астры і хрызантэмы. Пачыналіся даволі «ветлівыя» дыялогі паміж аматарамі начных букетаў і дворнічыхай. Потым галасы і зусім разрасліся, асобныя слоўцы ледзь не аддаваліся рэхам.

Нарэшце засвяціліся фары. У начной вільготнай цемені яны былі надзвычай яркімі і ўжо здалёк сляпілі Мальвіне вочы. Аўтобус! Няхай хоць празівае ўсіх сваімі халоднымі промнямі, абы хутчэй прыйшоў! Але каля гасцініцы фары рэзка мільганулі па людскіх тварах і павярнулі ўлева. Рэстаранная галасня адразу прыціхла.

Машына спынілася каля ўвахода ў рэстаран і не тушыла фар, не глушыла матора. У яркім пучку святла Мальвіна ўбачыла двух дружыннікаў з павязкамі на рукавах, яны вялі некага пад рукі. Пінжачок на тым, нібы пераломленым напалам, чалавеку быў расхрыстаны і трымаўся на пахілых плячах толькі рукавамі. І зноў з'явілася ў Мальвіны нешта такое надакучлівае і неадчэпнае, ад чаго нельга было адкаснуцца,— здалося, што Савелаў гэта пінжачок, што толькі Горбік умее паказацца перад дружыннікамі такім кволым і бездапаможным.

Міліцэйская машына свяціла фарамі ля гасцініцы аж да таго часу, пакуль там не ўсталявалася поўная цішыня. Патрулі ад'язджалі, відаць, з перакананнем, што парадак у Васільках наведзены і ўжо ніхто цяпер не будзе парушаць яшчэ звычную ў гэтым гарадку начную цішыню.

Аднак памыліліся ахоўнікі парадку. Толькі яны з'ехалі з галоўнай вуліцы і свідранулі фарамі цемень недалёкага перавулка, як недзе на падыходзе да гасцініцы зноў пачуліся задорныя галасы. Даляцелі яны да патрулёў ці не? Але ж калі і даляцелі, то хлопцы-дружыннікі не павернуць машыну, не перапыняць гэтых галасоў, бо яны дзявочыя і даволі прывабныя.

Хутка Мальвіна і ўбачыла гэтых начных спявачак. Яны ішлі пасярэдзіне вуліцы, зусім не баючыся, што ім нешта перашкодзіць: рэйсавы аўтобус і той недзе затрымаўся. Між імі няўпэўнена і хістка перабіраў нагамі нейкі мужчынка ці рахманы хлопец, які, напэўна ж, марыў толькі аб тым, каб захутчэй дабрацца да якога-небудзь прытулку і заваліцца спаць. Жанчыны трымалі яго пад рукі і спявалі, а ён не спяваў. Мусіць, яшчэ разумеў, што перашкаджаць жанчынам нельга, бо спяваюць яны хораша. Ад такіх песняў ніхто не прачнецца, калі спіць недзе дома, нават дзіця не варухнецца ў калысцы. А калі хто не спіць, то нават адчыніць акно, каб паслухаць. Зладжана жанчыны спявалі, на два галасы і з такой наладкай, быццам пасля добрай рэпетыцыі.

Нарэшце, у самым канцы вуліцы, быццам каля васількоўскага ляска, які цяпер лічыцца паркам, зноў блiснулі фары. Спявачкі нібы адчулі іх — бачыць яшчэ не маглі, бо не аглядаліся — і, не спяшаючыся, павярнулі на пліткавы тратуар. Тут іхні кавалер адразу спатыкнуўся, бо пліткі гэтыя, пакладзеныя гады тры таму наспех і для часовага эфекту, патрэскаліся і паперакошваліся. Клаліся яны толькі для пешаходаў, а наязджаюць на іх і грузавікі, калі часам трэба развярнуцца ці пад'ехаць ушчыльную да рэстарана ці гасцініцы.

Пакуль падышоў аўтобус, Мальвіна яшчэ паспела ўбачыць, як галасістыя маладухі прыставілі

да слупа свайго безнадзейнага спадарожніка і пачалі адчайна, не шкадуючы ні ног, ні абцасаў, вытанцоўваць пад уласныя прыпеўкі. Туманны, быццам сыпучы, промень з-пад ліхтара падаў на іхнія галовы з высокімі прычоскамі. А калі шырэй разганяліся жанчыны ды выходзілі з-пад святла, тады адразу знікалі, і толькі рытміка прыпевак ды заўзяты стукат абцасаў даносілі танец.

Потым маладзіцы зноў падхапілі пад рукі свайго праважатага, зноў рушылі па тратуары і яшчэ мацней заспявалі, але ўжо не так зладжана, як раней. Мальвіна чула, што галасы іх збіваліся на нейкі вельмі шаблонны і не мясцовага характару рэфрэнчык...

Рушыў па асфальце аўтобус, шоргат гумы і аблегчаны шумок матора ўжо даўно заглушылі апошняе водгулле васількоўскага начнога дуэта. А Мальвіне ён усё яшчэ чуўся.

Ёсць харошы клуб у Васільках, ёсць нават Палац культуры, кінатэатр адкрылі яшчэ ў першыя гады будаўніцтва. Але на памяці Мальвіны ўжо колькі было такіх выпадкаў, калі па нейкай адвольнай стыхіі ці па традыцыі тых месц, адкуль людзі прыехалі, некаторыя з цяперашніх васількоўскіх жыхароў часам узрываюцца нястрымнай весялосцю проста на вуліцы: выспеўваюцца да хрыпаты ў горле, наскачуцца, напрысядаюцца да болю ў каленях, а тады ідуць дадому і спяць з вялікай асалодай, быццам пасля самых прыемных і карысных спраў.

Блізкі надыход начной змены чамусьці хваляваў Мальвіну, хоць ужо колькі такіх змен давялося ёй аддзяжурыць. Думкі хіліліся да тых сённяшніх неабходнасцей, што чакалі на фабрыцы, але з вачэй усё яшчэ не сыходзілі то зусім выразныя, то расплывіста-цьмяныя сілуэты жанчын, што, навесяліўшыся на вуліцы, разышліся па сваіх кватэрах. П'яны «рыцар» — напэўна, гаспадар адной з іх. Вось яна прывядзе яго дадому, пакладзе спаць, а сама пачне плакаць ад непазбежнага разумення, што заўтра ён зноў не ўстане на шахцёрскую змену, а калі выцверазіцца, то пачне звальваць усю віну на яе. І жанчыне трэба будзе маўчаць, бо са-

праўды вінавата, бо сапраўды адзін мо раз у жыцці дазволіла сабе выпіць чарку ды паспяваць і патанцаваць на вуліцы. Весялосць гэта была ці выпадковасць настрою? А можа нават і адчай душы?..

Чаму хацелася гэтак думаць? Маглі ж узнікнуць і лепшыя меркаванні: не бабулькі выкручваліся ля слупа, а дзябёлыя маладзіцы. Мальвіна і сама магла б далучыцца да іх, калі б выпала магчымасць...

Па шырокім шкле таго акна, пры якім сядзела Мальвіна ў аўтобусе, пацякла буйная і мутная кропля вады. Яна ледзь прабівалася скрозь густы пласт дзённага пылу. Следам — другая слізганула ўжо хутка, а потым аўтобус павярнуў на круг ля фабрыкі, і касы ветравы дождж моцна забарабаніў у акно. Жанчына ўспомніла, што нічога не ўзяла ад дажджу: давядзецца бегчы да корпуса зноў марафонам і ўсё ж мокрай дзяжурыць, пакуль прасохнеш.

Да пачатку змены ўжо не ставалася і хвіліны. Дзяўчаты павінны быць там, яны не спозняцца, яны не маюць права спазняцца... А начальнік змены затрымліваецца... Ён мае права?..

Ніхто не пачне работы, пакуль не з'явіцца майстар, таму што сёння тут новая схема абагачэння, зусім незвычайная. І патрабуе яна асаблівай увагі і адмысловай руды, якую выбрала Мальвіна. Трэба дамагчыся, каб падалі гэтую руду. Трэба ўмела і своечасова прыняць яе ў свой бункер.

...Голас у тэлефоннай трубцы абыякавы, нібы сонны:

— Я не дам сёння руды... Апошні дзень квартала — не магу пераключаць канвеер.

— Чаму не можаце?

— Таму што ў мяне план.

— Дык гэта ж на адну хвіліну!

— Хвіліна таксама мае значэнне.

Мальвіна імкнулася ўспомніць: хто дзяжурыць у транспартна-размолачным цэху. Голас нібы старэчы, нібы хваравіты. А галоўнае — вельмі ж абы-

якавы. Такому чалавеку толькі вахцёрам сядзець пры дзвярах, і то не пры ўсякіх.

Давялося звярнуцца да дыспетчара рудніка. Там у адказ — жаночая бойкасць, упэўненасць і рэзкія папрокі:

— Усё каб нехта, каб чужымі рукамі!.. Вы хто такая? Шыберша?

— Начальнік змены.

— Інжынер?

Мальвіна прамаўчала.

— Дык што ж вы не можаце нейкага там размольшчыка ўгаварыць, пераканаць? Нават і на кула́чках, калі гэта неабходна!

Дыспетчар уяўлялася ў скураной куртцы з камсастаўскім рэмнем і ў юхтовых ботах. Апошнія яе словы прагучалі ледзь не аглушальна:

— Я зараз усыплю яму! Але і ты там не міндальнічай! Чую — маладая яшчэ... Панабіралі студэнтак!..

Праз некаторы час зноў зазваніў тэлефон у бытоўцы, і размольшчык яшчэ больш абыякавым голасам паведаміў:

— Вы дарэмна траціце час на перазвоны!.. Руды я вам не дам!

— Дык мы ж стаім! Уся змена прастойвае! Схема ў нас!.. План! Разумееце? Што вы за чалавек?!

— Я такі чалавек,— пачулася ў трубцы,— што на дробязі не разменьваюся, а стаю на асноўным грунце. Ваш план — кропля ў моры. А план рудніка!..

— Калі вы зараз жа не пададзіце руду,— на апошніх нотах загучаў голас Мальвіны,— то я пазваню на кватэру дырэктару рудніка!

— Дарэмна падымеце чалавека,— пачуўся спакойны, некрыўдлівы адказ.— Пераб'еце яму сон. А я скажу, што абавязаны выконваць план. На гэта пастаўлены!

У голасе Мальвіны ўжо адчай і абурэнне, яна ледзь стрымлівае сябе ад рэзкіх і абразлівых слоў, і паколькі не можа дапусціцца да гэтага, то міжвольна збіваецца на нястрымны плач:

— Кіну ўсё тут і прымчу ў вашу размолаўку!.. Сама пераключу канвеер!

— От гэта ўжо больш прыстойна, чым кляпаць усім па тэлефоне. Толькі зноў жа дарэмна: да механізмаў я вас не дапушчу!

— Пабачым!

— Пабачым!

— Ну і чурбан вы бессардэчны!.. Ніколі ў жыцці не сустракала такога!

Мальвіна ў скрусе і разгубленасці кінула тэлефонную трубку, а следам і сама апала галавою на стол, сціснула ладонямі скроні. Падышла Валя, паклала руку на дрыготкія, быццам азяблыя плечы.

— Не трэба так... Што ты?.. Вунь усе дзяўчаты ідуць сюды!

— Скажы, каб не пакідалі рабочых месц! — рашуча загадала Мальва і ўстала, рыўком падалася да дзвярэй.

— І я з табою! — нясмела папрасіла Валя.— Там ён яшчэ прыб'е цябе!..

— Аставайся тут, прасачы, каб дзяжурылі каля цечкі!

Паўторны тэлефонны званок прыпыніў Мальвіну ўжо амаль на спуску ў калідор службовага корпуса: яе дагнала Валя. У трубцы стомлена і пакрыўджана прагучаў той самы голас... Ад яго закалацілася сэрца, пачало стукаць у скронях... Толькі ад голасу... Невыразных, нібы праглынутых, слоў яшчэ нельга было разабраць.

— Гэта я-а!..— гучала ў трубцы.— Той самы... Як гэта вы сказалі... Чурбан з размолачнага... Пазналі?

— Паміраць буду, дык і то ўспомню!..— разанула Мальва.— Аднак лепш бы век не чуць!.. Што вам трэба?

— Падаў руду! — пачуўся адказ.

— Як гэта? Чаму не папярэдзілі?

Мальвіна кінула трубку, ірванулася да дзвярэй і ўжо на бягу абурана і злосна паўтарала: — Вось жа чурбан!.. Сапраўды!.. Як назло!.. Там жа шыбер закрыты!.. Амаль непрытомны бег уздоўж канвеера да цечкі ўсё ж заняў каля хвіліны. Руда ўжо сыпалася ў цечку, і апаратчыца, якая прыбегла сюды раней за Мальвіну, з усёй сілы намагалася адкрыць шыбер, каб руда пайшла на фабрыч-

ны бункер, але сілы на гэта не хапала, бо шыбер ужо быў прыціснуты рудою. За ўсыпаную рудою металічную скабу яны ўхапіліся ўдзвюх, цягнулі да адчаю, да болю ў пальцах, але гэтая вагавіта прысыпаная засаўка жаночай сіле не паддавалася. У роспачы і самаахвярным адчаі Мальвіна і не заўважыла, як апаратчыца, адзіная пажылая жанчына ў змене, раптам ускочыла на скабу шыбера і нагнулася над краем цечкі. Руда пасыпалася ёй на галаву, на плечы.

— Што вы робіце! — ледзь не здзічэлым голасам закрычала Мальвіна і, падхапіўшы жанчыну за ногі, выцягнула яе з-пад руды.

— Там, трохі адгробшы, можна адкрыць шыбер знутры,— ледзь стрымліваючы дрыготкае дыханне, сказала жанчына.

— Не з вашым здароўем!..

Гэта было сказана ўжо зверху. Руда сыпалася на Мальвіну. Ужо не відно было яе галавы, павязанай блакітнай касынкай... У нейкія моманты закрываліся сыпучай лавінай вузкія плечы...

Руда з вялікага канвеера шуганула моцна, грымуча, з буйным размолам — відаць, «чурбан» падаў яе на поўную сілу. Апаратчыца, цягнучы шыбер на сябе, з жахам заўважыла, што Мальвініны ногі ў асенніх боціках раптам павіслі і не спрабуюць знайсці ранейшую апору на скабе шыбера. У вачах жанчыны пацямнела, і ёй падалося, што боцікі з дрыжаннем і сутаргамі рушацца ўверх... Па іх сыплецца руда, коцяцца аскабалкі сільвініту. Апаратчыца ўчапілася за боцікі і закрычала жудасна, адчайна, клічучы на паратунак.

На шчасце, падбегла Валя...

У бальніцы Мальвіна доўга аставалася ў непрытомнасці.

...Руда ўсё сыпалася і сыпалася на яе, здавалася, што засыпала зусім. Рабілася цяжка дыхаць, і тады Мальва жудасна ўскрыквала. Каля яе амаль бесперапынна дзяжурыла маці, часта, пасля змены, заходзіў Аўгусцін. Яна супакойвалася, а потым зноў патанала ў пакутлівым трызненні...

...Хлынýчае, бязлітаснае шаргатанне і бразганне размолу ў вушах, балючае адчуванне цяжару на спіне, на шыі і нават на галаве паўтараліся часта, а ў прамежках Мальвіна чула голас у тэлефоннай трубцы. Іншы раз адказвала на гэты голас моцна, настойліва і да крайнасці раздражнёна.

— Ніхто нічога табе не гаворыць,— супакойвала маці, а сама ўпотай выцірала слёзы і трывожна сачыла за вачыма і выразам твару ўрача, калі той падыходзіў, а потым унурыста адыходзіў ад Мальвіны. Часам ціхім крокам шыбавала за ім і, перапыніўшы ў калідоры, умольна прасіла сказаць, што будзе з дачкою. Урач цярпліва паўтараў тое, што гаварыў і раней: стан шоку павінен хутка мінуцца, а траўма астанецца, яе трэба лячыць. Шчасце, што калецтва няма, а спалох і лёгкія парушэнні ў галаве малады арганізм хутка пераадолее.

...Той самы голас, што некалі чуўся ў тэлефоннай трубцы, аднаго разу зусім нечакана прагучаў у калідоры. Мальвіна здрыганулася, нібы абараняючыся, нервова замахала рукамі. Маці пры ёй не было, яна ўжо радзей прыходзіла, бо Мальвіне стала крыху лепш. З'явілася медсястра, сказала, што ў палату хоча зайсці адзін чалавек з рудніка і нешта такое паведаміць Мальвіне.

Жанчына зноў замахала рукамі, але голас з тэлефоннай трубкі пачуўся ўжо блізка, у самой палаце.

— Я толькі на хвілінку... Не патрывожу вас.— І, падышоўшы да самага ложка, дадаў: — Гэта той самы... з размолачнага...— Відаць, хацеў сказаць «чурбан», ды не адважыўся.— Мы ніколі не бачыліся, але вы, мабыць...

— Пазнаю, пазнаю,— спакойна адказала Мальва.— Па голасу.— І сама здзівілася, што не крыкнула, не замахала на яго рукамі, што чалавек не ўявіўся ёй вельмі страшным.

— Вось я перад вамі!..— разгублена камечачы накінуты на плечы халат, загаварыў наведвальнік.— Можаце судзіць мяне, караць... Але справа не ў гэтым: сам сябе пакараў. Хацелася ўбачыць вас, можа чым памагчы, хоць і не ведаю чым. З той

злашчаснай начной змены няма ў мяне цяпер ні дня, ні ночы людскай. Усё думаю пра гэты выпадак, уяўляю вас, зусім незнаёмую мне і, мабыць, вельмі далёкую... Пацягнула праведаць вас — і тады хоць можа і з большымі пакутамі, але думаць пра вас не абстрактна.

Чалавек змоўк, апусціў рукі і прыхаваў іх пад халатам. Медсястра пастаяла хвіліну побач, а потым, заўважыўшы, што хворая не пратэстуе супраць наведвальніка, падставіла яму белы зэдлік і выйшла з палаты. Наведвальнік падзякаваў сястры за ўвагу і паслухмяна сеў, нібы стаяць тут забаранялася. Седзячы, не хаваў рук пад халатам, бо, мабыць,адчуваў, што яны ўжо не могуць задрыжаць. Глядзеў на хворую і, відавочна, саромеўся, што не хапала сілы стрымліваць захапленне: напэўна, не думаў раней, што яна такая маладая, з выгляду зусім яшчэ дзяўчынка, што ні ў яе твары, ні ў вачах няма нічога злоснага, нават нядобразычлівага, і што тыя словы, якія яна нядаўна вымавіла тут, зусім не стасаваліся да той начной размовы па тэлефоне, якая ўвесь час свідруе памяць. Вельмі хацелася пачуць яшчэ што-небудзь ад хворай, няхай нават і непрыемнае, самае вострае, асуджальнае. Але Мальвіна маўчала. Быццам насцярожана і ў той жа час няўпэўнена адгароджваючыся ад наведвальніка, яна прыкрывала твар прасцінай і толькі вачэй не засланяла і не прыжмурвала, не адварочвала пагляду. Жанчына глядзела з-пад прасціны настойліва, нібы вывучала наведвальніка, нібы разважала над важнай і складанай для сябе задачай: выгнаць яго вось цяпер з палаты ці няхай пасядзіць, памаўчыць, а можа і раскажа што-небудзь?

Загаварыў наведвальнік толькі тады; калі ўстаў з зэдліка і адступіўся ад ложка, каб падацца да выхада.

— Вы нічога не сказалі мне, але я не крыўдую... Разумею вас. Добрага не маглі сказаць, а кепскага — не захацелі, сэрца не дазволіла біць ляжачага. Бачу па вачах. Але я не ляжачы!.. І хацеў стоячы выслухаць вашу праўду... Ды, відаць, не сёння...

Крыху залішне настойліва паглядваў ёй у вочы і сумеўся, нібыта стаў у тупік перад пытаннем: варта сказаць, што ў яе вельмі прыгожыя і зусім адметныя вочы — такіх ён можа і ніколі не бачыў — ці не варта, бо не настаў час для гэтага? Выразнасць вачэй надзвычайная, і праніклёнасць на ўсю глыбіню душы, быццам нават пякучая, хоць і промні не ясна-сонечныя, а цемнавата-сумныя, яшчэ з хваравітым туманчыкам.

— Калі дазволіце, то я зайду яшчэ.— І зноў спыніў свой пагляд на яе вачах, што з невыразнай цікаўнасцю блішчалі з-пад прасціны. Падумаў, што ноччу яны, напэўна, свяціліся б, гарэлі б, як вугалькі. Заўважыў, што павекі ледзь-ледзь крануліся і на момант апусціліся ўніз. З вуснаў Мальва не адхінула прасціны, таму ясна было, што слоў чакаць нельга.

— Усё ж скажу на развітанне,— працягваў наведвальнік,— што цяпер яшчэ больш буду перажываць, бо ведаю, каму прычыніў бяду. Не хочучы, не думаючы пра кепскае... Але што ёсць, то ёсць. Не апраўдвацца прыйшоў, не выварочвацца... Віна мая недаравальная. І ўцеха мая толькі ў тым, каб вы хутчэй паправіліся.

Ён спавольна пакланіўся, выняў з-пад халата рукі і ціха падаўся да дзвярэй. У гэты момант Мальва, нібы адчуўшы стому ў вачах, санліва прыплюшчылася і не бачыла, як ён выйшаў. Хацелася паляжаць зусім нерухома і сцішана, а то і сапраўды задрамаць, каб неяк адарвацца ад нечаканага ўражання ў сувязі з такім незвычайным візітам.

Што толькі не прыходзіла ў галаву пасля таго, як надышло прасвятленне, якія толькі думы і ўспаміны не адольвалі памяць. Найбольшая трывога была за Віцьку, які астаўся дома адзін. Напэўна, бабка забрала яго да сябе ці сама перасялілася да яго. Пра гэта і пытацца не трэба, інакш яно і быць не можа. Але ж вядома і тое, што хлапец умее ўцякаць ад бабкі. І не куды-небудзь, а на мора, на доўгі прычал з дошак, па якім вельмі цікава бегаць, бо ён гойдаецца. А яшчэ цікавей даваць нырца ў ваду. А цяпер ужо вада халодная...

Ля прычала — лодкі, маторныя і веславыя. Ёсць нават і чаўны, бо некаторыя мясцовыя рыбакі, паслядоўнікі васількоўскага хутараніна Юсціка, не паважаюць ні матораў, ні раскошных пласкадонак. Гэтага рыба не любіць. Віцька можа сесці ў любую плывучую пасудзіну, каб толькі хто ўзяў...

Маці ківае галавою, калі Мальва пытае пра свайго сына. Згодліва ківае, памяркоўна, але нічога ўцешнага не гаворыць. І кепскага таксама. Быццам наўмысля адмоўчваецца. А чаму?..

Дзяўчаты са змены прыходзілі ў бальніцу і таксама ніякавата ківалі галовамі, калі гаворка заходзіла пра Віцьку. А яшчэ больш яны адмоўчваліся, калі Мальва пыталася пра новую схему абагачэння сільвініту. Стрымана ўсміхаліся пры гаворцы пра дапамогу Ван Ваныча і яго некаторых занадта паслухмяных памочнікаў.

Аўгусцінавы справы ў брыгадзе наводзілі на загадкі ўжо таму, што ён, калі наведваўся, амаль зусім пазбягаў размовы пра іх.

— Навошта табе думаць пра гэта? — настойліва пытаў ён.— Адыдзі ад вытворчасці, пакуль лечышся, не набірай у галаву ўсялякай непатрэбшчыны.

І быццам не ведаў брат, што яна не можа жыць без гэтай «непатрэбшчыны», што нават пры тых кароткіх і кволых снах у палаце, начных і дзённых, яна часта бачыць сваю фабрыку, рознакаляровыя касынкі дзяўчат на сваіх рабочых месцах, а новая схема часамі станавілася такой выразнай і зразумелай, што хацелася паддацца самаму надзвычайнаму цуду і неадкладна перанесціся да сваіх станкоў і апаратаў.

Толькі вось аб гэтым чалавеку, цяперашнім наведвальніку, апошнім часам ні разу не думалася, не ўспаміналася. Як толькі перастаў гучаць у галаве яго цягучы голас праз тэлефонную трубку, не цягнула ні думаць пра яго, ні ўспамінаць размову, ні ўяўляць аблічча. Нават калі стаяў чалавек каля яе ложка, а потым і сядзеў на зэдліку, не ўзнікала цікавасці да яго асобы, да яго гаворкі, хоць само наведванне здзіўляла і крыху ўзрушвала.

...Дрымота не прыйшла, вочы міжвольна спыніліся на пустым белым зэдліку, які быццам бы сумаваў без чалавека. Слізгануў і пагляд нібыта следам за тым чалавекам і натыкнуўся на двайныя, свежавыбеленыя дзверы. Выбеленыя, але рыпучыя, хоць тут і бальніца. Яны нядаўна рыпнулі адной палавінкай і засланілі чалавека. Можа ён яшчэ стаіць за дзвярыма ды хоча вярнуцца? Калі б вярнуўся, то яна больш уважліва паглядзела б на яго, магчыма, запомніла б рысы яго твару, колер і выраз вачэй. А так толькі белы халат, накінуты на плечы, неяк адбіўся ў зрокавай памяці і амаль што закрыў усё. Як праз туман, бачыцца твар, здаецца, таксама белы, вельмі змораны і заклапочаны. І пажыласць нібыта выкрыквае на гэтым твары. Толькі валасы ўявіліся зусім чорнымі на фоне халатавай белізны. Мабыць, ёсць там і праблескі сіваватасці, але яшчэ ў такой стадыі, што, не надта прыглядаючыся, спадалеку не заўважыш. І якая ўсмешка ў чалавека? Ён ні разу не ўсміхнуўся ў час наведвання, але чамусьці Мальвіне ўяўляецца, што ўсмешка яго можа быць прыгожай і ласкавай. Няўжо ён усміхаўся, калі без папярэджання падаваў руду? Чаму так выйшла? З выгляду, хоць і пры самым сціплым знаёмстве, чалавек не падобны на зламысніка.

Пад вечар прыйшоў Аўгусцін. Мальвіна сказала яму пра незвычайнае наведванне, чакала ўзаемнага здзіўлення, але ён зусім не здзівіўся.

— Хіба вы знаёмыя? — амаль што не верачы ў гэта, спытала Мальвіна.

— Не надта добра, але знаёмыя,— адказаў брат.— Гэта Пілатаў Ігар Пятровіч. Інжынер. Раней быў начальнікам транспартна-размолачнага.

— Інжынер? — Мальвіна запытальна паўтарыла гэтае слова і падняла вочы на брата. Ён стаяў над ёю высокі, магутны і быццам закрываў сабою не толькі ўяўнасць нядаўняга наведвальніка, а і ўспаміны аб ім.

— Табе не верыцца? — спытаў Аўгусцін.

— Сапраўды цяжка паверыць,— згадзілася Мальва.— Дзейнічаў — як партач.

— Ён сам не можа зразумець, чаму гэтак выйшла. Нядаўна хадзіў да Тычыны, каяўся, асуджаў сам сябе. Прызнаўся, што проста выпусціў з-пад увагі сістэму пераключэння на ленце асноўнага канвеера. Ну і галоўнае...

— Што?..

— Не ведаў цябе... Характару твайго. Сыпалася руда чорту ў ляпу, ну і няхай бы сыпалася!

— Дык ён жа не падаў бы другім разам! І так паўзмены прастаялі.

— Нікуды не дзеўся б! Прыбягаў жа, калі цябе забралі па хуткай... І шыбер адкрыў, і новы вал падаў.— Аўгусцін прысеў на зэдлік, на момант задумаўся, відаць, над тымі словамі, што меўся сказаць. І ўсё ж неўзабаве загаварыў далей: — Справа ў тым, што Кухарчык потым прыпыніў твае эксперыменты.

— Як гэта? — Мальвіна ледзь не ўстала з пасцелі.— Хто яму даў права?!

— Ціха, ціха! — пачаў супакойваць брат.— Я і не хацеў гаварыць табе пра гэта... Напэўна, часова знята новая схема... Пакуль ты вернешся.

— Зноў пачнецца вазня з рудою,— роспачна прамовіла жанчына.— У мяне ўжо не хопіць сілы...

І ёй уявілася тая апошняя начная змена, пачуўся голас у тэлефоннай трубцы, быццам бы і не такі страшны і працяты бядою, як той раз, аднак прыкры і блізкі да пагрозлівасці.

— Баішся Пілатава? — паспрабаваў адгадаць яе думкі Аўгусцін.— Дык яго ўжо там няма. І не будзе, мабыць, ніколі.

— Чаму? — з нечаканай для сябе трывогай спытала Мальвіна. І пакуль Аўгусцін у думках падбіраў словы, як лепш адказаць, у яе мільгнула меркаванне, што, напэўна, праз яе чалавека знялі з работы. Потым уявілася і другая мажлівасць: кіне ён усё тут, паедзе куды вочы глядзяць. Ад крыўды. І міжвольна яшчэ раз узнікла запытанне: добра гэта ці кепска?

— Перайшоў у шахту,— між тым паведаміў Аўгусцін.— Сам папрасіўся. Меціў спачатку да мяне, машыністам самаходкі. І я ўзяў бы: механік ён харошы. Але Шамота ўмяшаўся: такога інжынера ды

ў радавыя?! І паслаў яго ў групу аўтаматыкі, цяпер ствараецца такая пры аб'яднанні. Сядзіць чалавек у шахце ледзь не цэлымі суткамі.

— А хто на яго месцы?

— Нехта з новенькіх.

— З ім яшчэ горш будзе.

— З ім потым, а спачатку з Кухарчыкам прыйдзецца паваяваць. Ды ты не бойся! Раз ідзеш на эксперыменты, то без вытворчых канфліктаў не абыдзешся!

— Каб жа яны былі толькі вытворчыя! А то ж бачыш, як часам выходзіць?

— Такія нашы сцежкі-дарожкі! Амаль кожны дзень супярэчнасці! Вось і ў мяне... Мы карпеем над аўтаматыкай. Вядома ж, не без страт для звышпланаў — пра гэта не думаем. Аднак калі дамагаемся ўдачы, то перакрываем страты і часам выходзім на рэкорды. Тады трохі падцягваемся з заработкамі, дык усё ж такі жыць можна. А вось нашы акадэмікі, што памагаюць нам, нічога не атрымоўваюць за звышпланавую выпрацоўку ні ў нас тут, ні ў акадэміі. Чаму так? Колькі ўжо гаворым пра гэта, а да станоўчага вырашэння не даходзім. Маўчаць сціплыя вучоныя, што ім крыўдна і часам няма стымулу.

— У іх надбаўкі за ступені, — заўважыла Мальва.

— У каго якія! Пры маёй брыгадзе пераважна моладзь, некаторыя і без ступеняў. У нас дык і прэмія можа быць, і прагрэсіўка, а ў іх — нічога. Часам глядзім сябрукам у вочы — і аж няёмка робіцца. Асабліва ў дні палучкі. Хоць і высокая ў вучоных мараль, аднак жа некаторыя апускаюць вочы, а потым і рукі.

— А я думаю без вучоных абысціся... Ужо на самой практыцы...— цвёрдым голасам, аднак не вельмі пераканана сказала Мальвіна.— Будзем самі да ўсяго даходзіць.

— Даходзьце, калі дойдзеце! — стрымана пажадаў Аўгусцін.— Ты ў нас сама вучоная. А мне цяжка ўсё самому, тэорыі не хапае. Асабліва вось цяпер, калі з лазера на электроніку пераходзім. Камбайн павінен нібы ажыць у забоі і намнога паразумнець — бачыць перад сабою пласт сільвініту і за ім

існі, паварочвацца, куды трэба: управа, улева, уверх, уніз.

— Гэты самы Пілатаў паможа табе? — з ноткай сумнення запытала Мальва.

— Пабачым, як ён у электронах,— няпэўна адказаў брат.— Але інжынерскай эрудыцыі ў яго хапае. І рабочая хватка ёсць.

— Душы няма,— раптам вымавіла жанчына і, нібы спахапіўшыся, што сказала занадта рэзка, дадала: — Малавата душы, як мне здаецца.

— Па адным выпадку цяжка меркаваць,— злёгку запярэчыў Аўгусцін.— Потым жа — сама ведаеш, нельга глядзець на чалавека толькі праз адны акуляры.

— Ты можа і Горбіка вернеш у сваю брыгаду?

— Гэты не пойдзе! А калі б пайшоў...

Мальвіна не спрачалася, а, памаўчаўшы з хвіліну, спытала аб тым, чаго брат, як адчувалася, больш за ўсё асцерагаўся:

— Чаму Віцьку не прыводзіце? Ні ты, ні маці?

Аўгусцін сумеўся, ніякавата паціснуў плячыма.

— Баіцеся мяне паказаць, напалохаць малога? — дапытвалася далей Мальвіна.— Няўжо я такая страшная? А можа дурная стала ад такой траўмы, ды сама не разумею гэтага, не адчуваю?

— Ну што ты? — Аўгусцін сапраўды здзівіўся такому павароту яе думкі і стаў рашуча пярэчыць, бо сапраўдная прычына доўгай разлукі з сынам была зусім іншая.

— Дык чаму не прыводзіце? — намагала жанчына.

— Я заўсёды з работы спяшаюся да цябе,— пачаў знаходзіць апраўданне брат.— А маці... Сам не ведаю... Адным словам, скажу ёй пра гэта.

Віцю, нарэшце, прывялі ў палату. Пасля лёгкага стуку ён зайшоў, разгублена агледзеўся і, растапырыўшы рукі, кінуўся да маці. Абхапіў яе галаву і прытуліўся да твару. Адчула маці, як малы сумаваў па ёй, туліла да сябе і цешылася яго цяплом. Потым глянула ў твар і ледзь не зайшлася ад здзіўлення і роспачы: у хлопчыка былі нязвычныя жаўцінкі пад

вачыма, а шчокі так запалі і пабляднелі, што аж цяжка было згадаць у іх ранейшую свежую ружовасць.

— Што з табою, сынок?.. Што?.. Чаму?..

Ёй хацелася распытваць, дазнавацца, можа нават закрычаць ад нечаканага болю і адчаю.

Тым часам ужо ля ложка стаяла маці ў белым, зморшчаным заляжалымі складкамі халаціку тольκі да калень, нібы дзіцячым. Рукавы закасаныя, быццам для неадкладнай работы на кухні. У адной руцэ — вузялок, нібы з такім жа сняданкам, што брала некалі сама, калі ішла на змену. Твар яе здаўся Мальвіне яшчэ бляднейшым, як у Віці.

— Што здарылася? Хутчэй гаварыце!

— Нічога такога,— неяк незразумела ўхіляючыся, адказвае маці і глядзіць на свой вузялок.

— Вы не хавайце ад мяне нічога! — патрабуе Мальвіна.— Скажыце ўсё! Мне лягчэй будзе!

— Яно няма чаго вельмі і казаць,— аднекваецца старая.

— Віцька, скажы ты!

Мальвіна, прыўзняўшыся плячыма на высокую падушку, дастала з-пад коўдры рукі, трымае сына за плечы і ледзь не тармошыць.

Загар на руках і прыгожа акругленых плячах яшчэ не да рэшты сышоў і нібы прасіў паўторнага летняга сонца.

— Скажы, Віцька!

— Што табе сказаць, мама?

Хлопчык ніякавата пасміхаецца. Потым запытальна глядзіць на бабку.

— Ну, трошкі прыхварнулі мы...— з асцярогай паведамляе Анэта.— Ён прастудзіўся... Недагледзела я... Потым адмучылася за гэта і сама аслабела ў нагах... Але ж я прыходзіла...

Віцька ўзяў у пальцы пасмачку матчыных валасоў, усміхнуўся пяшчотна, ласкава, і ў Мальвіны адлягло на сэрцы. У яго ўсмешцы — адценне бледнасці, але ўсмешка тая самая, поўная шчырай радасці і шанавання да маці: белыя зубы аж бліщчаць ад чыстай свежасці, вочы гараць весялосцю.

— Цяпер ты будзеш прыходзіць, сынок?

Віцька згодліва ківае галавой.

— Сам будзеш прыходзіць, калі бабка і дзядзя Аўгусцін занятыя?

— Буду,— радасна згаджаецца хлопчык.

— Не, не,— рашуча пярэчыць бабка.— Нікуды яго аднаго я не пушчу! Бог дасць — ты сама хутка прыйдзеш дадому.

Дома, калі Мальвіна ўжо адбыла нават і бюлетэнны час, маці прызналася, што Віцька аднаго разу ўсё-такі знік са свайго двара, як ні загадвала бабка нікуды не ісці, як ні сачыла за ім сама. Здарылася гэта недзе каля поўдня, і не было малога амаль да самага вечара.

Перабраўшы ўсе суседнія двары, Анэта пабегла на сваю вуліцу, спадзеючыся на тое, што Віцька пайшоў туды, бо там у яго таксама ёсць таварыства. Абшнырыла ўсе магчымыя для гульняў мясціны, перапытала ва ўсіх знаёмых і незнаёмых, малых і старых — ніхто хлапца не бачыў. Тады кінулася на мора. Дзень быў халаднаваты, наўрад ці вабіла каго вада, аднак гэта не магло быць перашкодай Віцьку. Ён і зімой мог бы сесці ў лодку, каб толькі лёду не было.

Выбегшы на Набярэжную вуліцу, старая ўбачыла ў зарасніках чалавека з дзіцём на руках, але быццам бы не такім, каб само не магло хадзіць. Чалавек бег не адтуль, дзе была лодачная станцыя і пляжы, а нібыта з самага глухога месца, таму не выбіраў дарогі, а браўся напрасткі, каб хутчэй выбегчы на асфальт. З балючым дрыжаннем у сэрцы Анэта ўглядалася на бягу не так у незнаёмага чалавека, як у таго малога, што ляжаў, адкінуўшы галаву, на руках. І чым хутчэй змяншалася адлегласць між імі, тым выразней старая бачыла, што малое на руках у мужчыны станавілася ўсё большым і большым. Плечы яго ўхутаны пінжаком, твар прытулены да грудзей, а ногі ў сандалях звісаюць ледзь не да калень мужчыны.

Потым Анэта заўважыла, што сандалі на дзіцячых нагах нібыта мокрыя. Але ж гэта не павінна быць дзівам, бо дзе толькі не бегаюць, куды толькі не лазяць гэтакія няўрымснікі. Няхай тут хлапчук

ці дзяўчынка — усё роўна. Ды яно і не скажаш, хто на руках — па мокрых сандалях не пазнаеш. І па калашынах — таксама. Дарослыя цяпер аднолькава адзяваюцца, а не толькі дзеці!..

Праз момант старая заўважыла, што ў мужчыны мокрыя і зліплыя на цемі валасы. Можа гэтак спацеў ад бегу?.. Яшчэ момант, і ў вочы кінулася, што і пінжак, у які захутаны малы, таксама мокры. І безрукаўка, забэрсаная шнурочкам на шыі. Тут жа моцна кальнула ў сэрца — галоўка ў малога да таго мокрая, што з валасоў аж цячэ. А валасы — русыя, хоць і пацямнелі ад макраты. На самай макаўцы — віхорчык, яго і вада не змагла прыгладзіць... Знаёмы віхорчык!..

— Віцька-а! — з роспаччу кінулася Анэта да малога.— Што з ім?.. Божа!.. Дайце яго мне!

— Бяжым, бяжым! — ледзь не загадам прамовіў чалавек.— Хутчэй на дарогу, там машыну спынім!

— Дайце яго мне! — намагала жанчына.— Ці жывы ён?! Ой, божа!..

— Жывы,— упэўнена сказаў чалавек.— Толькі злякаўся ды трошкі хлябнуў вады з мора.

— Ой, божа! — Анэта ўхапілася за мокрыя сандалі хлопчыка, пабегла побач з мужчынам.

На васількоўскай шашы трапілася машына міжгародніх перавозак. Шафёр спыніўся адразу і, хоць яму кружна было заязджаць на тую вуліцу, дзе жыла Мальвіна, без слова згадзіўся памагчы і пасадзіў у кабіну ўсіх траіх.

Па лесвіцы да трэцяга паверха зноў бабка намагалася падхапіць малога, але чалавек не ўступіў, данёс хлопчыка да дзвярэй, а ў маленькім утульным пакойчыку хутка агледзеў канапку, намерыўся пакласці.

— Я мокры,— раптам прамовіў хлопчык і стаў на ногі, квола прытуліўся да вушака.— Чаму я такі мокры?..

— Пераадзеньце яго! — амаль загадаў чалавек гаспадыні.— А я пазваню ўрачу. У вас тэлефон ёсць?

— Вунь там! — Анэта паказала на маленькі, вузкі калідорчык.— Але трэба Аўгусціна пазваць з шахты. Вы ведаеце Аўгусціна?

— Арлоўскага? — перапытаў чалавек. І, заўважыўшы згодлівы ківок галавою, пацвердзіў: — Добра ведаю! Цяпер працуем разам.

— Дык хто ж гэты чалавек, хто? — стала дапытвацца Мальвіна, трывожна і нервова выслухаўшы паведамленне маці.

— Дальбог жа, я і не ведаю,— вінавата апускаючы прыморшчаныя павекі, прызналася старая.— Не спытала. Не да гэтага мне было.

— Ну то хоць які ён з твару, з постаці? — дамагалася Мальвіна.— Няўжо так нічога і не прыкмеціла?

— Я ўсё на Віцьку глядзела,— апраўдвалася маці.— Уся мая душа была з ім. А пра таго чалавека, то, напэўна, Аўгусцін ведае...

Калі Пілатаў спусціўся ў шахту і ўгаварыў там шафёра «газіка» неадкладна дамчаць яго да забоя Арлоўскага, на першым камбайне брыгады якраз ішла праверка электроннай аўтаматыкі. Аўгусцін у спецвопратцы і з уключаным ліхтаром на «шахцёрцы» стаяў непадалёку ад камбайна і трывожна і напружана сачыў, як рэагуе машына на электронна-магнітны шлейф, толькі што пракладзены ў напрамку сільвінітнага пласта.

— Аўгусцін Пятровіч! — голасна пазваў яго Пілатаў.

Той не зварухнуўся з месца і зусім не зрэагаваў на покліч.

— Арлоўскі! — паўтарыў чалавек, але зноў не заўважыў ніякага рэагавання. І, нечакана для сябе, разгубіўся: трывожныя абставіны не дазвалялі марудзіць, аднак жа і тут нельга было парушаць выключнасць моманту — магчыма, што ў гэтую хвіліну вырашаецца тое, чаго дамагаліся цэлымі месяцамі, нават гадамі. І па ўсім відно было, што Аўгусцін так захапіўся гэтай справай, што на староннi покліч і пагляд у яго не аставалася ўвагі. Так бывае ў некаторых людзей — Пілатаў гэта ведаў і па сабе.

І ўсё ж, не выпускаючы з душы і сэрца лёс хлопчыка, якога толькі што ўратаваў на моры, міжволь-

на адчуваючы, як прахалоджваецца пад вентылятарамі і ліпне да цела мокрае адзенне пад спяцоўкай, Пілатаў вырашыў ціха, неўпрыкметку падысці да брыгадзіра і асцярожна крануць яго за руку. Тады адазваць на хвілінку, калі можна будзе. Калі ж не, то паспрабаваць замяніць Арлоўскага ля пульта і прадзяжурыць змену хоць і ў мокрай апратцы.

Крануўся з месца, і раптам свядомасць разанулі пытанні: «А як сказаць, каб з двух слоў было зразумела? Чый гэты хлопчык, Віцька? Можа сын яго? А гэтая пажылая жанчына, што ледзь не самлела, убачыўшы на руках мокрага малога?.. Добра, што хоць адрас запомніў, паспеў глянуць на нумары дома і кватэры...»

Аўгусцін пабег адразу, як толькі пачуў імя Віцькі: не спатрэбіўся ні адрас і ніякія іншыя тлумачэнні. Ля камбайна дзяжурылі яшчэ некалькі чалавек, усе ў касках і з «ляпёсткамі» на тварах, таму нельга было ні пазнаць каго-небудзь, хоць можа і быў хто знаёмы, ні вызначыць дакладна ролю кожнага ў аперацыі. Усе былі ў напружанні і вялікай заклапочанасці. Адзін з іх падышоў да Пілатава, стаў побач, пэўна, маючы на ўвазе дапамагчы ў патрэбны момант або і замяніць, калі выявіцца, што «навічок» не знаходзіць тут свайго месца. Той, што падышоў, толькі павітаўся ківком галавы — Пілатаў ледзь заўважыў гэта — і, ні слова не сказаўшы, пачаў таксама сачыць за камбайнам.

Дзве пары вачэй — у гэтым выпадку, вядома ж, лепш, чым адна,— і дзве інжынерскія галавы таксама не на шкоду справе. Але сусед Пілатава неўзабаве пераканаўся, што яго дапамога тут наўрад ці спатрэбіцца, што гэты незнаёмы «навічок» вельмі хутка знайшоў сваё месца і павёў справу даволі ўмела.

— Я інжынер з аддзела аўтаматыкі,— нарэшце прызнаўся той, што падышоў.

— І я адтуль жа,— адказаў Пілатаў.— Шлейфу трэба крышачку дабавіць адчувальнасці. Здолеем гэта зрабіць?

— Здолеем, але трэба пачакаць Арлоўскага. Без яго не разбяромся ў прыстасаваннях на самой машыне, ён гэта ведае лепш за ўсіх.

— Не інжынер жа...

— Нічога. Практыка ў чалавека вялікая... Ды і вучыцца. Многа чытае... Тэхнікум за плячыма, а цяпер завочнік у горным... Што вы яму сказалі? У такі час пабег...

— Там здарэнне адно... Мабыць, з яго сынам.

— З Васілём?

— Не, з Віцем.

— Віця — не яго сын. Я добра ведаю сям'ю Арлоўскіх. А што здарылася?

— Тануў на адным віры нашага мора, ледзь удалося выратаваць.

— Гэта не яго сын, Віцька,— паўтарыў інжынер.— Гэта яго сястры Мальвы. А яна цяпер у бальніцы... Вось жа, сапраўды — адна бяда не ходзіць...

— Чаму ў бальніцы?.. Ад чаго?

— Вытворчая траўма. Там адзін з размолачнага рудой яе прысыпаў.

Пілатаў змоўк. І калі абставіны прымусілі яго суседа падацца на іншы пункт даследавання, то на першым моманце быў рады гэтаму. А потым так стала мучыць сумленне, што хацелася паклікаць таго чалавека назад або падысці самому і сказаць, нават крыкнуць на ўвесь забой: «Гэта ж я той самы!.. Ведайце пра гэта ўсе! Але не хацеў я нікому зла!.. Не хацеў!..»

У тую змену Аўгусцін не вярнуўся ў забой. Нават частковае выкананне ягоных абавязкаў давала Пілатаву столькі розных клопатаў, што не знаходзілася і хвіліны, каб можна было абдумаць, як тут лепш памагчы людзям у такой бядзе. Трывога за іх не знікала. Вельмі прыблізна, але надзвычай уражальна ўяўлялася жанчына, якая так недарэчна атрымала траўму па яго віне. У якім яна стане цяпер? Са скупых слоў Аўгусціна можна было меркаваць, што было ёй вельмі цяжка. Хаця б не даведалася яна нічога пра сына... Трэба ж так здарыцца!..

Што рабіць далей, Пілатаў не мог у гэты час вырашыць, а толькі ўсімі сіламі і ведамі намагаўся зрабіць да канца змены ўсё патрэбнае, каб заўтра Аўгусцін мог зрушыць свой камбайн з месца і даць вялікую праходку пры поўнай аўтаматыцы. У рабоце не заўважаў, як паступова высыхала, а потым

стала макрэць ад поту яго апратка, як хутка беглі, каб ужо ніколі ў такой якасці не вярнуцца, гадзіны апошняй на гэтыя суткі змены.

Надзвычайны намер апёк яго душу ў самым канцы змены, калі пачынала ўжо радаваць надзея, што заўтра Арлоўскаму будзе лягчэй і ён здолее ўцешыцца хоць пачатковымі вынікамі сваіх доўгіх і настойлівых стараннняў. Намер Пілатава міжвольна перарастаў у рашэнне, і пачынала браць здзіўленне, чаму раней да гэтага не дадумаўся — трэба наведаць жанчыну ў бальніцы! Няхай хоць самым цяжкім будзе гэтае наведванне, няхай хоць выганяць адтуль, аблаюць апошнімі словамі — усё роўна трэба ісці!..

## VII

Як адбылася гэтая сустрэча, мы ўжо ведаем. Пасля яе Мальвіна яшчэ пэўны час заставалася ў бальніцы, не раз успамінала пра незвычайны візіт і наўрад ці мела наконт яго сталае меркаванне: добра гэта ці не надта, з душой чалавек прыходзіў ці з бояззю за свой прэстыж, пажадана, каб яшчэ хоць раз прыйшоў ці лепш і ў вочы яго больш не бачыць?

На рабоце, калі брала тэлефонную трубку, то на першым часе заўсёды насцярожвалася: быццам і ўзнікала жаданне пачуць яго голас, такі, як тады ў бальніцы, і ў той жа час страх апаноўваў ад уяўлення, што голас можа быць вельмі прыкры, як некалі пры падачы руды, і зноў балюча раніць сэрца.

Адным з першых званкоў у паслябальнічны час быў Кухарчыкаў. Мальвіна не пазнала яго голасу і спачатку сумелася, не ведала, як рэагаваць: у трубцы чулася нешта гугнява-шапялявае і да таго невыразнае, што нельга было разабраць слоў. Тэмбр крышку нагадваў голас чалавека з размолачнага цэха і таму палохаў, аднак дыкцыя была зусім іншая.

Пазней Мальвіна даведалася, што кіраўнік фабрыкі амаль кожны дзень прыносіў у свой кабінет яблыкі (яны вельмі ўрадзілі ў тым годзе ў Васільках) і ў прыцішаны перапынак, паміж званкамі і

наведвальнікамі, еў іх, каб падтрымліваць працоўны тонус. Калі ў гэты час званіў тэлефон, то браў трубку і, прыпыніўшы жаванне, слухаў, стараўся па голасу ці тону пазнаць, хто звоніць: пазнаваў начальства, дык нават недажаванае праглытваў і хаваў недаедзены яблык у шуфляду; трапляўся хто з роўні ці ніжэйшы за яго па службоваму рангу, дык працягваў смачна жаваць, нават і кусаў яблык не адводзячы трубкі. Са сваімі падначаленымі даволі часта сумяшчаў тэлефонную размову з хрумстаннем антонаўкі.

Дык аб чым імкнуўся паведаміць Ван Ваныч, заўзята жуючы нешта з садавіны? Мальвіна з цяжкасцю ўлоўлівала сэнс ягоных слоў, хоць недзе і здагадвалася, пра што ён можа сказаць,— аб гэтым намякаў Аўгусцін, калі яна ляжала ў бальніцы.

— Дык вы ўжо не хвалюйцеся вельмі, не перабірайце меру,— праяўляў свае клопаты Кухарчык.— Беражыце здароўе!.. Яно, знаеце...

— Пра што вы? — не даслухаўшы, спытала Мальва.

— Ды ўсё пра тое... Каротшай дарожкай — яно заўсёды хутчэй дадому: па свайму вопыту знаю. Вашу схемку прыйшлося адкласці пакуль што, дык вы ўжо даруйце старому чалавеку. Падцягнем план, можа і запасік які загонім, тады можна будзе і парызыкаваць.

— Там была навука, а не рызыка,— абурана сказала Мальвіна і нечакана для сябе адчула, што чорная тэлефонная трубка раптам зрабілася такой жа злавеснай і прыкрай, як і ў тыя часы, калі ішла тут злашчасная спрэчка з транспартна-размолачным цэхам. Ахапіла жаданне бразнуць гэтую трубку на стол і больш не падыходзіць да тэлефона, хоць нават і вельмі будзе разрывацца ён ад званкоў.

Але службовы абавязак узяў верх: жанчына ўсё ж затрымала трубку пад светлымі, на ўсю даўжыню распушчанымі валасамі і чула, як Ван Ваныч шырока і прагна адкусіў наступную чацвярцінку нейкай садавіны і пэўны час зусім не мог сказаць што-небудзь, бо рот быў перапоўнены. Толькі праз якую хвіліну, сяк-так варочаючы прыціснутым языком, ён стаў даводзіць, што калі іхняя фабрыка за-

вецца доследнай, то гэта зусім не азначае, быццам кожная скараспелая схема павінна тут апрабоўвацца.

— Мы не лабараторыя! — з моцнай шапялявасцю вымавіў Кухарчык.— І тым пачэ — не пракатная база!

Мальвіна была ўпэўнена, ды і ўсе на фабрыцы ўжо ведалі, што тыя доследы, якія ў свой час праводзіліся ў іх, мелі грунтоўную навуковую аснову і абнадзеілі калектыў на добры поспех. Яны павінны былі даць вытворчыя ўзорчыкі белай солі, але не натрыевай, а калійнай. Няхай знікае прыгожая і прывабная калійная барвовасць, трохі ўжо заштампаваны мясцовымі паэтамі эпітэт, але разам з ёю знікнуць і непатрэбныя прымесі, якія толькі псавалі глебу, а не памагалі ўрадлівасці.

Няўжо і руду з другога ствала не будуць падаваць? Як даведацца пра гэта? Прасцей за ўсё — пазваніць у транспартна-размолачны цэх і спытаць. Але ж, калі зноў нарвешся на такога ж Кухарчыка або, яшчэ горш, на таго самага, што некалі ледзь не засыпаў рудою... Мальвіна і ведала, што яго ўжо там не павінна быць, аднак і не надта верыла: нават на яе памяці бывалі выпадкі ў Васільках, што вярталі людзей на тое месца, дзе яны ў свой час праваліліся.

...Тэлефонная трубка дрыжала ў руках. Да слыху даносіліся доўгія, пранізлівыя гудкі, і кожны з іх нібыта ўзмацняў хваляванне: ужо і сапраўды ўстрывожылася думка, што вось-вось падыдзе той самы размолачнік і падасць свой голас. І зноў узнікне цяжкая размова. Цяжкая і нервовая! Тады зусім адыдзе ў нябыт той голас, што чуўся ў бальніцы, і знікне тое дзіўнае жаданне, якое іншы раз з'яўлялася міжвольна: пачуць гэты голас зноў.

Нарэшце падышоў чалавек і паважліва спытаў, хто і чаго звоніць. Голас яго перацінаўся ад частага дыхання: відаць, здалёку бег, каб застаць званок. Чалавек паведаміў у адказ на запытанне Мальвіны, што руда з другога ствала падаецца цяпер толькі на прамысловую фабрыку, а наконт доследнай у яго ніякіх указанняў няма. І раптам яшчэ раз і вельмі настойліва спытаў, хто гэта звоніць.

— Гэта не мае значэння,— рэзка адказала Мальвіна.
— Мае! У тым жа і справа!
— Чаму так?
— А таму што ваш голас здаецца мне знаёмым.
— Калі што здаецца, то трэба хрысціцца!
Мальвіна павесіла трубку. Апошнім часам яна часта ледзь не праклінала сваё адзінокае жыццё за тое, што вельмі ўжо надакучвалі вось такога манеру мужчынскія званкі, а часам і словы ўслед, вельмі настырныя, а то і пошлыя. Яна не хацела б быць адзінокай ды яшчэ ў такім сэнсе, як цяпер: ні ўдава, ні развядзёнка, ні мужняя жонка.
Неадкладныя клопаты аб справе адхілілі гэтыя развагі, аднак жа і ёй падалося, што нядаўні голас у трубцы нагадваў некага знаёмага, толькі, мабыць, вельмі даўняга і ўжо амаль забытага. А можа тэлефонная вібрацыя надала голасу такое падабенства?
Паведамленне, што нават і на рудніку зняты графік падачы патрэбнай руды на доследную фабрыку, так засмуціла і збянтэжыла Мальвіну, што на нейкі час яна быццам бы страціла не толькі надзею на лепшае, а і веру ў сябе. І за дзяўчат сваіх стала крыўдна: чаму яны дапусцілі да гэтага, не запатрабавалі, не настаялі, не пайшлі куды трэба!

У канцы рабочага дня Аўгусцін Арлоўскі прыйшоў на пасяджэнне парткома яшчэ з макраватым пасля руднічнага душу чубам, проста са змены. На парадку дня быў прыём у кандыдаты і ў члены КПСС. Аўгусцін любіў такі парадак дня, напэўна, гэтак жа шчыра, як і засмучаўся і пакутаваў, калі даводзілася разбіраць персанальныя справы.
У час прыёму атмасфера ў парткоме амаль заўсёды светлая і ўзнёслая: калі яшчэ не звечарэла, то здаецца, што ўсе праменні свецяць у вокны сакратарскага кабінета, калі ўключаецца электрасвятло, то ўяўляецца, быццам усе ліхтары на вуліцы і люстры ў пакоі ззяюць весела і ўрачыста.
...Уваходзіць у кабінет маладая дзяўчына, адзетая ва ўсё лепшае, што ў яе ёсць, самае святочнае, толькі фаты на галаве не хапае. А следам — хлопец,

таксама разадзеты, малады і даволі мілавідны, з маленькімі светлымі вусікамі. Здалёк вусікі амаль што і не відны, толькі крышку павялічваюць верхнюю губу. Але хлопцу гэта да твару. Чым не жаніх?.. Чым не пара гэтай дзяўчыне, што зайшла першай?..

Так уяўляецца Аўгусціну. Хлопца ён ведае, год таму назад яго прымалі ў партыю, а цяпер ён сакратар цэхавай партыйнай арганізацыі. Дзяўчына незнаёмая. У яе на твары адценне трывогі і разгубленасці. Гэта крыху псуе яе прывабную ўсмешку, але Аўгусцін спадзяецца, на гэты раз нават упэўнена адчувае, што часовая ніякаватасць у дзяўчыны хутка пройдзе.

Васіль Паўлавіч падбадзёрвае яе добрым словам і запрашае садзіцца, а хлопцу прапаноўвае зачытаць анкету для ўступлення гэтай дзяўчыны кандыдатам у члены партыі. Той чытае і раз-пораз пазглядвае на сяброўку. Намагаецца быць спакойным, не спяшаецца, але анкета ўсё ж дрыжыць у яго руках: пэўна, хвалюецца ён за дзяўчыну — раптам спасуе, не так адкажа на пытанні...

Гэта ўсё ў кабінеце сакратара парткома. А ў прыёмнай? Там сядзяць яшчэ людзі, некаторыя з зялёнымі папкамі асабістых спраў у руках. Гэта сакратары партыйных арганізацый. Яны напружана ўглядаюцца ў свае папкі, рыхтуюцца дакладваць. Яны цешаць сябе надзеяй на тое, што, чым лепш даложыш на бюро, тым больш шансаў на бездакорны прыём іхняга падапечнага ў кандыдаты ці ў члены партыі.

У прыёмную зайшла Мальвіна. У блакітным плашчыку, у гарошкавай касынцы на валасах.

— Вы на прыём? — спытала сакратарка.

— Не. Мне трэба пагаварыць з Васілём Паўлавічам.

— Бюро скончыцца...— яна абвяла вачыма зялёныя папкі ў руках сакратароў,— недзе праз гадзіну. У вас два варыянты: або пасядзіце — плашчык можна зняць у калідоры, або пагуляйце і зойдзеце пазней.

Мальвіне падышоў першы варыянт: у нагах адчувалася стомленасць — усю змену не прысела, ды і

цягнула пабыць на людзях, тым больш у такім нязвычным месцы. Яна павесіла ў калідоры плашчык, там жа перад вузкім трумо ў кутку зняла касынку, расчасала прыспушчаныя валасы і зноў зайшла ў прыёмную.

— Вам на прыём? — спытала сакратарка. І адразу ж спахапілася: — Ой, прабачце, калі ласка, я не пазнала!..

У прыёмнай было многа крэслаў. Мальвіна выбрала найбольш зручнае ў кутку пакоя і села. Насупраць былі дзверы ў кабінет сакратара, і каля іх стаялі два хлопцы: адзін з папкаю ў руках.

Яны адхіліліся ад дзвярэй, прапусціць тую маладую пару, якая толькі што была на прыёме,— прыгожую дзяўчыну ў святочным адзенні і хлопца са светлымі вусікамі. Дзяўчына ззяла радасцю, а хлопец глядзеў толькі на яе, быццам нікога іншага і не заўважаў.

— Віншую вас! — сказала сакратарка, не ўстаючы са свайго месца за асобным столікам.— Аднагалосна ў вас?

Дзяўчына кіўнула галавою.

— Я так і ведала! — быццам пахвалілася сакратарка.

«Адкуль ты магла ведаць? — падумалася Мальвіне.— Нічога ты не магла ведаць. А цяпер то ўжо ўсім відно... Каго ж з іх прынялі? Відаць, абаіх. Сапраўды, шчасце ў людзей, светлы момант, які можа памятацца ўсё жыццё».

Вельмі трэба, каб у людзей бывалі такія моманты і як мага часцей!.. І каб падстава для іх была значная, вагавітая...

Зайздрасць, нават чыста чалавечая, не карыслівая, была не па душы Мальвіне, аднак супраць яе волі ў сэрцы нешта варухнулася, калі яна ўбачыла столькі шчасця ў вачах гэтых маладых людзей. І запытанне ўзнікла міжвольна: «Ці бывалі падобныя моманты ў маім жыцці?» У тую хвіліну яны чамусьці не прыходзілі на памяць. Асобным астраўком у жыццёвай плыні стаялі апошнія дні вучобы ў інстытуце, інжынерскі дыплом з адзнакай выдатніка, але і гэта было азмрочана чалавекам, з якім бог ведае як звязаў яе лёс.

Светлая мара — дамагчыся вытворчай навізны на фабрыцы, даць узор амаль зусім чыстага эліксіру для глебы — нечакана перарвалася і прывяла ў бальніцу.

Аўгусцін выйшаў з кабінета першым, нібы адчуваў, што ў прыёмнай сядзіць Мальвіна. Убачыўшы яе, не здзівіўся, хоць і ведаў, што па свайму характару сястра можа і здзівіць пэўнымі ўчынкамі.

— Чаго ты тут?

— З Васілём Паўлавічам хачу пагаварыць.

— Даўно чакаеш?

У гэты час падышоў Тычына, і ў яго паглядзе Мальва заўважыла быццам бы нейкую насцярогу.

— Сяджу даўнавата, з цікавасцю назірала, як людзі заходзілі і выходзілі ад вас — туды з трывогай і хваляваннем, назад — з радасцю і шчасцем. Даўно не заўважала такога шчырага, натуральнага шчасця ў людзей. Не выпадковага, не латарэйнага, а сапраўды заслужанага і трывалага.

— Думаю, што неўзабаве вы адчуеце гэта самі,— упэўнена сказаў Васіль Паўлавіч.— З рэкамендацыямі вам не затрымаемся, улічваючы, што вы працавалі тут і да інстытута. Камсамол таксама падключыцца.

— Хацела з вамі пагаварыць,— не зусім упэўнена сказала Мальвіна.

— Асабіста са мною ці можна вось разам? — ён паказаў вачыма на Аўгусціна.

— Давайце разам,— згадзілася жанчына.— Тым больш што дома яго не вельмі застанеш.

Яны пайшлі ўтраіх, але не ў кабінет, а да бліжэйшай школы з вялікім садам і стадыёнам. Там ёсць даволі ўтульныя сцяжынкі, па якіх вечарамі мала хто ходзіць, таму што ў Васільках хапае розных зялёных мясцін.

— Пасля ўдачлівага пасяджэння прыемна і адпачыць,— прагна ўдыхаючы халаднаваты, але сухі водар прысад і адцвілых кветак на клумбах, заўважыў Тычына.— Ніводнага кандыдата не адвялі. Ён паглядзеў на Аўгусціна, які ішоў побач.

— Дык і ў кандыдаты ўсе прайшлі,— дадаў Арлоўскі.— І нават аднагалосна. Людзі харошыя!

У ґустым газоне нешта зашастала, потым зашамацела сухім лісцем. Аўгусцін рэзка ступіў убок, каб паглядзець, але ў гэтую ж хвіліну на асфальтаваную сцежку выскачыла гадавалае кацянё і ўставілася круглымі вачыма на людзей. Вочы ўжо крыху падсвечваліся.

— Кіска, кіска! — пазвала Мальвіна, але кацянё шмыганула ўбок і зашамацела ў процілеглым газоне.

— Здаецца, чорнае,— з усмешкай сказаў Аўгусцін.

— А па-мойму, шэрае,— запярэчыла Мальва.

— А калі б я сказаў — шэрае?

Мальвіна засмяялася.

Васіль Паўлавіч маўчыць, напэўна, з-за таго, што ўжо змеркла і нельга разабраць, якой масці было кацянё. І потым — брат з сястрою могуць перакінуцца сваімі слоўцамі і асобна.

— Дык што вас прывяло сёння ў партком? — памяркоўным і паважлівым тонам звярнуўся Васіль Паўлавіч да Мальвіны.

— Мабыць, тое, што і ўсіх гэтых людзей, якія былі ў прыёмнай. Прыйшлі атрымаць сваё шчасце. У кожнага ёсць такое жаданне... І ў мяне таксама. Я жыла марай здабыць золата з руды... З нашай руды, калійнай. Чым жа не золата — чысты хлорысты калій, нават белы і светлы, як крышталь? Ад яго глеба толькі маладзее, набывае новую ўрадлівасць. І не трэба будзе ёй пакутаваць ад рознай непатрэбшчыны і нават шкоднасці, якую ўносім мы з цяперашнімі калійнымі ўгнаеннямі.

— Дык правільна!... Хто ж вам?..— Тычына, прадчуваючы нядобрае, адразу пачаў абурацца.— Гэтага абавязкова трэба дамагчыся, бо павышэнне эфектыўнасці нашых угнаенняў мае прыкладна такое ж значэнне, як і новая падземная аўтаматыка. Праўда, Аўгусцін? Тут наша асноўная мэта.

— Я і жыла гэтым,— паўтарыла Мальвіна.— Трапіла ў бальніцу, і новую схему прыкрылі...

— Кухарчык? — прадугадліва запытаў Тычына.

— Не толькі ён... Знайшліся і такія, што падтрымалі яго.

— Эх, як гэта мне знаёма! — заўважыў Аўгусцін.— Іншы раз думаю, што можа тут нават нейкая дзіўная заканамернасць, процілеглая нашаму часу: вось наватар, наватар!.. А побач — глядзіш — кансерватар! І бяда яшчэ ў тым, што наватар ідзе ў пошукі з чыстай, адкрытай душой, а той, хто стаіць яму на дарозе, часам пускае ў ход і недазволеныя, ледзь не сілавыя прыёмы, як гавораць хакеісты.

— Кухарчык, бадай, здольны на ўсякія прыёмы,— задумліва прамовіў Васіль Паўлавіч.— Я пацікаўлюся, у чым там справа, але баюся, што ён знайшоў нейкую шчыліну.

— У цябе ўжо было што-небудзь рэальнае? — звярнуўся Аўгусцін да сястры.

— Яшчэ не паспелі, бо нам трэба была асобая руда. А яе не давалі.

— Ну вось ён і раскалоў ваша пачынанне. На рудніку паверылі!

— Пратаптаная сцежка заўсёды больш вабіць,— заўважыў Тычына.— Асабліва калі цемнавата на дарозе, вось як у нас цяпер. У Кухарчыка прыватніцкі туманчык на вачах, таму лепш бачыць ён тое, што адразу даецца ў рукі. Далягляды закрыты для такога чалавека.

— Дык якраз жа такога і паставілі на доследную фабрыку,— трошкі з'едліва сказаў Аўгусцін і павярнуўся да Тычыны, нібыта чакаючы пярэчання ці пакрыўджанасці ад сакратара парткома.

Аднак Васіль Паўлавіч не пакрыўдзіўся, а памяркоўна заўважыў:

— Ты ж ведаеш, як гэта выйшла.

Сапраўды, Аўгусцін, як член парткома і дружбак Тычыны, ведаў, што ў свой час той выступаў супраць новага, хоць і часовага, прызначэння Кухарчыка. Такое вылучэнне звычайнага рамонтніка, хоць і з тэхнікумаўскім дыпломам у кішэні, здзівіла многіх работнікаў вытворчага аб'яднання, але тут генеральны праявіў пэўную настойлівасць і правы гаспадарчага адзінаначалля.

Лёгкі сяброўскі папрок Аўгусціна і асабліва прыход у партком Мальвіны неяк вельмі ўразілі яго душу і ўзнялі новую хвалю разваг і перажыванняў. «Двое наватараў ідуць побач... Гэта ж тыя

людзі, якім ветліва ўсміхаецца і якіх шчыра вітае будучыня. З імі жыццё, імклівы поступ наперад. З імі шчасце...»

Тычына ўпотай аглядвае гэтых людзей, адчувае прыемнасць, што яны ціха, спакойна крочаць амаль што ў нагу з ім: Аўгусцін з правага боку, Мальвіна — з левага. І раптам міжвольна знікае гэтая прыемнасць, бо супраць волі наплывае на вочы неадчэпная ўяўнасць, што яны ідуць тут жа ўдваіх з Шамотам, а паміж імі Кухарчык, бадзёры, упэўнены сам у сабе і ў сваіх дзеяннях: крок размераны, спружыністы, ледзь не страявы, на твары задаволеная ўхмылка, якая даходзіць стрэлкамі на круглым барадаўчатым твары ледзь не да самай шэрасці бакенбардаў. Кухарчык расхвальвае парадкі на той абагачальнай фабрыцы, пра якую некалі пісаў трывожныя пісьмы ў высокія інстанцыі. Шамота ведае, што Кухарчык няпраўду гаворыць, гэтак жа перабольшвае, як раней пераменшваў. Ведае, адчувае, але чамусьці не пярэчыць. І таксама ўхмыляецца, хоць не з такой задаволенасцю, як Ван Ваныч. Відаць, такая хвіліна найшла, што не цягнула на пярэчанні, узнікаў страх перад лішнімі хвалянаннямі...

Ван Ваныч паступова пераходзіць да доследнай фабрыкі, дзе працуе сам. Словы прыглушае, бо ведае, што Шамота не любіць хвалькоў. Тут да месца трохі праехацца і па сабе — аб'ектыўнасць будзе большая. І быццам мімаходзь падкінуць цвёрды арэшак: муцяць ваду навічкі з дыпломамі — задор ёсць, ведаў ды асабліва практыкі не хапае.

— У каго ж гэта? — абыякава пытае Шамота.

Кухарчык прамоўчвае, прозвішчаў не называе, паказваючы сябе тактоўным чалавекам. Але ж усім вядома, што на гэтай фабрыцы толькі адзін новы інжынер — Мальвіна Арлоўская.

«Як ён будзе круціцца на парткоме?» — з цвёрдай рашучасцю думае Васіль Паўлавіч, павольна ступаючы па ўсланай жаўталісцем дарожцы. І здзіўляецца — чаму раней не вынес гэтае пытанне на партком? Хіба яно менш важнае, чым падземная

аўтаматыка? Там былі намнога большыя супраціўленні, часам нават зусім загароджвалі дарогу Аўгусціну. Але ў парткоме шлагбаум заўсёды адкрываўся.

— Кухарчыка трэба здымаць! — раптам вырвалася ў Тычыны. Голас быў цвёрды, рашучы

— І ты гэта скажаш на парткоме? — Аўгусцін глядзеў на свайго сябра зацікаўлена, аднак не прыхоўваючы сумнення.

— А ты не скажаш?

— План ён цяпер дае!.. За мінулы месяц прагрэсіўку атрымаў. Быў у мяне на дэпутацкім прыёме: новыя прапановы ўносіў наконт лепшага рамонту электрарухавікоў. На мой погляд, слушныя прапановы.

— Усё роўна — здымаць! Няхай зноў ідзе ў рамонтную брыгаду. Такія людзі, як ён, добра адчуваюць, што пры цяперашніх патрабаваннях часу яны павінны сыходзіць з дарогі і толькі недзе на абочынах сёе-тое рабіць па сваёй сіле. А каму з іх хочацца на абочыну? Вось і супраціўляюцца, выкручваюцца, як толькі могуць.

Васіль Паўлавіч прымоўк, і нейкі час гаворка не ўзнікала. Навакол было ціха — школьнікі паразбягаліся па дамах ужо, а ў дарослых вячэрнікаў ішлі ўрокі, і ніводнага чалавека ля школы не было. Пад нагамі шамацела лісце, ад кожнага кроку быццам па-рознаму, але гэта цяжка было ўлавіць. Толькі Мальвіне здавалася, што яна наступае на самыя сухія, амаль траскучыя лісткі, і яны бадай што крышацца пад яе боцікамі. Калі б танчэйшая была падэшва ды не пластмасавая, то, мабыць, і адчулася б ступнёю прасохлая крохкасць апалых лістоў. І ёй стала крыўдна, што ўжо даўно прайшла вясна, якую амаль што і не заўважыла, што ў лепшыя летнія дні назірала за вуліцай з бальнічнага акна, што толькі вось цяпер давялося выйсці на сцяжынку, якая, лічы што, за дзесятак крокаў ад яе кватэры.

Сямейка бярозак ціха і быццам незаўважна набліжалася да іх — разам чатыры. Лісце на іх паблісквала светлай жаўцізною нават у змроку, а тая палоска, на якую падае святло ад прышкольнага ліхтара, адлівала золатам, і здаецца, што ніякае

ржавенне ці пацямненне тут не мае свае ўлады. Непадалёку — малады клянок. Яго лісце з таго боку, дзе ліхтар, амаль чырвонае. А з процілеглага — густая цемната, мабыць, яшчэ зелень. Няўжо гэта ад таго, што тут з-за школы ўзыходзіць сонца: вясною яно напаўняе кляновыя лісты сокам, а ўвосень афарбоўвае іх у прывабны барвовы колер. Тут жа маладая ліпка, да жалю нахіленая, але жывая, яшчэ нават зялёная.

— Чаму яна нахілілася?

Такое пытанне ўзнікла ў Мальвіны. Бураломy ў гэтым годзе не было. Відаць, некалі яшчэ зусім маладзенькую і слабую ў карэнні якоесьці ліхалецце прыхінула да зямлі. Ніхто не заўважыў, не падышоў, не памог выпрастацца — вось яна і расце нахіленай. І пэўна ж, цвіла ў ліпені, і сваю спелую квецень шчодра падаравала людзям: бярыце, даставайце рукамі, заварвайце пітво ад кашлю! Лячыцеся, каму трэба, набірайцеся сілы!

Мальвіне хацелася прыпыніцца каля гэтай ліпкі, але Тычына апярэдзіў яе намер і амаль зусім сцішыў крок каля бярозак. Нічога не сказаў наконт таго, якія думкі і ўспаміны выклікала ў яго гэтая сямейка бярозак: усякія дрэвы, нават хваіны, калі збіраюцца ў купку, то больш прыцягваюць увагу. Але Арлоўскі здагадваўся, у чым сутнасць яго цяперашніх асацыяцый. Тычына расказваў нядаўна, як убачыў аднойчы сямейку бярозак у Амерыцы, у курортных ваколіцах Нью-Йорка. Спыніўся, не мог адысці ад іх: здалося, што ў родны куток трапіў. Зверху тонкія, белыя стволікі былі аблеплены пчоламі. Яны не лcraталі, не пералётвалі з месца на месца, а толькі поўзалі і варушыліся вакол ствалоў, зацямняючы светлавата-бледную і, напэўна, цёплую ад паўднёвага сонца кару.

Не затрымаўся надаўжэй на тым месцы толькі таму, што турысцкія абавязкі не дазвалялі, а калі адышоўся, то ледзь не спалохаўся ад дубальтовага стрэлу. Здзіўлена азірнуўся і ўбачыў, як з бярозак сыплецца зялёнае лісце і падаюць адстрэленыя галінкі: два гангстэры з дубальтоўкамі стаялі ля бярозак і з дзікім рогатам расстрэльвалі пчаліны рой.

...Васількоўскія бярозкі зашумелі лісцем, калі да іх падышлі людзі. Шумок гэты падаваўся хоць і жоўтым лісцем, але яшчэ трывалым, таму не меў асенняга суму: бадзёрая ўпэўненасць ішла ад яго і адпаведна ўплывала на настрой. Можа яшчэ і доўга пратрымаюць бярозкі сваё дзіўнае ўбранства: да золкіх асенніх халадоў, да начных замаразкаў. Потым прымуць снег ды іней на сваё сямейнае, згуртаванае голле і будуць таксама бадзёрыя і прывабныя.

Затым прыйдзе вясна... Бярозкі значна маладзейшыя за іншыя дрэвы ў васількоўскіх парках і скверах, бо належаць новай, мабыць, ужо пятай ці шостай школе. Але растуць хутка, нібы на дражджах, як і ўсё расце ў Васільках: ліпы, таполі, каштаны, антонаўкі, малінаўкі. І асабліва — слуцкія бэры!

Міжвольнае і ўжо трохі няёмкае маўчанне парушыў Аўгусцін. Відаць, ён найбольш востра адчуў патрэбу прадоўжыць карысную для ўсіх траіх гаворку і сказаць нешта сваё наконт жывучасці кансерватызму. Магчыма, гэта і не зусім у той лад, але яму хацелася расказаць, як учора яго самога пацягнула сесці за абцягнуты пылам штурвал таго камбайна, на якім ужо доўгі час была аўтаматыка.

«Як гэта яна абыдзецца без маіх рук? — раптам засвідравала мазгі пытанне.— Дзеля чаго вучыўся і столькі год набываў практыку, звыкаўся са штурвалам, як з нечым неад'емным ад жыцця, ад душы: наганяў мазалі, стамляў мускулы, глытаў салёны пыл, як соладзь, глух ад шуму, як ад джазавай музыкі? Цяпер усё гэта пакінуць, забыць?..»

Машыніст адключыў аўтаматыку і ледзь не ўсю змену вёў камбайн сам. І адчуваў надзвычайную асалоду! Толькі сёння глуха і прыкра паколвае ў плячах. І рукі ныюць, быццам ужо зусім адвык ад шахцёрскай работы. А хіба можна адвыкнуць ад таго, што ўвайшло ў душу, стала нормай жыцця?..

— Гэта як назваць? — звярнуўся Аўгусцін да Тычыны.— Мабыць, нечым блізкім і да праяў Кухарчыка, толькі ў іншым павароце. Што будзе, калі мы ўсё і ўсіх перавядзём на кнопкі? Куды дзенуцца майстры мускульных, чыста ручных тварэнняў, ін-

шы раз вельмі таленавітых? Хіба здолеюць усе яны стаяць за пультамі?

— Вяртайся за штурвал,— сказаў Васіль Паўлавіч. І нельга было зразумець, жарт гэта быў ці папрок.

## VIII

У бытоўцы зазваніў тэлефон. Мальвіна падхапіла трубку — якраз была паблізу, адхіліла ад вуха звешаную пасму валасоў. Пэўнага званка не чакала ні ад каго, таму насцярожылася, у чаканні прыжмурыла вочы. Потым раптам павесіла, амаль кінула трубку і сама не магла зразумець, чаму так зрабіла, гатова была пакараць сябе за такую нерашучасць ці нават палахлівасць:

«Голас — знаёмы?.. Дык і што? Можна адказаць на ўсякі голас... Быццам той самы чалавек, што падаваў некалі руду?.. Што прыходзіў у бальніцу?.. Ну няхай сабе! Можна было адказаць і таму чалавеку. Няўжо гэта — нянавісць да яго? А можа чаканне?.. Міжвольнае, падсвядомае? Пазвоніць яшчэ ці не?»

— Нас нехта перабіў? — спытаў ён ціха і памяркоўна, хоць у голасе чутно было хваляванне.

— Ніхто не перабіваў,— рэзкавата адказала Мальвіна.— Гэта я павесіла трубку.

— У вас няма часу? Прабачце. Я толькі два словы. Мабыць, помніце мяне? Былы начальнік транспартна-размолачнага. Пілатаў маё прозвішча.

— Помню! — з націскам вымавіла жанчына. Хацела дадаць, што на ўсё жыццё такое запомніцца. Але замест гэтага нагадала, што яны ўжо бачыліся ў бальніцы.

— Як цяпер ваш хлопчык? — пачулася ў трубцы зусім нечаканае пытанне.— Здаецца, Віцькам яго завуць?

— Віцькам,— пацвердзіла жанчына.— Дзякую... А што?

Словы выйшлі выпадковыя, амаль механічныя. Мальвіна адчувала гэта і не ведала, як паправіцца, куды скіравацца ў гаворцы.

— Я маю на ўвазе той выпадак на моры.

— Дык гэта...— У памяці жанчыны прамільгнула, як аднаго разу Аўгусцін называў Пілатава ў сувязі з хваробай Віцькі. А падрабязнасці не гаварыў, пэўна, сам не ведаў.— Дык гэта вы ратавалі яго? Я і цяпер усяго не ведаю. Чаму нічога не сказалі мне ў бальніцы?

— Справа не ў гэтым. А як цяпер Віцька? Адолеў прастуду? Паправіўся?

— Адолеў. Дзякую яшчэ раз.

— А ваша як здароўе?

«Тваімі малітвамі»,— набеглі першыя словы, але яна спахапілася і не сказала нічога.

— Калі б я мог вас пабачыць...— чулася далей у трубцы,— было б пра што пагаманіць... Канечне, гэта пры вашай добрай волі і пры ўмове, калі вам не ўяўляецца вельмі прыкрай такая гаворка. Мая памылка мучыць мяне і цяпер... Да таго ж, хацелася б расказаць, як мы пазнаёміліся з Віцькам.

Тут Мальвіна нечакана для сябе разгубілася і змоўкла, быццам падбіраючы словы для адказу. А на самай справе — не ведала, што сказаць. Зняважыць чалавека, які, відаць, шчыра выяўляе павагу? Абысціся ветлівымі словамі, але халоднымі і абыякавымі? Тады і астанецца паўтайнай і паўпраўдай страшэнна недарэчны і небяспечны выпадак з Віцькам.

Яна трымала трубку пад пасмаю валасоў і маўчала. Чула сваё частае дыханне каля мембраны і спадзявалася, што ён таксама чуе яго. У той жа час вуха лавіла мужчынскае ўсхваляванае дыханне, ды такое, што можа і не мела свайго падабенства ў памяці: гэта не ад злосці чалавек так хвалюецца, не ад намеру нагрубіць ці абразіць, не ў наплыве начальніцкага гневу за якія-небудзь справы.

Яна ўжо стала баяцца, каб чалавек не павесіў трубку, трывожна думала аб тым, што калі павесіць, то ўжо ніколі больш не пазвоніць. І ўсё ж загаварыць не магла, пэўная рашучасць на згодлівыя словы не прыходзіла. Першы раз за многа год яна чула шчырае мужчынскае запрашэнне на асабістую сустрэчу. Па сутнасці ж гэта так: не на нараду чалавек заве, не на сход, не па афіцыйным даручэнні.

А што падумае Віцька, калі даведаецца? Ад яго яна і гэта наўрад ці здолее прыхаваць. Што зробіць Горбік, калі падпільнуе?..

І толькі жанчына падала першы нясмелы і пакуль што яшчэ няпэўны і невыразны гук, як дзверы ў бытоўку ціха адчыніліся і на парозе паказаўся чалавек з вельмі знаёмымі рысамі твару. Тэлефонная трубка здрыганулася ў руках, тут бы ёй і ўпасці на рычаг. Аднак жанчына, нібы кідаючы сябе ў нейкае трывожнае бяздонне, рашуча сказала:

— Сустрэцца нам трэба!

— Дзе вам зручней? І калі? — пачулася радаснае пытанне.

Мальвіна зноў замоўкла, углядаючыся ў твар нечаканага наведвальніка. Светлыя, апушчаныя ўніз вусікі, светлы чубок над ілбом — усё гэта быццам незнаёмае, а шырокая белазубая ўсмешка здавалася зусім сваёй. Прыпамінаць не надта цягнула, больш было жадання, каб Пілатаў зразумеў, што яна цяпер не можа сказаць пра месца і час сустрэчы, бо ў пакоі змяніліся абставіны.

І ён зразумеў гэта і зусім пэўна, нібы загадзя ўсё прадумаўшы і падрыхтаваўшы, вызначыў і час і месца сустрэчы.

Мальвіна згадзілася і павесіла трубку.

— Вось, значыцца, і спатканне прызначана,— сказаў нечаканы госць.— І наўрад ці дзелавое!.. Ды гэта справа гаспадарская. Вітаю цябе, таварыш майстар! Ледзь натрапіў на тваю змену.

Калі чалавек загаварыў і падышоў бліжэй, Мальвіна адразу пазнала яго — гэта быў тоў студэнт-другакурснік, з якім давялося пазнаёміцца ў першыя месяцы вучобы. Той маўклівы Валодзя. І ў нейкі момант маланкай прамільгнуў успамін, як перад адным ленінградскім маем чакала яго ў інтэрнаце, як не дачакалася і нeспадзявана, ненаўмысна паляцела дадому... А там міліцыя... Пажылы вусаты капітан... Заліты п'янай чырванню Горбік...

— Ты даўно тут?— стрымліваючы і радасць, і разгубленасць, стала распытваць Мальвіна.— У камандзіроўцы ці на практыцы?

— Ні тое, ні другое,— адказаў госць, не адыходзячы ад Мальвіны і з настойлівай шчырасцю

гледзячы ёй у вочы.— Прыслалі назаўсёды. Вярней — да таго часу, пакуль не выганяць.

— Працаваць будзеш?

— Працую ўжо. І на такім месцы, што аж сказаць няёмка: замяняю таго чалавека, які ўчыніў табе зло.

— У размолцы?

— Так.

— Дык гэта я з табою нядаўна гаварыла па тэлефоне?

— Са мною. Толькі ў той момант я не паверыў сабе, што чую твой голас.

— І я не паверыла. Пазней быццам бы пабольшала ўпэўненасці, але надзеі не было: цябе ж у аспірантуры пакідалі.

— Годзікі ідуць...— Валодзя агледзеўся на дзверы і адступіў ад Мальвіны.— Я скончыў годам раней, чым ты, ужо і аспірантурку прайшоў тэарэтычна, а кандыдацкую завяршу тут, на вытворчасці.

— Пахвальна,— стрымана прамовіла жанчына.— А я вось тут, дзе і раней была... На флатацыі.

— Ведаю. Ужо навёў спраўкі. Скажу шчыра, што калі з'явіўся ў мяне выбар паміж Васількамі і яшчэ адным хімічным гарадком, то жрэбій упаў на Васількі праз цябе.

— Дзякую за памяць,— абыякава сказала Мальвіна.

Яе натура не была абыякавай, з-за гэтага цяпер з'явілася адчуванне незадаволенасці сабою, і яна не магла пераадолець сваёй прыкрай раздвоенасці ў сувязі з толькі што прызначаным неспадзяваным спатканнем з незнаёмым чалавекам.

— З жыллём уладзіўся? — спытала з большай увагай, аднак без асаблівай клапатлівасці.

— У інтэрнаце пакуль што.

— Хіба адзін прыехаў? Ты ж, здаецца, жаніўся?

— Было нешта падобнае, але не ўсталявалася. Невязучы я. А ты як жывеш?

— Я вязучая! — Мальвіна з намаганнем прыдала голасу пэўную весялосць, нават усміхнулася і падалася да бліжэйшага акна, пачала глядзець туды, нібы чакаючы і падаючы выгляд, што вось-вось да яе павінен прыйсці нехта вельмі блізкі і жада-

ны.— Гадую сына, маю кватэру, цікавую работу. Ты будзеш даваць мне руду?

— А як жа! Пра гэта і пытацца не трэба. Якая табе спадручна?

— З другога ствала, дробнага размолу.

— Я не бачыў яшчэ таго чалавека, які нашкодзіў табе. І не імкнуся бачыць, мне ўяўляецца, што гэта вельмі кепскі чалавек — пасваруся з ім, калі ўбачуся.

Яны сустрэліся на прышкольнай алейцы, калі ўжо добра змеркла. Не, гэта не студэнт-навічок з уяўным сапернікам. Гэта Мальвіна са сваім былым пастаўшчыком руды.

Бегла жанчына са спазненнем і ўсё ж падалася на круг, каб зайсці на алейку не ад школы, дзе маглі сустрэцца знаёмыя вячэрнікі, а з процілеглага боку. Здалёк заўважыла, што нехта павольна шпацыруе па алейцы, ды не магла пазнаць, хто гэта, бо не ведала ні вопраткі таго чалавека, да якога ішла, ні яго паходкі, ні нават росту — нечаканая і кароткая сустрэча ў бальніцы не пакінула ў памяці гэтых адзнак. Звярнула на алейку, нібы толькі тут пралягаў яе шлях, смела адчыніла, а потым нават грукнула брамкаю. У адказ, быццам рэхам, адазваліся школьныя дзверы: нехта зайшоў ці выйшаў са школы і таксама выпусціў з рук клямку. На алейцы яшчэ больш прыбавіла кроку, абцасы боцікаў таропка застукалі па асфальце. Набліжаючыся да чалавека, які ішоў насустрач, і адчуваючы, што ён настойліва глядзіць на яе, жанчына зрабіла выгляд, што вельмі спяшаецца і зусім не мае намеру спыняцца каля сустрэчнага, бо ідзе сюдою па сваіх справах, напрыклад, у школу.

Сустрэчны, пэўна, зразумеў гэта і ледзь не перасцігнуў жанчыну, развёўшы перад ёю рукі.

— Прашу прабачэння... Гэта, здаецца, вы? Чаму так спяшаецеся?

Мальвіна прыпынілася, уважліва і зацікаўлена паглядзела чалавеку ў твар. Адразу ўбачыліся тыя рысы, што запомніліся з сустрэчы ў бальніцы: усмешка мяккая, нібы дзіцячая, а ў гэты момант пры-

кметна сарамлівая. Спачатку заблішчаў між вуснаў толькі адзін зуб, можа нават залаты — у змроку не разбярэш, а па мінулай сустрэчы не згадаеш. Потым усмешка ўрачыста расплылася і стала даволі адметнай, нават прывабнай. «Яна можа і ў душу ўлезці»,— міжвольна мільгнула ў жанчыны думка.

— Вельмі мала ведаю вас,— ледзь стрымліваючы разгубленасць, сказала Мальвіна.— Толькі голас да гэтага часу помню...

Чалавек абедзвюма рукамі прыгладзіў за вушамі валасы — ён быў яшчэ без шапкі — і працягнуў жанчыне руку:

— Давайце пазнаёмімся ўжо грунтоўна і каб надоўга. Мне б гэтага вельмі хацелася. Пілатаў маё прозвішча — не помню, ці называўся я ў бальніцы. А зваць Ігар Пятровіч. Можна і проста Ігар, паколькі яшчэ не пенсійнага ўзросту.

— А мяне...— памкнулася сказаць жанчына, але чалавек адразу перапыніў яе:

— Ведаю!.. Пра вас амаль усё ведаю... З гаворкі з Аўгусцінам, з якім цяпер разам працуем.

Асцярожным жэстам рукі Пілатаў запрасіў Мальвіну павярнуцца і ісці зноў у бок брамкі. Заўважыў яе нерашучасць і загаварыў чамусьці ледзь не на ўвесь голас, з пэўным інтанацыйным націскам на кожным слове:

— Скажу вам адразу і тое, што ў такіх выпадках высвятляецца значна пазней, ды і то вельмі асцярожна, нібы мімаходзь: сям'і ў мяне няма, жыву адзін, так што хоць пры такой думцы вы будзьце спакойны.

— А гэта не мае значэння,— нібы адпарыравала Мальвіна.— У нас жа дзелавая сустрэча, амаль афіцыйная.

— Так, так,— нацягнута згадзіўся Пілатаў.— Можа б вы сказалі, што вам ужо вядома пра тое здарэнне з Віцькам, а што яшчэ невядома, каб я не дакучаў вам паўтарэннямі.

— Гаварыце ўсё, што ведаеце,— папрасіла жанчына і адчула лёгкую няёмкасць ад таго, што ў адказ на яго асабістыя прызнанні нічога не паведаміла пра сваё сямейнае становішча: «Як пра гэта скажаш, нават калі б і вельмі трэба было?»

— Вы, мабыць, заўважалі,— пачаў Пілатаў,— што тут у нас на моры бадай на кожную рыбку па рыбаку. Увесь бераг застаўлены самаробнымі будкамі з вялізнымі замкамі, а ў тых будках — маторы ад лодак, вёслы і розныя рыбалоўныя прылады. Ёсць такая будка і ў мяне. І ёсць лодка. Быў тады мой выхадны дзень, і я завёў свой матор, паехаў на рыбу. Ужо вечарэла. Усе рыбацкія маторы прыглухлі, кожны аматар прытуліўся ля процілеглага берага і застыў з вудай ці старанна замахваўся спінінгам. Толькі адна маторка бесперапынна надрывалася рэзкім гулам, вытвараючы розныя віражы, то набліжаючыся, то аддаляючыся ад цярплівых рыбакоў. Раптам лодка заглухла. Віравала яна ў тую хвіліну непадалёку ад мяне, таму, адарваўшы вочы ад паплаўка, глянуў я ў той бок... Убачыў на вадзе дзве шапкі і перавернутую лодку. Завёў матор і поўным ходам — туды. Каля перавернутай лодкі бултыхаўся чалавек у размоклым, сціснутым на шыі світэры. Адчайна ды, на жаль, няўпэўнена размахваючы рукамі, ён раз-пораз хапаўся за слізкае днішча лодкі, скроб дошкі кіпцямі, але зачапіцца не мог: рукі ссоўваліся з лодкі і чалавек зноў ледзь не з галавою ныраў у ваду — месца якраз трапілася глыбокае, вельмі глыбокае, і патануць там — што раз плюнуць.

Другога ж рыбака, відаць, зусім малога — на вадзе плаваў дзіцячы берэцік,— не было паблізу. Схапіўшы першага за мокрую чупрыну, я стаў падцягваць яго да борта свае лодкі і ў гэты момант пачуў дзіцячы крык у сябе за спінаю. Азірнуўся і ўбачыў толькі бурбалкі на вадзе. Кінуўся туды ў вопратцы, спадзеючыся на тое, што некалі трохі займаўся водным спортам. На шчасце, з першага нырца ўдалося намацаць халодную галаву з мяккімі, ледзь адчувальнымі ў пальцах валасамі... Падхапіў малога рукою, вынырнуў... Мая лодка гойдалася і вось-вось гатова была перавярнуцца, хоць была значна большая за тую, якая плавала побач уверх дном. Першы рыбак трымаўся за борт, а залезці ў лодку не мог. Паклаў я на дно хлопчыка, потым памог узабрацца на лодку дарослаexcerpt рыбаку.

— Вы пазналі яго? — з дрыжаннем у голасе спытала Мальвіна.
— Не, не пазнаў. Незнаёмы мне чалавек.
— Што ён гаварыў? Як да яго трапіў Віцька?
— Нічога не гаварыў. Ды мне і распытваць не было калі — ратаваў як мог хлопчыка. Далей вы, пэўна, ужо самі ведаеце: нёс яго дадому, сустрэў бабку... Відаць, вашу матулю.
Жанчына моўчкі кіўнула галавой, праз нейкі час сказала:
— Вы і ў бальніцу хадзілі да Віцькі. Я даведалася пра гэта нядаўна. Шчыра дзякую вам за ўсё. Як успамінаю, дык аж сэрца разрываецца: ляжым у адной бальніцы абое — ён і я... Толькі ў розных аддзяленнях... І нічога не ведаем адно пра аднаго: я сумую па ім і чакаю з дня на дзень, а ён, як толькі прыйшоў да памяці, стаў зваць мяне...
Дайшоўшы да брамкі, Пілатаў павярнуўся, каб прайсціся і да самай школы, але жанчына нібы застыла на месцы, не паварочвалася назад і не ішла наперад: з-пад ліхтароў Васількоўскага Дома Саветаў вынырнулі два чалавекі, адзін мажнейшы ў постаці і вышэйшы ростам, а другі шчуплы і толькі па плячо першаму. Пастаялі непадалёку ад ліхтароў, а потым мажнейшы і, відаць, старэйшы, рушыў назад, а меншы хістка і нерашуча падаўся ў бок школьнай алеі. Па паходцы і постаці ён нагадваў Горбіка, але Мальвіна верыла і не верыла сваім вачам: не раз ужо бывала так, што гэты чалавек уяўляўся ёй там, дзе яго не было.
— Пройдзем тратуарам,— прапанавала Мальвіна, нібыта між іншым прыкінуўшы, што калі надарыцца непрыемная сустрэча, то няхай лепш на вуліцы.
Яны пайшлі ў напрамку Васількоўскага мора, ведаючы, што тратуар давядзе да Набярэжнай, а там рукой падаць — і мора, і маладзенькі сасновы лясок пры ім, дзе хораша і жыватворна пахне смалой і карэньчыкамі нядаўна зрэзаных грыбоў, дзе ёсць сцяжынкі месцамі жоўтыя ад суцэльнага жвіру — здзівішся, як там прыняліся і растуць сасёнкі; месцамі зялёныя, з густой травой і нават сунічнікам і чарнічнікам на абочынах.

— Вы што-небудзь ведалі пра Віцьку, калі заходзілі да мяне ў бальніцу?
— Ведаў. Бываў у яго.
— Чаму ж усё-такі нічога не сказалі?
— Як жа я мог? Вы былі ў такім стане...
— Ніхто не мог...— быццам сама сабе, прамовіла жанчына.— Усе шкадавалі мяне... Шкадавалі яго, Віцьку... Толькі цяпер нават падумаць аб гэтым страшна.

З правага боку ад таго нядаўна заасфальтаванага тратуара, па якім яны ішлі, узвышалася цёмная ў змроку новабудоўля яшчэ невядомага прызначэння. Тут жа схіліў даўжэзную дзюбу, нібы заснуў пасля цяжкай працы, будаўнічы кран. Самы вяршок яго нават не відзён, быццам расплыўся ў густых, нізкіх аблоках. Каля цёмнага вугла гэтай будыніны (ліхтароў чамусьці тут не ўключалі) чуўся вясёлы, бесклапотны мужчынскі гаманок.

«Раптам рушаць насустрач,— падумалася жанчыне.— Іх там некалькі!..»

І нібы ў адказ на гэтыя думкі, пачуўся моцны шкляны ўдар аб мураваную сцяну. Аскабалкі з тонкім, вострым звонам разляцеліся ва ўсе бакі.

— Ціха ты! — пачуўся ўзнёслы ад хмелю, але яшчэ з дзелавітай ноткай голас.— Так можаш і сабе хару акрывавіць шклом. Ды і навошта біць? У Васільках хоць і няма яшчэ стадыёна, але бабульскія брыгадкі па збору пляшак ужо ёсць.

— Вунь хто там! — супакоена сказала ўслых Мальвіна.— Людзі пры сваёй справе... Самай прывабнай для іх.

— Яны тут ледзь не кожны вечар,— заўважыў Пілатаў.— Там ад шкла ўжо ступіць нельга.

Таропкія крокі нібы наўздагон усё больш набліжаліся. Мальвіна чула іх і раней, у асобныя моманты памыкалася нават азірнуцца, але стрымлівалася, не жадаючы выяўляць перад Пілатавым якуюнебудзь трывогу ці яшчэ горш — палахлівасць. Тым больш што спадарожнік яе трымаўся зусім спакойна, быццам і не зважаў на тое, што побач п'яныя, а ззаду нехта напэўна ж гоніцца за імі.

На ўсякі выпадак Мальвіна трошкі аддалілася ад Пілатава, ад гэтага першага мужчыны, з якім

рашылася ісці на прагулку ноччу: мала па якой справе можна сустрэцца, мала пра што можна пагаварыць!.. Нават з незнаёмым чалавекам. Аднак меркаванне, што наганяты не пойдзе далей цёмнага вугла з разбітымі пляшкамі, пакуль што супакойвала яе. Ішла павольна, нават прымаруджвала крок спадарожніка, знаходзіла словы для размовы. Ды толькі да пэўнага часу. Хутка, амаль інтуітыўна, адчула, што чалавек, які ішоў за імі, не павярнуў на складчыну «па рубліку», а яшчэ жвавей застукаў абцасамі па тратуары, ужо нават чутно было, што абцасы падбіты жалезнымі касякамі, ды ўжо збіліся і расслабіліся на цвіках, таму прыкра і звонка ляскаюць.

— Пачакайце! — раптам пачуўся патрабавальны голас.— На адну хвілінку!

— Што вам? — памяркоўна азваўся Пілатаў і, прыпыніўшы крок, азірнуўся.

— Я звіняюсь, канечне,— блытана загаварыў чалавек.— Прыкурыць у вас няма?

— Я не куру,— спакойна адказаў Пілатаў.

— Ах, не курыце?.. Я звіняюсь... Мы людзі культурныя... На нет і суда нет... Звіняюсь!.. Шчаслівай дарожкі!..

Чалавек злосна і пранікнёна глянуў у вочы Мальвіне, павярнуўся і квола рушыў назад, а Пілатаў праз нейкі момант здзіўлена заўважыў:

— Здаецца, гэта той самы чалавек!..

— Які? — насцярожана спытала жанчына.

— Што быў тады з Віцькам у лодцы. Не магу паручыцца, але вельмі падобны.

«Дзіва што падобны!..— нібы папракнула сама сябе Мальвіна.— Не толькі падобны, а той самы і ёсць! Віцька так любіць мора, што мог бы сесці ў лодку і да чужога чалавека. Але ж хіба хто чужы павёў бы малога ў такі час на мора?»

— Гэта бацька яго! — рашуча і гучна сказала Мальвіна.

Ігар Пятровіч спыніўся, павярнуў галаву да жанчыны і стаў дапытліва глядзець ёй у твар.

— Шчыра кажучы, у мяне і тады з'яўлялася такое меркаванне, але чамусьці не трымалася ў памяці: можа таму, што былі іншыя сур'ёзныя клопаты.

А потым ужо распытваць, даведвацца пра гэта не было ніякага жадання.

Ён кінуў асцярожны позірк у той бок, куды паклыпаў Горбік, і быццам засаромеўся гэтага позірку, прыхаваў яго. Не кратаўся з месца, чакаючы першага руху жанчыны. Напэўна ж, яна цяпер пойдзе назад, магчыма, нават пабяжыць дадому, кінуўшы свайго спадарожніка каля школьнай агароджы. І будзе бязлітасна праклінаць сябе, бегучы. Праклінаць і раскайвацца, што можа ўпершыню ў жыцці дапусціла слабасць ды згадзілася сустрэцца з чужым чалавекам у вячэрні час. Пра здарэнне хацела даведацца, нешта высветліць, вельмі важнае для яе. Але ж не чакала такой, быццам кім-небудзь падладжанай, сустрэчы з Горбікам. У гэтага «курца» нават і цыгаркі не было ў руках...

Мальвіна ні разу не глянула ў бок Горбіка і нават не памкнулася вярнуцца дадому. Мабыць, сама не заўважыла, як кранулася з месца і прыбавіла крок, ступаць стала цвярдзей і з большай рашучасцю. Выплыў не па-асенняму вясёлы і яшчэ амаль поўнікавы месяц з-за высокіх прыбярэжных карпусоў: як наўмысля — насустрач. Усё сваё святло навёў на ражок Мальвінінай газавай касынкі. Пачаў блішчаць гэты ражок, нават трошкі калоць у вочы і здзіўляць Мальвіну: не памятала яна, каб ражок так блішчаў ад месяца. А можа гэта таму, што ноччу яна ніколі не надзявала гэтай касынкі.

Набярэжную — толькі перасекчы. А там далей — прырэчны, цяпер прыморскі лясок, саснячок тонкі, пасляваенны. Месцамі — алешнік. Там, вядома ж, утульна цяпер і зацішна...

Так марыў Пілатаў. А Мальвіна магла павярнуць на Набярэжную і рушыць уздоўж вуліцы. Магла спыніцца ля паштовага аддзялення і сказаць, што ёй трэба паслаць тэлеграму ці заказаць міжгароднюю размову. Магла зайсці ў гастраном. Адным словам, тут лёгка знойдуцца зручныя прычыны для таго, каб спыніць і размову, і прагулку...

На самым падыходзе да ляска Пілатаў трапіў нагою ў замаскіраваную травою ямку і моцна спа-

тыкнуўся, ледзь не звіхнуў нагу. Мальвіна падхапіла яго пад локаць і крышку спалохалася, адчула быццам бы сваю віну: сама ішла па добра пратаптанай сцежцы. Не вымаючы рукі з-пад яго локця, трывожна зазірнула ў твар, паспачувала:

— Як наўмысля хто выкапаў... От жа!.. Не балюча вам?

Вусны ў Пілатава былі прыадкрыты трошкі на адзін бок, пры святле месяца блішчаў пярэдні зуб: чалавек усміхаўся. Усмешка была хоць і ніякаватай, крыху сарамлівай, аднак быццам бы і валявітай: ён прыціснуў локцем Мальвініну руку і, здавалася, гатоў быў яшчэ раз кульгіцнуць у яміну, каб толькі яму памагалі ўставаць. Спачуванне ў Мальвіны выклікала яго пасма валасоў, доўгая, пакручастая, пры святле месяца нібыта сіваватая. Да гэтага яна трывала ляжала на галаве, відаць, дастаючы канцамі да самай патыліцы. А цяпер аддзялілася ад цемя, адвісла і, нібы выяўляючы свой запаветны сакрэт, паказала месяцу маленькую круглую лысінку на макаўцы. Чалавек не памятаў пра гэтую лысінку, чамусьці не спяшаўся ўладжваць на месца і адвіслую пасму, а Мальвіне ўсё гэта неяк залішне ўражальна кінулася ў вочы і кранула душу нечым квола-бездапаможным, па-свойму пяшчотным. Яна саступіла са свае сцежкі, каб даць яму гладкую і добра асветленую дарогу, а ён не хацеў прыняць такую ўступку і не выпускаў з-пад локця яе рукі.

Чысты і, як мілае дзіцё, спакойны месяц стаяў якраз над тою сцежкаю, па якой яны ішлі. Наперадзе была горка, а на ёй — светлы, аж белы пясок. Вакол Васількоў нямала пясчаных мясцін, ёсць нават такія, адкуль бяруць жвір на будаўнічыя патрэбы.

На той горцы, што ў гэтым ляску, расліннасці мала, нават ядловец не хоча расці: сям-там — карлікавая хваінка, бяроза-чачотка, дзе-нідзе куст лазы ці лебяды, якая можа расці ўсюды, а ў Васільках дык асабліва! Часам тутэйшыя старажылы жартуюць, што дай тут волю лебядзе, дык яна ўсе вуліцы запалоніць, чыгунку выведзе са строю.

Дык вось і заблішчаў на гэтай горцы, перад са-

мымі вачыма Мальвіны, чысты васількоўскі пясочак. Ды так заблішчаў пад месяцам, так забялеў, заззяў срэбрам-золатам, што ўжо не ўяўляўся жанчыне звычайным пяском, а тым запаветным цудам, які заўсёды быў у яе марах і імкненнях, які ўсё больш і больш станавіўся асноўнай мэтай жыцця — белай калійнай соллю.

Мальва з міжвольнай імклівасцю прыбавіла кроку. Іншы раз такія з'явы бачыліся ёй у сне. Тая чыста-белая і такая прыгожая, што хочацца на язык узяць, калійная соль была яшчэ толькі ў маленькай прабірачцы, адна толькі дробачка, як доследны ўзорчык, здабыты вучонымі лабараторным метадам. А ўяўлялася часам, што не толькі адмысловая лабараторыя, а цэлая абагачальная фабрыка пачне выпрацоўваць такое, ледзь не роўнае золату, рэчыва. І тады яно рассыплецца, разальецца вось так, як нешта цудоўнае на той горцы, што перад вачыма...

Зблізку белы васількоўскі пясок пад месяцам трохі цьмянеў і не так вабіў вока, але ўсё роўна хацелася пакратаць яго пальцамі, набраць у прыгаршчы...

— Вось тут непадалёку адбылося тое здарэнне,— сказаў Пілатаў, калі яны выйшлі з ляска і перад імі заззяла шырокая срэбраная паласа Васількоўскага мора. Здавалася, што нерухомы і спакойны месяц раптам адплыў ад чароўнай лясной горкі і скіраваў сваё святло на марскі плёс.

— Яго таксама вы тады адкачвалі?

— Не, ён не тануў.

— Трымаўся за лодку? А потым?..

— Я вывез яго на бераг і панёс Віцьку.

— А ён?

— Шчыра кажучы, мне ўжо не да яго было.

— Ой, прабачце!..

Мальвіне няёмка стала за гэтыя свае допыткі, але яны вынікалі неяк самі сабою і без іх нібыта і слоў не было для размовы. Ці варта было згаджацца на гэтую сустрэчу, каб задаваць пытанні? Няўжо толькі ў гэтым прычына і сэнс сустрэчы?..

Аднак жа калі яна змаўкала і пачынала любавацца ўсімі цудамі, што стварАў на зямлі і на вадзе ўладарны ў начны час месяц, то маўчаў і яе спадарожнік. У маўклівай хадзе яна толькі час ад часу з-пад касынкі паглядвала на яго, нібы асцерагаючыся, каб чалавек зноў не ўваліўся ў якую яміну, бо ісці па вытаптанай і белай пад святлом сцежцы ён не хацеў. Няўжо трымаць яго пад руку ўвесь час пры сабе? Вядома ж — не, бо не такія ў іх узаемаадносіны, не такая блізкасць. Яшчэ нікога з мужчын яна не вяла пад руку. Горбік хоць і стаў мужам, а заўсёды ішоў воддаль. Да жаніцьбы — гэта было правілам, а пасля — неабходнасцю.

І ўсё ж, калі добра прыслухацца да голасу сэрца, то яно магло б параіць — падараваць хоць крышку пяшчоты гэтаму чалавеку. Адчуваецца, што ён добры, памяркоўны, відаць, не надта шчаслівы ў сваёй адзіноце. А галоўнае — паважлівы і стрыманы, відаць, умее аставацца самім сабою пры ўсякіх абставінах. Яго пакручастая пасма валасоў зноў лягла на сваё месца і прыкрыла круглую лысінку: ад месяца і ад яе вачэй. Напэўна, ён наўмысля прыгладжваў гэтую пасму, а дарэмна: магла б яна і вісець над вачыма, паказваць светлы пятачок на макаўцы, бо не замінае ён нікому, не шкодзіць і не псуе прыемнага выгляду. Толькі нейкае спачуванне выклікае да чалавека з лысінкай, магчыма, міжвольнае, чыста жаночае. А павага не меншае.

«Няўжо ён хацеў мне зла, не падаючы некалі руду?»

Гэтае пытанне яна задала пакуль што сама сабе. А што б ён сказаў, калі б спытаць? Няўжо зноў перайсці на дыялог? Шкада, што не відно яго вачэй пры гаворцы: чамусьці ён заўсёды іх апускае, прыхоўвае.

З мора пацягнула вільгаццю, але не такой, якую часта дае восень з туманамі і дажджамі. Вільгаць са срэбнага ад месяца плёса была халодная, як ад снегу, паколвала нос, адчувалася Мальвінай нават на прыкрытых касынкаю вушах. Раптам жанчыне ўявілася, што Віцька бездапаможна захлынаўся вось у такой халоднай, амаль марознай вадзе, і балючым жахам кальнула ёй у сэрца. Нічога не ска-

заўшы, яна павярнула назад, зноў у лясок, да той горкі, што бялела і пераліваласся жывым срэбрам уяўных выкапняў.

Пілатаў быццам адчуў, пра што Мальвіна думае, якія яе адчуванні. Гатоў быў адказаць на кожнае яе запытанне, але ў той жа час разумеў, што больш яна пытацца не будзе. Злёгку кашлянуў, уздыхнуў глыбока, нібы пасля доўгага бегу, і паспрабаваў узяць голас для роўнай, спакойнай гаворкі. З першых нот гэта не атрымалася, словы нібы прарыпелі:

— Трывожу, раздзіраю сваю душу ўспамінамі, відаць, самымі горшымі ў маім жыцці.— Ён перапыніўся, быццам ураўняў дыханне.— Вы, мабыць, думаеце, што наўмысля шкодзіў вам некалі, тармазіў наватарства? Сапраўды, колькі ўжо было б зроблена вамі, калі б пачалося з таго часу! Ваш залаты ўзорчык падхапілі б усе абагачальныя фабрыкі. А іх у нас чатыры. Пайшло б усё на поўную сілу! Ніколі не быў я кансерватарам, а вось жа стаў ім: хацеў гэтага ці не хацеў. Скажу вам шчыра, што не хацеў! А чаму так выйшла? Ужо колькі разоў думаю, гадаю: апраўдаць сябе не магу, але і караць — таксама. Каб вы ведалі, які груз ляжаў тады на мне... па дацягванні плана... Секунды рашалі...

Мальвіна сур'ёзна паглядзела ў яго бок, хацела сказаць нешта рэзкае і катэгарычнае, ды раптам упершыню заўважыла яго вочы. Яны свяціліся пад нябачнымі промнямі месяца ласкава, шчыра, і па колеру, і па форме былі прывабныя, у поўнай гармоніі са спакойнай зеленню лесу і срэбрам начнога святла. Не, чалавек з такімі вачыма не можа крывіць душою!

— Калі ведаеце прычыну, то і не перажывайце,— з ноткай супакоенасці прамовіла Мальвіна.— Памылкі часам памагаюць жыццю.

— Якому жыццю?.. — знізіўшы голас, сказаў Пілатаў і зноў апусціў вочы. Потым праз нейкі час дадаў: — Хіба мець на ўвазе штосьці сваё, асабістае?.. Канечне, мне прыемна, што ўсё гэта прывяло мяне да вас і што цяпер я не магу ні думаць, ні марыць пра каго-небудзь іншага... Але ж вельмі

дарагой цаною ўсё гэта дастаецца... Ды і ці тое гэта слова? Ці маю права так гаварыць? Я зусім нічога не ведаю пра вашы думкі ў адносінах да мяне.

Мальвіна паскорыла крок, відно было, што заспяшалася дадому...

У кватэры проста з дзвярэй яна кінулася за шырмачку, дзе стаяў ложак Віцькі. Там нікога не было. Абшнырыўшы куткі (хлопчык часам любіў прыхавацца), жанчына выбегла на лесвіцу і зацокала абцасамі па прыступках. Трывога і роспач так ахапілі яе, што гатова была разарваць сябе ад болю і адчаю ў душы або закрычаць на ўсе Васількі, што яна не павінна была пакідаць сёння Віцьку аднаго.

Хлопчык сустрэўся ля пад'езда.

— Дзе ты быў? — ледзь не з плачам кінулася да яго маці.— Я ж цябе прасіла пасядзець дома, бабка павінна была прыйсці.

— А яна не прыйшла,— вінавата маргаючы вачыма, апраўдваўся хлопчык.

— То тэлефон жа ёсць!

— Званіў, а Ірынка сказала, што бабы няма. Я пайшоў праведаць. А ты дзе была так позна? Магазіны ўжо закрыліся.

«Што сказаць малому?» — разанула Мальвіну гэтае пытанне і — на дзіва ёй самой — прымусіла разгубіцца, нават пачырванець. Яшчэ ні разу яна не сказала сыну няпраўды і ведала, што ён таксама шчыры і праўдзівы да яе. Малы адчуе, калі схлусіць яму, і балюча пакрыўдзіцца. Калі ж адмоўчвацца, то не адстане да поўначы, будзе настойліва дапытвацца.

— Я ў Валькі была,— нарэшце невыразнай скорагаворкай паведаміла маці. І заглушыла гэта рэзкім запытаннем: — Бацька не заходзіў сюды?

— Не, не заходзіў.

Дома адразу былі скарыстаны ўсе дзвярныя замкі і запоры, быццам для поўнай гарантыі таго, што ўжо ніхто цяпер не парушыць хатняга спакою: можна ўцешыцца сваім сямейным утулкам, накарміць і ўкласці спаць Віцьку, павячэраць самой, а

тады і адпачыць у ціхай адзіноце, падумаць аб нядаўняй неспадзяванай прагулцы і аб тым чалавеку, што быў сёння партнёрам.

...Ён прасіў дазволу праводзіць яе да самых дзвярэй кватэры.

— Я ўжо ведаю, дзе вы жывяце... Выпадак прывёў... Так што — не падумайце, быццам дамагаюся вашага адраса. Проста, каб вы ішлі не ў адзіноце.

Мальвіна адчувала, што ён меў на ўвазе: каля дома, а то і ў самім пад'ездзе мог «дзяжурыць» Горбік... Хоць і не ведаў Пілатаў пра пагрозы гэтага чалавека (Мальвіна толькі брату пра гэта сказала), але, відаць, здагадваўся пасля сённяшняй сустрэчы ля школы, што гэты «курэц» здольны пайсці на нядобры ўчынак. Таму хацеў пры выпадку абараніць, узяць віну на сябе.

— Дзякую вам,— шчыра сказала жанчына.— Будзе лепш, калі тут я адна пайду.

І пакінула свайго праважатага каля Васількоўскага Дома Саветаў, памчалася адтуль бежкам...

Ён, напэўна, не чакаў, што яна так хутка ўзнімецца на бег, як лёгкая птушка на лёт... Здаецца, яшчэ нешта хацеў сказаць... Мабыць, прызначыць час наступнай сустрэчы... Прызначыць? Ці мае ён права на гэта? Ці паслухае яна яго?..

Цяпер зусім невядома, калі давядзецца сустрэцца яшчэ... Ды ці варта?.. Куды пойдзеш у Васільках? Лясок прыгожы, дык гэта толькі таму, што цяпер ноч... Месяц-поўнік... А калі зноў чалавек уваліцца ў ямку... Лысінка засвеціцца... І на твары — сарамлівасць і разгубленасць... А вочы прыгожыя, нібы бяздоннем вабяць... І сум у іх, і радасць...

...Тая ўвалінка не выходзіць з памяці... А далей усё было прыемнае і вельмі чалавечнае... Ніколі такога не было... Вось жа, мабыць, існуюць між людзей і такія ўзаемаадносіны... І каханне можа быць такое... Зусім ціхае, шчаслівае...

Яна ляжыць на канапцы ў сваім зальчыку. Тут жа ў яе і гасціная, і сталовая, і спальня. Добра, што і гэта ёсць адасобленае, не з агульнай кухняй. Ёй не спіцца... Святло выключана, але ў зальчыку не цёмна, праз шторы на адзіным акне прасочваюцца

няўлоўныя праменьчыкі месяца, таго самага начнога дабрадзея, што памагаў прагульвацца ў ляску... Таго, што ператварыў звычайны пясок на горцы ў плывучае жывое срэбра той калійнай солі, якая ўвесь час у запаветных марах...

Віцька ўжо, напэўна, спіць... Яму заўтра рана ўставаць... У садзік... Ды і першая змена на фабрыцы. Добра, што адразу заснуў: нахваляваўся нямала...

Маці прыслухалася да яго дыхання... Часамі чулася яно, часамі не... Ціха сёння спіць: не варочаецца, не пасвіствае носам... А самой засынаць не хочацца...

...Віцька павярнуўся на сваім аднаспальным, яшчэ амаль дзіцячым ложку. Спружына трэнкнула не моцна, але ў зальчыку амаль рэха адазвалася. Уздыхнуў моцна, глыбока.

— Хіба ты не спіш, сынок? — шэптам спытала маці.

Хлопчык зноў уздыхнуў, а потым, нібы праз сон, паведаміў:

— Я забыў табе сказаць, што цёця Валя прыходзіла. Вы размінуліся?

— Так, сынок! Размінуліся. Ты спі, спі...

## IX

Іванаўская вуліца ў Васільках. Ніхто добра і не ведае, адкуль узялася такая назва — горад жа яшчэ малады. Кухарчык ідзе па гэтай вуліцы і ў тыя моманты, калі звяртае ўвагу на шыльды, іншы раз думае, што, відаць, ад нейкага цёзкі пайшла гэтая вуліца. І ўяўляецца часам, што ідзе па сваёй звычнай вуліцы, самай знаёмай і блізкай, хоць па працягласці яна доўгая і вядзе не дадому, а некуды аж да д'ябла ў зубы, ледзь не пад самыя васількоўскія могілкі.

Пахаладала ўжо. З ранку нават церусіў сняжок і затрымліваўся дзе-нідзе на слупках платоў, але ненадоўга, бо паветра яшчэ не астыла да поўнай зімы — лёгкія начныя марозікі ўдзень разганяліся чыстым і трывалым, аж да самага захаду, сонцам.

лісце апала ўсюды, але яшчэ не пачарнела, і калі дзе больш дрэў, ды пераважна ясені і клёны, то пад імі ляжыць такі прыгожы барвова-жоўты дыван, што толькі стаць побач ды любавацца, цешыцца васількоўскай восенню, а не рабіць і кроку, каб не наступіць на гэты цуд прыроды.

На Іванаўскай вуліцы многа жаўталісця: большасць ад садоў і прысад, а частку напрыганяла ветрам з недалёкага бярозавага гаю. У гэтым годзе, параўнаўча цёплым і вільготным, там раслі падбярозавікі, і мясцовыя бабулі, якія ўжо не адважваліся падавацца далёка ў лес, выпраўляліся з кашамі ў гэты гаёк, поўзалі там і выпорвалі з-пад мінулагодняга лісця прывабныя і апетытныя з выгляду, нават яшчэ да смажання, чорнагаловікі.

На тратуары, хоць і асфальтаваным, таксама ляжала многа лісця — Іванаўская вуліца не ўваходзіла ў зону камунальнага абслугоўвання. Кухарчык ступаў на лісце і час ад часу шморгаў аб асфальт падэшвамі, каб ачысціць чаравікі. Адчуваў, наступаючы на жоўтыя пласты, што зверху лісце пачынае шэрхнуць: значыць, ноччу зноў возьмецца марозік і ўжо, напэўна, прыцісне ўсё тое, што асталося на яго ўласным агародзе і ў садку. Рукі не даходзяць у самога з усім гэтым справіцца, а больш няма каму: жонка часта прыхворвае, а сыны-блізняты абодва вучацца ў Мінску.

Прымаразак пачаў адчувацца на вушах, на высокім выпуклым і не надта спісаным маршчынамі лбе. Кухарчык дакрануўся рукою да вуха, правёў пальцамі па шчацэ і чамусьці здрыгануўся ад дзіўнага адчування: здалося яму, што барадаўка на шчацэ ля носа пабольшала. Крануў другую барадаўку, тую, што з другога боку, на падбароддзі, і адчуванне не знікла. Наадварот, уявілася, што тая чарнушка ледзь не ўдвая вырасла. Чаму ж гэта, ад чаго?.. Няўжо ад перажывання, ад вялікай нервовасці? А можа ад холаду?

Кухарчык не любіў насіць шапку ці нават капялюш і ў мінулыя гады хадзіў голагаловы аж да самай зімы. Сёння адчулася халаднаватасць, бадай што, не ў пару. Нават лоб быццам бы застывае. Можа таму, што нядаўна пацеў... Вельмі пацеў... Ён

ужо трохі з залысінамі, але на галаве яшчэ многа валасоў, яны густыя, яшчэ не надта сівыя і нават пакручастыя.

«Ці не завіліся вы ў парыкмахерскай, Ван Ваныч?» — Голас нагадаўся з прыемнасцю, але, бадай, не да месца. Тады, у вестыбюлі гасцініцы, гэта можна было слухаць: пытала адміністратарка, амаль самая прыгожая жанчына ў Васільках. Цяпер, калі б была пад рукою, то надзеў бы на галаву хоць самую зацёганую кепку. І паліто накінуў бы, не плашч. Ішоў на фабрыку, дык сонца свяціла. На партком — перад захадам... Але не адчувалася холаду...

Раптам запытанне, рэзкае, бязлітаснае, нібы ад вельмі суровага чалавека, а не ад самога сябе: «Чаго пагнала на гэтую вуліцу?.. І чаму так доўга ходзіш і мерзнеш? Прастудзіцца хочаш?»

Сапраўды! Што скажаш на гэта?.. Скончыўся партком... І вось пайшоў... Спачатку і не ведаў, куды... І цяпер яшчэ не ўсё выразна бачыцца... І не ўсё адчуваецца як трэба...

На вуліцы запахла ваніллю. Адкуль тут ваніль? Булкі дзе пякуць ці здобу якую? Хлебазавод далёка адсюль... Увесь беразняк у гайку раптам усеяўся чорнымі кропкамі. Няўжо столькі гнёздаў нарабілі птушкі? Бліжэй падышоў, уважлівей паглядзеў і ўбачыў: усе васількоўскія вароны выбралі там сабе седала — пара на гэта ўжо настала... Можа і мінулася. Многа варон у Васільках...

Непадалёку спераду ўспыхнуў ліхтар, балюча кальнуў у вочы: аказваецца — матавы плафон разбіты, а засвяціла голая лямпачка. Пад ёю — нейкая шыльда.

«Добра!.. Паглядзім, што там...»

Кухарчык ступіў некалькі крокаў жвавей, а тады крыху збочыў, каб прачытаць, што там было напісана.

«Прадмаг!.. Якраз дарэчы... І зручна — ні душы наваколл... Даўнавата ўжо не бралася ў сталай дозе... А тут... І выбраць можна, і трохі заглушыць боль душы...»

...Вітрынка — як двайное акно... На ёй ужо металічная сетка. Ад святла ў магазіне падае на тра-

туар цень таксама сеткавы. Жоўтыя шкельцы блішчаць толькі ў акенцах паміж перагародкамі.

Кухарчык спыняецца каля вітрыны і праз адно такое акенца між перагародкамі бачыць у магазіне прадаўшчыцу, тоўстую, рослую, у белым, падперазаным вышэй жывата халаце. Яна ўскатвае на мясны прылавак вялізны, можа з пуд вагою, запозненьі кавун, бярэ ў рукі вялікі мясніцкі нож і прымерваецца, дзе лепш разануць. Ван Ваныч падаецца да дзвярэй, тузае за клямку: магазін зачынены. Вяртаецца да вітрыны і бачыць, што жанчына ўжо разрэзала кавун, твар у яе задаволены: пэўна, радуецца, што кавун трапіўся спелы і сочны. У адной руцэ трымае вялізную барвовую лусту і нахіляецца да яе такімі ж па колеру прагнымі вуснамі, з другой рукі не выпускае нож, лязо якога блішчыць ад сакавітага кавуна.

Кухарчык стукае пальцам у шкло вітрыны і знакамі просіць упусціць яго на хвілінку ў магазін.

Жанчына адмоўна махае нажом.

Кухарчык стукае яшчэ раз і ўжо голасам тлумачыць, што яму трэба купіць адну вельмі неабходную рэч.

Жанчына таксама нешта гаворыць, выплёўваючы на прылавак кавуновыя зярняты, і яшчэ больш пагрозліва і адмоўна махае нажом. Нарэшце, яна паказвае лязом некуды ў кут, робіць такі круг, быццам набірае нумар тэлефона, і падносіць тронак да вуха.

Ван Ваныч зразумеў, што яна збіраецца выклікаць міліцыю, і вырашыў адступіцца ад такой незгаворлівай жанчыны. «Дома павінна што-небудзь знайсціся,— падумаў з адценнем асалоды.— Калі Горбік не вылакаў. Бывае, прыйдзе і сам знаходзіць».

Пасля яркай магазіннай лямпачкі на тратуары ледзь відно было куды ступаць. Бярозавы гай наперадзе цямнеўся ўжо амаль непрыкметна, і на ім нельга было заўважыць варон. Дадому ісці Кухарчыку не хацелася: што там рабіць у адзіноце? Маўклівая і нездараўчаная, заўсёды надзьмутая жонка ні пра што не запытае, а калі і запытае, то Ван Ваныч не звычны дзяліцца з ёю сваімі службовымі

справамі. Ды наогул — раскажы каму!.. Тут і самому ўявіць цяжка.

...Паклікалі на партком... Ван Ваныч адчуваў, што не для ўручэння Ганаровай граматы, не для перадачы вопыту работы. Зайшоў у прыёмную, а там — Мальвіна Арлоўская. Аж кроў у галаву ўдарыла: значыць, напісала, наскардзілася! Цяпер будуць высвятляць службовыя ўзаемаадносіны. А якія могуць быць узаемнасці паміж чалавекам, які меў правы адзінаначалля, і звычайным зменным інжынерам? Загад, і ўсё! Будзьце ласкавы, выконвайце! А дапушчана адступленне, то перш за ўсё ляціць прагрэсіўка. Так усюды робіцца! І чаго тут крыўдзіцца за гэта?.. Ды яшчэ скардзіцца ў партком?!

Тэхсакратарка запрасіла Мальвіну зайсці ў кабінет, а на Кухарчыка толькі глянула і не сказала нічога.

— А мяне чаму?..— не стрымаўся Ван Ваныч.

— Ваша справа пойдзе пасля прыёму.

«Значыць, яе на прыём?..— крыўда ад гэтага не змяншалася.— Харошанькае дзельца! Падначаленую прымаюць кандыдатам у члены партыі, а ў кіраўніка і не пытаюцца. Хіба ім невядома, што ён на партсходзе не галасаваў «за».

Кухарчык успомніў свайго тэхнолага Міколу Стручкова, якога нядаўна выбралі сакратаром партбюро фабрыкі. Здавалася, з хлопца гэтага можна вяроўкі віць, таму не было сэнсу выступаць супраць яго кандыдатуры. А цяпер вось трэба прыглядацца... Дзе ж ён?..

Мальвіна неўзабаве выйшла з кабінета, а следам за ёй і Стручкоў. Урачыстая ўсмешка на яго чыстым круглым твары. Убачыў Кухарчыка — і ўсмешка знікла.

— Зайдзіце ў аддзел уліку,— папрасіла сакратарка Мальвіну, узнёсла павіншаваўшы яе.— А вы,— звярнулася яна да Стручкова, яшчэ пабудзьце.

— Я ведаю! — ціха кінуў той і выйшаў з прыёмнай, каб правесці Мальвіну.

Кухарчык сумна і падазрона зірнуў яму ўслед, тады паглядзеў на дзверы сакратара парткома, і

раптам яму стала страшна. Сам не ведаў, чаму ў яго так затрымцела ў грудзях, здавалася, што і не было асаблівых прычын для гэтага: калі нават і паўшчуваюць на парткоме, то з пасады ж не здымуць — гэта не іхняя кампетэнцыя. Нават калі і вельмі крута павернецца справа, то ўсё роўна парэкамендуюць куды-небудзь.

І ўсё ж фабрыка стала ўяўляцца яму чужою. І так стала шкада фабрыкі, так сумна і маркотна зрабілася на душы! Ён асцярожна, спадылба глянуў на сакратарку і сарамліва апусціў вочы: здалося, што яна бачыць яго страх і разгубленасць перад парткомам і сама сабе спадцішка пасмейваецца з яго — мужчына, яшчэ і бакенбарды носіць, бровы, відаць, падфарбоўвае... Адпусціў бы валасню на барадзе, дык хоць барадаўкі пахаваліся б... Спалохаўся, як дзяцюк...

Гэта крыху прыўзняло Кухарчыка, аднак цяжкае, гнятлівае адчуванне, што доследная абагачальная фабрыка, куды ён кожную раніцу спяшаўся і ног пад сабой не чуў, бо заўсёды ішоў з радасцю, ужо не тая, што была ўчора і нават сёння, вось да гэтага моманту не давала яму спакою.

На парткоме быццам бы і не было нічога пагрозлівага. І Мальвіна нічога не пісала — у гэтым ён пераканаўся. Сакратар парткома толькі ўзяў у рукі прабірачку з белай калійнай соллю, што стаяла на стале, паказаў усім членам парткома, а сказаў, звяртаючыся толькі да яго, Кухарчыка:

— Аказваецца, гэта рэальная рэч. А вы што гаварылі? Людзі дамагліся... На жаль, без вас... Нават у супрацьборстве з вамі.

Адказаць на гэта не было чым. Далікатныя словы сакратара былі такімі бясспрэчнымі, што нельга было і спрабаваць апраўдвацца. Гэта зусім не тое, што некалі ў калгасе. Тады таксама шкада было свайго месца за старшынскім сталом, а тым больш — за рулём аўтамашыны, якую ён здабыў для калгаса, а дакладней — для сябе.

Ён падыходзіў ужо да тых васількоўскіх, напалову вясковых, квартальчыкаў, дзе быў і яго дом.

Уласны! Дзесятак год старшынскай работы ў калгасе далі сякі-такі набытак: у свой час Ван Ваныч купіў тут і дамок, і садок. Мог бы і яшчэ купіць такі ж дом або ўласную аўтамашыну, але не хацелася паказваць людзям такія свае магчымасці. І цяпер яму не пагражае якое-небудзь матэрыяльнае абмежаванне, калі пакіне фабрыку: калгаснага ашчадку хопіць да старасці. Але ж не пра гэта думкі: неадольная шкадоўля і сум па мінулым грызуць душу. Яшчэ далёка да пенсіі, ды каб і блізка, то ён не здолеў бы аставацца толькі каля свайго дому, у садку ды агародчыку. Ажно жудасць бярэ пры ўяўленні, што можа мінуцца арганічна патрэбная магчымасць прыйсці ў свой службовы, найлепш працёрты і праветраны фабрычнай прыбіральшчыцай кабінет, сесці ў паўмяккае раскошнае крэсла і, абапёршыся на падлакотнікі, зняць тэлефонную трубку... Перш за ўсё мэтазгодна пазваніць у прыёмную генеральнага, павітацца з сакратаркай, зусім не ганарлівай жанчынай, і між іншым, быццам мімаходзь, даведацца пра графік «самога». Калі ж адчуецца зручнасць, то і пераключыцца на яго: спытаць пра здароўе, самаадчуванне, сёе-тое далажыць, а сяго-таго і папрасіць па знаёмству.

«Чамусьці ён сёння маўчаў на парткоме... Не абвінавачваў, не ківаў галавою Тычыну ў знак поўнай згоды. Аднак і не заступіўся, не падтрымаў».

Некалі ў калгасе ў Кухарчыка была цвёрдая надзея вярнуцца на сваё месца. Вось жа знялі, прагаласавалі на сходзе, а не верылася: жыло ў душы перакананне, што не абыдуцца без яго, яшчэ прыйдуць ды папросяць... А тут яшчэ і не знялі, яшчэ можа і давядзецца папрацаваць на фабрыцы, а сталай упэўненасці ўжо няма, амаль зусім знікла вера ў самога сябе. Міжвольна пасвідроўвае галаву думка, што можа самому падаць заяву аб звальненні, так сказаць, па ўласным жаданні. Тычына паказваў новы ўзор калійнай солі, а ён, кіраўнік фабрыкі, убачыў гэта сёння ўпершыню. І не на фабрыцы, а ў парткоме. З болем у душы з'яўлялася прызнанне, што горш за ўсякую «кітайскую грамату» для яго ўся гэтая тэхналогія. Ён баяўся дакрануцца да яе, бо давялося б паказваць сваю

бездапаможнасць і недаравальнае невуцтва ў хіміі. Нават працэсы звычайнай флатацыі ён уяўляў вельмі павярхоўна, хоць амаль кожны дзень праходзіў паўз апараты. Праходзіў, ды не спыняўся. Асабліва калі на змене была Мальвіна. Адчуваў, што яна ўжо даўно заўважыла, што кіраўнік фабрыкі «плавае» ў тэхналогіі, і не хавала гэтага. А вучыцца? Дык, па-першае, часу на гэта няма. А па-другое, у каго вучыцца? У былой жонкі Горбіка? Дык Горбік хоць і друг па даўняй звычцы, аднак жа нават у лепшыя свае часы быў толькі другой ці трэцяй скрыпкай. А цяпер можа — дзесятай...

Перад самым пад'ездам усплыў на памяць яшчэ адзін эпізод, найбольш уражальны і недаравальны для сябе. З месяц таму назад неяк прачнуўся Кухарчык яшчэ на дасвецці, мабыць, праз тое, што ў сне ўвесь час бачыў сваю фабрыку. Сон некуды адляцеў, а думкі пра фабрычныя справы хлынулі ў галаву ўжо зусім рэальна. Захацелася пайсці туды неадкладна, паглядзець, як працуе начная змена, як наганяюцца паказчыкі квартальнага плана — ішлі апошнія дні месяца.

Пакуль паціху, каб не разбудзіць жонку, сабраўся, пачало днець, на разгалістай ігрушы-банкрэце, што расла ля акна, ужо разы два пілікнула нейкая птушка. На вуліцах яшчэ нікога не было — Васількі спалі. Ліхтары свяціліся толькі ля Дома Саветаў, і высока гарэлі чырвоныя зоркі на капрах руднікоў. Дыхалася лёгка, і тратуар пад нагамі здаваўся такім роўным і чыстым, што падмываў на бег.

У службовым кабінеце яшчэ не было прыбіральшчыцы, хоць яна заўсёды прыходзіла рана, ведаючы нораў «дзілектара»: да яго прыходу ўсё павінна блішчаць, іскрыцца вада ў сіфоне і каб паветра было чыстае і лагоднае. Спехам, быццам на фабрыцы нешта здарылася, распрануўся, зняў у шафе пластмасавую вешалку, накінуў на яе свой плашч і рушыў на фабрыку, да апаратаў. Цешыў сябе тым, што Арлоўскай на гэтай змене няма і ён здолее смела спыняцца каля ўсякага механізма, са-

чыць за работай, даваць некаторыя парады і нават інжынерскія ўказанні.

Страшэнна здзівіўся, калі ў аддзяленні флатацыі раптам убачыў Мальвіну. Здзіўленне адразу ж перарасло ў абурэнне.

— Вы чаго тут! Ваша ж з васьмі!

— Прыйшла крыху раней... Памагчы трэба было...

Глянуў Кухарчык сюды-туды... І хоць вельмі разгублены быў, яго пагляд усё ж заўважыў, што Арлоўская не адна тут, а ў аддзяленні флатацыі шчыруюць яшчэ некалькі дзяўчат з яе змены. Зноў скасіў вочы на Мальвіну і па яе стомленым твары здагадаўся, што не цяпер яна прыйшла і дзяўчат-сяброўак прывяла, а, напэўна, усю ноч яны тут. Накрычаў быццам бы за тое, што няпраўду сказала, а на самай справе зазлаваў за яе ўпартасць.

Цяпер, успамінаючы той выпадак, нібыта і няёмка зрабілася і шкадаванне з'яўлялася да жанчыны: за што крычаў на яе, нават праганяў са змены? І ўжо каторы раз! У той досвітак дык яна нават змаўчала, быццам не пакрыўдзілася. А можа рашыла не звяртаць больш увагі на звяганне чалавека малакампетэнтнага, амаль выпадковага на той фабрыцы, якая па свайму профілю набліжаецца да навуковай лабараторыі.

— А ў нас сёння павінна быць золата,— зусім ціха сказала Мальвіна. І не павярнулася да Кухарчыка, і не глянула на яго, быццам і сказала не яму, а самой сабе ці каму-небудзь зусім блізкаму.

І вось зноў неадольнае адчуванне: фабрыка чужая, людзі за станкамі і апаратамі таксама чужыя. І дзіўна: усе да аднаго. Нават прыбіральшчыца, якая так старалася выпыласосваць і праціраць мокрай анучай яго кабінет. Цікава, які ў яе твар? Калі і здаралася часам сустракаць на рабоце, то заўсёды схіленую над вядром або над швабрай ці пыласосам. І голасу не даводзілася чуць. Ці ўмее яна хоць гаварыць?.. Як жа яе завуць?..

Ван Ваныч намагаўся ўспомніць імя гэтай маўклівай жанчыны — яму мроілася, што нехта некалі звяртаўся да яе па імю. Але не ён сам. Не, не ён!.. Таму — бог ведае, як яе завуць...

...Узяўся за клямку дзвярэй свайго пад'езда, адчуў, што яна халодная і нават макраватая. Ад чаго? Дажджу няма... Раса такая? А можа іней? Памацаў свае застылыя валасы і бародаўкі на твары: нічога не намацваецца — ні вільгаці, ні маразі. І ўзнікла пытанне міжвольнае — што лепш: змерзнуць без шапкі на вуліцы, нават прастудзіцца або ісці дадому і ўвесь вечар маўчаць перад жонкаю і мучыцца, патанаць у сваіх нявыказаных, неразздзеленых думках. Цуду не магло быць — ён ведаў, што жонцы нічога не раскажа, бо калі яму самому нешта ўявіцца белым, то ёй абавязкова — чорным. Як бы хацелася сустрэць цяпер чалавека, якому можна было б адкрыць усю душу! Пачалі неяк жывасілам лезці на памяць васількоўскія прозвішчы, імёны і па бацьку і проста імёны. Іх мноства, аж здзіўленне брала, што памяць магла ўсё ўтрымаць. І ў вачах пачынала мітусіцца, бо за кожным прозвішчам, за кожным імем перад зрокам паўставаў чалавек. І яскрава ўяўляліся яго твар, постаць, усё аблічча. Прыгадваўся нават голас. Але ж да нікога з іх не асмелішся зайсці са сваімі сённяшнімі перажываннямі, бо ўсё гэта начальства. Ім зручна пазваніць, калі трэба адрапартаваць пра дасягненні, калі ёсць прычына павіншаваць з чым-небудзь ды пажадаць шчасця самому і жонцы.

Наведацца ж можна толькі да Горбіка. Але хіба застанеш яго дома? І раптам Ван Ваныча акрыліла здагадка: «Загляну ў гасцініцу, там сёння павінна дзяжурыць Інэса Пракоф'еўна. З ёй і пагаманю, і парады папытаю. Жанчына разумная і практычная, не пара некаторым іншым...»

Тут зноў перад вачыма мільгнула аблічча жонкі, маўклівай, прысутуленай. Але Кухарчык пастараўся адагнаць ад сябе такое параўнанне.

Інэса Пракоф'еўна афармляла аднаго «браніраванага», калі Кухарчык паціху, нібы крадучыся, падышоў да шырокага, як суцэльны стол, ужо прыкметна зашмальцаванага рукавамі наведвальнікаў бар'ера. Заняў чаргу за «браніраваным», ля

ног якога стаяў вялікі, зусім не дарожны чамадан, ледзь не ўсім бокам успёрся на бар'ер і стаў цярпліва і моўчкі чакаць.

— Мястоў няма! — паведаміла Інэса Пракоф'еўна, не гледзячы ў яго бок.

— А мне і не трэба,— ціха сказаў Кухарчык.

— Ах, гэта вы, Ван Ваныч! Я і не заўважыла. Зараз вызвалюся!

«Браніраваны» падубіў свой важкі чамадан на другі паверх, а Інэса Пракоф'еўна трывожна звярнулася да мясцовага наведвальніка:

— Што з вамі, Ван Ваныч? На сябе не падобны. Ці гэта мне здалося, як ужо даўно не бачыліся?

— Можа і не здалося,— маркотна згадзіўся Кухарчык і ступіў некалькі крокаў да дзвярэй у цырульню: там стаяла вузкае, нібы палавіна аконнай шыбы, трумо. Уткнуўся ў шкло ледзь не самым носам, зноў пакратаў пальцам свае набухлыя барадаўкі, трохі паскроб пяцярнёю падвільготненыя зазімным мроівам валасы, а потым прыгладзіў іх. Сам пра сябе падумаў: «Скажы каму, што і ў рот не браў спіртнога,— не паверыць».

Вярнуўшыся да перагародкі, сказаў даверлівым тонам:

— З парткома іду, калі сказаць вам праўду.

— А што такое? — Інэса Пракоф'еўна зрабіла выгляд, што гэта яе вельмі занепакоіла.— Зноў нешта страслося?

— Ды быццам бы і нічога, а месца сабе знайсці не магу. Дадому ісці не хочацца.

— Дык можа вас тут уладзіць? — сказала і весела рассмяялася, уставіла на Кухарчыка іскрыстыя, але да прыкрасці бессаромныя вочы.— Тады ўжо напэўна вызавуць!.. І не толькі ў партком.

Кухарчык таксама засмяяўся, хоць і стрымана, не адыходзячы ад сумоты. Ловячы пагляд жанчыны, заўважыў:

— Тады ўжо хоць ведалася б, за што.

— Так, так!..— Інэсу Пракоф'еўну ўсё больш разбіраў смех.— Тады ўжо разам... Не аднаго...

Яна засмяялася і раптам нібы застыла, з вуснаў і вачэй зляцела ўсё жывое і вясёлае, асталося

толькі тое, што часта з'яўляецца ў час размовы з назойлівымі кліентамі. Халодным і даволі абыякавым тонам яна наўгад сказала:

— Мабыць, зноў даймаюць вас зайздроснікі? Пра адну там я трохі чула...

Пра каго гэта?

Жанчына не паспела адказаць, як у вестыбюлі паявіўся Яўген Перапечка, дырэктар гасцініцы. Ён кіўнуў адміністратару і хуткім, узнёсла-дзелавым крокам прашыбаваў у свой кабінет. Інэса Пракоф'еўна гэтак жа бадзёра рушыла за ім. Вярнуўшыся праз некалькі хвілін, яна быццам бы ўрачыстым, але больш з'едлівым шапаткам паведаміла Кухарчыку, што Аўгусцін Арлоўскі за сённяшнюю змену прайшоў двума камбайнамі шэсць кіламетраў і такім чынам устанавіў сусветны рэкорд.

— Дык што гэта, хакей? — насмешліва спытаў Кухарчык. І адразу спахмурнеў, відаць, адчуўшы, што не толькі яго «досціп» зусім недарэчны, а і намер знайсці нейкую аддушыну ў гаворцы з гэтай жанчынай.

— Не хакей, вядома,— з прыкметнай ніякаватасцю ўдакладніла жанчына.— І не бокс, не сілавая барацьба, але Перапечка так сказаў: рэкорд. Камбайны самі ішлі, а брыгадзір усю змену ля пульта стаяў і кіраваў здалёк. Праўда ж — цуд?! Ды я не пра гэта. Перапечка прыбег, каб тэрмінова вызваліць і падрыхтаваць люкс аднаму высокаму чалавеку з міністэрства. Едзе рэкорд прымаць. Дык вы яму...

— Што яму? — Кухарчык глядзеў на жанчыну нібы асавелымі вачыма.

— Няўжо вам трэба разжоўваць? — ледзь не абурылася жанчына.— Шэсць кіламетраў пад зямлёю!.. Самаходам!.. А хто гэта замерваў? І наогул, як там можна ўсё замераць? Вось вы і чыркніце: «Не шэсць там кіламетраў было, а чатыры!» Значыць, рэкорда ўжо і няма, а толькі хлусня астаецца... Я перадам каму трэба, і пачнецца праверкаперамерка. Пакуль усё скончыцца, вось і прайшла пыха! А тут можа і самому рэкардсмену — ківок з папрокам. Прыціхне брат, дык і сястрыца апусціць нос. Уцямілі?

Кухарчык спачатку няўпэўнена кіўнуў галавою, а потым стаў круціць сваёй намерзлай шавялюрай і з недаверлівым захапленнем пранізваць вачыма шчыльна заціснутую ў чорны парык жанчыну.

— Ну і дыплама-атка-а!..— прамовіў нібы ўхвальна, нібы асуджаючы.— Вам бы не ў Васільках за бар'ерчыкам... Не-е!.. Не тут ваша месца!..

— Дык вы самі раскіньце мазгамі! — стала жанчына даводзіць сваё.— Гэтым людзям галоўнае — слава! Хлебам іх не кармі, як кажуць... І бацька іхні быў такі: аж душу богу аддаў у дамаганні славы. І маці... Калі б не падкінулі ёй байстручка... А выбі ў іх з-пад ног гэтую ўзвышку... І глядзіш — кароль голы...

«Ну і дыплама-атка!..— паўтараў Кухарчык, паціху клыпаючы ўжо ў напрамку свайго дома.— Ну і галава!.. Міністэрская!.. Толькі чаму яна са свайго мужа не зрабіла міністра? І цяпер у рамонтніках ходзіць...»

Чаравікі шкрэбаюць на асфальце... І чаму яны шкрэбаюць? Раней гэтага Кухарчык не заўважаў. Калі пачынае трашчаць ад думак галава, тады, мабыць, кволяцца ногі... «Не, не туды горне дыпламатка... Не туды!.. Няхай гэтак свайго мужа навучыць. Яна хітрая, але не ў той бок паглядзела. Хлуснёю гэтых людзей не саб'еш... Трэба ехаць на праўдзе, але на такой, якую можна павярнуць і туды і сюды...»

## X

Дзяўчаты Мальвінінай змены нарэшце выбралі час і сабраліся ўсе разам, нарэшце выведалі, што гаспадыня дома, і гуртам завіталі да яе на кватэру. Кожная з іх нешта трымала ў руках і мела свой пэўны абавязак па звышаператыўнай і ўрачыстай падрыхтоўцы застолля.

— Я рада вам,— ледзь прыхоўваючы сваё здзіўленне, сказала Мальвіна.— Але для чаго столькі кветак? Віцька, ты не ведаеш, чаму гэтыя цёці прынеслі букеты?

Малы разгублена пакруціў галавой, аднак глядзеў на гасцей з радаснай ветлівасцю.

На самым відным месцы ў зальчыку, на каляровым тэлевізары, стаяла прабірка з белай соллю.

Апошні нумар мясцовага штотыднёвіка таксама ляжыць на тэлевізары. Адкрываецца ён узнёслым паведамленнем аб рэкордзе Арлоўскага, і тут жа ледзь не на ўсю паласу — партрэт Аўгусціна.

«Мабыць, з-за гэтага прыйшлі дзяўчаты?..»

Спахапілася і крыху засаромелася гаспадыня ад думкі, што вельмі ж нядобра спачатку гадаць, чаго прыйшлі сяброўкі, а тады ўжо вітаць і радавацца іхняму прыходу. Больш не пытаючыся ні пра што, Мальвіна стала жвава і ўвіротна раскладваць і засцілаць у зальчыку стол, зносіць да яго з усіх куткоў крэслы і зэдлікі, а потым так забразгацела на кухні талеркамі, што Віцька выскачыў з-за свае бамбуковае шырмачкі і пабег туды.

— Пабіла?

— Не. Гэта я ад хвалявання...

— Давай памагу!

— Мы паможам!

Ля кухонных шафак і халадзільніка з'явілася Валя і яшчэ дзве дзяўчыны.

— Падавайце нам, што трэба несці ў зал!

Валя ў блакітным пуховым берэціку («як яна і дастала такі, ці можа сама змудравала?»), у барвовай шчыльнай кофтачцы, якая прыемна вызначае стройнасць постаці. На кофтачцы паблісквають мяккія варсінкі...

На кухні ўжо душнавата — адразу ўключылі газавую пліту. Дзяўчаты-памагатыя адразу пазнімалі свае каляровыя шапачкі, а Валя не кратае свайго пуховага берэціка, бо ведае, што ён вельмі пасуе да яе вачэй і нават крыху падмаладжвае.

За стол Валя села таксама ў берэціку, сама адкупорыла пляшку шампанскага ды з такім шыкоўным стрэлам, што корак куляй ударыў у столь, потым рыкашэтам — у тэлевізар і заляцеў пад кніжную шафу.

За дзвярыма на лесвічнай пляцоўцы нешта моцна шарганулася, а потым пачулася прыцішаная,

невыразная размова. Віцька паставіў сваю шклянку з морсам, выбег у калідор.

— Не адкрывай сам! — загадала маці і ледзь прыкметна змянілася з твару. Трывога за тое, што можа прыйсці Горбік і сапсаваць усім настрой, толькі мільгнула ў свядомасці і адразу ўлеглася: са сваімі дзяўчатамі ёй нішто не ўяўлялася страшным.

— Можа, яшчэ хто прыйшоў? — гасцінна разважыў хлопчык.— Месца ёсць.

— Усё роўна сам не адкрывай!

Калі малы вярнуўся да стала і выпіў свой морс, ля дзвярэй зноў нешта завалтузілася, моцна шарганулася аб дэрмацін абіўкі і з глухім, жудасным грукатам пакацілася ўніз. Следам застукалі па прыступках абцасы і рэзка грымнулі дзверы пад'езда.

Мальвіна, раптоўна пабляднеўшы, усхапілася з-за стала, кінулася да дзвярэй:

— Нешта здарылася, дзевачкі! Душа мая чуе!

— А ну, выйдзем! — рашуча скамандавала Валя.

На лесвічнай пляцоўцы не было ліхтара — Горбік пабіў яго ў час свайго мінулага візіту, таму лёгкае святло даходзіла сюды толькі з наступнага паверха. Аднак і пры гэтым святле дзяўчаты заўважылі крывяныя плямкі на прыступках.

— Звані ў міліцыю! — крыкнула Валя Мальве.— Ды скажы Віцю, каб аставаўся дома!

Сама адчайна рынулася ўніз і знікла ў цемені ніжняй пляцоўкі, яшчэ менш асветленай. І адтуль адразу пачуўся яе патрабавальны і поўны трывогі голас:

— Дайце якое-небудзь святло! Хутчэй!

І ў той жа момант нехта выскачыў з уключаным ліхтарыкам, асвятліў лесвіцу і ніжнюю пляцоўку. Тут, распластаўшыся ніцма, ляжаў чалавек. Вусны яго, быццам пры ўсмешцы, трошкі скрывіліся набок і былі прыадкрытыя з таго скрыўленага боку, а ў шчылінцы паміж вуснамі вельмі ярка і крыклівa пры святле ліхтара блішчаў залаты зуб.

— Вады яму! — запатрабавала Валя.

Нехта падаў кубак з вадою, нехта нахіліўся над

самай яе спіною і памагаў скрануць чалавека з месца, падняць яго адкінутую галаву з доўгімі пасмамі валасоў каля лба.

— А я ведаю, хто гэта! — раптам пачуўся Віцькаў голас над самым Валіным вухам.— Ён прыходзіў да мяне ў бальніцу.

Валя рэзка аглянулася і ўбачыла, што ліхтарык трымае і падсвечвае ёй Віцька.

— Чаго ты тут? — абуральна спытала дзяўчына.— Ідзі ў кватэру! — Яна паспрабавала забраць у яго ліхтарык, але хлопчык не аддаў.

— У яго накаўт,— упэўнена сказаў ён і ледзь не выклікаў смех нават у такі трагічны момант.— Папырскайце на яго вадою!

З міліцыі прыехалі даволі хутка. Першым узышоў на пляцоўку пажылы чалавек у міліцэйскім плашчы, але без пагонаў. На рукаве ў яго была чырвоная павязка. Сваім ліхтаром, намнога зырчэйшым, чым Віцькаў, ён асвятліў пляцоўку і ўсіх людзей, што сабраліся тут. Заўважыў у гурце Мальвіну, спыніў на ёй пранізлівы промень ліхтара і свой уважлівы і, як здалося Мальве, вельмі дакорлівы пагляд. Гэта быў той самы капітан міліцыі, якога некалі Мальвіна ўпрасіла вызваліць Горбіка.

— Забярыце малога! — загадаў капітан быццам усім прысутным, а ліхтарык трымаў на Мальвіне.— «Хуткую дапамогу» вызвалі?

Потым ён перавёў свой ліхтарык на Пілатава — цяпер ужо і Мальвіна ў жудасці і адчаі пазнала яго,— прыклаў далонь да бледнага, прыцененага пасмай валасоў ілба, і чалавек раптам паварушыўся, вусны скрывіліся на другі бок рота, вочы на момант расплюшчыліся.

— Усё гэта выпадкова...— ледзь чутна прамовіў Пілатаў.— Нікога не вініце... Ён не хацеў мяне скінуць...

Чалавек яшчэ раз расплюшчыў вочы, і Мальвіне здалося, што спрабаваў знайсці яе. Напэўна, і сказаць нешта хацеў, ды не хапіла сілы...

Санітары з «хуткай дапамогі» занеслі Пілатава ў машыну, неўзабаве, правёўшы ўсе працэдуры

следства, спусціўся ўніз і былы капітан са сваімі штатнымі калегамі. І адразу ж аднекуль з'явілася прыбіральшчыца з вядром вады і швабрай, абкручанай вялікаю анучаю,— мабыць, жыла ў гэтым пад'ездзе. Пляснуўшы змочанай анучаю па цэменту пляцоўкі, яна злосна глянула на Мальвіну і прабурчала:

— Няма чаго тырчаць тут!.. Дайце хоць сляды змыць, каб людзі раніцою не палохаліся! — І яна з размаху швякнула швабрай па ніжняй прыступцы лесвіцы...

У тую ж ноч пад раніцу Пілатаў памёр. У бальніцы ад яго ўдалося дазнацца толькі, што ён меў намер зайсці да Арлоўскай, каб павіншаваць яе з такім поспехам, пра які ўжо ведалі людзі на ўсіх рудніках і абагачальных фабрыках аб'яднання. Ля Мальвініных дзвярэй яго насціг Горбік, і, як што было далей, Пілатаў ужо нічога не сказаў, нават не паўтарыў таго, што вымавіў, лежачы на лесвічнай пляцоўцы.

...Пахаванне было на другі дзень, вельмі мнагалюднае, надзвычай жалобнае — Васількі, пэўна, яшчэ і не бачылі такога. Труну неслі праз усю галоўную вуліцу, амаль да самых могілак.

Мальвіна ўвесь час ішла непадалёку ад труны. У чорным, крэпавым шалі. Ад яе не адступалася Валя, якая адпрасілася са змены.

...Хавалі Пілатава, а ў гэты час з таго самага транспартна-размолачнага цэха, дзе яшчэ не так даўно працаваў гэты чалавек, па тым самым канвеёры, якім ён кіраваў, спорна ішла на доследную фабрыку найлепшая руда. Мальва больш адчувала гэта, чым ведала. Пэўна ж, і голас нехта падаваў адтуль: «Даю руду!» Але ўжо не ён. Ніколі ніхто больш не пачуе яго голасу... Толькі ў памяці ён, мабыць, астанецца...

Ці была калі крыўда на гэтага чалавека? Так, была. І голас яго адзін час здаваўся жахлівым, пазбаўленым дабра. Ды неўзабаве гэта мінулася, у душы міжвольна ўзнікла жаданне зноў пачуць яго голас...

Ці была калі злосць на гэтага чалавека, адчуванне помсты за тое, што праз яго давялося трапіць у бальніцу, а галоўнае, што з-за таго выпадку спыніліся новыя доследы на фабрыцы? Ніколі не было. Нават калі яшчэ і не ведала яго, і ні разу не бачыла.

Ці вінавата яна ў пагібелі гэтага чалавека? Такое пытанне будзе ўзнікаць усё жыццё. Перш за ўсё ў яе самой. А пэўнага і канчатковага адказу можа і не будзе. Не хацелася яму бяды — пра гэта ведае душа, адчувае сэрца. Але ж усім гэтага не скажаш. Жыццёвыя з'явы бываюць часам глыбейшыя за наша разуменне іх.

Валя заўважыла, што Мальвіна пакутліва заглыбілася ў свае думы, і асцярожна ўзяла яе пад локаць. Сказаць нічога нельга было, бо духавы аркестр васількоўскай пажарнай каманды заглушыў бы ўсякі голас. А калі перапыніўся аркестр, то замест свайго шэпту дзяўчына пачула іншы, недалёкі ад іх і зусім выразны:

— Бач ты!.. І травур надзела!.. Невядома толькі па кім: па мужу ці?..

— Як гэта па мужу? Ён жа не памёр.

— Яшчэ невядома, што з ім будзе, калі спраўдзіцца тое, пра што людзі гавораць.

Валя прытулілася да сяброўкі, быццам жадаючы засланіць сабою гэты пагібельны шэпт, у крайнім жа выпадку, падтрымаць Мальву, калі тая захістаецца ад такіх страшных слоў.

Локаць у жанчыны задрыжаў — з гэтага Валя зразумела, што Мальвіна пачула злосны шэпт. Аднак яна не паказала выгляду, не памкнулася хоць на пару крокаў адысці далей ад труны. І нават не азірнулася, каб паглядзець, хто гэта гаворыць.

А Валя не ўтрымалася, зірнула: пазнала адміністратарку з гасцініцы, а другую жанчыну, што ішла з той побач, не пазнала.

Духавы аркестр на пэўны час заглушыў усе размовы, а ў наступным перапынку зноў Мальве чуліся словы, ужо мужчынскія і па сэнсу не падобныя на папярэднія.

— Харошы быў чалавек...

— Гэта пра ўсіх так гавораць пасля смерці.

— Не, сапраўды харошы... Здольны інжынер. Па аўтаматыцы, знаеш, колькі зрабіў за апошні час?.. Усе змены поруч з Арлоўскім. А то іншы раз ледзь не цэлымі суткамі... Сілком даводзілася выцягваць з забоя ды падымаць на-гара...

## XI

Віцькі дома не было. Пакінуўшы Мальву ў кватэры, Валя пабегла шукаць яго ў двары, хоць адчувала, што наўрад ці ён там — хутчэй за ўсё малы спотайку ўдзельнічаў у пахаванні Пілатава, хоць маці і забараніла яму гэта, а цяпер затрымаўся на могілках. Натоўп быў вялікі, амаль усе Васількі прыйшлі на могілкі, і хлапчуку было дзе схавацца ад матчыных вачэй.

Першую лесвічную пляцоўку Валя прабегла з заплюшчанымі вачыма — ёй страшна было глядзець на тое месца, дзе нядаўна ляжаў Пілатаў. А на другой сустрэла Віцьку. Малы задыхаўся ад бегу і пераскокваў апошнія прыступкі ўжо з кволай натугай.

— Мама дома? — спытаў, не надта прыязна глянуўшы на Валю.

— Дома,— паспешліва адказала тая.— Чакае цябе, хвалюецца.

— Дзе ты быў, Віця! — пакрыўджана прамовіла Мальвіна, як толькі хлопчык пераступіў парог.— Я ж цябе прасіла не ісці нікуды!

— Хацеў пагуляць,— уваблраўшы пачырванелы падбародак у каўнер світарка, прамовіў хлопчык.

— Ты скажы праўду, Віцька!

Хлопчык маўчаў.

— А навошта партрэт выставіў?

Валя толькі цяпер заўважыла, што на салфетцы тэлевізара, побач з прабіркай белага калію, стаіць у кардоннай рамачцы невялічкі партрэт маладога прыгожага мужчыны ў вайсковай гімнасцёрцы з круглымі, напэўна, бліскучымі гузікамі.

— Хацеў на свайго дзеда паглядзець,— не падымаючы галавы, прамовіў хлопчык.

Потым ён зайшоў за сваю шырмачку, пабавіўся

там з хвіліну і вынес адтуль канверт са службовым штампам, моўчкі падаў яго мацеры:

— З міліцыі,— буркнуў сумна і быццам бы спачувальна.

Мальвіна разарвала канверт, прачытала позву і жалліва прамовіла:

— Давядзецца заўтра з работы адпрошвацца.

Некалькі год Мальва абмінала міліцыю, калі даводзілася быць на той закавулачнай вуліцы. Званіць — званіла разы два пры цяжкіх абставінах, праз Горбіка, а сама не хадзіла і нават не глядзела ў той бок, дзе жаўцела ўдзень і з усіх бакоў падсвечвалася ноччу доўгае, аднапавярховае, з рознымі бакавымі прыбудоўкамі памяшканне раённага аддзела. Пасля таго даўняга выпадку, калі яна там, па-сутнасці, ахвяравала сваім лёсам, каб ўратаваць Савела, прыкра было і падумаць аб тым, каб зноў пабываць у міліцыі, хоць ведала, што людзі там ёсць харошыя і зла ёй не жадаюць.

І вось, хочаш не хочаш, а ісці трэба, у семнаццаць нуль-нуль, за нейкую гадзіну да канца змены. Бегчы не хацелася, як у той хоць і прыкры, але незабыўны час, ды позва падганяла — была ўжо амаль палавіна шостай вечара. На вуліцы, дзе міліцыя, у гэты час — ні цёмна, ні светла: змрок ужо наплывае з асінавага парку, а ліхтары яшчэ не ўключаны. Толькі сподалеку, амаль у самым канцы вуліцы, паблісквае лямпачка і быццам падае арыенцір, кліча туды.

Сапраўды, святло было толькі на ганку міліцыі, і невялікі ліхтарык быў прыладжаны над дошкай тых злачынцаў, якіх трэба шукаць. Нясцерпна цяжкія ўспаміны ўзбудзіла ў Мальвінінай душы гэтая надзвычайная вітрына, аж у сэрцы заныла, як падышла да яе, аднак жанчына перамагла ў сабе пачуццё жахлівасці і прыпынілася пад ліхтарыкам.

...Партрэты, партрэты — як на Дошцы гонару. А як дрыжыць сэрца, калі пазірае на іх... І вось, як тым лязом па сэрцы,— здымак Горбіка ў самым нізе вітрыны. Наклеены, відаць, зусім нядаўна. Без шапкі, валасы раскудлачаныя... Іншага партрэта ў міліцыі, відаць, і не было.

«Значыцца, уцёк... Няма яго тут... Шукаюць».

Зайшоўшы ў калідор, Мальвіна памкнулася завітаць у той дзяжурны пакой, у якім была некалькі год назад, але сяржант міліцыі прыпыніў яе і папрасіў паказаць позву.

— Вунь туды, калі ласка! — паказаў ён рукою на дзверы ў канцы калідора.— Я зараз далажу.

За вялікім пісьмовым сталом сядзеў чарнявы мужчына ў новым добротным касцюме, пры модным шырокім гальштуку, які аздабляў стракатасцю ледзь не ўсе грудзі, а збоку, ля прыстолка, перагортваў нейкі бюлетэнь той самы пажылы капітан, што некалі вызваляў Горбіка, ці можа ўжо маёр у запасе. Мальвіну яны прынялі як добрую знаёмую, без усялякіх фармальнасцей. Жанчына падрабязна расказала, што яна чула і бачыла ў той злашчасны вечар, аднак па вачах сваіх субяседнікаў заўважыла, што нічога новага ім не адкрыла, што самі яны ведаюць, напэўна, больш, чым яна.

— Ці наведваўся да вас Горбік апошнім часам? — спытаў чарнявы мужчына. А былы капітан глядзеў на Мальвіну так, быццам размаўляў з ёю вачыма, быццам папракаў за тое, што некалі не паслухала яго, не ўзяла на душу яго бацькоўскія парады.

— Стукаў у дзверы разы два,— адказала Мальвіна чарняваму, а вачыма вінілася перад капітанам: Хіба магла тады ўсё прадбачыць?.. А можа і цяпер чалавек не дайшоў да такога злачынства, можа толькі ад спалоху ўцёк з Васількоў? Нябожчык Пілатаў не абвінаваціў яго ні ў чым...»

— Пілатаў перад канчынаю не сказаў усёй праўды,— нібы адгадаўшы Мальвініны думкі, паведаміў чарнявы следчы.— Экспертыза паказала, што Горбік нечым цвёрдым выцяў яго па галаве і сапхнуў з пляцоўкі.

«Вось як усё павярнулася,— гаварылі вочы былога капітана.— Вось як нявечыцца жыццё, калі яно бязладнае, бесчалавечнае...»

Потым былы капітан загаварыў голасам:

— Скажам вам і тое, пра што не хацелася б гаварыць у час следства. Але, думаю, што паведамім пра адну з'яву.— Ён запытальна паглядзеў на чар-

нявага следчага, і той згодліва кіўнуў галавой.— Здарэнне ў вас пад дзвярыма зусім не выпадковае. Горбік доўга сачыў за чалавекам, якога вось ужо няма ў жывых... І падбівалі яго на гэта дружкі-сабутэльнікі. Рэўнасць лютую распальвалі... Рэўнасць!

— Не было падстаў для гэтага,— з горкасцю і запалам пачала даводзіць Мальвіна. І, відаць, захапілася намерам расказаць гэтым паважаным людзям усё, што накапілася ў яе на душы за апошнія, такія трагічныя дні, і давесці сваю невінаватасць, апраўдацца перад імі і нібыта перад усімі васількоўцамі. Але раптам у пакой зайшоў сяржант міліцыі і далажыў, што да следчых прыйшла цэлая група работніц доследнай фабрыкі і ўсе яны просяцца даць свае паказанні наконт пагібелі Пілатава.

Мальвіна ўскочыла з месца, адчыніла дзверы ў калідор.

— Гэта мае дзяўчаты! — узрушана і здзіўлена ўсклікнула яна.— З мае змены!

— Яна ні ў чым не вінавата! Мы ўсе ў той вечар былі ў яе!..

Чарнявы следчы, лагодна ўсміхаючыся, устаў з-за стала, павольна, быццам размінаючыся, падышоў да дзвярэй:

— А яе ніхто і не вініць,— сказаў унушальна, аднак даволі ветліва.— Ідзіце, дзяўчаткі, дадому і сяброўку сваю ці начальніцу бярыце з сабою!

Амаль уся Мальвініна змена крочыла па прыпаркавай вуліцы. Цяпер тут ужо гарэлі ліхтары, і можна было прабірацца і па абочынах тратуара: дзяўчаты вельмі намагалі ісці купкай, адна пры адной, і каб упоравень з Мальвінай. Яны ўвесь час акружалі яе, быццам паказваючы сваю гатоўнасць у любы час абараніць сяброўку ад якіх бы там ні было небяспек.

Пачулася некалькі іхніх галасоў.

— Чаго яны да цябе?..

— Што ім трэба?..

— Няхай у нас ва ўсіх папытаюць!..

— Не будзем пра гэта, дзевачкі! — папрасіла Мальвіна.— Дзякую вам, што прыйшлі!..

А ў самой — балючае свідраванне ў мазгах, неадольнае жаданне перабраць, перасеяць у памяці ўсё сваё мінулае жыццё, вельмі строга і бязлітасна паглядзець на кожны свой крок, кожны ўчынак і, калі што ўявіцца цяпер недарэчным, а тым больш — ганебным, рашуча пакараць сябе за гэта. І нават прызнацца вось гэтым дзяўчатам, што ідуць побач. А потым і далей... Прызнацца і пакаяцца перад усімі людзьмі!..

Глыбокая і шчырая прага духоўнай чысціні быццам напоўніла ўсю яе істоту. «У міліцыі апраўдалі... Дзяўчаткі вось гэтыя, паплечніцы па рабоце — апраўдалі... А як іншыя?.. Як Віцька?.. Пакінула дома, загадала нікуды не выходзіць, чакаць: хутка вярнуся!.. Глядзіць на фотакартку дзеда... Пэўна ж, і бацькаву паставіў бы побач, але ж няма дома ніводнай... Маўчыць гэтыя дні, ды ўсё ж некалі спытае: дзе бацька?.. Напэўна спытае... А тым часам — дабяжыць да міліцыі і там убачыць яго фотакартку... Не дома, а там...»

Валянціна ўзяла Мальву пад руку і, каб парушыць зусім ненатуральную ў іхняй кампаніі маўклівасць, адвесці цяжкія думкі, узнёсла сказала:

— Перад самым канцом змены да нас дэлегацыя прыйшла!.. З Масквы! Глядзелі нашу соль, пра цябе пыталіся.

— Трэба было сказаць, што мяне ў міліцыю пазвалі!.. На допыт!

— Ну хопіць! Выкінь гэта з галавы! Карэспандэнты таксама былі. З фотаапаратамі.

— Не люблю карэспандэнтаў! Улезе іншы ў душу, разварушыць там усё, а потым як напіша, дык ад людзей становіцца брыдка.

— А я рада б каб пра мяне напісалі,— прызналася Валя.— Дык не пішуць!

— Напішуць яшчэ! Не ў гэтым шчасце!..

З боку міліцыі пачуліся частыя, таропкія крокі: нехта бег наўздагон. Мальвіна пачула гэта першая, прыпынілася: няўжо вернуць назад? Глядзела на светлую пляму ад бліжэйшага ліхтара, каб пазнаць у гэтым святле, хто даганяе. І хутка па-

знала... І здрыганулася ад раптоўнай нечаканасці: за імі бег Віцька!.. Значыцца, ён пабыў ужо ў міліцыі...

— Ну чаму ты не дачакаўся, чаму зноў не паслухаў мяне? — з крыўдай і горыччу запыталася маці, калі хлопчык падбег да іхняга гурту.

— Цябе доўга не было, і я спужаўся,— адчуваючы сваю вінаватасць, глуха прамовіў хлопчык і ўткнуўся лбом у матчына плячо.— Хацеў даведацца ў міліцыі...

— А як ты бег, што не сустрэў нас?

— Тут ёсць сцежка напрасткі, праз парк,— Віцька паказаў рукою, дзе тая сцежка.

«Бачыў здымак бацькі ці не бачыў?» — пачало мучыць жанчыну назойлівае пытанне. І каб ужо неяк адразу высветліць гэта, яна стала пытацца далей:

— Што табе, сынок, сказалі ў міліцыі?

— Тое, што вы вось толькі-толькі пайшлі... І я пабег даганяць...

— І не затрымаўся там?

— Не, адразу пабег. І дагнаў!.. Бачыш?..

— Дарэмна ты хваляваўся,— пяшчотна сказала маці і паклала сваю цёплую далонь яму на галаву.— Нават шапкі не надзеў. Я ж не адна!..— Яе павесялелы, з іскрынкай радасці пагляд акінуў усіх сяброўак, што ішлі, з усіх бакоў акружыўшы яе.— Усё маё шчасце ў тым, што я ніколі не была адна! Вось і ты са мною... Цяпер я ўжо рада, што ты прыбег.

— Мама, знаеш што?..— гучна, відаць, каб і ўсе чулі, загаварыў Віцька.— Калі я сабраўся бегчы ў міліцыю, то зашумеў наш прыёмнік... А да гэтага маўчаў уключаны — я думаў, што сапсаваўся. Зашумеў, а потым я пачуў, што дзядзя Аўгусцін цяпер ужо герой!

— Як гэта? — не зусім зразумела маці.— Можа проста аб іхняй рабоце перадавалі? Сёння там у іх зноў рэкорд!

— Пачакайце хвілінку! — умяшалася ў размову Валя.— Пачакайце ўсе!.. Хвілінку пастойце!..

— Не-е,— запярэчыў хлопчык.— Сказалі, што герой!

Дзяўчына ў момант пераскочыла вуліцу і апынулася каля мясцовых хлопцаў, што ішлі па другі бок вуліцы. На жываце аднаго з іх вісеў транзістар і падаваў джазавую музыку.

— Акрамя джазаў, вы слухаеце што-небудзь? — з ходу запыніла іх дзяўчына настойлівым запытаннем.

— Слухаем! А што?

— Пра Арлоўскага чулі?

— Што яму Героя далі?

— Ну вось!.. Праўда гэта?

— Ты што, з неба звалілася? Пра гэта ўжо ўсе Васількі ведаюць: Аўгусцін Арлоўскі, наш аўтаматчык — Герой Сацыялістычнай Працы!

Да свае кампаніі Валя імчалася яшчэ шпарчэй і, нават яшчэ не дабегшы, закрычала ледзь не на ўсю вуліцу:

— Віцька праўду сказаў! Праўду! Цяпер пра нашы Васількі ўвесь свет загамоніць!

— Трэба пазваніць яму! — нібы ў нейкім турботным клопаце, сказала Мальвіна. Потым спахапілася, загаварыла з радасцю: — Пойдзем, дзевачкі, да нас, пазвонім, павіншуем! Пабудзьце вы сёння з намі!..

Трымаючы сваю руку на плечуку сына, Мальвіна заспяшалася, прыбавіла кроку. Да іхняга дома ўжо недалёка... Партрэт бацькі, пэўна, і цяпер стаіць у рамачцы на тэлевізары... Малады, прыгожы, валявіты... Часам уяўляецца, што такім яна і памятае яго. У Аўгусцінавай кватэры — іншы партрэт, шахцёрскі, зроблены неўзабаве да таго трагічнага выпадку, калі бацька загінуў у шахце... Добра, што Аўгусціну ўдалося выканаць бацькоўскі наказ...

Дзяўчаты ішлі ледзь не подбегам. Мальвіне было прыемна, што ўсе яны шчыра ўзрадаваны і спяшаюцца хутчэй сказаць Аўгусціну добрае слова віншавання. Першаму васількоўскаму Герою... А можа проста брату іхняй сяброўкі і паплечніцы...

...Сёння ім — на першую змену. Так падладжаны графік, каб можна было поўнасцю адолець но-

вую схему, яшчэ больш дасканалую і складаную, як была папярэдняя, што дала белы, як сыпучае срэбра, калій. Наўрад ці давядзецца ім паспаць хоць гадзіну. Ды гэта нічога... Гэта не паслабіць работу!..

...Крокі часцеюць, прыбаўляюцца, і Мальвіне раптам здаецца, што бягуць дзяўчаты не да яе на кватэру, а на фабрыку... У бытоўцы яна адразу падбягае да тэлефона і чуе голас:

— Даю руду!.. Даю руду!..

...Чый гэта голас? Нябожчыка Пілатава? Не... Яго голасу ўжо ніколі не пачуеш... Аднак жа руду пададуць... І тую, што трэба! І ў дакладны час!..

Імкліва і спорна плыве руда па канвееры...

# Вопыт, талент, праца

Сваё кароткае слова пра Аляксея Кулакоўскага хачу пачаць са сцверджання агульнавядомага, старога правіла, на якое часта забываюць крытыкі пры аналізе творчасці таго ці іншага пісьменніка. Зразумець і вытлумачыць вытокі таленту, аснову творчага натхнення, асаблівасці сюжэтныя, стылявыя, моўныя можна, толькі дасканала вывучыўшы жыццё самога мастака — ад умоў таго часу і асяроддзя, у якім ён рос і фарміраваўся як чалавек, грамадзянін, да адметных рыс яго ўласнага характару (як правіла, у сапраўднага мастака — складанага і супярэчлівага), а таксама жыццё таго сацыяльнага пласта, на грунце якога выраслі героі яго твораў.

Звычайна крытыка праяўляе ўвагу да гэтых фактараў пры разборы творчасці пісьменнікаў мінулага. Што ж датычыць жывых аўтараў, сваіх сучаснікаў, з якімі побач сядзяць на сходах, то крытыкі як бы саромеюцца ці лічаць нізкім для сябе паехаць ці пахадзіць па тых сцежках, дзе хадзіў пісьменнік, пагаварыць з тымі людзьмі, з якімі часта гаварыў ён. Дарэмная сціпласць.

Каб я быў крытыкам і займаўся творчасцю Аляксея Кулакоўскага, то апынуўся б у выгодным становішчы ў сэнсе ведання жыцця аўтара і прататыпаў яго шматлікіх герояў.

Некалі ў маладосці, у пачатку пісьменніцкага шляху (мы пачыналі ў адзін час — адразу пасля вайны), у гады, калі пісалася «Гартаванне» і «У добры час», сем'і нашы жылі ў адной агульнай, вельмі цеснай камунальнай кватэры.

У тыя ж гады я ездзіў у Кулакі — у невялічкую вёску ў палявой частцы Старобіншчыны, дзе нарадзіўся Аляксей Кулакоўскі, правёў дзіцячыя і юнацкія гады. Кулакі — тыповая вёска цэнтральнай Беларусі, я сказаў бы, адметная беларуская вёска, з вельмі характэрным бытам, звычаямі, з самай набліжанай да літаратурных норм сакавітай, вобразнай народнай мовай. Многія дэталі гэтага быту, не кажучы ўжо пра мову, прыкметна адрозніваліся тады ад таго, што я чуў, бачыў на сваёй роднай Гомельшчыне. І калгас быў там самы тыповы для тых гадоў — першых пасляваенных.

Блізкія сваякі Кулакоўскага — людзі працавітыя, дасціпныя і вясёлыя. Асаблівае ўражанне пакідала маці пісьменніка — жанчына разумная, я сказаў бы, таленавітая ў многіх адносінах, з тонкім адчуваннем гумару, але з вельмі рэалістычным поглядам на ўсе з'явы і, безумоўна, з невычэрпным багаццем жыццёвага вопыту, якім яна шчодра дзялілася з сынамі, унукамі і суседзямі. Няма сумнення, што многія сітуацыі, дэталі сялянскага быту, надзвычай праўдзівыя, свежыя і трапныя, падказала Аляксею маці. Гэта ніколькі не прыніжае яго таленту, наадварот, узвышае: пісьменнік ні на

хвіліну не адрываўся ад роднай вёскі, ад людзей — крыніцы сваёй творчасці. Адтуль, з Кулакоў і навакольных вёсак, чэрпаліся сюжэты і вобразы першых апавяданняў. І Мікіта Мінавіч з аднайменнага апавядання, і Павел Куцула з «Нямка», і Грысь Вячэра са «Шляхамі жыцця», і Несцер з «Саду», і самабытныя персанажы апавядання «Радзіны ў Забродскіх», якія шмат чым нагадваюць герояў К. Чорнага,— гэта характары вельмі знаёмых і блізкіх Кулакоўскаму людзей. Яны ўвайшлі ў кнігу проста з жыцця, без асаблівай вытрымкі, выспявання, шліфоўкі і падгонкі ў тым нікому не бачным месцы, якое называюць творчай лабараторыяй. У гэтым сіла герояў першых апавяданняў Аляксея Кулакоўскага, але гэтым, магчыма, абумоўлена і пэўная слабасць іх.

Нельга не згадзіцца з думкаю Сяргея Гусака ў яго грунтоўнай манаграфіі пра творчасць Аляксея Кулакоўскага, што «ў канцы 40-х, пачатку 50-х гадоў літаратуры вельмі перашкаджала тэндэнцыя да павярхоўнага паказу жыцця і чалавека, да згладжвання супярэчнасцей рэчаіснасці». Усё гэта ёсць і ў першых апавяданнях Кулакоўскага, і ў яго аповесці «Гартаванне», і ў маім рамане «У добры час», і ў аповесці Янкі Брыля «У Забалоцці днее», і ў «Вяснянцы» Тараса Хадкевіча, у «Святле над Ліпскам» і «Цёплым дыханні» Макара Паслядовіча. Але я ўпэўнены, што нікому з нас не сорамна за гэтыя творы. І нікому не даравальна забываць, у які час яны пісаліся, які ідэйны зарад неслі, да чаго заклікалі чытача, у першую чаргу маладога. Скончылася самая страшная вайна. Загінула дваццаць мільёнаў савецкіх людзей, у нас, у Беларусі,— кожны чацвёрты, засталіся мільёны ўдоў і сірот, ляжалі ў руінах гарады і вёскі, зарастала хмызняком і быльнягом спустошаная зямля — не хапала ні рабочых рук, ні цяглавай сілы, ні насення. Навокал было безліч тэм для паказу гора, пакут, чалавечых трагедый. І, напэўна, творы на гэтыя тэмы вызначаліся б большай псіхалагічнай глыбінёй, бо сусветная літаратура давала безліч узораў паказу чалавечай трагедыі.

Але не трагедыя вызначала лёс народа, яго будучыню а вялікая перамога над фашызмам. Народ аплакваў сваіх сыноў, але народ быў вялікім аптымістам. У гэтым яго сіла і неўміручасць. Яшчэ недзе недалёка грымеў бой, а такія, як Мікіта Мінавіч, браліся за цеслю і ішлі будаваць хаты ўдовам. Ды будаваць трэба было не толькі хаты. Партыя ставіла грандыёзныя задачы па аднаўленню жыцця, і народ, не зважаючы ні на што, быў поўны рашучасці здзейсніць гэтыя задачы. Дзіўна выглядала б літаратура, якая ўзяла б на сябе ролю плакальшчыцы над магіламі ахвяр, над цяжкасцямі жыцця. Ды і не маглі пісьменнікі — учарашнія воіны, партызаны, пісьменнікі-камуністы займаць пазіцыю па прынцыпу: няхай народ будуе, а ■ пагляджу, што з гэтага атрымаецца, і, калі гадоў праз 10—15 матэрыял адстоіцца, магчыма, нешта напішу. Не, мы не толькі імкнуліся паспяваць за падзеямі, але часам былі наперадзе як баявыя прапагандысты, агітатары, памочнікі партыі. Літаратура наша пры ўсіх яе недахопах не мела б таго, што яна мае, каб не было той высокай грамадзянскай актыўнасці пісьменнікаў, якія тварылі ў канцы

40 — пачатку 50-х гадоў. Ганіць творы таго часу агульна, без уліку многіх суб'ектыўных і аб'ектыўных фактараў, можа толькі эстэт, абыякавы і да гісторыі народа, і да гісторыі яго літаратуры.

Будаўніцтва такіх гігантаў індустрыі, як Мінскія трактарны і аўтамабільны заводы, імклівы рост маладога рабочага класа — цэлая эпапея ў жыцці беларускага народа. Натуральна, што тэма гэтая ўсхваляваў і Кандрата Крапіву, і Аляксея Кулакоўскага, і Макара Паслядовіча, і Веру Лютаву, і Алеся Кучара, і многіх іншых.

Крытыка і таго часу і пазней мела рацыю, адзначаючы, што ў аповесці «Гартаванне» А. Кулакоўскаму значна лепш удаліся вясковыя сцэны — маленства галоўнага героя Васіля Патрончыка, чым паказ яго станаўлення, гартаванне ў рабочым калектыве. Тут аўтару, як і многім іншым, бракавала ведання жыцця гэтага калектыву, дэталяў яго быту, што не магло не адбіцца на псіхалагічнай глыбіні характару героя.

Але на той час аповесць мела немалое значэнне і для творчага росту самога пісьменніка, і для выхавання такіх рабочых, як Васіль Патрончык, і для асваення новай, амаль што цаліннай, тэмы літаратурай.

У Аляксея Кулакоўскага вельмі нялёгкае жыццё. Такі ж нялёгкі і творчы шлях. На яго долю выпала даволі ран фізічных і душэўных перажыванняў ад страт блізкіх людзей больш, чым каму-небудзь другому з яго равеснікаў, удараў крытыкі, якая не заўсёды разумела індывідуальную своеасаблівасць творчасці гэтага мастака. Але пісьменнік — з ліку людзей мужных, нягоды не згіналі яго, а гартавалі, ён ніколі не адступаў ад сваіх прынцыпаў, ад свайго жыццёвага і творчага крэда, не паддаваўся ўплывам літаратурнай моды і хістанням. Некаторыя, нават блізкія сябры, лічаць яго за такую «ўпартасць» трохі архаічным і кансерватыўным. Але я думаю, што гэта якраз добрая якасць чалавека, камуніста, пісьменніка.

Аляксей Кулакоўскі — бытапісец. У творчасці ён надзвычай моцна прывязаны да канкрэтных, часцей за ўсё ўласна ім самім перажытых жыццёвых фактаў. Факт для яго — першааснова твора. Прызма творчай фантазіі пісьменніка не надта адмыслова шматгранная, святло фактаў пераламляецца ў ёй не заўсёды так, каб адбіцца спектрам вясёлкі і ў сюжэце, і ў характарах, і ў дэталях, каб драматызавацца, і асобныя факты, прапушчаныя цераз гэтую прызму, у творы заходзяць тыя ж адценні, што і ў жыцці. Пісьменнік як бы спадзяецца, што само жыццё зрабіла работу па адбору і тыпізацыі з'яў і характараў. Такая асаблівасць таленту Кулакоўскага дае яму пэўную перавагу перад іншым падыходам да асваення жыццёвага матэрыялу, мае свае станоўчыя якасці, але абумоўлівае і пэўныя недахопы, якія асабліва выразна праявіліся ў аповесці «Дабрасельцы».

Самым значным творам і, безумоўна, галоўнай працай за чвэрць стагоддзя творчага шляху Кулакоўскага з'яўляецца яго дылогія — раманы «Расстаёмся ненадоўга» і «Сустрэча на ростанях». Ні для каго не сакрэт, што ў аснову многіх сюжэтных сітуацый раманаў, і асабліва дзе дзейнічаюць галоўны герой Андрэй Сакольны і яго жонка Вера, пакладзены мно-

гія факты біяграфіі самога пісьменніка, франтавіка, салдата, афіцэра пяхоты, гэтак жа цяжка раненага, як ранены ў канцы другога рамана Сакольны. Нават партызанская частка дылогіі таксама пэўным чынам звязана з біяграфіяй аўтара, але ўжо творчай: некалькі год сваёй добрасумленнай і напружанай літаратурнай працы Аляксей Кулакоўскі аддаў запісу і рэдагаванню ўспамінаў камандзіра Мінскага партызанскага злучэння, сакратара падпольнага абкома КПБ, Героя Савецкага Саюза В. І. Казлова. Само сабой зразумела, што сумесная работа з адным з праслаўленых партызанскіх камандзіраў, знаёмства з жывымі паплечнікамі яго, іх расказы, мноства дакументаў, якія прыйшлося выкарыстаць для кнігі «Людзі асобага складу», далі Кулакоўскаму-мастаку багаты матэрыял для ўласнай кнігі.

У дылогіі Аляксей Кулакоўскі паставіў перад сабой задачу, вырашаць якую ў адным творы пакуль што не адважыўся ніхто з нас, яго равеснікаў,— паказаць вайну, перамогу як вынік гераізму савецкіх людзей і мудрасці партыі на трох галоўных рашаючых палях гіганцкай бітвы: фронт, савецкі тыл, варожы тыл, дзе сэнс жыцця народа, які часова трапіў пад фашысцкую акупацыю, вызначала партызанская барацьба. Задача гэта вельмі складаная.

У раманах раскрыўся эпічны талент пісьменніка, яго ўменне пісаць шырокае палатно, у якім любімая аўтарам дэталізацыя быту не засланіла сацыяльныя канфлікты эпохі. Безумоўна, любы факт вайны глыбока драматычны. Але драматызм жыцця і драматызм твора — рэчы розныя, у творы яго вастраканфліктнасць дасягаецца пэўнай арганізацыяй матэрыялу — пабудовай сюжэта. У дылогіі Аляксей Кулакоўскі зрабіў грунтоўную спробу будаваць «раманны сюжэт». Гэтым тлумачыцца поспех раманаў «Расстаёмся ненадоўга» і «Сустрэчы на ростанях» у шырокага кола чытачоў. І разам з тым нельга не згадзіцца з некаторымі крытыкамі, якія пісалі, што апрача ўсяго іншага адзін з недахопаў дылогіі — некаторая раскіданасць сюжэта і кампазіцыйная рыхласць. Няма патрэбы тут спыняцца на значэнні гэтых першаснапачных кампанентаў формы мастацкага твора. Хачу толькі адзначыць, што шляхам доўгага назірання я прыйшоў да думкі, што недахоп гэты і ў Кулакоўскага, і ў некаторых іншых празаікаў паходзіць не столькі ад іх няўмення пабудаваць сюжэт, колькі ад агульнай недаацэнкі сюжэта, якая мае месца і ў практыцы, і ў тэорыі сучаснай беларускай літаратуры. Часам не можаш не здзіўляцца, як вусна і ў друку некаторыя таленавітыя празаікі і даволі адукаваныя крытыкі спрабуюць даказаць другараднасць сюжэта ў мастацкіх кампанентах. І гэтыя ж людзі, адзываючыся аб канкрэтным творы, часта кажуць: нецікава, бессюжэтна ці маласюжэтна, кампазіцыйна рыхла і г. д. Дзе ж логіка? Што ж у такім разе вызначае якасць твора?

Дылогія пісалася больш за дзесяць гадоў. За час, які раздзяляе з'яўленне раманаў, з-пад пяра Кулакоўскага выйшла нямала апавяданняў, аповесцей, у тым ліку лепшыя з яго аповесцей — «Нявестка» і «Да ўсходу сонца».

«Нявестка» — самая «сюжэтная» рэч, жыццёвы факт у ёй належным чынам драматызаваны, сітуацыі завостраны; гэта,

між іншым, ніколькі не пашкодзіла «бытавізму», як і характэрная творчай манеры пісьменніка ўвага да быту не перашкодзіла сюжэтнасці. Наадварот, спалучэнне гэтых дзвюх якасцей зрабіла аповесць займальнай, цікавай і псіхалагічна глыбокай, дзе кожная сітуацыя і кожны вобраз нясуць зарады вялікай эмацыянальнай сілы — той сілы, якая прымушае чытача хваляваіцца, суперажываць. Недарэмна «Нявестка» зацікавіла такога вострасюжэтнага драматурга, як Андрэй Макаёнак: па аповесці ён зрабіў сцэнарый, па якім студыя «Беларусьфільм» паставіла фільм «Шчасце трэба берагчы».

Недахоп аповесці «Дабрасельцы» не толькі ў тых праліках, пра якія многа гаварылася, часам з непатрэбнай нервознасцю і разносам, што ніколі не памагае пісьменніку, але, на маю думку, і ў тым, што А. Кулакоўскі ў большай меры, чым у іншых рэчах, не зладзіў з сюжэтам: пад адзін «дах» было нагрувашчана занадта многа фактаў адной і той жа афарбоўкі — негатыўных, а гэта прывяло да парушэння пэўных прапорцый у адлюстраванні жыцця калгаснай вёскі 50-х гадоў.

Калі я быў з Аляксеем Мікалаевічам у яго роднай вёсцы першы раз, ніхто тады — ні мы, маладыя пісьменнікі, ні яе самыя сівыя старажылы, якія трымаліся старасвецкіх звычаяў,— не думаў і не ўяўляў, якія змены могуць адбыцца тут неўзабаве. А праз некалькі год пад Кулакамі, Чыжэвічамі ды іншымі вёскамі геолагі знайшлі велізарнейшыя залежы калійных солей. Пачалося будаўніцтва гіганта беларускай хіміі. У канцы гародаў старой, загубленай сярод слуцкай раўніны вёсачкі раслі шматпавярховыя гмахі новага горада, які «людзі з фантазіяй» назвалі Салігорскам. Будаўнікі — людзі з усёй Беларусі і многія з іншых краёў, пакуль не хапала кватэр, жылі ў навакольных вёсках, прынёсшы свае звычаі, свае песні. Маладыя кулакоўцы пайшлі на будоўлю. Ды і не толькі маладыя.

Змяніўся навакольны пейзаж, змяніліся праца, рытм жыцця — мяняліся людзі.

Аляксей Кулакоўскі — гэта робіць яму гонар — цясней, чым любы з нас, пісьменнікаў, трымаў сувязь з роднай вёскай, з яе людзьмі, наведваўся туды не раз у год, а штомесяц, калі не часцей. На яго вачах рос Салігорск, адбываліся ўсе змены ў псіхалогіі людзей. І пісьменнік, які заставаўся па-ранейшаму верны прынцыпу пісаць пра тое, што бачыў сам, пра людзей знаёмых, блізкіх сэрцу, не мог не адгукнуцца на падзеі, якія адбываліся на бацькоўскай зямлі. У друку з'яўляюцца нарысы А. Кулакоўскага пра землякоў, якія будуюць калійныя камбінаты і новы горад, у прыватнасці нарысы «Зоркі салігорскія» і «Салігорцы», пасля — апавяданні, нарэшце, аповесць «Тут я жыву».

Ніводная вялікая новая тэма не даецца адразу, з ходу. Яна патрабуе калектыўнай распрацоўкі, калектыўнага вопыту. А. Кулакоўскі ў тыя гады, калі працаваў над аповесцю «Тут я жыву», араў гэты бязмежны цалінны прастор, па сутнасці, адзін, вопыт вельмі нямногіх беларускіх пісьменнікаў памагаў яму. Таму новая тэма не адразу дала багаты плён. Але гэта не засмуціла мастака, не штурхнула яго на «мод-

ныя тэмы». Упарта і настойліва, як належыць сапраўднаму першаадкрывальніку, ішоў ён сваёй дарогай, не зважаючы на ўсе «тэорыі дыстанцыі» і іншыя выдумкі кніжнікаў. Нястомны працаўнік, камуніст, ён жыве тым жа жыццём, якім жыве народ, адчувае пульс гэтага жыцця і не можа чакаць, пакуль матэрыял «адстоіцца» і «смятанка» сама выплыве наверх. Пішуцца новыя апавяданні, аповесці. Так, аповесць «Расце мята пад акном» адлюстроўвае жыццё сапраўды новых людзей па сваёй псіхалогіі, па сваіх маральна-этычных поглядах, узаемаадносінах. Не вытворчыя працэсы, а лёс людзей, сутыкненне іх характараў ляжаць у аснове гэтай мяккай, як вясновы вечар, спакойнай, як плынь Случы, духмянай, як мята пад акном, аповесці. Аляксей Кулакоўскі гэтай аповесцю даказаў, што пра людзей індустрыяльнай працы, вялікай будоўлі можна пісаць па-рознаму, можна з тым жа глыбокім лірызмам, што і пра людзей, якія сеюць і жнуць.

У такім жа творчым ключы напісаны і новы раман Аляксея Кулакоўскага «Васількі».

**Іван Шамякін**

**Кулакоўскі А.**
К 90 Васількі: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 239 с., 4 л. іл.
У пер.: 1 р. 20 к.

Гэты твор пра беларускіх шахцёраў. У цэнтры ўвагі пісьменніка — складаны лёс адной сям'і, якая працуе на калійным камбінаце: Аўгусціна, яго сястры Мальвіны, іхняе маці; нялёгкія, часам пакутлівыя пошукі героямі свайго прызвання ў жыцці.

Бытавая афарбоўка рамана надае яму эмацыянальнасць і шчырасць.

**К** $\frac{70303-092}{М\ 302(05)-81}$ **15—81**

**ББК 84Бел7**
**Бел 2**

Алексей Николаевич Кулаковский
**Васильки**
Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *А. П. Рыбак*

Мастацкі рэдактар *А. І. Труханава*
Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч*
Карэктар *К. У. Дзмітрыенка*

ІБ № 919

Здадзена ў набор 29.10.80. Падп. да друку 04.06.81. АТ 07577. Фармат $84\times100^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 11,70+0,39 укл. Ул.-выд. арк. 12,69. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1094. Цана 1 р. 20 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.